Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Кн. 8 СТУДЗЕНЬ—САКАВІК № 1

# Сельская і Лясная Гаспадарка

Выданьне Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя У. І. Леніна, Народнага Камісарыяту Земляробства і Саюзу Сельгаслеспрацаўнікоў Беларусі

МЕНСК

1929



Усевалад Уладыслававіч Ігнатоўскі
Прэзыдэнт Беларускай Акадэміі Навук.

М. Галадзед.

# За падвышэньне вытворчасьці сельскай гаспадаркі БССР, за ўздым ураджаю.

У новае дзесяцігодзьдзя мы ўваходзім са значнымі дасягненьнямі на форнце гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Калі параўнаць тыя эканамічныя падставы, тым болей пасьля панаваньня на Беларусі акупацыі і бандытызму, з сучасным эканамічным становішчам нашай краіны—дык мы ўгледзім вялічэзную розьніцу. Зруйнаванасьць у горадзе і ў вёсцы, на фабрыцы, у сельскай гаспадарцы; нячуванае скарачэньне вытворчасьці па ўсіх галінах народнае гаспадаркі—гэта ёсьць малюнак мінулага. Кіпучая праца на прамысловых прадпрыемствах і ў сельскай гаспадарцы, павялічэньне вытворчасьці працы, амаль-што поўнае аднаўленьне асноўных капіталаў, павялічэньне валавой прадукцыі прамысловасьці і сельскае гаспадаркі, палепшаньне дабрабыту рабочых і сялян, шырокае разгортваньне культурнага будаўніцтва, энергічнае імкненьне шырокіх колаў працоўных да культурнага жыцьця і пасьлядоўнае аўладаньне вышынямі культуры—гэта ёсьць рэальная сучаснасьць. Але трэба зусім яскрава адзначыць, што яшчэ шмат чаго намі ня зроблена, у шэрагу галін нашай працы мы прасоўваемся вельмі ціхімі і невялічкімі крокамі. Аб гэтых слабых месцах нашай працы я і хачу сказаць некалькі слоў у маім артыкуле. Найбольш слабым месцам у нас зьяўляецца праца па ўздыму вытворчасьці ў сельскай гаспадарцы, у правядзеньню яе сацыялістычнай рэканструкцыі. На фоне бясспрэчных дасягненьняў па ўздыму сельскай гаспадаркі мы наглядаем яшчэ шмат узрэхаў, шмат ня зробленага. Напрыклад, падвышэньне ўраджайнасьці дагэтуль праходзіць зусім нездавальняюча. А пытаньне—рашучага ўздыму ўраджаю—зьяўляецца адным з самых актуальных. Досыць сказаць, што нават у нашых сацыялістычных буйных сельска-гаспадарчых адзінках—саўгасах і калгасах не заўсёды справы з ураджаем стаяць добра. Шмат якія з іх амаль не ўтрымоўваюцца на даваенным узроўні ўраджаю. Індывідуальныя сялянскія гаспадаркі таксама яшчэ маюць зусім нездавальняючы, вельмі нізкі ўраджай. Я ня буду спыняцца на другіх галінах працы ў сельскай гаспадарцы, бо і там можна знайсьці шмат недаробленага. Ці можна ў сельскай гаспадарцы Беларусі павысіць ураджайнасьць?—Так, можна і павінна павысіць. У нас у гэтай галіне маюцца ня вычарпаныя магчымасьці. А пытаньне гэта, разам з іншымі задачамі ў галіне сельскагаспадарчай працы, стаіць вельмі востра. Востра таму, што ў нас не хапае свайго хлеба, не хапае сельскагаспадарчага сырцу для нашай прамысловасьці. А мы-ж думаем на працягу бліжэйшых пяці год будаваць новыя прамысловыя прадпрыемствы, якія павінны базавацца на сельскагаспадарчым сырцу (льнопрадзільны камбінат, маслабойныя заводы і інш.).

Якім чынам мы павінны павысіць ураджайнасьць сельскай гаспадаркі Беларусі? Перш за ўсё пытаньне стаіць аб угнаеньні, бы наша

глеба без угнаеньняў вялікага эфэкту па ўраджаю даць ня можа. Ці ўсё-ж намі зроблена па скарыстаньню ўсялякіх магчымасьцяў для пашырэньня ўгнаеньня? Не, ня ўсё, зусім ня ўсё. Дагэтуль селянін прывык лічыць, што ўгнаеньня можа быць толькі гной з пад жывёлы. Гэтая думка зьяўляецца памылковай. Вядома гной жывёлы дае лепшы эфэкт; але яго-ж мала, ёсьць яшчэ і іншыя ўгнаеньні, якія даюць добры вынік у падвышэньні ўраджаю. Напрыклад, ва ўмовах Беларусі мы можам і павінны вельмі многа атрымаць ад прымяненьня зялёнага ўгнаеньня—лубіну. Нашая глеба цалкам падыходзіць да ўжываньня лубіну:—супясі, суглінкі і прыпадлівыя нізіны,—гэта ўсё такія глебы, на якія лубін можа расьці і робіць цэлы агрыкультурны пераварот, асабліва гэтага можна дабіцца ў паўднёвай частцы Беларусі (Гомельшчына, Мазыршчына, Бабруйск). Вялікую ролю можа і павінен адыграць у нас торф—як угнаеньня. Сяляне часта скардзяцца на тое, што не хапае падсьцілкі для жывёлы і таму мала выходзіць гною. А па торфу ўсе ходзім, торф на кожным кроку. Ён зьяўляецца лепшай падсьцілкай з пункту погляду атрыманьня добрай якасьці ўгнаеньня, ды і простым чынам, пры адпаведных умовах, торф зьяўляецца добраякасным угнаеньнем. Чаму-ж такое мерапрыемства дагэтуль слаба скарыстоўваецца? Тлумачыць гэта можна толькі тым, што намі мала зроблена ў гэтай галіне працы. Выраб мінэральных угнаеньняў (фасфарыт і інш.) таксама наладжан слаба. Праўда, мы пачалі будаваць фасфарытны завод, які пачне працаваць гэтай вясной, але гэтага мала. Трэба адзначыць, што такія рэчы, як вапнаваньне глебы ў нас амаль зусім не прымяняецца, а гэта таксама ёсьць адно з сродкаў падвышэньня ўраджайнасьці, а па вапне мы ўсюды ходзім. Пры чым здабычу вапны і яе прымяненьня для вапнаваньня глебы можна наладзіць зусім лёгка і ў масавым парадку. Праўда, гэтае мерапрыемства патрабуе адпаведных умоў, каб яго ўжываць. І тут як раз мы ўпіраемся ў адсутнасьць адпаведных вопытаў па прымяненьню вапнаваньня глебы. Трэба пашырыць пастаноўку вопытаў вапнаваньня—гэта задача абавязковая. Наогул, калі мы пачынаем гаварыць аб мінэральных угнаеньнях, дык усе прывыклі чакаць покуль за сродкі дзяржавы будуць пабудаваны адпаведныя заводы, па іх вырабу. Такі погляд зьяўляецца няправільным. Вядома, што ёсьць такія віды мінэральных угнаеньняў, якія павінны вырабляцца на буйных, добра абсталяваных дзяржаўных прадпрыемствах, але гэта ня ўсё—трэба навакол гэтай задачы мабілізаваць шырокую грамадзкасьць, мабілізаваць сродкі самога насельніцтва праз каапэрацыю ў першую чаргу. Чаму-б таму ці іншаму аб'яднаньню сельскагаспадарчай каапэрацыі не пабудаваць добрага фасфарытнага млыну? Гэта было-б разумным укладаньнем капіталаў. Ды і наогул трэба адзначыць, што капітальныя ўкладаньні ў будаўніцтва прадпрыемстваў вырабляючых штучнае ўгнаеньне зьяўляюцца рэнтабельнымі ўкладаньнямі таму, што можна атрымаць ад гэтага хуткі эканамічны эфэкт. Вось гэта ёсьць група пытаньняў, якія датычацца ўгнаеньняў як аднаго з сродкаў падвышэньня ўраджайнасьці.

Але падвышэньне ўраджайнасьці залежыць ня толькі ад прымяненьня ўгнаеньняў, ёсьць яшчэ цэлы шэраг мерапрыемстваў, якія павінны адыграць сур'ёзную ролю як па падвышэньню вытворчасьці сельскай гаспадаркі наогул, так і па падвышэньню ўраджаю. На прыклад: палепшаньня мэтадаў апрацоўкі зямлі (прымяненьня лепшых і складаных машын), ачыстка насеньня, зяблевая і сваечасовая ўзворка зямлі, устанаўленьне шматпалёвага севазвароту (гэта самае галоўнае) і іншыя агрыкультурныя мерапрыемствы. Трэба адзначыць, што першае і апошняе мерапрыемствы (прымяненьне машын у апрацоўцы

зямлі і ўстанаўленьне шматпалёвага севазвароту) зьвязаны з узбуйненьнем сельскай гаспадаркі, бо часта на карлікавай сялянскай гаспадарцы і празпалосіцы цяжка ўжыць як адно, гэтак і другое, тым больш набыцьцё складаных машын для індывідуальнай сялянскай (бядняцкай і серадняцкай) гаспадаркі зьяўляецца не падсільным, таму адсюль выцякае проблема шырокага вытворчага каперыраваньня, і каляктыўнага аб'яднаньня індывідуальных бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак.

Таму Саўнаркам БССР, вызначаючы ў сваіх пастановах ад 20-га сьнежня 1928 г. мерапреымствы аб уздыму ўраджайнасьці і правядзеньню вясеньняй пасяўной кампаніі на 1929 г. вызначыў галоўнейшай задачай—праблему каляктывізацыі і вытворчага капярыраваньня сялянскіх гаспадарак. Нават усім вядома, што радыкальным шляхам уздыму сельскай гаспадаркі зьяўляецца шлях да пераходу на буйнае сацыялістычнае земляробства, бы сельская гаспадарка толькі тады пойдзе хуткімі крокамі ў бок прагрэсу, калі ўсе дасягненьні навукі і тэхнікі будуць на ўсе сто процантаў у ёй ужывацца. Адна агрыкультура бяз высокай тэхнікі, гэта ня ўсё, як і адна тэхніка без агрыкультуры ня можа вырашыць праблемы адраджэньня сельскай гаспадаркі. І тая і другая разам (тэхніка і агранамічная навука) толькі і вырашаць праблему сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Такім чынам пытаньне ўзбуйненьня сельскай гаспадаркі зьяўляецца адным з галоўнейшых.

Таму мы ставім у цесную сувязь адно з другім пытаньне ўраджайнасьці, калектывізацыі і вытворчага капяраваньня.

Разам з гэтым намі пастаўлена (і вынесена адпаведная пастанова) пытаньня ўзмацненьня агранамічнай працы на вёсцы. Праца агранома набывае найважнейшае значэньне. Падымаць ураджайнасьць бяз шырокіх агранамічных мерапрыемстваў ня можна. Адсюль і пастанова савецкага ўраду, якой прызнаецца, што працу агранома на агрыкультурным фронце трэба лічыць асноўнай, вялікай важнасьці, грамадзкай працай. **Вялікую ролю павінны адыграць і нашы навукова-дасьледчыя і навучальныя сельска-гаспадарчыя ўстановы** (**Н. Д. І. Сельска-гаспадарчая Акадэмія і тэхнікумы**). Вопыты ляборатрыі і габінэтаў трэба зрабіць маемасьцю шырачэзных мас сялянства для практычнага іх ужываньня у сельскай гаспадарцы—гэта ёсьць адказнейшая праблема. Таксама неабходна дабіцца таго, каб уся маса студэнцтва і навуковых працаўнікоў сельскагаспадарчых вузаў і тэхнікумаў зьявілась масавым рассаднікам агранамічнай культуры сярод шырокіх колаў бяднейшага і серадняцкага сялянства. **Пытаньням агрaпрапаганды ў зьвязку з задачамі ўздыму ўраджайнасьці—трэба ўдзяліць максімум увагі.** Агранамія, студэнцтва, працоўная школа і настаўніцтва павінны зьявіцца масавай агрaпрапагандыцкай сілай, праз якую ў бліжэйшыя гады мы павінны зрабіць асноўную масу працоўнага сялянства—агранамічна пісьменнымі.

А ў гэтым і ляжыць асноўны залог падвышэньня ўраджайнасьці нашай сельскай гаспадаркі. Такім чынам другое дзесяцігодзьдзе мы пачнем у сельскагаспадарчай працы з павялічэньня ўраджаю, пашырэньня каляктывізацыі сялянскіх гаспадарак. На 35 проц. падвысіць ураджай за бліжэйшае пяцігодзьдзе, дабіцца каб ня менш 10 проц. усёй пасяўной плошчы складала-б пасяўная плошча калгасаў у бліжэйшыя пяць год—вось у чым наша баявая задача.

---

**А. Трахімаў.**

# Роля Інбелкульту ў організацыі навукова-дасьледчай працы па сельскай і лясной гаспадарцы.

Інстытут Беларускае Культуры па праву можна лічыць раданачальнікам усяе навукова-дасьледчае справы на Беларусі.

Там пакладзены пачатак і арганізаванаму навуковаму дасьледаваньню сельскай і лясной гаспадаркі Беларусі.

ІБК, які створан Пралетарскай Дзяржавай, з самага пачатку свайго заснаваньня, ня мог не заўважыць на амаль поўную адсутнасьць навуковых матэрыялаў датычных да вывучэньня сельскай і лясной гаспадаркі Беларусі.

Адсутнасьць-жа адпаведных матэрыялаў па дасьледваньню сельскае гаспадаркі перашкаджала разгортваньню працы па яе ўздыму і рэконструкцыі.

Патрабавалася і навуковае дасьледаваньне ўмоў землякарыстаньня на прынцыпах нацыяналізацыі зямлі і пераходу да організацыі соцыялістычных форм земляробства.

І хоць у сваёй працы ІБК спачатку займаўся пераважна пытаньнямі гуманітарных навук, але азначаныя вышэй абставіны зацікавілі ІБК у нарыхтаваньні навукова-дасьледчай працы ў галіне сельскай і лясной гаспадаркі, нягледзячы на шэраг няспрыяючых умоў: слабую матэрыяльную базу, недахоп належна падрыхтаваных асоб і г. д.

Яшчэ ў сьнежані месяцы 1923 году пры ІБК утвараецца агранамічная сэкцыя, якая поплеч з апрацоўкай беларускай навуковай тэрміналёгіі па сельскай і лясной гаспадарцы ставіць сваёй мэтай—вывучэньне экономікі і тэхнікі сельскае гаспадаркі і шэрагу іншых пытаньняў у гэтай галіне.

Гэты першы асяродак навукова-дасьледчай працы па сельскай і лясной гаспадарцы ў першыя часы свае працы адыгрываў ролю выяўленьня найбольш грунтоўных і, па характару запатрабаваньняў разьвіцьця народнай гаспадаркі, найбольш тэрміновых тэм для дасьледаваньня і концэнтрацыі вакол сябе ініцыятыўнай групы навуковых працаўнікоў, якія былі зацікаўлены дасьледаваньнем сельскай і лясной гаспадаркі Беларусі.

У гэтым асяродку навуковага дасьледваньня сельскай гаспадаркі і робіцца пад кіраўніцтвам праф. С. В. Скандракова першая спроба распрацоўкі праграмы дасьледаваньня сельскай гаспадаркі Беларусі.

З перабудовай і пашырэньнем працы ІБК, якое адбылося ў пачатку 1925 году, Аграсэкцыя зьмяняе сваю назву на Сельска-Гаспадарчую Сэкцыю, што характарызавала сабою ня простую зьмену назвы, але пашырэньне навукова-дасьледчай дзейнасьці ІБК у галіне сельскай і лясной гаспадаркі. Аб гэтым сьведчыць плян працы, які С. Г. Сэкцыя для сябе вызначыла і які зводзіўся да наступнага:

1) Апрацоўка навуковай беларускай сельска-гаспадарчай і лясной тэрміналёгіі;

2) Апрацоўка сельска-гаспадарчай літаратуры на беларускай мове і адпаведнай умовам Беларусі;

3) Вывучэньне гісторыі разьвіцьця сельскай гаспадаркі і сельска-гаспадарчай прамысловасьці;

4) Вывучэньне сельска-гаспадарчага быту вёскі;

5) Вывучэньне зямельнага права і зямельных адносін у Беларусі да рэвалюцыі і пасьля рэвалюцыі ў сувязі з зямельнай палітыкай;

6) Вывучэньне эканомікі беларускай сельскай гаспадаркі;

7) Вывучэньне пытаньняў каапэраваньня сельскай гаспадаркі і сельска-гаспадарчай прамысловасьці;

8) Вывучэньне становішча сельска-гаспадарчай справы на Беларусі;

9) Распрацоўка найбольш пільных пытаньняў тэхнікі беларускай сельскай гаспадаркі;

10) Вывучэньне мэтодаў аграпрапаганды.

Адсюль ужо магчыма бачыць, якую шырокую задачу ставіў ІБК па дасьледаваньню сельскай гаспадаркі.

Мы заўважаем тут самы разнастойны кірунак у працы сельска-гаспадарчай Сэкцыі ІБК, дзе разам з апрацоўкай тэрміналёгіі, вывучэньнем быту вёскі, мы сустракаемся з пытаньнямі вывучэньня эканомікі і тэхнікі сельскае гаспадаркі, і тут знаходзім ня толькі пытаньні, датычныя да сельскай гаспадаркі, у вузкім разуменьні, але нават і сельска-гаспадарчай прамысловасьці.

Гэта ўжо вызначалася навуковая ўстанова па комплекснаму вывучэньню сельскай гаспадаркі.

Але тут мы яшчэ ня бачым шэрагу аб'ектаў, якія ўваходзяць у цыкл навукі датычнай сельскай гаспадаркі. Не знаходзім спачатку таксама тут і шэрагу пытаньняў, якія датычацца да эканомікі і тэхнікі лясной гаспадаркі і мэліарацыі.

Аднак, калі заглянем у далейшую дзейнасьць ІБК, дык мы знойдзем, што хутка, сьледам за заснаваньнем сельска-гаспадарчай Сэкцыі, пры ёй утвараюцца асобныя П-Сэкцыі: па вывучэньню лясной гаспадаркі, мэліорацыі і хатніх рамёстваў.

Так паступова, крок за крокам, пашыралася навукова-дасьледчая праца ІБК у галіне сельскай і лясной гаспадаркі.

У 1926 годзе у працы Сельска-Гаспадарчай Сэкцыі ІБК прыймалі ўдзел 62 асобы, з якіх 7 правадзейных членаў ІБК, 11 членаў-супрацоўнікаў і 15 членаў-карэспандэнтаў.

На чале Сельска-Гаспадарчай Сэкцыі стаяў прэзыдыум у складзе: Старшыні З. Х. Прышчэпава, Намесьніка А. А. Смоліча і Сэкратара Ч. І. Родзевіча, а затым Я. С. Грабоўскага, і пасьля П. С. Трусса.

Працы п-сэкцый адбываліся: лясной пад кіраўніцтвам вучонага лесавода І. Б. Белюнаса пры навуковым сэкратары П. Санько. Хатніх вырабаў—пад кіраўніцтвам А. Г. Трафімава, пры навуковым сэкратары Г. Раку.

Мэліорацыйная Сэкцыя працы не пасьпела разгарнуць.

Шпарка ішло разгортваньне працы Сельска-Гаспадарчай Сэкцыі ІБК, з яго пад-сэкцыямі. Рэгулярна, штотыдню на пленумах Сельска-гаспадарчай Сэкцыі і п-Сэкцый у зімовы пэрыяд, заслухоўваліся навуковыя даклады, як членаў Сэкцыі, так і іншых асоб, па тэмах, якія звычайна кожны распрацоўваў па сваёй ініцыятыве і якія датычыліся непасрэднага дасьледваньня сельскай і лясной гаспадаркі Беларусі.

З закончаных прапрацоўкай і найбольш цікавых дакладаў таго часу магчыма назваць: А. Смоліча—«Організацыя Сялянскай Гаспадаркі ў Цэнтральнай Беларусі»; С. Ждановіча і А. Яраш-

чука—«Характарыстыка сельскай гаспадаркі Беларусі на падставе чыгуначных перавозак»; М. І. Макарэўскага—«Мэтэоролёгічныя ўмовы зімы і вясны 1925-26 г. і ўплыў іх на становішча засеваў Беларуси»; А. Ярашучка—«Сувязь сельскай гаспадаркі Беларусі з рынкам»; С. Дыяканенка—«Вынікі дасьледаваньня коняй на Случчыне, Магілеўшчыне і Аршаншчыне»; Шатэрніка—«Ільняныя раёны Беларусі»; Дабратворскага—«Залежнасьць насеннай прадукцыі канюшыны ад чмялёў»; К. Кіпрыянеца—«Грамадзкія севазвароты на вёсцы»; Я. С. Грабоўскага—«Аб сельска-гаспадарчых вучэбных фэрмах на Беларусі»; С. Журыка—«Праэкт досьледу жывёлагадоўлі Беларусі»; Каваленка—«Любанская пушча з эканамічнага і гістарычнага боку»; Міхневіча—«Кароткі нарыс аб лясох Беларусі»; Г. Рака—«Ткацтва Бабруйскай Акругі» і шэрагу іншых.

Частка гэтых дакладаў затым была ІБК надрукавана, а частка зьмешчана ў выданьнях Наркамзему і іншых устаноў.

Разам з гэтым сельска-гаспадарчай Сэкцыяй і яе П-Сэкцыямі былі падрыхтаваны і праведзены шэрагі самастойных дасьледаваньняў у галіне сельскай гаспадаркі.

З такіх найбольш значных дасьледаваньняў трэба адзначыць: 1) «Дасьледваньне тэхнікі сялянскага ральніцтва»,—праца, якая была праведзена групай членаў сэкцыі з праф. Скандраковым на чале па спэцыяльна распрацаванай шырокай праграме, з мэтаю вывучэньня дасягненьняў сялянскага ральніцтва ў Беларусі; 2) «Дасьледаваньне эфэкту земляўпарадкаваньня і форм землякарыстаньня»,—якое было распачата пад кіраўніцтвам Я. А. Кісьлякова экспэдыцыйным шляхам са зьбіраньнем бюджэтаў, монаграфій паселішчаў, падворных картак; 3) Дасьледаваньне ткацтва і прадзеньня на Бабруйшчыне пад кіраўніцтвам Г. Рака,—таксама экспэдыцыйным шляхам.

Апрача таго, С. Г. Сэкцыяй была разгорнута праца па дробнаму сельска-гаспадарчаму раёнаваньню БССР, для распрацоўкі гэтай тэмы была ўтворана спэцыяльная Камісія з праф. А. А. Смолічам на чале, якая апрацавала паваласныя матэрыялы перапісу 1916—17 г., на падставе чаго ўлажыла мапы географіі паасобных культур і паказчыкаў інтэнсыўнасьці сельскай гаспадаркі ў паасобных валасьцёх БССР.

Сіламі С. Г. Сэкцыі і П-Сэкцый распрацаваны і надрукаваны: лясная тэрміналёгія (1657 тэрмінаў) і матэрыялы да кароткага слоўніка с. г. тэрміналёгіі (1037 тэрмінаў), сабраны анкетным шляхам матэрыялы аб становішчы хатніх рамёстваў у БССР для складаньня схэматычнай мапы пашырэньня рамёстваў на Беларусі.

Частка членаў С. Г. Сэкцыі ІБК, якая знаходзілася ў Горках, згуртавалася ў «Навуковае Таварыства па вывучэньню Беларусі», якое ў кантакце з Сельска-Гаспадарчай Сэкцыяй ІБК таксама досыць шырока разгортвала сваю працу па дасьледаваньню сельскай гаспадаркі.

Праводзячы самастойную навукова-дасьледчую працу па сельскай і лясной гаспадарцы ІБК нарэшце паставіў перад сабою задачу ўвязаць і паставіць пад свой мэтадалёгічны нагляд усю дасьледчую справу па сельскай і лясной гаспадарцы БССР. Для чаго з ліпеня месяца 1925 г. пры ІБК было ўтворана Навуковае Бюро па с.-г. дасьледчай справе.

Навуковае Бюро яднала навуковую частку працы 5 раённых сельска-гаспадарчых дасьледчых Станцый: Менскае, Горацкае, Віцебскае, Тураўскае, Палескае і 6 спэцыяльных дасьледчых устаноў—Менскае Балотнае Станцыі, Менскае Станцыі Аховы Расьлін, Менскае ма-

шына-спробнае Станцыі, Магілеўскае Станцыі Лекавых Расьлін, Забалоцкае Балотнае Дасьледчае Гаспадаркі і Мэтэоролёгічнага Бюро.

На пленумах Навуковага Бюро па с.-г. дасьледчай справе былі заслуханы даклады: 1) праф. А. І. Кагайродава—«Кліматычнае раёнаваньне БССР», 2) В. В. Адамава—«Расьліннасьць БССР», 3) праф. Я. Н. Афанасьева—«Глебы Беларусі», 4) А. А. Смоліча—«С. Г. Раёнаваньне БССР», 5) праф. С. В. Скандракова—«Галоўныя прынцыпы організацыі с. г. дасьледчай працы на Беларусі». 6) М. С. Савіцкага—«Сетка с. г. дасьледчых устаноў БССР». Акрамя таго, на пленумах Бюро абмяркоўваліся прынцыпы насеннаводнае справы ў БССР, уставы дасьледчых станцый, шэраг іншых пытаньняў зьвязаных з працаю дасьледчых Станцый.

Гэтае Бюро займалася складаньнем агульных плянаў працы дасьледчых устаноў і іх узгадненьнем паміж сабою, а таксама давала заключэньні па навуковых справаздачах дасьледчых Устаноў.

Навуковае Бюро для с. г. дасьледчай справы пры ІБК прыймала праз сваіх прадстаўнікоў удзел у нарадах па дасьледчай справе Заходней Вобласьці, па ўвязцы працы Беларускіх с. г. дасьледчых Станцый з Навазыбкаўскай Сельска-Гаспадарчай Дасьледчай Станцыяй, па організацыі Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў.

ІБК цікавіўся ня толькі вузка навукова-дасьледчымі пытаньнямі па сельскай і лясной гаспадарцы, але і пытаньнямі прасоўваньня ў сялянскую гаспадарку с. г. ведаў, як вынікаў навуковых дасьледаваньняў. ІБК праз сваю с. г. Сэкцыю прыймаў актыўны ўдзел у стварэньні с. г. літаратуры, дапасаванай да ўмоў Беларусі, для чаго пры с. г. Сэкцыі была утворана Камісія папулярнай с. г. літаратуры з С. Тупяневічам на чале. Вынікам працы гэтай Камісіі зьявілася прарэдагаваньне 20 друкаваных аркушаў сялянскай Бібліатэкі, выданых затым Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам і організацыя конкурса на лепшую папулярную с. г. брашуру.

Праца с. г. Сэкцыі ІБК насіла добрахвотныя формы. Да таго-ж адсутнасьць свае ўласнае ляборатарнае базы і належных матэрыяльных рэсурсаў наогул вельмі перашкаджалі разгортваньню належнай навукова-дасьледчай працы ІБК у галіне сельскай і лясной гаспадаркі.

Таму ў ІБК заўсёды паўставалі думкі, якія ўсё расьлі і шырыліся, аб утварэньні ў БССР самастойнай, належна забясьпечанай матэрыяльнымі рэсурсамі і навуковымі сіламі, навукова-дасьледчай установы па сельскай і лясной гаспадарцы, што нарэшце зьдзейсьнілася.

Па праэкту, зложанаму с. г. Сэкцыяй ІБК у канцы 1925 г., з пачатку 1927 году заснаваўся і пачаў працаваць Беларускі Навукова-Дасьледчы Інстытут Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя Леніна, пры СНК БССР, куды і перайшла ўся дасьледчая праца, распачатая С. Г. Сэкцыяй ІБК.

Так паступова Інбэлкульт рос, дыфэрэнцыраваўся, адпачкоўваючы ад сябе самастойныя навукова-дасьледчыя ўстановы. І нарэшце сам вырас у Беларускую Акадэмію Навук.

Нашы шчырыя пажаданьні Беларускай Акадэміі Навук ісьці моцнымі крокамі наперад да адшуканьня найлепшых умоў для найхутчэйшай перабудовы Беларускай гаспадаркі і грамады на социялістычных падставах.

1-І—1929 г.



М. М. Ганчарык.

# Беларуская Дзяржаўная Акадэмія Сельскае Гаспадаркі імя Кастрычнікавае Рэвалюцыі к 10-годзьдзю Беларускай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Савецкая Беларусь, узроджаная на папялішчы былой царскай Расіі ў цяжкую часіну крывавай барацьбы за заваёвы Кастрычніка, з першых дзён свайго існаваньня падбала аб пабудове на Беларусі вышэйшай асьветы. Дарэвалюцыйная Беларусь зьяўлялася паўкалёніяльнай краінай для расійскай буржуазіі. Амаль поўная адсутнасьць прамысловасьці, адсталыя формы сельскай гаспадаркі і сельска-гаспадарчай тэхнікі, аграрнае перанаселенасьць, нявысокі культурны ўзровень насельніцтва пры нехватцы пачатковай асьветы і поўная адсутнасьць вышэйшае асьветы,—вось тыя характэрныя адзнакі прыгнечанага «Паўночна-Заходняга краю»,—як звала Беларусь былая царская ўлада. Беларусь гібела, дзесяткі, соткі тысяч яе насельніцтва шукалі сабе прытулку ў далёкай Сібіры, Амэрыцы і ў іншых краінах, паслугоўваючы дармовай рабочай сілай у першую чаргу бацькаўска-рускую капіталістычную прамысловасьць. І ў той-жа час балацянелі, лазой зараст алі палеткі, заносіліся пяском, бо ня мог змаганьня з гэтым весьці беларускі сялянін, занадта прымітыўнай была яго школа—гэта дзядоўскі навык, ды дзядоўская саха.

Беларусь Савецкая ўзрастала на папялішчы гэтай старай загнанай «Паўночна-Заходняй краіны», на сапраўдным папялішчы, калі вёскі спавіваліся дымам крывавых баёў за Кастрычнік, калі сумнай жальбай ўзьнятых угару абгарэлых каміноў, глядзелі руіны, сьведкі нядаўных імпэрыялістычных боек. Але, ня гледзячы на ўсё гэта праз тры месяцы па абвешчаньні Савецкай Соцыялістычнай Беларускай Рэспублікі, ужо ў красавіку 1919 году воляй паўстаўшых рабочых і сялян аднаўляецца к жыцьцю, пасьля перарыву больш поўсоткі гадоў, першая ў Беларусі вышэйшая школа (пасьля зачыненага ў 1832 годзе Віленскага Унівэрсытэту) Горацкі Сельска-Гаспадарчы Інстытут. І ў той час, як Заходняя частка Маладой Рэспублікі б'ецца ў змаганьні за кастрычнікавыя заваёвы з новым наступам капіталістычнага сьвету, у яе ўсходняй частцы, у невялічкім мястэчку Горы-Горкі, творыцца гэтак-жа справа вялікай культурнай вартасьці, утвараецца вышэйшая сельска-гаспадарчая школа.

З абломкаў сярэдніх сельска-гаспадарчых школ, якія здаўна існавалі ў Горы-Горках, заасноўваецца першы остаў вышэйшай сельска-гаспадарчай школы, каля якога хуткім тэмпам ідзе далейшае накапленьне. Маладая Дзяржава, толькі залячыўшы першыя раны змаганьня за сваё жыцьцё, напруджвае ўсе свае мажлівасьці для яе патрэбнага разьвіцьця, у выніку чаго к 10-й гадавіне Савецкай Беларусі мы сьвяткуем 3-х годзьдзе існаваньня Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскай і Лясной Гаспадаркі.



**Сельска-Гаспадарчая Сэкцыя І. Б. К.:** ніжні рад (зьлева)—Праф. С. В. Скандракоў, З. Х. Прышчэпаў (старшыня), **А. А.** Смоліч (нам. старшыні), Я. Грабоўскі (сэкратар); верхні рад (зьлевэ)—дац. І. М. Серада, Э. С. Русецкі, Ч. І. Родзевіч, А. Трахімаў, І. А. Кісьлякоў.

Горацкі Сельска-Гаспадарчы Інстытут распачаў сваё жыцьцё 7-га красавіка 1919 году ў складзе 2-х аддзяленьняў: агранамічнага і інжэнерна-мэліарацыйнага, з арганізацыяй у 1920-21 гг. яшчэ 3-х аддзяленьняў: ляснога, сельска-гаспадарчага машыназнаўства і рабочага. У цяжкія гады грамадзянскай вайны і разрухі праводзіцца першая арганізацыйная праца, у выніку чаго першыя гады існаваньня Горацкага Сельска-Гаспадарчага Інстытуту праходзяць у вельмі цяжкіх абставінах, пры адсутнасьці па большасьці катэдр самага неабходнага абсталяваньня, пры адсутнасьці сродкаў на апэрацыйную працу, пры няпоўнай укамплектаванасьці катэдр навуковымі працаўнікамі і г. д. Характарыстыкай працы Горацкага С. Г. Інстытуту ў першыя гады можа быць тое, што ў 1920—21 навучальным годзе навучальны плян быў выканан толькі на 65 проц. па тэарэтычных і на 60 проц. па прак-



Галоўны будынак Акадэміі.

тычных курсах, і па ўсіх аддзяленьнях Інстытуту заставалася незамешчанымі: па агранамічнаму—4, па інжэнернаму—4, па машыназнаўчаму—10 і па лясным дзьве катэдры, а ў парадку саўмяшчэньня па ўсіх аддзяленьнях абслугоўвалася 16 катэдр. Але ня гледзячы на гэта Інстытут паступова набываў каштоўнае навуковае абсталяваньне, папаўнялася бібліатэка, укамплектоўваўся навуковы пэрсанал, арганізоўваліся і паступова разьвівалі дзейнасьць вучэбна-дапамагальныя ўстановы, як батанічны сад, садовыя ўстановы і інш. У самы кароткі тэрмін Горацкі С. Г. Інстытут замацаваў сваю пазыцыю ўжо настолькі моцна, што пры пераглядзе сеткі вышэйшых школ ня ўзьнікала ніякага пытаньня аб яго зачыненьні.

Трэба адзначыць, што хутка пасьля сваёй арганізацыі Горацкі С. Г. Інстытут, разам з тэрыторыей усей Аршаншчыны, па некаторых абставінах губляе сувязь з культурным і палітычным асяродкам БССР Менскам, у сувязі з чым і абслугаваньню тагочаснай тэрыторыі БССР выстарчае недастаткова. І загэтым існаваўшы ў Менску Палітэхнічны Інстытут у 1922 годзе перааргaнізоўваецца ў Беларускі Дзяржаўны Інстытут Сельскай і Лясной Гаспадаркі, у складзе двух факультэтаў агранамічнага і ляснога. Па меры сіл, тэрытарыяльна невялічкая ў той час БССР задавальняе Інстытут патрэбнымі сродкамі дзякуючы якім хуткім тэмпам пасоўваецца наперад яго арганізацыя і абсталяваньне.

Такім чынам, на тэрыторыі Беларусі, з часу ўтварэньня Беларускай ССР, амаль адначасова ўзьнікаюць дзьве вышэйшыя сельска-гаспадарчыя школы, якія ўзмацняюцца скора настолькі, што ў 1925 го-

дзе ўрад Беларускай Савецкай Рэспублікі паставіў пытаньне аб іх зьліяньні з мэтай утварэньня Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскае Гаспадаркі з наданьнем ёй імені «Кастрычнікавай Рэвалюцыі», у выніку якой яна толькі і змагла нарадзіцца. Нармальная вучэбная праца ў Акадэміі распачалася з 1-га кастрычніка 1925 году, і такім чынам к 10-годзьдзю існаваньня БССР яна налічвае прапрацаваных поўных тры навучальных гады, і кожны з гэтых трох гадоў зьяўляецца ў жыцьці Акадэміі годам новых узмацненьняў і дасягненьняў.

Акадэмія арганізавана з 4-х факультэтаў агранамічнага, лясного, мэліарацыйнага і землябудаўнічага ў адпаведальнасьці з важнейшымі запатрабаваньнямі сельскай і лясной гаспадаркі Беларусі.



Фізыка-Хэмічны будынак Акадэміі.

Праз усе тры гады працы Акадэміі паступовa ішоў працэс найбольшага прыстасаваньня Акадэміі да практычных патрэб народнай гаспадаркі Рэспублікі і яе далейшага разьвіцьця. У сувязі з гэтым, за гэтыя гады Акадэміі прышлося прарабіць вялікую працу па прыстасаваньню сваіх аснаўных спэцыяльнасьцяй, асабліва паасобных іх ухілаў, а гэтакжа па разгортваньні працы новых катэдр, у адпаведнасьці з патрэбамі практычнага жыцьця. Праведзена крапатлівая праца па перагляду навучальных пляпаў і вучэбных праграм, у выніку чаго бягучы навучальны год распачаўся па стабільнаму навучальнаму пляну, які ў далейшай працы, па меры нарастаньня новых запатрабаваньняў, будзе вымагаць толькі нязначных паправак і дадаткаў. Гэтак жа, у сувязі з складаньнем 5-ці гадовага пляну перабудовы народнае гаспадаркі Беларусі, Акадэмія канчаткова прыстасоўвае сябе ў сваіх галоўных спэцыяльнасьцях к напрамку разьвіцьця сельскай і лясной гаспадаркі ў Беларусі на далейшы час. Гэта выклікала патрэбу ўжо з леташняга году арганізаваць у Акадэміі па аграфаку, апрача сэкцый жывёлагадоўлі і расьлінагадоўлі, новую сэкцыю—арганізацыі гаспадаркі і па мэлфафу, апрача адзінай інжэнерна-мэліарацыйнай спэцыяльнасьці,—культур—тэхнічнага аддзяленьня, што выклікана патрэбай падрыхтоўкі спэцыялістых для належнага агранамічнага скарыстаньня новаадваёваных ад балота зямельных плошчаў.

Безумоўна, на гэтым арганізацыйны рост Акадэміі спыніцца ня можа. Паколькі буйны рост сельскай і лясной гаспадаркі сумесна з ростам агульнай народнай гаспадаркі БССР ідзе наперад, пастолькі і сама Акадэмія павінна прыстасоўвацца к гэтаму росту і зьяўляцца яе актыўным тэхнічным кіраўніком. У сувязі з гэтым мажліва ўжо ў бліжэйшыя гады паўстане перад ёй пытаньне аб арганізацыі на аграфаку

новага спэцыяльнага ўхілу па тэхнічнай перапрацоўцы сельска-гаспадарчай прадукцыі, у сувязі з далейшым паглыбленьнем індустрыялізацыі ў сельскай гаспадарцы, і, мажліва, больш шырокага развою спэцыялізацыі па жывёлагадоўлі і інш. Трэба адзначыць, што арганізаваная летась сэкцыя арганізацыі гаспадаркі ўжо ў гэтым годзе набывае больш сталыя і выразныя формы, як сэкцыя па арганізацыі аграмаджаных форм сельскай гаспадаркі. І ўжо к гэтаму часу Акадэмія ў сваёй арганізацыйнай пабудове знаходзіцца ў поўнай сугучнасьці з агульнымі сучаснымі запросамі народнай гаспадаркі БССР.



Расьлікаводны будынак Акадэміі.

Абслугоўваньне навучальнай і навукова-дасьледчай працы Акадэміі ідзе праз катэдры, якіх па ўсім факультэтам Акадэміі маецца ў сучасны момант 54, і якія аб'ядпаюцца ў 11 прадметных камісіях. Пры паказаных катэдрах маецца арганізаванымі і абсталяванымі 44 габінэты, 17 лябораторый і больш 20 вучэбна-дапамагальных устаноў, з якіх на асаблівую ўвагу заслугоўваюць наступныя: 1) батанічны сад, 2) садовыя ўстановы, 3) дэндралёгічны сад, 4) выхавальнік агульнай лесагадоўлі, 5) выхавальнік прыватнай лесагадоўлі, 6) вучэбнае ляськіцтва, 7) дасьледчыя полі, 8) вучэбная фэрма, 9) мэтэоролёгічная станцыя, 10) помалёгічны сад, 11) калекцыйны выхавальнік катэдры земляробства, 12) калекцыйны выхавальнік катэдры сэлекцыі, 13) машына-спрабавальнае поле, 14) балотна-апорны вучастак, 15) бібліатэка і інш. Шмат якія з гэтых устаноў, па развою сваёй дзейнасьці, ужо выходзяць за межы чыста рэспубліканскага значэньня, набываючы агульна-саюзную вартасьць. Гэта можна сказаць пра батанічны сад, заснаваны ў 1921 годзе на плошчы 3½ гэктараў, які ў сваім сыстэматычным аддзяленьні мае звыш 2½ тысяч розных відаў, як беларускай, так і далёка не беларускай флёры. Батанічны сад мае зараз шы-

рока наладжаны абмен з шэрагам батанічных садоў як Савецкага Саюзу, так і замежных краін, даючы звыш 1000 відаў абменнага насеньня. У 1926 годзе пастановай Савету Народных Камісараў БССР Батанічны Сад Акадэміі абвешчан Дзяржаўнай маёмасьцю.

Шырока разгарнулі сваю працу і Садовыя ўстановы, Акадэміі, якія з запушчаных і разваленых ўстаноў, змаглі за кароткі тэрмін з 1922 году разьвіцца ў моцную навучальна-дапаможную і навукова-дасьледчую ўстанову. К гэтаму часу садовыя ўстановы маюць ужо моцную ўвязку сваёй працы з усёй садовай гаспадаркай Беларусі, актыўна ўплываючы на яе разьвіцьцё, выпусьціўшы цэлую плеяду вучняў-садаводаў выхаванцаў Акадэміі (і ранейшага Горацкага С. Г. Інстытуту). Зараз садовыя ўстановы маюць два помалёгічныя сады, вялікі садовы выхавальнік, агародныя вучасткі, вэгэтацыйную хатку, тэхнаробку для перапра-



Батанічны сад Акадэміі.

цоўкі садоўніны (сушка, варка пасьцілы, мармаляду, консэрвацыя і інш.) і вінаробку па выпрацоўцы беларускага яблычнага і ягаднага віна. У гэтым годзе садовыя ўстановы абагаціліся спэцыяльным будынкам для тэхнаробкі і новай прыбудовай к вінаробцы.

Бібліатэка Акадэміі, якая распачала сваю арганізацыю з 8.000 томаў кніжак, якія заставаліся ад бібліатэк б. Горацкіх сярэдніх сельскагаспадарчых школ, к сучаснаму моманту налічвае блізка ля 115.000 томаў, уключаючы ў сабе зборы кніг вялікай каштоўнасьці, як бібліатэка праф. Зілава, што мае рэдкі збор навуковай літаратуры па фізыцы і хэміі, уключаючы камплекты, пераважна чужаземных, фізычных і хэмічных часопісаў з 1850 году, бібліатэка праф. Данкельмана па лесагадоўлі, бібліатэка праф. Плюшчык-Плюшчэўскага па зоолёгіі і энтамалёгіі і інш., а гэтак-жа шэраг чужаземных і рускіх навуковых часопісаў камплектамі за некалькі дзесяткаў год.

Паступленьне кніг у бібліатэку за адзін толькі апошні год складае лічбу ў 8.200 томаў. У мінулым будаўнічым сэзоне распачата, а ў надыходзячым будзе закончана, капітальная цэгляная прыбудова к памяшканьню бібліатэкі, дзе будуць пароблены кнігасховы, чытальныя салі і інш. прыстасаваньні.

Дэндралёгічны сад, які гэтак-жа паводле дэкрэту Саўнаркому БССР ад 26 году зьяўляецца дзяржаўнай маёмасьцю, мае звыш сотні розных відаў дрэваў і кустоў, сярод якіх маецца шэраг экзотаў; Стэбутоўскае дасьледчае поле, тэрытарыяльна і праемственна ўвязаннае з працай першага ўва ўсім саюзе Горацкага дасьледчага поля, арганізаванага ў 1840 годзе, і на якім у свой час працаваў вядомы дасьледчык І. А. Стэбут; і шэраг іншых навучальна-дапаможных устаноў, якія зьяўляюцца ў сучаснасьці ня толькі дапамагаючымі навучальнай працы Акадэміі, але разьвіліся ў самастойныя навукова-дасьледчыя ўстановы з развоем значнай дасьледчай працы.



Алея ў Дэндралёгічным садзе Акадэміі.

Больш падрабязнае азнаямленьне з усімі навуковымі і дапаможнымі ўстановамі адняло-б у нас за вельмі шмат часу, зачым тут няма мажлівасьці застанаўлівацца на гэтым далей.

Амаль ля 100.000 рублёў штогодна Акадэмія затрачвае на папаўненьне свайго аснаўнога навукова-вучэбнага абсталяваньня. Пры чым, з гэтае сумы набыта аднаго замежнага абсталяваньня за апошнія тры гады на суму да 100.000 рубл.

Навучальныя штаты Акадэміі складаюцца з 37 прафэсарскіх адзінак, 20 дацэнцкіх, 50 асыстэнцкіх, 9 ляборантскіх і 9 адзінак выкладчыкаў. Гэты штат штогодна пашыраецца як у выніку разгортваньня самой дзейнасьці Акадэміі, гэтак і ў выніку папаўненьня саміх кадраў навуковых працаўнікоў. Так, на бягучы навучальны год штаты павялічаны на 2 прафэсарскіх, 5 дацэнцкіх, 15 асыстэнцкіх, 1 ляборантскую і 2 настаўніцкія штатныя адзінкі.

Для падрыхтоўкі маладой зьмены навуковых працаўнікоў пры Акадэміі існуе інстытут асьпірантуры, які ў сучаснасьці складаецца з 28 асоб скончыўшых, больш здольных студэнтаў, застаўленых для падрыхтоўкі да навуковай дзейнасьці на працягу 3-х год з поўным утрыманьнем іх за кошт дзяржавы. Павялічэньне колькасьці асьпірантуры за бягучы год адбылося на 5 асоб.

Па ўсіх факультэтах Акадэміі на І/ХІІ-28 году налічваецца 1467 студэнтаў, якія складаюцца ў пераважнай колькасьці з рабочых і сялян і працоўных Беларусі і сумежных раёнаў СССР і нават Заходняй Беларусі. У сучасны момант у Акадэміі вучыцца 57 чалавек выхадцаў з Заходняй Беларусі. Характарызаваць склад студэнцтва можна наступнымі дадзенымі:

| Усяго | Мужч. | Жанч. | Чл. і канд. КПБ | Чл. і канд. ЛКСМБ | Непартыйн. | Рабочых | Сялян | Служачых | Саматужн. | Інш. | Беларусаў | Яўрэяў | Расійцаў | Палякаў | Іншых |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1467 | 1268 | 199 | 159 | 279 | 1029 | 227 | 810 | 369 | 46 | 15 | 1033 | 230 | 150 | 14 | 40 |

Па паасобных факультэтах студэнты разьмяркоўваюцца так:

На Аграфаку . . . 649 На земфаку . . . 277
„ Лесфаку . . . 286 „ мэлфаку . . . 255

За тры гады існаваньня Акадэміі (а гэтак-жа і за час існаваньня ранейшых Горацкага і Менскага Інстытутаў) выпушчана 954 спэцыялістых па ўсіх спэцыяльных галінах Акадэміі.

65 проц. усяго студэнцтва Акадэміі знаходзіцца на поўным утрыманьні Дзяржавы, г. зн. маюць месца ў інтэрнаце і атрымліваюць 27 рублёў стыпэндыі ў месяц. Павялічэньне стыпэндыі толькі за гэты год складае 8 рубл. у месяц (летась 19 рублёў). За тры гады існаваньня Акадэміі пабудованы тры новых студэнцкіх інтэрнаты (з іх два 2-х павярховыя) на 270 чалавек, апрача таго зроблен капітальны рамонт тых інтэрнатаў, якія меліся, і праведзена грунтоўнае іх абсталяваньне. На кожнага студэнта набыты жалезны ложак, матрац, коўдра, падушка, прасцерадлы і інш., неабходная мэбля і праведзена належнае камунальнае абслугаваньне.

За мінулы будаўнічы сэзон закончана пабудова новай студэнцкай сталоўкі, разьлічанай на 1.500 асоб, якая толькі нядаўна распачала сваю працу. Сталовая ў значнай меры мэханізавана і абслугоўвае таннымі і добраякаснымі абедамі штодзенна да 1.200 студэнтаў. У сталоўцы арганізоўваецца гэтак-жа выдача сьнеданьняў і вячэры. Маецца ўласная лазьня і прачашная.

Шырока разгортваецца справа студэнцкай самадзейнасьці, працуе шэраг студэнцкіх гурткоў, як акадэмічнага, так і палітычнага, грамадзкага і іншых характараў. Ужо ў сьценах Акадэміі будучыя чырвоныя спэцы Беларускай Сельскай і Лясной Гаспадаркі пачынаюць увязвацца з практычным жыцьцём. Гэта праца ў значнай частцы праводзіцца ў парадку грамадзкай самадзейнасьці па розных студэнцкіх арганізацыях і гуртках, як шэфграмада, якая вядзе працу ў бліжэйшых да Акадэміі раёнах, агранамічны і лясны гурткі, Асовіахім і інш., а гэтак-жа праз вытворчую практыку, якую кожны студэнт абавязан прайсьці пры пераходзе на 3-і ці IV курс у час летняга трыместру.

Для абслугоўваньня культурных запатрабаваньняў студэнцтва, навуковых працаўнікоў, рабочых і служачых, Акадэмія мае свой тэатр на 820 месц, закончаны пабудовай два гады таму назад. Тэатр



абслугоўваецца наезнымі трупамі, а гэтак-жа сіламі розных мастацкіх гурткоў самага студэнцтва, навуковых працаўнікоў, рабочых і служачых. Пры тэатры стала дзейнічае кіно. Апрача гэтага, навуковыя працаўнікі маюць добра абсталяваны клюб.

За апошнія тры гады Акадэміяй праведзена вялікая будаўнічая праца па пашырэньню, як вучэбнай, так і жылой плошчы. Так, за гэтыя тры гады навучальная плошча Акадэміі пашырана на 23 проц., жылая на 29 проц. і плошча студэнцкіх інтэрнатаў на 134 проц. У мінулым будаўнічым сэзоне, апрача будаўнічых прац, якія былі адзначаны вышэй, праведзена пабудова інтэрнату для асьпірантаў на 15 асоб і пабудавана 7 кватэр для рабочых і служачых, пабудавана цяпліца для патрэб катэдры фізыолёгіі расьлін і сэлекцыі, праведзена досыць значная праца па ўпарадкаваньню самой сядзібы Акадэміі, як агароджа, забрукоўка і перабрукоўка вуліц, пракладка новых дарог і інш.

За апошні год наладжана распрацоўка торфу на Чапялінскім балоце для пераходу Акадэміі на тарфяны апал. І зараз знаходзіцца ў стадыіі практычнага правядзеньня пытаньне аб пабудове на гэтым балоце раённай для Горы-Горак электрастанцыі для забясьпячэньня электра-энергіяй ня толькі Акадэміі, але і гораду Горы-Горак і аколічных вёсак.

Гаспадарчае абслугоўваньне Акадэміі складаецца з шэрагу гаспадарчых прадпрыёмстваў, як электрастанцыя з вадаправодам, сталярная і мэханічная майстэрні, майстэрня дакладных прыладаў, транспарту і інш., а ў гэтым будаўнічым сэзоне абсталёван і распачаў сваю працу цэгляны завод, які будзе забясьпечваць Акадэмію цэглай на яе будаўнічыя патрэбы. Маецца ўласнае выдавецтва з электракамнедрукарняй, якая абслугоўвае ня толькі ўсе патрэбы Акадэміі, а і патрэбы іншых арганізацый, якія знаходзяцца ў Горы-Горках.

Дасьледчая праца Акадэміі можа характарызавацца той вялікай колькасьцю навуковых прац, якія выкананы працаўнікамі Акадэміі. Так, за ўвесь час існаваньня Акадэміі і ранейшых Горацкага і Менскага Інстытутаў (за мінулыя 10 год) выдана 20 томаў навуковых прац агульнай колькасьцю ля 275 друкаваных аркушаў, пры чым толькі на апошнія тры гады працы Акадэміі прыпадае 8 томаў, ці агулам ля 140 друкаваных аркушаў. Навуковыя працы выдаюцца пад назовам «Запіскі Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскае Гаспадаркі імя Кастрычнікавае Рэвалюцыі» і друкуюцца ў уласнай друкарні.

Апрача дасьледчай працы, якая вядзецца Акадэміяй непасрэдна, навуковыя працаўнікі Акадэміі праводзяць навукова-дасьледчую працу і ў іншых навукова-дасьледчых установах Беларусі, многія з каторых, па прычыне пераважнага іх абслугаваньня навуковым пэрсаналам Акадэміі, сваім месцам знаходжэньня маюць Горы-Горкі, як, напр., Горацкая Сельска-Гаспадарчая дасьледчая станцыя з аддзеламі сэлекцыйным, расьлінагадоўлі, жывёлагадоўлі і інш., Гары-Гарэцкае Навуковае Т-ва, як філіал Беларускай Акадэміі Навук па аддзелу прыроды і гаспадаркі, якое вядзе працу па дасьледваньню і вывучэньню прыроды і гаспадаркі Беларусі, Катэдра Глебазнаўства Беларускай Акадэміі Навук з глебазнаўчай лябораторыяй, Цэнтральная Лясная Станцыя Беларусі і Горацкая Лясная Дасьледчая Станцыя і Раёнае Краязнаўчае Таварыства. Многія з гэтых дасьледчых устаноў выдаюць свае друкаваныя зборнікі навуковых прац. Горацкая дасьледчая с.-г. станцыя выдае: «Працы Горацкай Сельска-Гаспадарчай Дасьледчай Станцыі» (выдадзена 2 томы), Цэнтральная лясная станцыя—«Матар'ялы па лясной дасьледчай справе БССР» (выдадз.

2 томы), Гары-Гарэцкае Навуковае Т-ва—«Працы Гары-Гарэцкага Навуковага Т-ва» (выдадзена 5 томаў, больш як у 70 друкаваных аркушаў).

Па сутнасьці, Беларуская Дзяржаўная Акадэміі Сельскае Гаспадаркі зьяўляецца сапраўднай Беларускай Вышэйшай Навучальнай Установай. І ня толькі па сутнасьці сваёй навучальна-вытворчай дзейнасьці, якая непасрэдна ўвязана з усёй беларускай гаспадарчай рэчавістасьцю, але і па характару сваёй навукова-дасьледчай працы, па ўвязанасьці большасьці навуковых працаўнікоў ва ўсёй сваёй дзейнасьці з ўмовамі БССР.

Малодшыя катэгорыі навуковых працаўнікоў усю вучэбную працу вядуць выключна на беларускай мове, шэраг дацэнтаў і прафэсараў гэтак-жа ўжо перайшлі ў выкладаньні на беларускую мову, а частка пераходзіць у бліжэйшы час. К тэрміну, які вызначан пастановай 3-й сэсыі ЦВК Беларусі 6-га скліканьня, выкладаньне ў Акадэміі будзе пераведзена на беларускую мову поўнасьцю за невялікім выключэньнем. Зараз пры сэкцыі навуковых працаўнікоў працуюць спэцыяльныя курсы для вывучэньня навуковымі працаўнікамі беларускай мовы.

Сярод студэнтаў пасьпяховую працу вядзе гурток беларускае культуры, які займаецца распрацоўкай шэрагу пытаньняў сучаснага культурнага жыцьця Беларусі.

Гэтак-жа пры Акадэміі знаходзіцца Бюро Аршанскае філіі Ўсебеларускай асоцыяцыі пралетарскіх пісьменьнікаў і большая частка сябраў філіі. Да гэтага часу ёю выдадзены сем нумароў сваёй часопісі—мастацкай літаратуры і крытыкі пад назовай «Аршанскі Маладняк» і зараз рыхтуецца да друку чарговы 8 нумар. Пры Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскае Гаспадаркі працуе безперапынку з часу арганізацыі ў 1920 годзе пры Горацкім С. Г. Інстытуце—Горацкі Рабочы факультэт. Як і ўсе іншыя, Горацкі Рабочы факультэт зьявіўся галоўнейшым шляхам, па якому рабочыя і бяднейшае сялянства Беларусі, зараз-жа пасьля Кастрычнікавае Рэволюцыі, змаглі прайсьці ў вышэйшую навучальную ўстанову. З гэтага боку Горацкі Рабочы факультэт адыграў вялікую ролю ў справе пралетарызацыі раней Горацкага С. Г. Інстытуту, а ў апошнія гады, Акадэміі.

Разьлічаны зараз на 230 студэнтаў, ён за час свайго існаваньня ў 7-і выпусках даў нашым ВУЗ'ам 353 студэнты, як аснову здаровага пролетарскага асяродку.

З вясны 1927 году пры Акадэміі арганізаваны і распачаў сваю дзейнасьць першы ў Савецкім Саюзе нядзельны Сялянскі Унівэрсытэт, разьлічаны на 120 чалавек з 2-х гадовым курсам навучаньня. У гэтым навучальным годзе адбудзецца 1-ы выпуск Унівэрсытэту, які дасьць Горацкаму і бліжэйшым раёнам к Акадэміі каля паўсотні культурных гаспадароў.

Беларуская Дзяржаўная Акадэмія Сельскае Гаспадаркі к 10-цігодзьдзю існаваньня Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі сумела стаць ня толькі асяродкам вышэйшай сельска-гаспадарчай асьветы на Беларусі, але асяродкам агранамічнае навуковае думкі і непадзельным зьвяном агульна сацыялістычнага будаўніцтва на Беларусі. Тая, вялікай каштоўнасьці навуковадасьледчая праца, якая праведзяна працаўнікамі Акадэміі ў напрамку вывучэньня розных галін прыроды і гаспадаркі Беларусі, як вывучэньне глебы, прыродных багацьцяў, лясной гаспадаркі і інш. цесна і неразрыўна

зьвязалі Акадэмію з справай арганізацыі грамадзкага боку тэхнічнай дапамогі развою нашай гаспадаркі.

Ня гледзячы на сваю тэрыторыяльную далёкасьць ад палітычнага і культурнага цэнтру БССР—Менску, Акадэмія ўсё-ж такі сумела арганізаваць і наладзіць у сябе шэраг спэцыяльных нарад і выставак, а гэтак ужо на працягу 3-х з лішнім год перападрыхтоўку нашых спэцыялістых. Так, за гэтыя 3 з лішнім гады сваёй працы, пры Акадэміі праведзяна трое курсаў па перападрыхтоўцы раёнай агранаміі, двое курсаў па перападрыхтоўцы кіраўнікоў савецкіх гаспадарак, двое курсаў па перападрыхтоўцы—лясьнічых і шэраг іншых, як курсы па птушніцтву і кролікаводзтву, некалькі курсаў па апрабацыі насеньня, аднагадовыя культур-тэхнічныя курсы па падрыхтоўцы культуртэхнікаў, а сёлета арганізаваны курсы па перападрыхтоўцы аграномаў, кіраўнікоў калектыўных гаспадарак. Некалькі соцен спэцыялістых Беларусі знайшлі мажлівасьць аднавіць у Акадэміі свае веды, папоўніць іх новымі дадзенымі сучасных навуковых дасягненьняў.

Гэты рост і развой працы Акадэміі ўсё-ж упіраецца часамі ў некаторыя цяжкасьці, асноўнымі з якіх трэба лічыць, непасьпяваньне пашырэньня плошчы, асабліва навучальнай, з ростам запатрабаваньня на яе, у выніку чаго гэта шкадліва пачынае адбівацца на працы. Але трэба спадзявацца, што пры тэй увазе, якая да гэтага часу была ў адносінах да Акадэміі з боку ўраду БССР гэтыя недахопы будуць зьнішчаны ў самы бліжэйшы час і Беларуская Дзяржаўная Акадэмія Сельскае Гаспадаркі, пры актыўнай дапамозе рабочых і сялян Беларусі, стане сапраўдным, магутным фактарам у сацыялістычным будаўніцтве Беларускае вёскі.

---

А. Прохараў.

# Менская Расьлінаводная Дасьледчая Станцыя.

## КАРОТКІ НАРЫС АБ ПРАЦЫ І ЯЕ ВЫНІКАХ.

### Да гісторыі існаваньня станцыі.

Менская Расьлінаводная Дасьледчая Станцыя пачала сваё існаваньне з 1922 году, калі яна была заснавана ў 14 кілём. ад гор. Менску у былых саўгасах: Банцэроўшчына, Тарасава і Зарэчча пад назвай «Беларуская Агранамічная Станцыя». У сакавіку месяцы 1924 году яна пераведзена пад Менск у б. саўгас «Зьвязда», дзе існуе і цяпер. Першых два гады, г. зн. па кастрычнік 1925 г. Станцыя пачынала разгортваць сваю працу выключна па паляводзтву. У сувязі з рэарганізацыяй Сельска-Гаспадарчых ВУЗ'аў Беларусі, з кастрычніка 1925 г. Белаграстанцыя прыняла б. пры адпаведных катэдрах Беларускага Дзяржаўнага Інстытуту Сельскае і Лясное Гаспадаркі, спэцыяльныя станцыі—Зоотэхнічную, Машынаспробную, Кантрольна-Насенную, фэрму «Прылукі-Атоліна» і на гэтай базе адчыніла Аддзелы: Паляводзтва, Сэлекцыі і Прыкладной Батанікі, Жывёлаводзтва, Машынаспробны і Сельска-Гаспадарч. Эканоміі з прыстасаваньнем. Дзякуючы вельмі значнай абмежаванасьці сродкаў на апэрацыйныя выдаткі па машынаспробнаму аддзелу, апошні ў пачатку свайго адчыненьня адыйшоў да Стандартнага Камітэту, які ўтварыў спэцыяльную Машынаспробную Станцыю з вузка-практычнымі мэтамі.

Станцыя ў складзе астатніх Аддзелаў заставалася існаваць да перадачы яе ў 1927 г. Беларускаму Навукова-Дасьледчаму Інстытуту Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя У. І. Леніна, апошні батанічна-кантрольную насенную лябараторыю станцыі пакінуў пры НКЗБ, як спэцыяльную кантрольна-насенную Станцыю; на базе Аддзелу Жывёлаводзтва адчыніў—Цэнтральную Сьвінаводную Дасьледчую Станцыю; на базе Аддзелу Сэлекцыі і Прыкладной Батанікі адчыніў—Цэнтральную Бульбяную Станцыю; фэрму «Прылукі-Атоліна», вылучыў у самастойную гападарчую адзінку; Аддзел С. Г. Эканоміі з прыстасаваньнем—зачыніў і на базе Аддзелу Паляводзтва ўтварылася ўласна Менская Расьлінаводная Дасьледчая Станцыя, як раённая ўстанова з функцыямі галоўнай базы Аддзелу Расьлінагадоўлі НДІ.

З кастрычніка 1928 г. у складзе Менскай Расьлінаводнай Дасьледчай Станцыі маюцца Аддзелы: 1) Паляводзтва і 2) Гэнэтыкі і Сэлекцыі, а ў бліжэйшы час, дзеля ўзмацненьня грамадзкай працы станцыі і асабліва Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў, мяркуецца адчыненьне Аддзелу Прыстасаваньня.

### Праца былых Аддзелаў Станцыі.

За час існаваньня Белаграстанцыі ў складзе Вышэйадзначаных Аддзелаў больш шырока праца была разгорнута толькі па Аддзелу Паляводзтва, Аддзелу Жывёлаводзтва ў галінах—Сьвінаводзтва і

аўчарства і па Аддзелу С. Г. Экономіі з прыстасаваньнем, галоўным чынам па другой частцы яго заданьняў—па прыстасаваньню.

Па Аддзелу Жывёлаводзтва, у галіне сьвінаводзтва выкананы працы на тэмы:

1. Вывучэньне гаспадарчай вартасьці шматпалых сьвіней Беларусі.

2. Вывучэньне ўплыву кастрацыі сьвіней на якасьці сальнага адкорму і

3. Бэконны адкорм у мэтах выяўленьня магчымасьцяў рацыянальнага скарыстаньня максымальных колькасьцяй бульбы за кошт зьмяншэньня ў рацыёне канцантраваных кармоў.

У галіне аўчарства выкананы працы:

1. Па выяўленьню магчымасьцяў палепшаньня мясцовай авечкі ў мяса-воўным напрамку, шляхам мэтызацыі з ангэльскай-лінкольнскай пародай авечак і

2. Праведзены назіраньні па аклімацізацыі раманаўскай авечкі ў мэтах далейшага выкарыстоўваньня яе дзеля палепшаньня мясцовай авечкі ў аўчынным напрамку.

Вынікі па першай тэме і часткаю па другой надрукаваны ў бюлетэні Белаграстанцыі № 1.—1927 г. праф. І. І. Калугін «Очерки по изучению трехпалых и многопалых свиней Белоруссии» і Ф. М. Сьнежкін «Откорм свиней самок».

Матэрыялы па астатніх тэмах зараз распрацоўваюцца і рыхтуюцца да друку былым Загадчыкам Аддзелу Жывёлаводзтва Ф. М. Сьнежкіным.

Галоўная праца Аддзелу С. Г. Эканоміі з прыстасаваньнем выявілася:

1. Формай арганізацыі Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў. Пры гэтым трэба адзначыць, што першая ідэя гэтай формы арганізацыі на Беларусі належыць Белаграстанцыі.

2. Праведзена экспэдыцыйным мэтадам абсьледаваньне тэхнікі і арганізацыі жывёлагадоўлі раёну дзейнасьці станцыі. За адсутнасьцю сродкаў матэрыялы яшчэ і зараз не распрацаваны і

3. Організацыя выставак, экскурсій, лекцый, удзел у розных канфэрэнцыях, зьездах, нарадах і мясцовай прэсе.

Што-ж датычыцца працы Аддзелу Паляводзтва, дык, ня гледзячы на ўсю вышэйадзначаную гісторыю рэорганізацыі Станцыі, дзякуючы таму, што па кожнаму пытаньню, якія вырашаюцца палявым мэтадам, старыя вынікі могуць быць атрыманы толькі ў працягу некалькіх год, таму тут па ўсіх галоўных пытаньнях распачатых яшчэ ў 1924 годзе ўвесь час захоўвалася строгая праемственнасьць, як у сэнсе працягваньня пастаўленых на вырашэньне пытаньняў, так і ў сэнсе захаваньня іх асноўнай мэтодыкі, а па меры набыцьця адпаведнага абсталяваньня і наліčча пэрсональных магчымасьцяў, дадаткова накладваліся іншыя аналістычныя мэтады дасьледаваньня, дзеля больш глыбокага і супраўднага выяўленьня дзейнічых фактараў па таму, ці іншаму з вывучаемых пытаньняў. Трэба адзначыць, што пасьля першых 2-х год існаваньня Станцыі пад Менскам і даволі хуткага тэмпу разьвіцьця яе працы, у апошнія гады гэты тэмп разьвіцьця ў напрамку пастаноўкі новых пытаньняў, патрабуючых безадкладнага і хуткага вырашэньня дзеля задавальненьня запатрабаваньняў жыцьця сельскае гаспадаркі раёну сёньняшняга дню, амаль зусім быў спынены з прычыны адсутнасьці ў распараджэньні станцыі вольных зямельных плошчаў, адпавядаючых мэтаду пастаноўкі палявых досьледаў. Адсюль яскрава выяўляецца, што ўсе тыя галоўныя пытаньні, над якімі працуе станцыя ў галіне палявой гаспадаркі да

апошняга часу, яны накіраваны дзеля адказу на тыя асноўныя задачы, якія былі вызначаны ў пачатку заснаваньня станцыі пад Менскам. Зараз, дадаючы да асноўнай установкі некалькі больш пашыраны характар спэцыяльнай і грамадзкай працы, гэтыя задачы магчыма фармуляваць у наступным.

### Асноўныя задачы працы Станцыі.

1. Вывучэньне спосабаў павялічэньня вытворчасьці бедных пяшчаных і лёгка-суглiністых глеб, шляхам зьбіраньня арганічных матэрыяў і абагачэньня асноўнымі пажыўнымі элемэнтамі расьлін, у напрамку палепшаньня фізыка-біо-хімічных уласьцівасьцяў глебы.
2. Вывучэньне пытаньняў апрацоўкі глебы ў сувязі з запатрабаваньнямі асноўных культур палявой гаспадаркі.
3. Вывучэньне спэцыяльнай тэхнікі культуры паасобных расьлін, галоўным чынам корань-клубняплодаў, зімовых збожжавых і бабовых.
4. Вывучэньне кароткіх уплатнёных севазваротаў з увядзеньнем у іх занятых папараў, корань-клубняплодаў і падсяўных бабовых на зялёны корм, сена і ўгнаеньне.
5. Сортавывучэньне, сортаспрабаваньне асноўных культур палявой гаспадаркі раёну і плянавая рэпродукцыя іх у мэтах задавальненьня гаспадарчых і прамысловых запатрабаваньняў, а таксама вывучэньне мясцовага пасяўнога матэрыялу з боку яго гаспадарчай і прамысловай вартасьці.
6. Вывучэньне мясцовай сялянскай тэхнікі палявой гаспадаркі.
7. Вывучэньне засьмечанасьці мясцовага пасяўнога матэрыялу сялянскіх палёў і ўтварэньня рацыянальных спосабаў барацьбы з ёй.
8. Організацыя і правядзеньне працы па Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў.
9. Папулярызацыя працы і дасягненьняў станцыі сярод насельніцтва раёну дзейнасьці.

Уся праца станцыі, якая праводзіцца да гэтага часу стацыянарнымі і іншымі мэтадамі, дзеля выпрашэньня вышэйадзначаных задач, яна можа быць разьмеркавана на наступныя групы:

1. Угнаеньні (якія вырашаюцца стацыянарнымі—палявымі і вэгетацыйнымі досьледамі); 2) Папары і апрацоўка глебы; 3) Спэцыяльныя спосабы і прыёмы асобных культур; 4) Сортавывучэньне і сортаспрабаваньне: 5) Аграхімічныя досьледы; 6) Вывучэньне засьмечанасьці і мэтадаў барацьбы з ёю; 7) Організацыя і праца Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў і 8) Агульна-грамадзкая праца Станцыі.

### Сучасная праца і яе вынікі.

### І. УГНАЕНЬНІ.

#### а) Палявыя досьледы.

*Вывучэньне сыдэрацыйных культур на ўгнаеньне.*

Досьлед праводзіцца з 1924 г. ва ўмовах 2-х—трохпалёвых севазваротаў: сыдэрацыйныя культуры на зялёнае ўгнаеньне, зімовае жыта, авёс і грэчка—на пяшчаным і лёгка-суглiністым тыпах глебы. З сыдэрацыйных культур на пяшчаным тыпе глебы вывучаюцца: лубін, сэрадэля, пялюшка, мешанка (лубіну, сэрадэлі і пялюшкі) і конскі боб, а на лёгкім суглінку толькі—лубін, сэрадэля і пялюшка.

Да гэтага часу досьледы паказалі, што на пяшчаным тыпу глебы конскі боб, як досыць вымагальная культура, зусім не падыходзіць

на зялёнае ўгнаеньне і таму на далейшы час ён выключаны з досьледаў. З астатніх культур, незалежна ад колькасьці заворанай масы на ўгнаеньне, найбольшы ўплыў на ўраджай зімовага жыта мае пялюшка, потым лубін і мешанка, і нарэшце—сэрадэля.

На лёгкім суглінку, пры параўнаньні дзейнасьці аднолькавай колькасьці воранай зялёнай масы лубіну, сэрадэлі і пялюшкі на ўгнаеньне, ураджай зерня зімовага жыта атрымоўваецца ад сэрадэлявай на 35 проц. і ад пялюшкавай на 14 проц. большы, чым па лубінавай масе.

*Выяўленьне стадыі разьвіцьця лубіну дзеля запашкі на зялёнае ўгнаеньне пад зімовае жыта.*

Досьлед праводзіцца ва ўмовах 3-х палёвага севазвароту на лёгкім суглінку. З асобных стадый разьвіцьця лубіну вывучаюцца: красаваньне сівых бабкоў і бліскучых бабкоў.

Па дадзеных 2-х гадоў выяўляецца, што найлепшымі стадыямі разьвіцьця лубіну дзеля запашкі на ўгнаеньне, зьяўляюцца—красаваньне і сізых бабкоў. Перавага гэтых стадый паміж сабою хістаецца па асобных гадох на карысьць то аднэй, то другой, што відавочна залежыць ад ходу мэтэоролёгічных умоў году.

*Вывучэньне ўплыву запраўкі пяшчанай глебы фосфарна-калійным мінэральным угнаеньнем і невялікай нормай гною (60 ц.) на разьвіцьцё зялёнай масы лубіну дзеля ўгнаеньня і іх наступнага ўплыву на ўраджай зімовага жыта і іншых культур севазвароту.*

Адначасова, пры вырашэньні пытаньняў запраўкі глебы пад культуру лубіну на зялёнае ўгнаеньне, вывучаецца пытаньне запраўкі такой самай нормай гною—зялёнай масы лубіну ў мэтах найбольш рацыянальнага выкарыстоўваньня яе асноўнымі культурамі севазвароту.

Пытаньні заправак глебы пад лубін і самой лубінавай масы вывучаюцца ў параўнаньні з дзейнасьцю поўнага мінэральнага ўгнаеньня на фоне чыстага раньняга папару, ва ўмовах 3-х палёвага севазвароту: лубін і чысты папар, зімовае жыта, авёс з падсевам сэрадэлі.

Па 3-х гадовых дадзеных досьледу можна зрабіць такія вынікі: а) запраўка глебы 60 ц. гною па разьліку на гэкт. пад культуру лубіну на зялёнае ўгнаеньне, павялічвае ўраджай зялёнай масы апошняга на 30 проц.; б) запраўка глебы фосфарна-калійным мінэральным угнаеньнем пад культуру лубіна, павялічвае ўраджай зялёнай масы апошняга на 10 проц.; в) ураджай зімовага жыта і наступных культур севазвароту па лубіну, без заправак, атрымоўваецца такі, як ад поўнага мінэральнага ўгнаеньня на фоне чыстага папару; г) фосфарна-калійная запраўка глебы пад лубін і запраўка зялёнай масы лубіну гноем даюць прыблізна аднолькавае павялічэньне ўраджаю зерня жыта на 17 проц., з той толькі розьніцай, што павялічэньне ўраджаю зерня наступнай культуры аўса, пры запраўцы зялёнай масы лубіну гноем, атрымоўваецца амаль у два разы большае, чым пры фосфарна-калійнай запраўцы глебы пад лубін (напрыклад, запраўка РК пад лубін дае павялічэньне ўраджаю зерня аўса на 55 проц., а запраўка зялёнай масы лубіну гноем—на 100 проц.); д) Запраўка глебы 60 ц. гною пад лубін дае павялічэньне ўраджаю зерня жыта некалькі меншае, чым фосфарна-калійная запраўка глебы, альбо лубінавай масы гноем, што не знаходзіцца ў сувязі з колькасьцю заворанай на ўгнаеньне зялёнай масы лубіну; е) падсяўная сэрадэля пад авёс не рэагуе станоўча на

запраўку глебы пад лубін і яго зялёнай масы, а відавочна велічыня ўраджайнасьці яе больш знаходзіцца ў адваротнай залежнасьці з велічынёй ураджайнасьці пакроўнай культуры аўса.

*Уплыў гною і спосабаў яго ўнясеньня на выкарыстоўваньне зялёнай масы лубіну, як угнаеньня, культурай зімовага жыта на лёгкім суглінку.*

Досьлед праводзіцца таксама, як і вышэйадзначаныя, ва ўмовах кароткага—3-х палёвага севазвароту.

Асноўная мэта гэтага досьледу—адказаць на запытаньні, які маюць уплыў адносна невялікія нормы гною на выкарыстоўваньне культурай зімовага жыта зялёнай масы лубіну, пры 2-х гаспадарча-тэхнічных спосабах унясеньня гною: па-першае, калі гэтыя невялікія нормы гною заворваюцца разам з зялёнай лубінавай масай, і па-другое,—калі зялёная лубінавая маса заворваецца адна, а гной прысьцілаецца зьверху па ўсходах зімовага жыта.

Па 3-х гадовых дадзеных досьледу магчыма адзначыць, што дадатковае ўнясеньне 90 ц. гною да зялёнай лубінавай масы пры заворваньні, павялічвае эфектыўнасьць дзейнасьці лубінавай масы на 15 проц.; ад павялічэньня адзначанай нормы гною ў два разы, эфектыўнасьць дзейнасьці лубінавай масы дадаткова павялічваецца прыблізна на 10 проц. Прысьціл гною зьверху па ўсходах зімовага жыта значна менш павялічвае эфектыўнасьць дзейнасьці лубінавай масы і зьмяншае эфектыўнасьць самаго гною, што відавочна тлумачыцца: нерацыянальнай стратай аміячных і вуглекіслых злучэньняў гною, паніжанай яго дзейнасью на расклад лубінавай масы і палепшаньнем фізычных уласьцівасьцяй самой глебы.

*Вывучэньне дзейнасьці фосфарна-калійнага мінэральнага ўгнаеньня на фоне лубінавай масы на ўраджай зімовага жыта.*

Досьлед праводзіцца на лёгкім суглінку, пры гэтым, дзейнасьць фосфарна-калійнага мінэральнага ўгнаеньня і самога лубінавага фону вывучаецца ў параўнаньні з поўным мінэральным угнаеньнем.

У выніку правядзеньня гэтага досьледу да сучаснага моманту маюцца 2-х гадовыя дадзеныя, з якіх выяўляецца, што дзейнасьць 180 ц. зялёнай лубінавай масы на ўраджаі зімовага жыта раўняецца 50 проц. дзейнасьці поўнага мінэральнага ўгнаеньня. Лубінавая маса (фон) разам з фосфарна-калійным мінэральным угнаеньнем, а таксама толькі з адным калійным угнаеньнем, дае ўраджай зімовага жыта такі, як адно поўнае мінэральнае ўгнаеньне, а гэта значыць, што для ўзмацненьня пажыўчага балянсу зялёнага лубінавага ўгнаеньня, пад культуру зімовага жыта на лёгкім суглінку з мінэральных угнаеньняў дастаткова ўнесьці адну калійную соль.

*Вывучэньне ўплыву гною, зялёнага лубінавага і камбінаванага ўгнаеньня на ўраджай зімовага жыта і наступнай культуры канюшыны на лёгкім суглінку.*

Досьлед праводзіцца з 1926 году ва ўмовах 6-ці палёвага севазвароту, які, акрамя вывучэньня пытаньняў угнаеньня, ставіць мэтай высьвятліць падбор культур дзеля найбольш рацыянальнага выкарыстоўваньня канюшынавай дзярніны. Але дзякуючы таму, што досьлед праводзіцца ўсяго яшчэ два гады, таму дадзеныя ёсьць толькі па першай частцы—уплыву ўгнаеньняў на ўраджай зімовагаа жыта і канюшыны, з якіх выяўляецца, што ўраджай зімовага жыта па аднаму

лубіну (зялёная маса якога ў працягу 2-х год разьвівалася ня больш 100 ц.) раўняецца 56 проц., а па такой самай масе лубіну разам з 180 ц. гною—77 проц. ад поўнай нормы (360 ц.) аднаго гною. Што-ж датычыцца ўплыву адзначаных угнаеньняў на ўраджай сена канюшыны, дык апошні, у параўнаньні з ураджаем атрыманым за два укосы ад поўнай нормы аднаго гною, па лубіну раўняецца—49 проц., а па лубіну разам з паўнормай гною—110 проц., што адзначае магчымасьць пасьпяховага ўжываньня культуры лубіну на зялёнае ўгнаеньне разам з гноем пад канюшыну, якая аплачвае адносна невялікую масу лубіну некалькі вышэй, чым 180 ц. гною ў складзе яго поўнай нормы.

*Вывучэньне падсяўных і пажніўных культур на зялёнае ўгнаеньне.*

Досьлед праводзіцца з 1925 г. на лёгкім суглінку ва ўмовах 4-х палёвага севазвароту: папар заняты віка-аўсянай мешанкай, зімовае жыта з падсяўнымі і пажніўнымі культурамі на ўгнаеньне, бульба («Сілезія») і авёс. У якасьці падсяўных культур вывучаюцца лубін і сэрадэля, а пажніўных—адзін лубін.

Аснаўныя задачы, якія наданы для вывучэньня гэтым досьледам, магчыма фармуляваць так: 1) вывучэньне магчымасьці падсяўных і пажніўных культур у мясцовых натуральна-гістарычных умовах; 2) вывучэньне тэхнікі падсяўных і пажніўных культур і 3) вывучэньне эфектыўнасьці падсяўных і пажніўных культур ва ўмовах севазвароту.

Па атрыманых дадзеных да гэтага часу магчыма адказаць, што такая прамежная форма палявой культуры бабовых на зялёнае ўгнаеньне,—г. зн., калі яны не займаюць у севазвароце спэцыяльнага палетку, як гэта існуе зараз у практычным с.-г. жыцьці раёну, а выхоўваюцца ў адным і тым-жа палетку, з якога ў адзін год здымаецца і ўраджай зімовага жыта,—у нашых мясцовых натуральна-гістарычных умовах з посьпехам магчыма, пры больш-менш нормальным ходзе кліматычных элемэнтаў у працягу году, бо досьлед паказаў, што зялёная маса падсяўных і пажніўных бабовых культур, у сярэднім за 4-ры гады, разьвіваецца мала меншая, чым зялёная маса такіх самых культур у спэцыяльных палетках.

У адносінах тэхнікі трэба адзначыць, што яна для падсяўных культур зьяўляецца даволі простай і да гэтага часу яна Станцыяй досыць шырока абмяркована на старонках папулярнай прэсы, а ў адносінах пажніўных культур трэба памятаць самае галоўнае, што гэты пасеў павінен утварацца зараз-жа пасьля прыборкі зімовага жыта.

Эфектыўнасьць падсяўных і пажніўных культур заворваных на зялёнае ўгнаеньне непасрэдна пад бульбу, яскрава выяўляецца наступнымі ўраджайнымі дадзенымі асобных культур севазвароту.

Б у л ь б а.

| Схэма досьледу | Сярэдні 3-х гад. ураджай клубняў з гэктару | | Сярэдні 3-х гадовы запас крухмалу з гэктару | |
|---|---|---|---|---|
| | цент. | %% | цент. | %% |
| 1. 0 | 115.13 | 100.0 | 21,85 | 100.0 |
| 2. Падсяўная сэрадэля | 152,63 | 132,3 | 27,46 | 125,6 |
| 3. Падсяўная лубін | 167,21 | 145.0 | 30,58 | 140,0—За 2 гады |
| 4. Пажн. лубін з асеньняй запашкай | 164,0 | 142,2 | 29,69 | 135,8 |
| 5. Пажн. лубін з вясеньняй запашкай | 169.38 | 147,8 | 31.02 | 142.0 |

Авёс і віка-авёс.

| Схэма досьледу | Авёс | | Віка-авёс | |
|---|---|---|---|---|
| | Сярэдні 2-х гад. ураджай з гэктару | | Аднагадовы ўраджай сена з гэктару | |
| | цэнтн. | %% | цэнтн. | %% |
| 1. 0 | 6,92 | 100.0 | 22.25 | 100,0 |
| 2. Падсяўн. сэрадэля | 8,82 | 127.4 | 28.20 | 126,7 |
| 3. Падсяўны лубін | 10,76 | 155,5 | 29,44 | 132,3 |
| 4. Пажніўны лубін з асеньняй запашкай | 9,52 | 137,5 | 24,45 | 109,8 |
| 5. Пажніўны лубін з вясеньняй запашкай | 10,11 | 146,1 | 33,29 | 149,6 |

Эфектыўнасьць падсяўнога і пажніўнага лубіну вышэй, чым падсяўной сэрадэлі. Эфектыўнасьць падсяўнога лубіну па бульбе і віка-аўсянай мешанкі некалькі вышэй, чым пажніўнага лубіну заворанага ў восень і некалькі ніжэй, чым пажніўнага лубіну, які пакідаецца незавораным да раньняй вясны. Што-ж датычыцца працяжнасьці дзейнасьці падсяўных і пажніўных бабовых культур заворaных на зялёнае ўгнаеньне, дык з прадстаўленых дадзеных магчыма бачыць, што іх дзейнасьць яшчэ не абмяжоўваецца трэцяй культурай, бо адносныя прыбаўкі віка-аўсянай мешанкі, амаль раўнаюцца адносным прыбаўкам першай культуры—бульбы.

*Вывучэньне дзейнасьці гною, зялёнага, мінэральнага і камбінаванага ўгнаеньняў на лёгка-сугліністай храшчавата-супяшчанай глебе, пры культуры кармовых кораньплодаў.*

Дзейнасьць азначаных угнаеньняў вывучаецца ў 4-х палёвым севазвароце: папар віка-аўсяны, лубінавы і сэрадэлявы; зімовае жыта; кармовыя буракі (с. Экендорфскі жоўты) і авёс. Асноўныя задачы досьледу: 1) высьвятліць нормы рацыянальнага ўнясеньня гною пры культуры кармовых кораньплодаў; 2) месца гною ў севазвароце пры ўнясеньні яго аднаго, а таксама разам з мінэральнымі ўгнаеньнямі; 3) высьвятліць уплыў зялёнага лубінавага і сэрадэлявага ўгнаеньняў; 4) магчымасьць замены гною зялёным угнаеньнем падсяўнога лубіну разам з мінэральнымі фосфарна-калійнымі ўгнаеньнямі; 5) магчымасьць забясьпечаньня нормальнага ўраджаю культур севазвароту, пры ўжываньні аднаго зялёнага ўгнаеньня і 6) прасачыць пасьлядзейнасьць угнаеньняў у межах севазвароту дзеля ўтварэньня ацэнкі іх дзейнасьці.

У выніку 2-х гадовага правядзеньня досьледу атрыманы наступныя сярэднія ўраджайныя дадзеныя:

Зімовае жыта.

| Назва ўгнаеньняў | Ураджай усёй сухой масы з гэктару | | Ураджай зерня з гэктару | |
|---|---|---|---|---|
| | цэнтн. | проц. | цэнтн. | проц. |
| 1. 0 | 45,80 | 100,0 | 17,24 | 100,0 |
| 2. Гною 360 ц. | 63,15 | 137,8 | 26,15 | 151,6 |
| 3. $P_2O_5$ — 45 к. + $K_2O$ — 45 к. + N — 30 к. | 67,36 | 147,0 | 22,87 | 132,6 |
| 4. Гною 180 ц. | 53,83 | 117,5 | 21,24 | 123,2 |
| 5. Лубін на зял. угнаеньне | 66,27 | 144,7 | 21,62 | 125,4 |
| 6. Серадэля на зялён. угнаеньне | 47,99 | 104,7 | 19,41 | 112,6 |

Гэта значыць, што з павялічэньнем паўнормы гною да адной цэлай нормы, ураджай зерня зімовага жыта павялічваецца больш, чым у два разы; поўнае мінэральнае ўгнаеньне дае павялічэньне ўраджаю зімовага жыта больш, чым палова нормы гною, але менш, чым норма; зялёнае лубінавае ўгнаеньне дае павялічэньне ўраджаю зерняці зімовага жыта такое, як палова нормы гною, і ўрэшце малае павялічэньне ўраджаю зерня ад дзейнасьці сэрадэлі тлумачыцца мала разьвітай яе зялёнай масай.

## Кармовыя буракі.

| № па чарзе | Схэма досьледаў | | Ураджай карэн. з гэктару | | Сухой масы | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Угнаеньні пад жыта | Угнаеньні пад буракі | цэнтн. | %% | % у кар. | запас у цэнт. | запас у %% |
| 1 | 0 | 0 | 120,87 | 100,0 | 14,04 | 16,97 | 100,0 |
| 2 | Гною 360 ц. | — | 314,35 | 260,0 | 15,42 | 48,47 | 285,6 |
| 3 | — | Гною 360 цэнтн. | 295,05 | 244,1 | 13,58 | 40,07 | 236,1 |
| 4 | Гною 360 ц. | $K_2O$—45 к. | 295,42 | 244,4 | 14,39 | 42,51 | 250,5 |
| 5 | $P_2O_5$—45 к.+$K_2O$—45 к. + N — 30 к. | Гною 180 ц. | 286,00 | 236,6 | 13,88 | 39,70 | 233,9 |
| 6 | $P_2O_5$—45 к.+$K_2O$—45 к. + N —30 к. | — | 254,58 | 210,6 | 14,92 | 37,98 | 223,8 |
| 7 | Гною 180 ц. | Падс. лубін+$P_2O_5$—45 к. +$K_2O$—45 к. | 258,61 | 213,9 | 13,88 | 35,89 | 211,5 |
| 8 | Гною 180 ц. | Падсяўн. лубін | 221,46 | 183,3 | 14,22 | 31,49 | 185,5 |
| 9 | Лубін на зял. угнаеньне | — | 150,73 | 124,6 | 14,84 | 22,37 | 131,8 |
| 10 | Лубін на зял. угнаеньне | Пажн. лубін | 219,41 | 181,6 | 13,46 | 29,53 | 174,0 |
| 11 | Сэрадэля на зял. угнаеньне | Падсяўн. сэрад. | 115,31 | 95,4 | 14,47 | 16,68 | 98,3 |

Гэта значыць, што найбольшы ўраджай кармовых караньплодаў адтрымоўваецца ад нормы гною ўнесянай пад жыта. Непасрэднае ўнясеньне гною пад караньплоды мае некаторую тэндэнцыю да зьмяншэньня ўраджаю карэньняў і процант сухой масы, у параўнаньні з такой самай нормай гною ўнесенай пад зімовае жыта. Палова нормы гною, унесеная непасрэдна пад караньплоды, разам з пасьлядзейнасьцю мінэральнага ўгнаеньня, унесенага пад жыта, далі ўраджай кармовых караньплодаў такі, як норма гною ўнесеная непасрэдна пад караньплоды. Фосфарна-калійнае мінэральнае ўгнаеньне на фоне паловы нормы гною ўнесенай пад жыта і падсяўнога лубіну заворанага непасрэдна пад караньплоды, дало павялічэньне ўраджаю карэньняў на 31 проц. і сухой масы на 26 проц. Пажніўны лубін на фоне лубіну заворанага пад жыта, даў павялічэньне ўраджаю карэньняў на 57 проц. і сухой масы на 42 проц. Такім чынам, з вышэйадзначанага яскрава выяўляецца, што значная колькасьць патрэбнага гною ў гаспадарцы

пры ўвядзеньні такой вымагальнай культуры, як кармовых караньплодаў, можа быць заменена культурай падсяўнога і пажніўнага лубіну на зялёнае ўгнаеньне разам з мінэральнымі ўгнаеньнямі шляхам утварэньня адпаведных камбінаваных форм, што ў сваю чаргу павінна стымуляваць пашырэньне плошчы засеву ў сельскай гаспадарцы кармовых караньплодаў, а г. зн. і вырашэньне кармовага пытаньня.

*Вывучэньне дзейнасьці гною, мінэральнага і камбінаванага ўгнаеньняў на лёгка-сугліністай храшчавата-супяшчанай глебе, пры культуры бульбы.*

Досьлед праводзіцца ў 4-х палёвым севазвароце: папар ці віка-аўсяны, жыта з падсевам сэрадэлі на сена, бульба («Вольтман») і авёс. Асноўныя задачы досьледу высьвятліць: 1) нормы гною ў севазвароце пры непасрэдным ўнясеньні яго пад культуру бульбы і 2) магчымасьць замены гною мінэральным угнаеньнем. У выніку 4-х гадовага правядзеньня досьледу атрыманы наступныя дадзеныя:

Бульба.

| №№ | Назва і колькасьць угнаеньня | Сярэдн. 3-х гад. ураджай клубняў з гэкт. | | Сярэдн. 3-х гад. запас крухмалу з гэктару | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | цэнтн. | проц. | цэнтн. | проц. |
| 1 | 0 | 128,05 | 100,0 | 25,10 | 100.0 |
| 2 | Гною 180 ц. . . . . . | 167,19 | 130,6 | 32,47 | 129,3 |
| 3 | Гною 360 ц. . . . . . | 181,54 | 141,8 | 35,21 | 140,2 |
| 4 | Гною 180 ц. + $K_2O$—22,5 к. + $P_2O_5$—22,5 к. + N — 15 к. . . | 180,23 | 140,7 | 34,22 | 136,3 |
| 5 | $K_2O$—45 к. + $P_2O_5$—45 к. + N—30 к. | 166,04 | 129,7 | 31,22 | 124,4 |

Авёс і віка-авёс.

| №№ | Назва і колькасьць угнаеньня | Сярэдн. 2-х гад ураджю аўса з гэкт. | | Сярэдн. 2-х гад. ураdж. віка-аўсян. сена з гэкт. | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | цэнтн. | проц. | цэнтн. | проц. |
| 1 | 0 | 7,11 | 100,0 | 18,03 | 100,0 |
| 2 | Гною 180 ц. . . . . . | 9,99 | 140,5 | 31,12 | 172,5 |
| 3 | Гною 360 ц. . . . . . | 10,39 | 146,1 | 33,32 | 184,8 |
| 4 | Гною 180 ц. + $K_2O$—22,5 к. + $P_2O_5$—22,5 к. + N — 15 к. . . . | 10,74 | 151,0 | 31,70 | 175,8 |
| 5 | $K_2O$—45 к. + $P_2O_5$—45 к. + N—30 к. | 8,65 | 121,6 | 18,18 | 100,8 |

Зімовае жыта і падсяўная сэрадэля.

| №№ | Назва і колькасьць угнаеньня | Урадж. зярня жыта з гэктару | | Урадж. сена сярэдні з гэктару | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | цэнтн. | проц. | цэнтн. | проц. |
| 1 | 0 | 19,14 | 100,0 | 30,00 | 100,0 |
| 2 | Гною 180 ц. . . . . | 22,20 | 115,9 | 28,00 | 93,3 |
| 3 | Гною 360 ц. . . . . | 20,18 | 105,4 | 29,33 | 97,8 |
| 4 | Гною 180 ц.+$K_2O$—22,5 к.+$P_2O_5$ к. — 22,5 к. + N — 15 к. . . | 21,10 | 110,2 | 30,17 | 100,5 |
| 5 | $K_2O$—45 к.+$P_2O_5$—45 к.+N—30 к. | 19,20 | 100,3 | 25,33 | 84,4 |

З павялічэньнем нормы гною ад 180 да 360 ц. ураджай бульбы і наступных культур севазвароту павялічваецца прыблізна на 30 проц. дзейнасьці першых 180 ц. гною, што зварочвае ўвагу на неабходнасьць высьвятленьня пытаньня дробнага ўнясеньня гною, г. зн. часткаю пад віку-авёс і часткаю пад бульбу. Незалежна ад колькасьці ўнасімага гною дзейнасьць яго назіраецца ў працягу 4-х год, г. зн. на ўсіх 4-х асноўных культурах севазвароту, хаця і вельмі нязначнае на апошняй культуры (зімовае жыта).

Дзейнасьць мінэральнага ўгнаеньня як аднаго, так і на фоне 180 цэнтн. гною, назіраецца толькі ў працягу 2-х год.

Эфектыўнасьць на 2-х культурах ад дзейнасьці нормы аднаго поўнага мінэральнага ўгнаеньня, і паловы нормы на фоне 180 ц. гною, раўняецца эфектыўнасьці ад дзейнасьці 180 цэнтнераў гною.

Дзейнасьці ўгнаеньняў на падсяўной сэрадэлі не назіраецца і відавочна велічыня ўраджайнасьці яе ў значнай ступені мае адваротную залежнасьць ад велічыні ўраджайнасьці пакроўнай культуры—зімовага жыта.

*Вывучэньне эфектыўнасьці розных форм калійных мінэральных угнаеньняў на фізыолёгічна-кіслым і нейтральным фосфарна-азотным фоне.*

Досьлед праводзіцца на лёсавідным моцна ападзоленым суглінку. Культура—бульба «Сілезія».

Па аднагадовых дадзеных магчыма адзначыць, што з усіх вывучаемых форм калійных мінэральных угнаеньняў, г. зн. хлёрыстага калія, сернакіслага калія, калійнай солі і сільвініта, найбольшую эфектыўнасьць дае сільвініт, потым хлёрысты калі і калійная соль, пры чым, гэта эфектыўнасьць больш на фізыолёгічна-нейтральным, чым на фізыолёгічна-кіслым фоне.

*Вывучэньне мінімумаў пажыўчых элемэнтаў расьлін на лёсавідным моцна-ападзоленым суглінку, пры фізыолёгічна-кіслых і нейтральных мінэральных угнаеньнях.*

Досьлед праводзіцца на культуры—ячмень «Залаты». Па аднагадовых дадзеных выяўляецца, што ў выпадку фізыолёгічна-кіслых угнаеньняў па эфектыўнасьці асобныя пажыўчыя элемэнты разьмяркоўваюцца ў наступным нісхадзячым парадку: K, P і N, а ў выпадку фізыолёгічна-нейтральных угнаеньняў па эфектыўнасьці гэтыя пажыўчыя элемэнты разьмяркоўваюцца ў наступным нісхадзячым парадку:

Р, К і N. Пры гэтым трэба адзначыць, што эфектыўнасьць ад дзейнасьці фосфару фізыолёгічна-кіслых угнаеньняў і эфектыўнасьць ад дзейнасьці калія фізыолёгічна-нэўтральных угнаеньняў зьяўляецца зусім аднолькавай, а таксама аднолькавай зьяўляюцца і эфектыўнасьць ад дзейнасьці азоту фізыолёгічна-кіслых і нейтральных угнаеньняў.

Акрамя вышэйадзначаных пытаньняў, па якіх да гэтага часу ўжо атрыманы некаторыя больш-менш пэўныя вынікі, станцыя з вясны г. г. паставіла дзеля вырашэньня на нова-організуемым полі «Атоліна» пытаньні, якія магчыма фармуляваць у наступным:

*Вывучэньне эфектыўнасьці розных форм фасфатных і азотных мінэральных угнаеньняў:*

*Вывучэньне пытаньняў вапнаваньня глебы;*

*Вывучэньне пытаньняў угнаеньня пад культуру цукровых буракоў.*

Гэты палявы досьлед зараз праведзены па даволі шырокай праграме і атрыманыя матэрыялы аналізуюцца ў тэхнолёгічнай лябараторыі БДА:

*Вывучэньне агранамічных руд Беларусі [1]).*

Гэтае шырокае заданьне разьмяркоўваецца на наступныя тэмы: а) вывучэньне эфектыўнасьці беларускіх фасфарытаў з розных месц заляганьня ў параўнаньні з эфектыўнасьцю Сешчынскага фасфарыту і супэрфасфату; б) вывучэньне ўплыву форм і норм кальцыйных угнаеньняў на прысваеньне $P_2O_5$ фасфарыта культурамі і г) вывучэньне магчымасьці выкарыстоўваньня $P_2O_5$ фасфарыта культурай лубіну дзеля заворваньня яго на зялёнае ўгнаеньне пад зімовае жыта.

Усе гэтыя тэмы вырашаюцца на двох тыпах глебы.

б) Вэгэтацыйныя досьледы.

*Вывучэньне дзейнасьці мінэральных угнаеньняў на пяшчанай і лёгкасугліністай глебе.*

Досьлед праведзены з аўсом у працягу 1926-27 году і атрыманы наступныя сярэднія дадзеныя.

| №№ | Назва угнаеньняў | Пяшчаная глеба | | | | Лёгка-суглінiстая глеба | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Усёй масы | | Зерня | | Усёй масы | | Зерня | |
| | | грам | 0/00/0 | грам | 0/00/0 | грам | 0/00/0 | грам | 0/00/0 |
| 1 | 0 | 7,26 | 100,0 | 3,11 | 100,0 | 9,31 | 100,0 | 4,58 | 100,0 |
| 2 | Nc. | 9,56 | 131,6 | 4,45 | 143,0 | 13,04 | 140,1 | 6,47 | 141,2 |
| 3 | Pc. | 7,60 | 104,7 | 3,35 | 107,7 | 10,38 | 111,4 | 4,79 | 104,5 |
| 4 | Тш. | 6,81 | 93,8 | 3,27 | 105,1 | 7.94 | 85,2 | 3,87 | 84.5 |
| 5 | Кс | 7,08 | 97,5 | 3,34 | 107,4 | 11,32 | 121,5 | 5,37 | 117.2 |
| 6 | Nc. Кс. | 13,73 | 189,1 | 5,71 | 183,6 | 15,26 | 163,9 | 7,18 | 156,8 |
| 7 | Nc. Pc. | 13,53 | 186,3 | 6,06 | 194,9 | 16,25 | 174,5 | 7,74 | 168,9 |
| 8 | Nc. Тш. | 15,73 | 216,6 | 7,28 | 234,0 | 16,85 | 180,9 | 8,29 | 181,0 |
| 9 | Pc. Кс. | 6,96 | 95,8 | 3.26 | 104,8 | 11,00 | 118,1 | 5,02 | 109,6 |
| 10 | Тш. Кс. | 5,74 | 79,0 | 2,53 | 81,3 | 9,35 | 100,4 | 4.34 | 94,7 |
| 11 | Nc. Кс. Pc. | 13,65 | 188,0 | 5,85 | 188,1 | 18,72 | 201,0 | 8,93 | 194,9 |
| 12 | Nc. Кс. Тш. | 11,82 | 193,8[2]) | 5,93 | 218,0[2]) | 18,61 | 157,7[2]) | 9,53 | 158,5[2]) |

[1]) Агранамічныя руды Беларусі вывучаюцца па заданьню Аддз. Расьлінагадоўлі БНДІ.
[2]) Дадзеныя за адзін год.

З адзіночных угнаеньняў як на пяшчанай, так і на лёгка-сугліністай глебе, найбольшы эфект мае салетра, потым на лёгка-сугліністай глебе калійная соль. Эфект ад дзейнасьці адзіночных—супэрфасфату, тамасавага шлаку і калійнай солі на пяшчанай глебе, а таксама ад супэрфасфату на лёгка-сугліністай глебе знаходзіцца ў межах памылкі досьледу. Дзейнасьць аднаго тамасавага шлаку на лёгка-сугліністай глебе мае адмоўны ўплыў на культуру аўса. Падвойныя азотна-калійныя і азотна-фосфарныя камбінацыі на абодвых глебах маюць вельмі значны станоўчы эфект і, па велічыні яго, дзейнасьць асобных падвойных камбінацый разьмяркоўваецца ў наступным нісхадзячым парадку: $N$с. Тш., $N$с. Рс., $N$с. Кс., г. зн., што азотна-калійная камбінацыя мае меншы эфект, чым азотна-фосфарныя, а ў сваю чаргу салетра з тамасавым шлакам мае большы эфект, чым салетра з супэрфасфатам. Дзейнасьць падвойнай фосфарна-калійнай камбінцыі, дзе фосфар уносіцца ў якасьці супэрфасфату, ня мае станоўчага эфекту на пяшчанай глебе і мае вельмі нязначы эфект (менш чым ад аднэй калійнай солі) на лёгка-сугліністай глебе. Дзейнасьць падвойнай камбінацыі—тамасавага шлаку з калійнай сольлю ня мае станоўчага эфекту на лёгка-сугліністай глебе і мае ясна вызначаны адмоўны эфект на пяшчанай глебе. З усіх камбінаваных форм угнаеньня найбольш станоўчы эфект мае поўнае мінэральнае ўгнаеньне. На падставе такой дзейнасьці мінэральных угнаеньняў мы прыходзім да заключэньня, што як на пяшчанай, так і на лёгка-сугліністай глебе з асобных пажыўчых элемэнтаў расьлін у першым мінімуме знаходзіцца—N у другім—P і ў трэцім—K, пры чым, на пяшчанай глебе P і K выяўляюць сваю значную станоўчую дзейнасьць толькі пры задавальненьні пэршага мінімуму—N а на лёгка-сугліністай глебе гэта ў большай ступені датычыцца—P, бо станоўчая дзейнасьць—K мала ўзмацняецца пры дадатковым унясеньні—$N$.

*Фасфарытная і лубінавая мука ня пяшчанай і лёгка-сугліністай глебе.*

Досьлед праведзены з аўсом у працягу 1926 і 1927 г., у выніку якога атрыманы наступныя дадзеныя.

| | Назва ўгнаеньня | Пяшчаная глеба | | | | Лёгка-сугліністая глеба | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Усёй масы | | Зерня | | Усёй масы | | Зерня | |
| | | гр. | %% | гр. | %% | гр. | %% | гр. | %% |
| 1 | О . . . . . . . | 7,26 | 100,0 | 3,11 | 100,0 | 9,31 | 100,0 | 4,58 | 100,0 |
| 2 | Pf. . . . . . . | 6,65 | 91,6 | 2,87 | 92,2 | 7,39 | 79,3 | 3,56 | 77,7 |
| 3 | 2Pf. . . . . . . | 7,07 | 97,3 | 2,96 | 95,1 | — | — | — | — |
| 4 | Nc. Pf. . . . . . | 13,02 | 179,3 | 6,04 | 194,2 | 14,63 | 157,1 | 7,19 | 157,4 |
| 5 | Nc. 2Pf. . . . . . | 13,42[1] | 220,0[1] | 6,87[1] | 252,6[1] | — | — | — | — |
| 6 | Kc. Pf. . . . . . | 6,93 | 95,4 | 2,97 | 95,5 | 10,52 | 113,0 | 5,03 | 109.8 |
| 7 | Kc. 2Pf. . . . . . | 5.18[1] | 84,9[1] | 2,37[1] | 87,1[1] | — | — | — | — |
| 8 | Nc. Kc. Pf. . . . . | 14,13 | 194,6 | 6,34 | 203,8 | 18,50[1] | 156,7[1] | 9,44[1] | 156,9[1] |
| 9 | Nc. Kc. 2Pf. . . . . | 11,66[1] | 91,11[1] | 5,76[1] | 211,8[1] | 15,89 | 170,6 | 7,82 | 171,6 |
| 10 | Лм. . . . . . . | 11,34 | 156,2 | 4,77 | 153,3 | 12,32 | 132,3 | 5,87 | 128,1 |
| 11 | 2Лм. . . . . . . | 13.75 | 189,3 | 6,58 | 211,5 | 15,17 | 162,9 | 7,56 | 165,0 |

[1]) Дадзеныя за адзін год.

Фасфарытная мука ўнесеная адна, а таксама разам з калійнай сольлю, становачай дзейнасьці на культуру аўса ня мае. Станоўчая дзейнасьць фасфарытнай мукі, унесенай разам з салетрай, на пяшчанай глебе раўняецца дзейнасьці супэрфасфату ўнесенаму разам з салетрай, а на лёгка-сугліністай глебе дзейнасьць фасфарытнай мукі некалькі ніжэй, чым супэрфасфату. Дзейнасьць фасфарытнай мукі, унесенай у форме поўнага мінэральнага ўгнаеньня, на пяшчанай глебе вышэй дзейнасьці супэрфасфату, а на лёгка-сугліністай глебе ізноў некалькі ніжэй.

Лубінавая мука, унесеная ў якасьці ўгнаеньня па разьліку 30 кілёгр.—N на гэктар, дала павялічэньне ўраджаю аўса на пяшчанай глебе каля 50 проц., а на лёгка-сугліністай глебе каля 30 проц.; з павялічэньнем нормы лубінавай мукі ў два разы, эфектыўнасьць яе дзейнасьці павялічваецца таксама ў два разы.

*Дзейнасьць мінэральных угнаеньняў у сувязі з запатрабаваньнямі галоўных культур палявое гаспадаркі.*

Досьлед праведзены на лёгка-сугліністай глебе з культурамі— бульбы і зімовага жыта, па якіх атрыманы наступныя дадзеныя.

| | Назва ўгнаеньня | Бульба | | | | Зімовае жыта | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Усёй масы | | Клубняў | | Усёй масы | | Зерня | |
| | | гр. | % | гр. | % | гр. | % | гр. | % |
| 1 | О . . . . . . . . | 194,55 | 100,0 | 103,95 | 100,0 | 11,58 | 100,0 | 3,77 | 100,0 |
| 2 | Nс. . . . . . . . | 257,65 | 132,4 | 155,15 | 149,2 | — | — | — | — |
| 3 | Рс. . . . . . . . | 210,35 | 108,1 | 119,65 | 115,1 | — | — | — | — |
| 4 | Кс. . . . . . . . | 247,65 | 127,2 | 129, 4 | 124,5 | — | — | — | — |
| 5 | Nс. Рс. . . . . . | 281,1 | 144,5 | 172,95 | 166,3 | 15,39 | 132,9 | 5,75 | 152,5 |
| 6 | Nс. Кс. . . . . . | 314,05 | 161,4 | 199,90 | 192,3 | 17,12 | 147,8 | 4,03 | 106,9 |
| 7 | Рс. Кс. . . . . . | 270,50 | 139,0 | 159,15 | 153,1 | 10,50 | 90,8 | 3,50 | 92,8 |
| 8 | Nс. Рс. Кс. . . . | 319,00 | 164,1 | 180,70 | 174,0 | 15,90 | 137,30 | 4,55 | 120,7 |

Пры ўнясеньні пад культуру бульбы адзінкавых мінэральных угнаеньняў большы эфект мае салетра, потым калійная соль і супэрфасфат. Эфект ад дзейнасьці мінэральных угнаеньняў, калі яны ўносяцца пад культуру бульбы ў форме падвойных камбінацый, атрымоўваецца большы, чым сума эфектаў гэтых самых угнаеньняў унесеных пасобку, пры чым, з такіх камбінацый найбольшы эфект мае салетра, унесеная разам з калійнай сольлю.

На культуры зімовага жыта найбольшы эфект мае салетра, унесеная разам з супэрфасфатам.

*Фасфарытная і лубінавая мука пад бульбу і зімовае жыта на лёгкім суглінку.*

| №№ па чар. | Назва ўгнаеньня | Бульба | | | | Зімовае жыта | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Усёй масы | | Клубняў | | Усёй масы | | Зерня | |
| | | гр. | %% | гр. | %% | гр. | %% | гр. | %% |
| 1 | 0 | 194,55 | 100,0 | 103,95 | 100,0 | 11,58 | 100,0 | 3.77 | 100,0 |
| 2 | Рф. | 208.10 | 107,0 | 113.60 | 109.2 | 11.05 | 95.4 | 3,85 | 100,1 |
| 3 | Лм. | 277,75 | 142,7 | 150.00 | 144.3 | 19,00 | 164.1 | 6.77 | 179,6 |
| 4 | Лм. Рф. | 258.6 | 132,8 | 143.10 | 137,6 | 15.53 | 143,1 | 4,70 | 124.6 |
| 5 | N. c. Рф. | 244.40 | 125.6 | 140,85 | 135.5 | 16,54 | 142.9 | 5.75 | 152,5 |
| 6 | N. c Рс. | 281.10 | 144,5 | 172,95 | 166.3 | 15,39 | 132.9 | 5,75 | 152,5 |
| 7 | N. c. 2Рф. | 274,70 | 141.20 | 172,10 | 165,5 | — | — | — | — |

Гэта значыць, што эфектыўнасьць ад дзейнасьці аднэй фасфарытнай мукі, можна лічыць, знаходзіцца ў межах памылкі досьледу.

Эфектыўнасьць фасфарытнай мукі, ўнесенай разам з салетрай, раўняецца эфектыўнасьці суперфасфату, унесенаму разам з салетрай.

Лубінавая мука, як угнаеньне, зьяўляецца вельмі моцным сродкам павялічваючым ураджайнасьць, бо яе эфектыўнасьць на бульбе мала ніжэй эфектыўнасьці ад дзейнасьці суперфасфату разам з салетрай, а на жыце нават значна вышэй.

*Спосабы выкарыстоўваньня торфу на ўгнаеньне.*

Досьлед праведзены ў 1927-28 годзе з культурай зімовага жыта на лёгкім суглінку, у выніку якога атрыманы наступныя дадзеныя:

| №№ па ч. | Назва ўгнаеньняў | Усёй масы | | Зерня | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | грам. | %% | грам. | %% |
| 1 | О. | 11,58 | 100.0 | 3,77 | 100,0 |
| 2 | 1/2 Гн. | 15,50 | 133,8 | 5,74 | 152,2 |
| 3 | Гн. | 24.79 | 214,1 | 6,41 | 170,0 |
| 4 | 1/2 Тф. праведзен. праз скотн. двор | 17.64 | 157,5 | 5,22 | 138,5 |
| 5 | Тф. " " " " | 17,29 | 149,3 | 6,21 | 164,7 |
| 6 | 1 /2 Тф. " " " " | 19,01 | 164,2 | 6,35 | 168,2 |
| 7 | 1/2 Тф. праветранага | 14.34 | 123,8 | 4,54 | 120,4 |
| 8 | Тф. " | 12,23 | 105,6 | 4,50 | 119.4 |
| 9 | 1 1/2 Тф. " | 15,39 | 132,9 | 5,73 | 152,0 |
| 10 | 3/4 Тф. " +1/4 Гн. | 17,27 | 149,1 | 6.29 | 166,8 |
| 11 | 1/2 Тф. " + 1/2 Гн. | 15,68 | 135,4 | 4,95 | 13[illegible],3 |
| 12 | 1/4 Тф. " +3/4 Гн. | 16,28 | 140,5 | 5,77 | 153,0 |
| 13 | 3/4 Тф. " +1/4 Гн.+Рф. | 16,32 | 140,9 | 5,68 | 150,7 |
| 14 | 3/4 Тф. " +1/4 Гн.+Са0 | 18,95 | 163,6 | 7,13 | 189,1 |
| 15 | Тф. " + Рф. | 12.07 | 104,1 | 4,12 | 109,3 |
| 16 | Тф. " + Са0 | 12,95 | 111,8 | 3,52 | 93,4 |

З прадстаўленай табліцы вельмі яскрава выяўляецца, што пры ўжываньні торфу, у якасьці ўгнаеньня, ураджай зімовага жыта магчыма атрымоўваць ня меншы, як ад гною. Так, напрыклад, эфектыўнасьць ад дзейнасьці паўтары нормы толькі праветранага торфу, раўняецца эфектыўнасьці ад паўнормы гною; эфектыўнасьць ад дзейнасьці нормы торфу праведзенага праз скотны двор, які знаходзіўся пад жывёлай усяго два месяцы, альбо эфектыўнасьць ад 3/4 нормы

толькі праветранага торфу і ўнесенага разам ¼ нормы гною, амаль. раўняецца эфектыўнасьці ад дзейнасьці поўнай нормы гною.

Эфектыўнасьць ад ¾ нормы праветранага торфу унесенага разам з ¼ нормы гною і вапнай (18 ц. па разьліку на гэктар)—значна вышэй, чым ад поўнай нормы гною.

На падставе такіх дадзеных магчыма адзначыць, што найлепшым спосабам выкарыстоўваньня торфу, як угнаеньня, будзе ўнясеньне яго ў глебу разам з невялікай колькасьцю гною і вапнай, альбо правядзеньне праз скотны двор.

Акрамя вышэйадзначаных пытаньняў, Станцыя вырашыла і іншыя па ўдасканальваньню палявых досьледаў, а таксама у вэгэтацыйным сэзоне апошняга году амаль усе нашы магчымасьці гэтага мэтаду працы былі выкарыстаны, па заданьню Аддзелу Расьлінагадоўлі НДІ, дзеля вывучэньня агранамічных руд Беларусі. Атрыманыя вынікі гэтае працы відавочна будуць абвешчаны Аддзелам Расьлінагадоўлі БНДІ.

## II. ПАПАРЫ І АПРАЦОЎКА ГЛЕБЫ.

*Вывучэньне занятых—бульбянага, віка-аўсянага і турнэпсавага папараў.*

Досьлед праводзіцца ў 2-х трохпалёвых севазваротах на лёгка-суглiністай-супяшчана-храшчаватай і лёгка-суглiністай глебе. Занятыя папары вывучаюцца ў пераўнаньні з раньнім вясеньнім і позьнім—сялянскім на фоне адной поўнай нормы (360 цэнтн.) гною.

У выніку 4-х гадовага правядзеньня досьледу папар—занімаючыя культуры далі наступны сярэдні ўраджай з гэктару ў цэнтнерах:

| Назва папар-занімаючых культ | Лёгка-сугл.-супяш.-храшчаватая глеба | Лёгка-суглiністая глеба |
|---|---|---|
| 1. Бульбы (клубняў) . . . . . . . . . . | 171,64 | 154,04 |
| 2. Віка-аўсянай мешанкі (сена) . . . . . | 39,81 | 44,07 |
| 3. Турнэпсу (карэньняў) . . . . . . . . | 209,98 | 196.30 |

Такім чынам, замест чыстага, альбо позьняга сялянскага папару, якія гаспадарцы у працягу цэлага лета амаль нічога не даюць, пры умове нормальнага угнаеньня, магчыма атрымоўваць значныя колькасьці раньняй сталовай бульбы, віка аўсянага сена, ці нават карэньняў турнэпсу. Але дзякуючы таму, што папары зьяўляюцца папярэднікамі дзеля асноўных культур палявой гаспадаркі, як напрыклад—зімоваму жыту і іншым, таму зусім бяспрэчна, што пры ацэнцы эфектыўнасьці таго ці іншага папару неабходна улічваць дзейнасьць іх на ўраджайнасьці гэтых асноўных культур палявой гаспадаркі, што і магчыма бачыць з наступных дадзеных:

| №№ | Назва папараў | Ураджай зерня зімовага жыта з гэкт. | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Лёгка-сугл.-супяшч.-храшч. глеба | | Лёгка-суглiніст. глеба | |
| | | Цэнтн. | Проц. | Цэнтн. | Проц. |
| 1. | Раньні вясеньні. . . . . | 19,91 | 100,0 | 19,57 | 100,0 |
| 2. | Бульбяны. . . . . . . | 19,05 | 95,6 | 15,75 | 80,4 |
| 3. | Віка-аўсяны . . . . . . | 18,31 | 91,9 | 15,83 | 80,8 |
| 4. | Турнэпсавы . . . . . . | 17,99 | 91,3 | 14,53 | 74 2 |
| 5. | Позьні сялянскі. . . . . | 17,41 | 87,4 | — | — |

З прадстаўленай табліцы выяўляецца, што ўраджайнасьць зімовага жыта па раньняму вясеньняму папару на лёгка-сугліністай-супяшчана-храшчаватай і лёгка-сугліністай глебах—аднолькавая.

Ураджаі занятых папараў на лёгка-сугліністай-супяшчана-храшчаватай глебе вышэй, чым на лёгка-сугліністай глебе, але на абедзьвюх глебах яна ніжэй, чым па раньняму вясеньняму папару.

Ураджайнасьць зімовага жыта па позьняму сялянскаму папару можна лічыць ніжэй, чым па занятых папарах.

Ураджайнасьць зімовага жыта па турнэпсаваму папару некалькі ніжэй, чым па бульбянаму і віка-аўсянаму папарах, што больш яскрава выяўляецца на лёгка-сугліністай глебе.

Дзеля таго, каб больш дэталёва выявіць дзейнасьць занятых папараў на асноўныя у севазвароце культуры, прадставім дадзеныя ўраджайнасьці наступнай, пасьля зімовага жыта, культуры—аўса.

| №№ | Назва папараў | Ураджай зерня аўса з гэктару | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Лёгк.-сугл.-супяшч.-храшчаватая глеба | | Лёгка-сугліністая глеба | |
| | | Цэнтн. | Проц. | Цэнтн. | Проц. |
| 1 | Раньні вясеньні. . . . . | 12.33 | 100,0 | 15,14 | 100,0 |
| 2 | Бульбяны . . . . . . . | 11.39 | 92,3 | 12,92 | 85,3 |
| 3 | Віка-аўсяны . . . . . . | 10,37 | 87,3 | 12.02 | 79,4 |
| 4 | Турнэпсавы . . . . . . | 12.99 | 105.3 | 11.96 | 79,0 |
| 5 | Позьні сялянскі. . . . . | 10.96 | 88.8 | — | — |

З гэтае табліцы магчыма бачыць, што ўраджайнасьць аўса па занятых папарах на лёгка-сугліністай-супяшчана-храшчаватай глебе вышэй, чым па позьняму сялянскаму папару, за выключэньнем віка-аўсянага, ураджайнасьць якога раўнаецца позьняму сялянскаму.

Паніжаная ўраджайнасьць зімовага жыта па турнэпсаваму папару на лёгка-сугліністай-супяшчана-храшчаватай глебе кампенсуецца павышанай ураджайнасьцю аўса.

Ураджайнасьць аўса на лёгка-сугліністай глебе значна вышэй па раньняму вясеньняму папару, чым па занятых папарах; пры чым, ураджайнасьць аўса па турнэпсаваму і віка-аўсянаму папарах можна лічыць аднолькавай, якая ў сваю чаргу ніжэй, чым па бульбянаму папару.

Такім чынам, з вышэйадзначанага выяўляецца, што на больш зьвязнай глебе занятыя папары, у параўнаньні з раньнім вясеньнім, маюць большы уплыў да зьмяншэньня ўраджайнасьці зімовага жыта і наступнай культуры аўса, чым гэтыя самыя занятыя папары на больш лёгкай глебе.

Ураджайнасьць зімовага жыта і наступнай культуры аўса па занятых папарах ня менш, чым па позьняму сялянскаму папару, а г. зн., што ўраджайнасьць папар-занімаючых культур цалкам зьяўляецца прадуктам павялічваючым вытворчасьць палявое гаспадаркі, пры замяшчэньні сялянскага папару занятымі.

*Вывучэньне ўплыву лушчэньня жніўя зімовага жыта на культуру аўса ў сувязі з пасьлядзейнасьцю розных папараў.*

Досьлед праводзіцца на лёгкім суглінку ва ўмовах 3-х палёвага севазвароту: папары—раньні вясеньні, бульбяны, віка-аўсяны і турнэпсавы; зімовае жыта і авёс.

У выніку 2-х гадовага дасьледваньня атрыманы наступныя сярэднія дадзеныя:

| Назва папараў | Ураджай зерня аўса з гэктару ў цэнтн. | | Прыбаўкі ўраджаю аўса ад лучшэньня | |
|---|---|---|---|---|
| | З лучшэньнем | Бяз лучшэньня | Цэнтнер. | Процант. |
| 1. Раньні вясеньні . . . . . | 15,14 | 12,95 | 2,19 | 16,9 |
| 2. Бульбяны . . . . . . | 14,73 | 10,02 | 4,74 | 47,0 |
| 3. Віка-аўсяны . . . . . . | 13,40 | 10,81 | 2,59 | 23,9 |
| 4. Турнэпсавы . . . . . . | 12,86 | 10.71 | 2,15 | 20,0 |
| Сярэдняе . . . . | 14,03 | 11,12 | 2,91 | 26,1 |

Гэта значыць, што адзін такі нескладаны прыём, як лушчэньне павялічвае ураджайнасьць аўса у сярэднім на 26 проц., акрамя гэтага, ён у выніку сваёй пасьлядзейнасьці павялічвае ураджайнасьць наступнай папар-занімаючай культуры віка-аўсянай мешанкі на 41 проц. (дадзеныя аднагадовыя).

*Вывучэньне часу, глыбіні і колькасьці апрацовак глебы пад культуру аўса.*

Досьлед праводзіцца на лёгкім суглінку ў 4-х палёвым севазвароце: папар віка-аўсяны, зімовая пшаніца, кораньплоды і авёс, г. зн. апрацоўка пад авёс вывучаецца пасьля культуры кармовых кораньплодаў.

Па аднагадовых дадзеных выяўляецца, што найлепшай формай плужнай апрацоўкі глебы пад авёс зьяўляецца такая, калі ўвосень робіцца адно плыткае, а вясной другое глыбокае ворыва.

У тым выпадку, калі ўвосень робіцца адно глыбокае, а вясной другое плыткое ворыва, дык такая форма апрацоўкі глебы па сваёй эфектыўнасьці раўняецца аднаму глыбокаму вяснавому ворыву.

Два вяснавых ворыва, з якіх першае плыткое, а другое глыбокае, у параўнаньні таксама з 2-мя ворывамі, але з якіх адно асеньняе плыткае, а другое вяснавое глыбокае, маюць эфектыўнасьць меншую на 13 проц.

*Вывучэньне пытаньняў апрацоўкі глебы пад культуру кармавых кораньплодаў.*

Досьлед вырашаецца на лёгкім суглінку ва ўмовах 4-х палёвага севазвароту: папар віка-аўсяны, зімовая пшаніца, кораньплоды (бурак «Экендорфскі жоўты») і авёс.

Асноўная задача гэтага досьледу знайсьці найлепшую форму апрацоўкі глебы пад культуру кармовых буракоў, дзеля чаго выву-

чаюцца пытаньні—часу, глыбінь і колькасьцяў пляжнага ворыва глебы у розных паміж сабою камбінацыях.

У выніку 2-х гадовага дасьледваньня атрыманы наступныя сярэднія дадзеныя:

| Схэма досьледу | Ураджай карэньняў з гэктару | | Запас сухой масы з гэктару | |
|---|---|---|---|---|
| | Цэнтн. | Проц. | Цэнтн. | Проц. |
| 1. Вяснавое ворыва на 10 см. глыб. +вяснавое ворыва на 18 см. гл. | 266,27 | 100,0 | 32,84 | 100,0 |
| 2. Асеньняе ворыва на 10 см. глыб. +вяснавое ворыва на 18 см. гл. | 274.17 | 102.9 | 33,72 | 102,7 |
| 3. Асеньняе ворыва на 18 см. гл. +вяснавое ворыва на 10 см. гл. | 255,50 | 95,9 | 32,29 | 98,3 |
| 4. Лушчэньне + вяснавое ворыва на 18 см. глыбінёй . . . . | 283,55 | 106,5 | 35,44 | 108,0 |
| 5. Лушчэньне + асеньняе ворыва на 10 см. глыбінёй + вяснавое ворыва на 18 см. глыбінёй . . | 280,94 | 105,5 | 35,40 | 107.8 |
| 6. Лушчэньне+асеньняе ворыва на 18 см. глыбінёй+вяснавое ворыва на 10 см. глыбінёй. . . | 269,82 | 101,3 | 33,42 | 101,7 |

З асобных прыёмаў апрацоўкі лёгка-сугліністай глебы пад культуру кармовых буракоў найбольшую эфектыўнасьць мае лушчэньне, потым асеньняе плыткае ворыва. Асеньняе глыбокае ворыва мае адмоўны уплыў.

Таму найлепшымі формамі апрацоўкі лёгка-сугліністай глебы пад культуру кармовых буракоў будзе: 1) лушчэньне, якое робіцца зараз пасьля прыборкі зімовай пшаніцы + вяснавое глыбокае ворыва і 2) лушчэньне + асеньняе плыткае і вясновае глыбокае ворыва.

## III. СПЭЦЫЯЛЬНЫЯ СПОСАБЫ І ПРЫЁМЫ АСОБНЫХ КУЛЬТУР.

### *Вывучэньне спосабаў культуры кармовых буракоў.*

Досьлед праведзены на храшчаватай супясі і суглінку з культурай кармовых буракоў сорт «Экендорфскі жоўты». Задача досьледу высьвятліць уплыў на ураджай карэньняў і запас сухой масы такіх спосабаў, як пасеву насеньнем на грэбні і ў грунт роўнай паверхні, а таксама пасадкі флянсамі на грэбні і ў грунт роўнай паверхні.

У выніку правядзеньня гэтага досьледу атрыманы наступныя дадзеныя:

| Схэма досьледу | Ураджай карэньняў з гэктару | | Запас сухой масы з гэктару | |
|---|---|---|---|---|
| | Цэнтн. | Проц. | Цэнтн. | Проц. |
| На храшчаватай супясі: | | | | |
| 1. Пасеў насеньнем на грэбні . . | 214,28 | 100,0 | 27,92 | 100,0 |
| 2. Пасеў насеньнем у грунт . . | 248.21 | 115,8 | 30,45 | 109,0 |
| 3. Пасадка флянсамі на грэбні. . | 275,00 | 128,3 | 37,70 | 135.0 |
| 4. Пасадка флянсамі ў грунт . . | 331,00 | 154,5 | 41,57 | 148,9 |

| Схэма досьледу | Уражай карэньняў з гэктару | | Запас сухой масы з гэктару | |
|---|---|---|---|---|
| | Цэнтч. | Проц. | Цэнтн. | Проц |
| **На суглінку:** | | | | |
| 1. Пасеў насеньнем на грэбні . . | 52,78 | 100,0 | 8,16 | 100,0 |
| 2. Пасеў насеньнем у грунт . . | 218,52 | 414,0 | 23,85 | 292,2 |
| 3. Пасадка флянсамі на грэбні. . | 269,86 | 511,2 | 35,19 | 431,2 |
| 4. Пасадка флянсамі ў грунт . . | 588,45 | 1114,9 | 62,91 | 771,0 |

Пры пасеве кармовых буракоў насеньнем большы ураджай карэньняў і запас сухой масы атрымоўваецца калі яны сеюцца не на грэбні, як гэта звычайна робіцца ў сялянскай гаспадарцы, а непасрэдна ў грунт з роўнай паверхняй глебы. Найлепшым спосабам культуры кармовых буракоў зьяўляецца пасадка флянсамі, але зноў такі не на грэбні, а непасрэдна у грунт. Значны эфект, які атрымоўваецца пры культуры кармовых буракоў на роўнай паверхні глебы, у параўнаньні з грэбнямі, тлумачыцца лепшым захаваньнем вільгаці. А эфект, пры культуры кармовых буракоў флянсамі, неабходна аднесьці на кошт таго часу вэгэтацыйнага пэрыоду, пакуль выхоўваюцца флянсы.

*Вывучэньне спосабаў і прыёмаў культуры бульбы.*

У складзе гэтае тэмы вырашаюцца пытаньні: уплыву якасьці пасадкавага матэрыялу бульбы «Вольтман» на яе ураджай; гушчыні пасадкі бульбы «Сілезія»; уплыву крыжавога асыпаньня, у сувязі з living рознымі глыбінямі пасадкі, на ураджай бульбы «Вольтман» і уплыву спосабаў пасадкі бульбы «Вольтман» на яе ураджай.

Усе гэтыя чатыры досьледы праведзены на лёгкім суглінку. Дзеля вывучэньня першага пытаньня пасадкавы матэрыял быў узяты: сярэдні звычайны, сярэдні правялены, буйны цэлы, верхнія палавінкі буйных клубняў і прадоўжныя палавінкі буйных клубняў. У выніку правядзеньня досьледу найбольшы ураджай атрыманы ад буйных цэлых клубняў. Правяленыя клубні павялічэньня ураджаю не далі, а таксама, у параўнаньні з сярэднімі звычайнымі клубнямі, не далі зьмяншэньня ураджаю і рэзаныя клубні.

У выніку другога досьледу, найбольшы ураджай клубняў і запас крухмалу атрыманы пры пасадцы з адлегласьцямі паміж радамі 63 см. і ў радох 54 см. У тых выпадках, калі пасадка робіцца больш густой, вельмі значна павялічваецца процант дробных клубняў і зьмяншаецца сярэдняя вага аднаго нормальнага клубня, чым і выяўляецца адмоўны уплыў густой пасадкі бульбы на вагавы ўраджай клубняў.

Па дадзеных трэцяга досьледу, простае асыпаньне бульбы павялічвае ураджай да 30 процантаў. Крыжавое асыпаньне, у параўнаньні з простым, ня мела станоўчага ўплыву да павялічэньня агульнага вагавога ураджаю клубняў і запасу крухмалу, але з другога боку, мела значны станоўчы уплыў на зьмяншэньне проценту дробных клубняў і павялічэньне сярэдняй вагі аднаго нормальнага клубня.

Што-ж датычыцца глыбінь пасадкі бульбы, дык у тых выпадках, калі робіцца простае асыпаньне, лепшай зьяўляецца плыткая пасадка—ад 10 да 13 см., а калі робіцца крыжавое асыпаньне, лепш глыбокая пасадка,—да 18 см.

І ўрэшце, з асобных спосабаў пасадкі вывучаліся: пасадка пад плуг, пад асыпнік і пад лапату, але атрыманыя ураджайныя дадзеныя ніякай розьніцы, у сэнсе перавагі таго ці іншага спосабу, ня выявілі.

*Спосабы чыстага пасеву сэрадэлі і меры барацьбы з засьмечанасьцю.*

Досьлед праведзены ў працягу 2-х год, пры чым, першы год ён быў пастаўлены на храшчаватай супясі, а ў другім—на лёгкім суглінку. З асобных спосабаў пасеву вывучаліся: раськідны, радавы звычайны, радавы 2-х строчны з шырокімі паміжрадзьдзямі. Потым адна сэрыя такіх пасеваў на працягу вэгэтацыйнага пэрыяду заставалася без усялякага догляду; на другой сэрыі пасеву, па меры таго як зьяўляліся сарніцы, яны паверх сэрадэлі абкошваліся звычайнай ручной касой; на трэцяй сэрыі пасеву—сарніны прапол̈валіся звычайным ручным спосабам, і на чацьвёртай сэрыі 2-х строчных радавых пасеваў, акрамя полкі, рабілася рыхленьне конным планэтам шырокіх паміжрадзьдзяў.

Дзякуючы таму, што вучастак досьледу быў надзвычайна засьмечаны, вынікі атрыманы наступныя. Без усялякіх мер барацьбы з засьмечанасьцю некалькі большы ураджай сэрадэлі даў звычайны радавы пасеў. Простае абкошваньне сарнін дало павялічэньне ураджаю сэрадэлі па раськідных і звычайных радавых пасевах на 58 проц., 2-х строчныя радавыя пасевы ад полкі і рыхленьня паміжрадзій планэтам далі прыблізна такі эфект, як абкошваньне па раськідных пасевах.

У другім годзе лепшы эфект даў раськідны пасеў, а ад іншых мер барацьбы з засьмечанасьцю вынікі атрыманы зусім нявыразныя, таму што вучастак досьледу быў вельмі мала засьмечаны.

Такім чынам, на падставе дадзеных досьледаў, хаця і аднаго году, а таксама нашых практычных назіраньняў у працягу некалькіх год на гаспадарчых пасевах, мы прыходзім да вываду, што пры чыстай культуры сэрадэлі простае абкошваньне сарнін зьяўляецца пэўным і танным мэтадам барацьбы з засьмечанасьцю, якая фактычна зьяўляецца галоўным бічам гэтае культуры.

*Тэрміны і гушчыні пасеву зімовай пшаніцы.*

Досьлед праводзіцца трэці год на лёгкім суглінку ва ўмовах 4-х палёвага севазвароту: папар віка-аўсяны угноены 360 ц. гною, зімовая пшаніца «Высока-Літоўская», караньплоды і авёс.

Пшаніца высяваецца 20-VIII, 31-VIII, 11-IX і 20-IX з высевам у кожны тэрмін—90, 105, 120, 135 і 150 кілограм усхожых зернят па разьліку на гэктар. Па 2-х гадовых дазеных выяўляецца, што найлепшым тэрмінам пасеву зімовай пшаніцы зьяўляецца другі—31-VIII, з высевам 105 кл. насеньня па разьліку на гэктар.

Загушчэньне высеву пры больш раньніх тэрмінах пасеву зьмяньшае ураджайнасьць і наадварот, загушчэньне высеву пры больш позьніх тэрмінах, пасеву павялічвае ўраджайнасьць; але ўжо апошні тэрмін пасеву—20-X, з усімі нормамі высеву, штогод канчаткова гіне.

*Плошча харчаваньня цукровых буракоў.*

Асноўная задача гэтага досьледу—знайсьці аптымальную плошчу матэрыяльнага і энэргетычнага харчаваньня цукровых буракоў у мясцовых натуральна-гістарычных умовах, дзеля таго каб атрымаць найбольшы запас добраякаснага цукру з адзінкі плошчы. Зараз досьлед праведзены і атрыманы ураджай карэньняў апрацоўваецца у тэхналёгічнай лябараторыі БДА.

## IV. СОРТАВЫВУЧЭНЬНЕ І СОРТАСПРАБАВАНЬНЕ.

### Сортавывучэньне.

Гэтая задача складаецца з дзьвёх груп пытаньняў: з аднаго боку—вывучэньне мясцовага пасяўнога матэрыялу галоўных культур, а з другога—папярэдняе вывучэньне сэлекцыйнага матэрыялу.

У выніку вывучэньня мясцовага пасяўнога матэрыялу маюцца выдадзеныя працы праф. А. В. Ключарова і дацэнта В. П. Жывана па батанічнаму складу, некаторых біолёгічных асаблівасьцях і гаспадарчай вартасьці зімовых і яравых пшаніц і аўсоў, а таксама з культуры аўсоў, ячмянёў, пялюшак і гарохаў зараз вылучана шэраг ліній, якія вывучаюцца далей.

Што-ж датычыцца папярэдняга вывучэньня сэлекцыйнага матэрыялу іншых дасьледчых установ, дык у выніку такога вывучэньня лепшыя сарты паступалі ў далейшае конкурснае сортаспрабаваньне, а зараз, у сувязі з адчыненьнем аддзелу гэнэтыкі і сэлекцыі на станцыі, увесь гэты матэрыял перадаецца дзеля далейшае гэнэтычнае і сэлекцыйнае працы.

### Сортаспрабаваньне.

За увесь час сваёй працы станцыя распачала досьледы па сортаспрабаваньню: бульбы, кармовых караньплодаў, зімовага жыта, зімовай пшаніцы, ячмэню, аўсу, яравой пшаніцы, лубіну, кармовых бабовых траў і цукровых буракоў.

*Сортаспрабаваньне бульбы.*

Досьледы па сортаспрабаваньню бульбы, з кожным годам пашыраючы лік сартоў, Станцыя праводзіла з 1924 па 1927 год уключна, а зараз, у сувязі з організацыяй спэцыяльнай Цэнтральнай Бульбянай Станцыі, гэтая праца перададзена апошняй. Разьмер і тэмп разгортваньня гэтае працы на Менскай Расьлінаводнай Дасьледчай Станцыі магчыма характарызаваць такімі кароткімі дадзенымі: у першым годзе спрабавалася 14 сартоў, у другім—17, у трэцім—61 і чацьвёртым 71. Але трэба адзначыць, што ў апошнія 2 гады, з паказанага ліку сартоў, каля 30 проц. складалі абразкі мясцовай бульбы, якая была сабрана з розных буйных савецкіх і прыватных сялянскіх гаспадарак.

Па дадзеных апошняга году выявілася, што з усяго ліку сартоў 29 былі хворыя рознымі хваробамі выраджэньня, і таму выключаны з вучоту на прадукцыйнасьць, а таксама зьняты з далейшага вывучэньня.

З рэшты сартоў найбольш ураджайнымі паказалі сябе у працягу ўсіх 4-х год спрабаваньня: мясцовая фунтоўка (якая фактычна зьяўляецца «Сілезіяй»), «Сілезія», «Сьвіцязь», «Вольтман» і па апошняму году з сэлекцыйных сартоў Каранеўскай Станцыі: № 04, № 02, № 03, і № 05. Што-ж датычыцца сталовых сартоў, дык заслугоўваюць увагі: «Ружовы мілета», «Раньні ружовы», заўсёды добры і «Брокэн».

*Сортаспрабаваньне кармовых караньплодаў.*

Досьледы па сортаспрабаваньню кармовых караньплодаў праводзяцца на лёгкім суглінку, пры гэтым, з асобных відаў караньплодаў вывучаюцца: буракі, бручка, турнэпс і морква.

## Буракі.

Ураджай карэньняў і запас сухой масы з гэктару у цэнтнерах і процантах па дазеных 1927 і 1928 г.

| Назва сартоў | Ураджай карэньняў у цэнтнерах | | | Ураджай карэньняў у процант. | Запас сухой масы ў цэнтнерах | | | Запас сухой масы ў проц. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1927 г. | 1928 г. | Сярэд. | | 1927 г. | 1928 г. | Сярэд. | |
| Экендорфск. жоўты | 339,67 | 403,65 | 371,66 | 100,0 | 36,82 | 48,40 | 42,61 | 100,0 |
| Экенд. ж. Б. Ар. Крыв. | 313.54 | 424,18 | 368,86 | 99,2 | 34,55 | 49,37 | 41,96 | 98,5 |
| Экенд. ж. Б. Ід. Кірш. | 261,51 | 388,48 | 324,99 | 87,4 | 31.30 | 51,68 | 41,49 | 97,4 |
| Зорымэр | 268.18 | 340,38 | 304,28 | 81,9 | 30,62 | 43.36 | 36,99 | 86.8 |
| Экенд. Гюль | 262,57 | — | — | — | 28,48 | — | — | — |
| Цыліндр. Барэс | 262,51 | 427,26 | 344,88 | 92,8 | 29,37 | 55,20 | 42,28 | 99.2 |
| Орыгінальн. Барэс Рёдгюль | 262,51 | 359,69 | 311,10 | 83,7 | 29,37 | 49,67 | 39,52 | 92,7 |
| Экенд. чырвоны | 252,60 | 412,11 | 332,35 | 89,4 | 30.89 | 47,15 | 39,02 | 91,6 |
| Барэс | 204,02 | 475,69 | 339,85 | 91,2 | 25,25 | 70,65 | 47,95 | 112,5 |
| Паўцукровы белы | 192,96 | 408,47 | 300,71 | 80,9 | 28,27 | 63,80 | 46,03 | 108,0 |
| Мамут | 192,63 | 278,72 | 235,68 | 63,4 | 25,46 | 45,77 | 35,61 | 83,6 |
| Паўцукр. ружовы | 182,19 | 282,92 | 236,05 | 63,5 | 28,00 | 48,53 | 38.26 | 89,6 |
| Паўцукровы | — | 255,21 | — | 63,22 | — | 34,65 | — | 71,6 |
| Паўцукр. сьветлачырв. | — | 363,17 | — | 90,00 | — | 59,05 | — | 122,0 |
| Эксцэльсіор чырвоны | — | 525,02 | — | 130,06 | — | 61,37 | — | 126,8 |
| Эксцэльсіор жоўты | — | 366,99 | — | 90,9 | — | 44,37 | — | 91,7 |

Ураджай карэньняў з гэктару ў цэнтнерах і процантах па дадзеных за 1925 і 1928 год уключна:

| Назва сартоў | Ураджай карэньняў у цэнтнерах | | | | | Ураджай у проц. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. | Сярэдн. | |
| Экендорф. жоўты | 488,98 | 277,48 | 339,67 | 403,65 | 377,44 | 100,0 |
| „ ж. Б. Арн. Крывенскі | 557,21 | 468,40 | 313,54 | 424,18 | 440,83 | 116,8 |
| Паўцукр. белы | 481,11 | 332,64 | 199,96 | 408,47 | 353,79 | 93,7 |
| Паўцукр. чырвоны | 513,13 | 227,03 | 252,60 | 412,11 | 351,22 | 93,0 |
| Паўцукр. ружовы | 402,04 | — | 182,19 | 289,92 | 291,38 | 77,2 |
| Мамут | 408,16 | 227,63 | 192,65 | 278,72 | 276,79 | 73,3 |

З прадстаўленых сартоў за час спрабаваньня найбольш ураджайнымі выявілі сябе—«Экендорфскі жоўты», «Экендорфскі жоўты Б. Арнім-Крывенскі», «Цыліндрычны Барэс», «Экендорфскі жоўты Б. Ідэал-Кірша», «Барэс» і «Паўцукровы белы», а таксама з новых сартоў у апошнім годзе значна выявілі сябе—«Эксьцэльсіор чырвоны» і па сухой масе—«Паўцукровы сьветлачырвоны».

## Бручка.

Ураджай карэньняў і запас сухой масы з гэктару ў цэнтнерах і проц.

| Назва сартоў | Урадж. карэньняў у цэнтн. | | | Ураджай карэн. у %% | Запас. сух. масы у цэнтн. | | | Запас сухой масы у %% |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1927 г. | 1928 г. | Сярэд. | | 1927 г. | 1928 г. | Сярэд. | |
| Імпэрыял | 647,94 | 442,12 | 545,03 | 100,0 | 67,07 | 53.27 | 60,17 | 100,0 |
| Бангольм | 640,71 | 439,93 | 540,32 | 99,1 | 67,12 | 54 39 | 60,75 | 100,9 |
| Швэцкая жоўтая | 542,67 | 571,96 | 557,3 | 102,2 | 55,00 | 64.97 | 59,98 | 99,7 |
| Красна-сельская | 395,65 | 423,57 | 409,61 | 75,1 | 42,61 | 47,31 | 44,96 | 74,0 |
| Баралев. Швэцк. Орыгін. | 492,28 | 521,34 | 506,8 | 92,8 | 51,96 | 58,96 | 55,46 | 92,2 |
| Бангольм Обзгарда | 493,28 | — | — | 76,1 | 50,93 | — | — | 75.9 |
| Свалефская орыгін. Банг. | 479,78 | — | — | 74,0 | 50,93 | — | — | 75.9 |
| Сп. Перфэкціон | 473,07 | — | — | 73,0 | 50,11 | — | — | 74,7 |
| Бангольм Вейнбуля | — | 549,71 | — | 124,3 | — | 62,78 | — | 117,8 |
| Гальба Швэцкая | — | 613.93 | — | 138,8 | — | 68,76 | — | 130,9 |

Такім чынам, найлепшымі сартамі па двох-гадовых дадзеных выявілі сябе—«Імпэрыя», «Бангольм», «Швэцкая жоўтая» і з дадатковых сартоў апошняга году—«Гальба швэцкая» і «Бангольм Бэйбуля».

## Турнэпс.

Ураджай карэньняў і запас сухой масы з гэктару у цэнтн. і проц.

| Назва сартоў | Урадж. карэньняў у цэнтн. | | | Ураджай карэн. у %% | Запас сух. масы у цэнтн. | | | Запас сухой масы у %% |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1927 г. | 1928 г. | Сярэд. | | 1927 г. | 1928 г. | Сярэд. | |
| Бортфельскі II | 461,28 | 851.04 | 656.16 | 100.0 | 33,17 | 72,68 | 52,92 | 100.0 |
| Пед. Бортфельскі | 457,71 | 70[illegible],96 | 581.83 | 88.6 | 33,96 | 58,74 | 46,35 | 87,6 |
| Зэцель | 407,02 | 652,21 | 529.61 | 80,7 | 28,08 | 59,29 | 43.68 | 82,5 |
| Остэрзундомскі | 379,34 | 902.82 | 646,08 | 97,7 | 28,91 | 78,36 | 53,63 | 101,4 |
| Св. Ор. Бортфельскі | 341,19 | 747,57 | 544,38 | 82.9 | 26.71 | 68.85 | 47,78 | 90.3 |
| Гібрыд Даліса | 312,42 | — | — | — | 26,27 | — | — | — |
| Танкардт Дацкі жоўты | 272,10 | 691,65 | 481.87 | 73.4 | 24.41 | 60,93 | 42,67 | 80,6 |
| Майскі | 204,44 | — | — | — | 20.44 | — | — | — |
| Белы чырвонагаловы | — | 840,04 | — | 98.7 | — | 72,83 | — | 100,2 |
| Мамут | — | 915,07 | — | 107,5 | — | 83,27 | — | 114,6 |
| Оріг. Грэйстана | — | 653,14 | — | 76,4 | — | 59,24 | — | 81,4 |
| Далес Гібрыд | — | 632,11 | — | 74,3 | — | 54,42 | — | 74.9 |
| Арыентаталіс Бартфельскі | — | 706,48 | — | 83,0 | — | 65,45 | — | 90,0 |
| Орігін. Цэнтынары | — | 816,18 | — | 95,9 | — | 72,64 | — | 99,9 |
| Іела Танкард | — | 710,59 | — | 83,5 | — | 64,55 | — | 90,2 |

Гэта значыць, што ў 1927 г. найбольш ураджайнымі паказалі сябе—«Бортфельскі II», «Пед. Бортфельскі» і «Зэцель», а ў 1928 таксама «Бортфельскі II», потым Острзундомскі», «Белы чырвонагаловы», «Мамут» «Орыгінальны Центынары і «Св. Орыгінальны Бортфельскі».

Морква.

Сортаспрабаваньне морквы праводзіцца з 1926 г., пры чым, у першым годзе спрабавалася 2 сарты, у другім 7 і ў трэцім 6. З усяго ліку гэтых сартоў найбольш ураджайнымі выяўляюць сябе—«Вялікан Экстра», «Чампіон» і «Вэйбуля Супра».

*Сортаспрабаваньне зімовага жыта.*

Досьлед праводзіцца з 1927 г. на лёсавідным моцна ападзоленым суглінку у 9-ці палёвым севазвароце. Усяго спрабавалася 10 сартоў, з якіх у першым годзе найбольш ураджайным паказалі сябе—«Пяткускае», «Штэрнроген» і «Лісіцына», а ў другім—«Бязынчукскае жоўтае», «Вятка» і «Пяткускае».

*Сортаспрабаваньне зімовай пшаніцы.*

Сортаспрабаваньне зімовай пшаніцы праводзіцца з 1925 г., пры чым, першыя два гады яно праведзена на лёгкім суглінку у спэцыяльным 4-х палёвым севазвароце, дзе спрабавалася 11 сартоў, з якіх лепшымі па ураджайнасьці выявіліся—Маскоўскай Сэлекцыйнай Станцыі №№ 3210, 2524, 2470, 2671, «Іванаўская», «Высокалітоўская» «Кастромка».

У працягу апошніх двух год сортаспрабаваньне зімовых пшаніц праводзілася на лесавідным моцна ападзоленым суглінку ў 9-ці палёвым гаспадарчым севазвароце, дзе таксама спрабавалася 16 сартоў і лепшымі па ураджайнсьці выявілі сябе тыя самыя сарты, што і на лёгкім суглінку, г. зн. «Іванаўская», «Юбілейная», «Высока-Літоўская» і Маскоўскай Сэлекцыйнай Станцыі № 2470. Досьлед па сортаспрабаваньню пшаніц на наступны год пашыраны да 45 сартоў.

*Сортаспрабаваньне яравой пшаніцы.*

Досьлед праводзіцца з 1924 г., пры гэтым, першых два гады ён таксама, як і зімовай пшаніцы, праведзены на лёгкім суглінку, дзе спрабавалася 9 сартоў. З іх лепшымі па ураджайнасьці аказаліся,—«Маркіз», «Кічнэр», Адэскай Д. Станц. № 274 і «Лютэсцэнс» з Саратаўскай Д. Станцыі.

У працягу апошніх 3-х год гэты досьлед праводзіцца на лёсавідным моцна ападзоленым суглінку ў 9-ці палёвым гаспадарчым севазвароце, дзе за ўвесь час спрабавалася 18 сартоў і з іх таксама лепшымі па ураджайнасьці выявіліся—Адэскай Д. Станцыі № 274, «Кічнэр», «Лютэсцэнс» і па апошняму году—«Рубін» і «Экстра-Кольбэн».

*Сортаспрабаваньне аўса.*

Сортаспрабаваньне аўса праводзіцца з 1924 г. У працягу першых 2-х год досьлед быў пастаўлены на лёгкім суглінку і паралельна на пяску, дзе спрабавалася 8 сартоў і незалежна ад тыпу глебы з сэлекцыйных сартоў найбольш ураджайнымі паказалі сябе—«Калумбус», «Лейтавіцкі», «Шацілаўскі» і «Гаралескі». З 1926 году сортаспрабаваньне аўса перанесена на лёсавідны моцна ападзольны суглінак, ва ўмовы дзевяціпалёвага гаспадарчага севазвароту, дзе за ўвесь час спрабавана 38 сартоў і з іх найбольш ураджайнымі выявіліся—Пфлюг, Калумбус, Мясцовы залацісты, Северанін, Лейтавіцкі, Гаралескі, Маскоўскай Сэлекцыйнай Станцыі №№ 4070, А-315.

*Сортаспрабаваньне ячменю.*

Сортаспрабаваньне ячмэню, таксама як і аўса, праводзіцца з 1924 г. У працягу першых 2-х год—на лёгкім суглінку, дзе спрабавалася толькі два сарты—«Энасгас» № 10/30 і № 56 у параўнаньні з мясцовым сялянскім, а з 1926 году—на лёсавідным моцна-ападзоленым суглінку, у 9-ці палёвым гаспадарчым севазвароце, дзе за ўвесь час спрабавана 41 сорт. З паказаных сартоў на лёгкім суглінку некалькі большую ураджайнасьць даў № 10/30. Што-ж датычыцца вынікаў спрабаваньня ячменю на лёсвідным моцна ападзоленым суглінку, дык у 1926 годзе найбольш ураджайнымі былі—«Багенія» з Чэхаславакіі, «Акерман Данубія», «Брыо Орыгінальны 4-х радны Свалёў», «Брыло—4-х радны», «Баварыя Акермана», «Энасгас № 10/30». «Рудольфа Бэтчэ» і «Рымпаў Ганна». Па дадзеных досьледу 1927 г., дзякуючы неспрыяючым мэтэоролёгічным умовам і дрэннай падрыхтоўцы глебы у гаспадарчым севазвароце, дзе быў пастаўлены досьлед, ніякіх вынікаў зрабіць немагчыма. Што-ж датычыцца апошняга—1928 году, дык найлепшымі па ураджайнасьці аказаліся—«Гімалайскі», «Шарльтон», «Халіко», «Браге» з Чэхаславакіі і «Энэсгас 10/30».

Сортаспрабаваньне лубіну.

Досьлед па сортаспрабаваньню лубіну праведзены першы раз у 1928 г. на лёгкім суглінку і атрыманы наступныя дадзеныя:

| НАЗВА САРТОЎ | Час пасеву | Час зьяўл. усход. | Час красаваньня | Гушчыня стаяньня | Урадж. сухой масы з гэкт. | | Урадж. зерня з гэкт. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | цэнтн. | проц. | цэнтн. | проц. |
| Сіні мясцовы | 16-V | 23-V | 27-VII | 58 | 75,00 | 100,0 | 26,46 | 100.0 |
| Сіні Навазыб. Д. Ст. | „ | 22 V | 25-VII | 113 | 93,60 | 124,8 | 30,66 | 115,9 |
| Жоўты Навазыб. Д. Ст. | „ | 24 V | 30-VII | 96 | 64,30 | 85,7 | 10,71 | 40,4 |

Гэта значыць, што па ўраджайнасьці сухой масы і зерня першае месца займае «сіні» Навазыбк. Д. Станцыі, другое—«сіні мясцовы» і трэцяе—«жоўты» Навазыбк. Д. Станцыі. Некалькі паніжаны ураджай мясцовага лубіну, у параўнаньні з сінім Навазыбкаўскім, відавочна неабходна тлумачыць амаль у два разы паніжанай гушчынёй яго стаяньня.

Пасьпяваньне сіняга лубіну Навазыбк. Д. Станцыі адбылося на цэлы тыдзень раней, чым мясцовага, але тут відавочна таксама мае некаторае значаньне гушчыня стаяньня.

Жоўты лубін, дзякуючы рана наступіўшым марозам, дакладна не пасьпеў.

*Сортаспрабаваньне кармовых бабовых траў.*

Досьлед па сортаспрабаваньню кармовых бабовых траў—васьмі канюшын, доньніка, эспарцэта і люцэрны пастаўлены толькі ў 1928 г. і таму пэўных дадзеных яшчэ няма.

*Сортаспрабаваньне цукровых буракоў.*

Досьлед праведзены з 6-ю сартамі на лёгкім суглінку і з 2-мя сартамі на лёсавідным суглінку, але дзякуючы таму, што яшчэ ня выкананы аналізы на цукровасьць, зараз адзначыць вынікі немагчыма.

## V. АГРАХІМІЧНЫЯ ДОСЬЛЕДЫ.

У сувязі з тым, што арганізацыя Аграхімічнай Ляборатарыі ў сваёй аснове скончана толькі ў канцы мінулага году, шляхам аб'яднаньня яе з ляборатарыяй Менскай Балотнай Станцыі і ўтварэньня Цэнтральнай Хімічнай Ляборатарыі пры БНДІ імя Леніна, таму зусім зразумела, што дакладная праца магла распачацца толькі з гэтага году, якая і складалася:

1. З аналізаў арганічных і мінэральных угнаеньняў ужываемых у палявых і вэгэтацыйных досьледах станцыі;
2. Вывучэньня тэрыторыі нова-арганізаванага Дасьледчага Поля на лёсавідным суглінку;
3. Вывучэньня воднага і пажыўнага рэжыму глебы занятых і чыстых папараў;
4. Вывучэньня воднага і пажыўнага рэжыму глебы ў сувязі з рознымі ўгнаеньнямі пад культурай кармовых буракоў і
5. Вывучэньня ўплыву схілаў на асяродзьзе і расьліннасьць.

Усе гэтыя тэмы выкананы як спэцыяльныя працы асобных працаўнікоў, але матэрыялы пакуль-што яшчэ не апрацаваны.

## VI. ВЫВУЧЭНЬНЕ ЗАСЬМЕЧАНАСЬЦІ І МЭТАДАЎ БАРАЦЬБЫ З ЁЮ.

Вывучэньне засьмечанасьці Станцыя пачала з 1924 году, але дзякуючы таму што да апошняга часу ў штаце Станцыі ня было спэцыяльнага пэрсаналю дзеля працы выключна ў гэтай галіне, а таксама ня было, як і зараз, спэцыяльна асыгнаваных сродкаў, таму зусім зразумела, што гэта праца не магла мець сурова-вытрыманы плянавы характар і шмат зрабіць у гэтай галіне станцыя ня мела магчымасьці.

Уся праведзеная да гэтага часу праца складалася:

1. З вывучэньня засьмечанасьці сялянскіх пасеваў у бліжэйшых да Станцыі раёнах.

Гэтая праца выканана А. П. Дзямідовічам і вынікі яе надрукаваны у IV томе «Працы Навуковага Таварыства па Вывучэньню Беларусі пры БДА»; з вынікаў магчыма адзначыць, што нашы сялянскія пасевы засьмечаны больш чым 120 відамі сьмецьцявых расьлін і з іх больш 50 проц. прыпадае на шматгадовыя, якія зьяўляюцца найбольш небясьпечнымі шкоднікамі ў палявой гаспадарцы. Гэта праца ўстанаўлівае і тое, што крыніцай распаўсюджваньня сьмецьцявых расьлін зьяўляецца ня толькі дрэнная ачыстка насеннага матэрыялу, але і тыя мяжнікі, якіх вельмі многа на Беларусі, дзякуючы яшчэ не перажытай цераспалоснай форме землякарыстаньня.

2. Стацыянарныя досьледы Станцыі па выяўленьню уплыву ступені засьмечанасьці пасеваў на зьмяншэньне ураджаю паказалі, што пры моцнай засьмечанасьці ураджай збожжавых культур зьмяншаецца да 50 проц.

3. Спэцыяльныя працы па вывучэньню засьмечанасьці культур, у сувязі з рознай тэхнікай апрацоўкі глебы, выяўляюць, што весьці барацьбу з засьмечанасьцю магчыма, галоўным чынам, шляхам падняцьця

агульнага культурнага узроўню палявой гаспадаркі. Занятыя папары віка-аўсянай мешанкай на сена, лубінам на ўгнаеньне, прапашнымі культурамі—бульбай і турнэпсам вельмі значна дапамагаюць вызваленьню поля ад сьмецьцявай расьліннасьці. Спэцыяльны прапашны палетак у севазвароце, які займаецца культурай бульбы і караньплодамі, пры умове правідловага дагляду за гэтымі культурамі, таксама значна дапамагае вызваленьню гэтага палетку ад засьмечанасьці.

4. Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на жніўё пасьля прыборкі зімовых культур, а таксама раньняга севу ярыны, бо досьледы Станцыі паказваюць, што калі палеткі пасьля прыборкі гэтых культур пакідаюць без усялякай апрацоўкі да позьняй восені, альбо вясны, дык шмат разьвіваецца аднагадовых, а таксама некторых шматгадовых сьмецьцявых расьлін, якія да восені пасьпяваюць высяваць сваё насеньне, якое на будучы год прарастае і засьмечвае культурныя пасевы.

Найлепшым спосабам барацьбы з засьмечанасьцю у гэтым выпадку зьяўляецца лушчэньне, якое робіцца зараз пасьля прыборкі вышэйадзначаных культур. Станоўчая дзейнасьць лушчэньня складаецца ня толькі з таго, што папярэджвае абнасеньваньне тых сьмецьцявых расьлін, якія прарасьлі пад пакроўнай культурай да яе прыборкі, альбо зараз пасьля прыборкі, але яшчэ і з таго, што тое насеньне, якое знаходзіцца ў глебе, становіцца ў спрыяючыя ўмовы дзеля прарастаньня, усходы потым зьнішчаюцца баранаваньнем, зяблевым узорваньнем, альбо проста марозамі глыбокай восені. Дзякуючы такой дзейнасьці лушчэньня, наступныя пасевы бываюць значна менш засьмечаны, чым бяз лушчэньня, утвараюцца спрыячыя умовы дзеля іншых працэсаў глебы па абагашчэньню пажыўнымі элемэнтамі расьлін і ў суме ўсяго гэтага, напрыклад, ураджай аўса пасьля жыта павялічваецца на 26%.

5. Вучот сьмецьцявых расьлін пры розных гушчынях пасеву збожжавых культур, а таксама лубіну на насеньне і ўгнаеньне паказаў, што больш густыя пасевы значна лепш заглушаюць сарніны, чым рэдкія.

6. Акрамя вывучэньня вышэйадзначаных мэтодаў барацьбы з засьмечаннасьцю праз тэхніку палявое гаспадаркі, у мінулым годзе праведзены досьлед па спрабаваньню дзейнасьці прапарату «Рафаніт» на павяліку ў канюшыне і іншыя сьмецьцявыя расьліны. У выніку досьледу выявілася, што «Рафаніт» можа мець станоўчую дзейнасьць на павяліку толькі ў маладой стадыі яе разьвіцьця, а таксама мае вельмі станоўчую дзейнасьць (пры 4 проц. канцэнтр. і ужываньня 800 літраў на гэкт.) на такія сьмецьцявыя расьліны, як Anthemis arwensis Anthem, tinetoria, Placitago lancealata, Matricaria chamomilla і інш., што азначае магчымасьць ужываньня гэтага прапарату дзеля барацьбы з засьмечанасьцю.

Вось, у агульных рысах, усе тыя вынікі, якія Станцыя да гэтага часу мае па вывучэньню засьмечанасьці і ўстанаўленьню мэтадаў барацьбы з ёю. Бязумоўна, зроблена ў такой паважнай справе дзеля сельскае гаспадаркі Беларусі яшчэ вельмі мала, але трэба памятаць, што і магчымасьці працы ў гэтым напрамку былі яшчэ меншыя.

Тут трэба адзначыць, што ў гэтым годзе галоўная ўвага Станцыі была зьвернута на дакладнае вывучэньне засьмечанасьці тэрыторыі нова-організуемага дасьледчага поля на лёсавідным суглінку, а таксама на пастаноўку новых досьледаў па вывучэньню біолёгіі сьмецьцявых расьлін і ўстанаўленьню спосабаў біолёгічнай барацьбы. Атрыманыя матэрыялы па вывучэньню тэрыторыі зараз распрацоўваюцца і будуць абвешчаны ў матэрыялах організацыі новых дасьледчых палёў Станцыі, а па астатніх пытаньнях матэрыялы зараз знаходзяцца ў стадыі толькі зьбіраньня.

## VII. ОРГАНІЗАЦЫЯ І ПРАЦА ІНСТЫТУТУ СЯЛЯН-ДАСЬЛЕДЧЫКАЎ.

У мэтах правядзеньня больш шчыльнай агранамічнай сувязі Станцыі з зямельнымі ворганамі, селькоопэрацыяй, грамадзкай агранаміяй і сялянствам, Беларуская Агранамічная (зараз Расьлінаводная Дасьледчая) Станцыя прыступіла ў 1925/26 г. да організацыі Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў. Асноўнымі задачамі Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў пастаўлена: выкарыстоўваньне шырокай самадзейнасьці актыву сялян, працаўнікоў калгасаў, саўгасаў, с.-г. тэхнікумаў, школ агранаміі, сяброў ЛКСМ, Асоавіяхіму, настаўніцтва і іншых організацый, дзеля хутчэйшага вырашэньня новых пытаньняў па палепшаньню сельск. гаспадаркі, праверкі ў мясцовых умовах дасягненьняў дасьледчых устаноў і ўнядрэньню іх у практычнае сельска-гаспадарчае жыцьцё.

Дзеля ажыцьцяўленьня пастаўленых задач, асноўная організацыйная праца складалася: з распрацоўкі пляну, програмы і інструкцыі па вядзеньню досьледаў, выяўленьню самых сялян-дасьледчыкаў, уцягненьню у гэтую працу калгасаў, саўгасаў, школ, грамадзкай агранаміі і іншых організацый і, ўрэшце, з агульнага кіраваньня і непасрэднага інструктаваньня па вядзеньню досьледаў.

У выніку усяе гэтае працы, пры значна абмяжаваных пэрсональных (адзін супрацоўнік) і грашовых магчымасьцях, зорганізавана ў Інстытут сялян-дасьледчыкаў:

| Склад сялян-дасьледчыкаў па форме землекарыстаньня | Лік сялян-дасьл. па гадох | | |
|---|---|---|---|
| | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. |
| Калгасаў . . . | 2 | 5 | 18 |
| Саўгасаў. . . . | — | 14 | 16 |
| Сялян адзіночак . . | 29 | 73 | 167 |
| Разам . . | 31 | 92 | 201 |
| Склад сялян-дасьледчыкаў адзіночак па форме землекарыстаньня | | | |
| а) пасялкоўцаў . . | 7 | 22 | 68 |
| б) вясковых . . | 12 | 30 | 65 |
| в) хутаран . . . | 5 | 14 | 24 |
| г) с.-г. тэхнікум. і школ. | 4 | 5 | 6 |
| д) настаўнікаў. . . | 1 | 2 | 4 |
| Разам . . | 29 | 73 | 167 |
| Лік абслугоўваем. раёнаў . | 8 | 15 | 25 |

Такі хуткі рост ліку сялян-дасьледчыкаў, і пашырэньне раёну абслугоўваньня, сьведчыць аб шчырым імкненьні і вялікай зацікаўленасьці сялян адзіночак і калгасаў у палепшаньні сваіх гаспадарак праз дасьлед. А таксама гэткая-ж зацікаўленасьць вельмі яскрава была выяўлена усімі удзельнікамі канфэрэнцыі сялян-дасьледчыкаў і аграпрацаўнікоў, якая адбылася у гэтым годзе пры Станцыі; усімі імі прызнана, што «найлепшай формай дзяржаўнай дапамогі разьвіцьцю сельскае гаспадаркі і палепшаньню сялянскага дабрабыту і жыцьця— зьяўляецца навуковы дасьлед».

Трэба адзначыць, што адносна невялікі лік аб'яднаных калгасаў і саўгасаў тлумачыцца той галоўнай прычынай, што гэтыя формы гаспадарак яшчэ ўвесь гэты час знаходзіліся ў сваім агульна-арганізацыйным пэрыодзе.

За кароткі час існаваньня організацыі Інстыту Сялян-Дасьледчыкаў праведзены шэраг спэцыяльных досьледаў па тэмах:

| Назва тэм | Лік досьледаў па гадох | | |
|---|---|---|---|
| | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. |
| 1. Вывучэньне мінэральных угнаеньняў пад культуры: бульбу, жыта, корань-плоды, канюшыну, ячмень і авёс . . . . | 22 | 47 | 92 |
| 2. Вывучэньне зялёнага угнаеньня пад бульбу і жыта . . . . | 6 | 19 | 23 |
| 3. Вывучэньне торфу, як ўгнаеньня пад бульбу і жыта . . . | 1 | 3 | 7 |
| 4. Вывучэньне штучных выпасаў . | — | — | 4 |
| 5. Вывучэньне новых сартоў: | | | |
| а) жыта . . . . . . | 2 | — | 40 |
| б) пшаніцы . . . . . | — | 2 | — |
| в) бульбы. . . . . | — | 3 | 36 |
| г) кораньплодаў . . . | — | — | 35 |
| д) ячмянёў . . . . | — | 12 | 35 |
| е) аўсоў . . . . . . | — | 32 | 60 |
| Разам. . . | 31 | 118 | 332 |

Гэтыя лічбы вельмі яскрава сьведчаць аб тэмпе разьвіцьця дасьледчай справы сярод сялян і іх імкненьні да шуканьня лепшых спосабаў вядзеньня сваёй гаспадаркі.

Што-ж датычыцца вынікаў гэтых досьледаў, дык яны за два мінулых гады надрукаваны у зборніку выданьня БНДІ імя У. І. Леніна за 1927 г. «Вынікі працы Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў», а матэ-

рыялы па дасьледах гэтага году зараз знаходзяцца ў стадыі распрацоўкі і падрыхтоўкі да друку.

З папярэдняй апрацоўкі матэрыялаў гэтага году і дадзеных за мінулыя гады магчыма адзначыць, што з усіх агрыкультурных мераприемстваў, якія могуць быць накіраваны дзеля разьвіцьця сельскае палявое гаспадаркі, найбольшую эфектыўнасьць маюць угнаеньні, а таксама рэнтабельнасьць ужываньня зялёнага, тарфянога і мінэральнага угнаеньняў пад зімовае жыта, прапашныя культуры і бабовыя кармовыя травы. Трэба заўважыць, што гэты галоўны вынік, атрыманы ва ўмовах сялянскае гаспадаркі, зараз ўжо зразумелы ня толькі станцыі і сялянам дасьледчыкам, але і ўсяму ваколічнаму насельніцтву дасьледчыкаў, што падкрэсьліваецца значна павышанымі запатрабаваньнямі на лубін і мінэральныя ўгнаеньні ў тых раёнах, дзе больш пашырана дасьледчая справа.

Не затрымліваючыся больш падрабязна на выніках працы сялян-дасьледчыкаў, мы павінны адзначыць, што Інстытут Сялян-Дасьледчыкаў—гэта ёсьць саюз лепшага мясцовага сельска-гаспадарчага актыву, і таму шырока разгорнутая і стала пастаўленая дасьледчая праца сярод сялян ёсьць найбольш пэўны і супраўдны мэтад садзейнічаньня хуткаму разьвіцьцю сельскае гаспадаркі.

## VIII. АГУЛЬНА-ГРАМАДЗКАЯ ПРАЦА СТАНЦЫІ.

Праца гэтага разьдзелу праводзіцца ўсімі працаўнікамі Станцыі і складаецца:

З організацыі і правядзеньня экскурсій—сялян, аграпрацаўнікоў, вайсковых організацый, розных школ і іншых організацый г. Менску. Такіх організаваных экскурсый Станцыя штогод праводзіць ад 15 да 30, з агульным лікам удзельнікаў ад 300 да 1500 асоб;

Прыёму адзіночных асоб, наведваючых Станцыю дзеля азнаямленьня з працай і іншымі пытаньнямі;

Кансультацыі сялян-адзіночак па розных пытаньнях сельска-гаспадарчае практыкі;

Організацыі штогод адной выстаўкі ў Цэнтральным Доме Селяніна і адной-двух у бліжэйшых раёнах ад Станцыі; а таксама працаўнікі станцыі прымаюць удзел у організацыі і правядзеньні раённых выставак, якія організуюцца па ініцыятыве раёнаў, альбо сельсаветаў;

Правядзеньня лекцый і гутарак на розныя спэцыяльныя тэмы, пераважна з вынікаў працы станцыі, у Цэнтральным Доме Селяніна, па радыё-перадачы, пры выездах у раёны і інш. Такіх лекцый і гутарак, напрыклад, у гэтым годзе праведзена—30;

Удзел у Цэнтральнай пэрыодычнай і мясцовай прэсе, шляхам зьмяшчэньня артыкулаў, таксама на розныя спэцыяльныя тэмы з вынікаў працы станцыі. Такіх артыкулаў у гэтым годзе зьмешчана—20;

Удзел працаўнікоў Станцыі ў акруговых і цэнтральных спэцыяльных зьездах, нарадах, канфэрэнцыях, дыспутах і інш.;

Распаўсюджаньне сярод аколічнага сялянства палепшанага насеньня, у сярэднім каля 100 цэнтн. у год;

Ачышчэньне насеннага матэрыялу аколічнаму сялянству, у сярэднім каля 100—120 цэнтн. у год;

І, урэшце, у гэтым годзе зорганізавана і праведзена першая канфэрэнцыя сялян-дасьледчыкаў і аграпрацаўнікоў раёну дзейнасьці станцыі з удзелам звыш 200 асоб, якой, па думцы Станцыі і ўдзельнікаў Канфэрэнцыі, павінен быць паложаны пачатак штогодняга скліканьня канфэрэнцыі дзеля падагульваньня вынікаў колектыўнае працы.

Вось, у агульных рысах, уся тая праца, якую станцыя разгорнула ў выніку пяці год свайго існаваньня.

Канстатуючы тут значныя дасягненьні, мы адначасна павінны адзначыць, што разьмер і вынікі гэтае працы ўсё-ж ня могуць задаволіць поўнасьцю тыя ўсебаковыя запатрабаваньні, якія прад'яўляюцца да Станцыі з боку зямельных організацый і практычнага жыцьця, каб шырока і цьвёрда паказваць практычныя, навукова угрунтаваныя, шляхі і мэтады разьвіцьця сельскае гаспадаркі раёну дзейнасьці Станцыі. Дзеля таго, каб станцыя супраўды магла стаць начале ўсяго руху разьвіцьця сельскае гаспадаркі раёну, яна павінна яшчэ вельмі значна пашырыць і удасканаліць сучасную працу, вырашаючы яе ў тых натуральна-гістарычных умовах, у якіх знаходзіцца большасьць абслугоўваемых гаспадарак.

Але зразумела, што, каб пашырыць і ўдасканаліць сваю працу, Станцыя павінна, у першую чаргу, мець адпаведныя зямельныя плошчы, якія ўвесь час на станцыі знаходзяцца ў першым і глыбокім мінімуме. Дзеля таго, каб вызваліць сваё разьвіцьцё ад залежнасьці ад гэтага мінімуму, Станцыя абрала неабходныя ёй плошчы і ўзбудзіла хадайніцтва перад урадам аб перадачы іх Станцыі. Трэба спадзевацца, што зараз, сьвяткуючы дзесяцігодзьдзе існаваньня Савецкай Беларусі і пад'агульваючы вынікі нашага культурнага будаўніцтва, гэтае пытаньне будзе вырашана станоўча, бо ад яго залежыць існаваньне ўсяе ўстановы і пасьпяховасьць далейшай працы.

Загадч. Горац. Д. Ст. Праф. К. Т. Рэнард.

# Кароткі агляд дзейнасьці Горацкай с.-г. дасьледчай станцыі.

Горацкая Сельска-Гаспадарчая Дасьледчая Станцыя (Горы Горкі Аршанскай акругі) заснавана ў 1920 годзе. Пачалі працаваць наступныя аддзелы:

У 1920 г. 1) Агульнай палявой культуры, 2) Эканомікі і прымяненьня, і 3) Іваноўскае дасьледчае поле.

У 1921 г. Адчынены аддзел: 1) Спэцыяльнай палявой культуры, 2) Садоўніцтва, 3) Жывёлагадоўлі, 4) Машынаапрабаваньня, 5) Стэбутаўскае Дасьледчае Поле і 6) Дрыбінскае Дасьледчае поле.

У 1922 г.—Аддзел Аграхэміі.

У 1925 г.—Аддзел Сэлекцыі.

У 1926. г.—Аддзел Фітапаталёгіі.

У 1927 г.—Інстытут сялян-дасьледчыкаў.

Праграмы пэрспэкцыйнай дзейнасьці навуковых аддзелаў і наогул усёй станцыі складаліся і разглядаліся на абласных зьездах па дасьледчай справе, якія да 1924 году адбываліся на Энгельгардтаўскай станцыі і у Горках, а з 1925 г. па 1927 г. на зьездах па дасьледчай справе у Менску.

Да пашырэньня Беларусі, Горацкая станцыя уваходзіла ў склад Заходняй вобласьці, як раёная, і толькі па аддзелах машыназнаўства і садоўніцтва з заданьнямі абласного характару.

З сакавіка 1925 г., калі пастановай 1-га Ўсебеларускага Зьезду па дасьледчай справе была прынята раённая пабудова дасьледчых станцый на Беларусі, Горацкая станцыя пачала лічыцца раённай.

Аддзелы Станцыі разьмешчаны так:

1) У Горках. Аддзелы: 1) Садоўніцтва, 2) Аграхэміі, 3) Машынаапрабаваньня, 4) Фітапаталёгіі, 5) Стэбудаўскае дасьледчае поле.

2) У Іванове. Аддзелы: 1) Агульнай палявой культуры, 2) Спэцыяльнай палявой культуры, 3) Жывёлагадоўлі, 4) Сэлекцыі, 5) Іваноўскае дасьледчае поле.

3) У Дрыбіне—Дрыбінскае дасьледчае поле.

Галоўныя і самыя кароткія вынікі працы па асобных аддзелах Станцыі ўяўляюцца такім чынам.

## *Іваноўскае Дасьледчае Поле.*

Іваноўскае с.-г. дасьледчае поле, Аддзела Агульнай палявой культуры Горацкай Раёнай с.-г. дасьледчай станцыі, заснована ў 1921 г. і знаходзіцца ў 6 кілёмэтрах на паўднёвы ўсход ад г. Горак, на землях вучэбнае гаспадаркі «Іванова» Беларускай С.-Г. Акадэміі.

Галоўныя пытаньні, якія вырашае дасьледчае поле, наступныя: 1) каранныя палепшаньні сярэдніх суглінкаў пры дапамозе сідэрацыі, тарфаваньня, вапнаваньня і фасфарытаваньня, 2) Дасьледваньне гною

і мінэральных угнаеньняў, 3) Мэханічная апрацоўка глебы чыстых і занятых папараў, пад ярыню і канюшынішча, 4) Вывучэньне пладазьмену.

За мінулы год дасьледчая праца поля вялася трыма шляхамі: 1) палявым досьледам, лябораторным і экспэдыцыйным. У 1927-28 г. поле мела каля 1500 вучотных дзялянак, зроблена у лябораторыі



Сэлекцыйныя гадавальнікі ўлетку 1928 г. Іванова. (Паводаль будынак Лябараторыі Дасьледчай Станцыі).

звыш 1000 розных аналізаў і сабрана шляхам экспэдыцыі 80 анкет па вывучэньню тэхнікі сялянскага ральніцтва. Заснован пры дасьледчым полі с.-г. музэй.

За час існаваньня поля надрукаваны наступныя працы:

1) Праф. В. В. Вінэр—Опытное поле ф. «Иваново». Труды Горецкой с.-х. опытной станцыі за 1921-23 г., т. I;

2) Праф. С. В. Скандракоў—Арганізацыя і праца аддзелу агульнага ральніцтва Горацкае с.-г. дасьледчае станцыі. Праца Горацкае с.-г. дасьледчае станцыі за 1924-26 г., т. II.

3) Дац. А. Ф. Хандурын—Вынікі досьледаў і ўгнаеньне на Іваноўскім дасьледчым полі Горацкай с.-г. дасьледчай станцыі за пэрыяд 1922—1926 г. Праца Горацкае с.-г. дасьледчае станцыі за 1924—26 г., т. II.

4. В. В. Мяцельскі—Актыўная кісьліннасьць (РН) глебы ф. Іванова. Праца Горацкае с.-г. дасьледчае станцыі за 1924-26 г. т. II.

5. А. І. Берзін—Кампаставаньне торфу ў полі часоп. «Сельская і Лясная гаспадарка» № 1, 1927 г.

Існуючая сувязь паміж дасьледчым полем і сацыялістычным будаўніцтвам ня зусім покуль што добрая, але з кожным годам паляпшаецца.

| | 1927 г. | 1928 г. |
|---|---|---|
| Лік экскурсій на дасьледчае поле . . . . . | 9 | 25 |
| Удзельнікаў сялян . . . . . . . | 100 | 400 |
| „ аграномаў . . . . . . | 12 | 20 |
| „ іншых (у тым ліку студэнтаў) . . . | 155 | 250 |

Працаўнікамі поля былі таксама праведзены лекцыі, курсы, выстаўкі і кансультацыі.

На падставе вынікаў працы Іваноўскага дасьледчага поля магчыма канстатаваць вялізарнае значэньне каранной запраўкі нашых суглінкаў арганічнымі матэрыямі.



Частка панарамы сэлекцыйных гадавальнікаў (1927 г. Іванова).

Самы горшы па пладародзьдзю клін Іванова пасьля прахаджэньня першае ротацыі VI палявога сідэрацыйнага лубінавага севазвароту дае досыць высокія ўраджаі. Ураджай азімага жыта па лубінаваму папару за апошніх 3—4 гады быў ня ніжэй 15 цэнт. зерня на гэктар., а ёсьць выпадкі ўраджаяў жыта 20 і больш цэнтнэраў.

Вельмі добрыя вынікі дае і прыстасоўваньне мінэральных угнаеньняў. У паасобных досьледах ад мінэральных угнаеньняў былі атрыманы прыбаўкі ў ураджаях да 240 проц. Пры ўгнаеньні 135 кгр. $P_2O_5$ на гэктар у беларускім фасфарыце «Цялячы рвы» пад азімае жыта далі ўраджай зерня 16,58 цэнт. на гэктар, замест 6,78 цэнтр. па кантролю.

Рацыянальная апрацоўка глебы пад ярыню дае падвышэньне ўраджаю да 20 проц., розныя апрацоўкі папару пэўных вынікаў не далі.

### *Стэбутоўскае Дасьледчае Поле.*

Стэбутоўскае дасьледчае поле разьмешчана на тэрыторыі с. г. Акадэміі. Агульная плошча поля 10,5 гэкт.

Пачатак дзейнасьці дасьледчага поля адносіцца да 1920 г. Але, па сутнасьці, трэба было-б аднесьці яго да 1840—64 г. г., калі на тым-жа месцы дзеяў палётак, як дасьледчая ўстанова пры Горы-Горацкім Земляробчым Інстытуце, пры ўдзеле нябожчыка Стэбута.

Глеба дасьледчага поля—цяжкі суглінак, залягаючы на лесавай мацярынскай пародзе, таўшчыня якога даходзіць да 10 мэтр. Гэта акалічнасьць выклікнула асабісты характар ральефу: безпарадачную хвалістасьць.

Дасьледчае поле выражае дзьве праблемы:

1. Дасьледваньне розных тыпаў пладазьмену (выбар тыпа пладазьмену, найбольш адпавядаючага кліматычным, глебавым і эканамічным умовам раёну).

2. Каранное палепшаньне глебы. (Палепшаньне фізычных і хэмічных уласьцівасьцяў глебы дапамогаю сідэрацыі, тарпаваньня, вапнаваньня і фасфарытаваньня).

Першая тэма: Севазвароты. Чаргаваньне культур. Угнаеньне і іх колькасьць.

I. Нязьменны авёс (Гной—25 квынт. сух. матэр. на гэктар).
II. Нязьменная бульба (Гной—100 квын. сух. матэр. на гэктар).
III. Віка-аўсяная мяшан. (Гной—50 кв. сух. мат. на гэкт.); жыта.
IV. Канаплі (Гной—100 квын. сух. мат. на гэкт.); бульба.
V. Папар зялёны позьні (Гной—50 кв. с. м. на г.); жыта, авёс.
VI. Папар (½ віка-аўсян. меш. (Гной—100 кв. с. м. на г. + ½ канюшыны 1 г); жыта, ярына (½ авёс + канюшына + ½ бульбы).
VII. Віка-аўсян мяш. (Гной—100 кв. с. м. на г.); жыта, бульба, авёс.
VIII. Папар зялёны раньні (Гной—100 кв. с. м. на г.); жыта + канюшына; і цімафейка; канюшына 1 г., канюшына 2 г., цімафейка, авёс.
IX. Папар зялёны раньні (Гной—100 кв. с. м. на г.): жыта, бульба, авёс + канюшына; канюшына 1 г., канюшына 2 г. (калійная соль 0,5 кв. К = 0 на г.), жыта (фасфарыт—1 кв. $P_2 0_5$ на гэк.), авёс.

Другая тэма: а) Севазвароты. Чаргаваньне культур.

I. Нязьменны папар.
II. Нязьменны луг.
III. Папар зялёны позьні (Угнаеньне па схэме № 1); жыта, авёс.
IV. Папар зялёны раньні (Угнаеньне па схэме № 1); жыта + канюшына; канюшына 1 г.; канюшына 2 г. (На зялёнае ўгнаеньне); жыта, авёс.
V. Папар лубінавы (Угнаеньне па схэме № 2); жыта, авёс, лубін (на зялёнае ўгнаеньне); бульба, авёс.

в) Угнаеньні і іх колькасьць.

| Схэма № 1 | Схэма № 2 |
|---|---|
| 1. Без угнаеньня | 1. Без угнаеньня |
| 2. Гной | 2. Гной |
| 3. Торф | 3. Фасфарыт |
| 4. Торф+фасфарыт | 4. Вапна |
| 5. Торф+вапна | 5. Фасфарыт+калійная соль |
| 6. Торф+фасфарыт+калійная соль | 6. Фасфарыт+калійная соль++вапна |

Нормы: гной (100 кв. сух. мат. на гэкт.); торф (100 кв. с. м. на гэкт.); фасфарыт (1 кв. $P_2O_5$ на гэкт.); вапна (20 кв. $CaO$ на г); калійная соль (0,5 кв. $KO$).

Апрача паказаных тэм, у бягучым годзе будзе разгорнута шырокая праца па дапасаваньню штучных угнаеньняў пад розныя культуры. Ужо каля 400 дзелянак заложана ў зімовым кліну, у два разы больш за гэта будзе заложана ў яравым.

Асноўныя тэмы дасьледчага поля доўгатэрміновыя. Поўныя вынікі атрымліваюцца толькі цяпер: у гэтым годзе па 2-му досьледу і ў будучым—па 1-му. Аднак, і цяпер ужо намячаецца некаторая тэндэнцыя эфэктыўнасьці: ураджай жыта і аўса павялічваецца з павялічэньнем палёткаў у севазвароце, дасягаючы найбольшай лічбы ў тым выпадку, калі ў адным камбінаце маецца чысты папар, прапашны і травяны кліны; глеба паляпшаецца ад той сыстэмы, у якой маецца чысты папар і травяны клін, крыху горш—дзе маецца лубін, і зусім дрэнна ад той сыстэмы, якая ўключае ў сабе зялёны позьні папар, лубін у большай часткі можа замяніць гной.

Улетку 1928 г. дасьледчае поле даведвалася экскурсіямі з складу аграномаў і сялян.

За мінулы пэрыяд існаваньня дасьледчага поля было надрукавана чатыры артыкулы:

1. Бэрзін А. І.—Уплыў мікраральефу на ўраджай зімовага жыта (Працы Навук. Тавар. па вывучэн. Беларусі).

2. Дзянісаў З. М.—Сьмяцьцёвая расьліннасьць і плодазьмен (Працы Нав. Таварыства па вывуч. Беларусі).

3. Высоцкі М. М.—З рэзультатаў досьледаў на Стэбутоўскім дасьледчым полі у 1924 г. (Запіскі Б. Д. Акадэміі С.-Г., том V).

4. Жыван В. П.—Аб дзейнасьці Стэбутоўскага дасьледчага поля ў 1926 г. (Праца Горацкай дасьлед. станцыі за 1924—26 г., том II).

5. В. П. Жыван—Некаторыя нагляданьні пад дзікарослаю і сьмяцьцевою расьліннасьцю ў граніцах розных севазваротаў Стэбутоўскага дасьледчага поля у 1926 г. (Працы Навук. Тавар. па вывучэньню Беларусі).

### *Дрыбінскае дасьледчае поле.*

Дрыбінскае дасьледчае поле знаходзіцца у гаспадарцы Дрыбін Беларускай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі. Заснавана ў 1923 г. Глеба, на якой вядзецца дасьледаваньне: супяшчаная і сугліна-пяшчаная, грубага складу.

(Кіраўніцтва складаецца з загадчыка дасьледчым полем, ён-жа і асыстэнт. Пры чым на летні пярыяд прыглашаецца практыкант). Аснаўнымі задачамі Дрыбінскага дасьледчага поля на бліжэйшыя гады зьяўляецца:

1) В ы в у ч э н ь н е п ы т а н ь н я ў г р у н т о ў н а г а п а л я п ш э н ь н я с у п я с к о в ы х г л е б п р ы д а п а м о з е с і д э р а ц ы і с п а р н а в а н ь н я і м і н э р а л ь н ы х у г н а е н ь н я ў.

Гэтыя пытаньні вывучаюцца ў 2-х сідэрацыйных севазваротах: лубінавым і канюшынным.

Л у б і н а в ы мае наступнае чаргаваньне:

1) Лубінавы папар угнаеньне, 2) бульба, 3) авёс, 4) лубінавы папар угноены, 5) жыта, 6) авёс.

Пад лубін уносяцца угнаеньні па схэме:

1) гной 360 дв. ц., 2) без угнаеньня, 3) фасфарыт—90, 4) кал. с. 45 к., 5) ф. + к. с. + вапна 18 дв. ц., 6) вапна.

Канюшыннае сідэрац. 6-ці польле мае наступнае чаргаваньне: 1) папар чысты угноены, 2) жыта + канюшына, 3) канюшына 1, 4) канюшына 2 г. (зворваецца на зял. угнаеньне), 5) жыта, 6) авёс У папары ўносяцца ўгнаеньні па схэме: 1) гной 360 дв. цэнт., 2) без угнаеньня, 3) торф + вапна, 4) торф + фасфарыт, 5) торф + фасфарыт + калійная соль, 6) торф. Торф уносіцца з разьліку на гэктар 90 дв. ц. сух. матар'ялу, а астатнія як і ў лубінавым. Паўторнасьць досьледа 4-х кратная.

II. Досьледы з парамі:

З пароў вывучаюцца: позьні сялянскі, раньні майскі, віка-аўсяны, ячменны і бульбяны у сялянскім 3-х польлі. У папары уносіцца поўная норма гною.

III. Досьледы з пладазьменамі:

З досьледаў прынята:

1) Нязьменны авёс на ¼ гнойнага угнаеньня.

2) Нязьменная бульба ½ гнойнага угнаеньня.

3) 2-х польле віка-аўсянае: 1) Папар вікав.+нар. гною, 2) жыта.

4) 2-х польле лубінавае: 1) Лубін на зял. угнаен., 2) жыта.

5) 2-х польле Будрынскае: 1) жыта з подсевам сэрад., 2) бульба.

6) 3-х польле сялянскае: 1) папар позьні+½ пар. гн., 2) жыта, авёс.

7) 3-х польле палепшанае: 1) папар $\frac{1/2 \text{ віка}}{1/2 \text{ канюшына}}$ : нор. гн., 2) жыта, 3) авёс.

8) 4-х польле лубінавае: 1) Папар чысты + 360 дв. ц., 2) Жыта, 3) Лубін на зялёнае ўгнаеньне, 4) Авёс.

9) 4-х польле бульб. 1) Папар чысты— + 360 дв. ц., 2) Жыта, 3) Бульба, 4) Авёс.

10) 6-ці польле: Папар чысты— + 360 дв. ц., 2) Жыта + канюшына з цімафейкай, 3) Канюшына 1 г., 4) Канюшына 2 г., 5) Канюшына 3-га году, 6) Авёс.

11) 8-мі польле: папар чысты + ½ нор. гн., 2) Жыта, 3) Бульба + ½ нор. гн., 4) Авёс + канюшына з цім., 5) Канюшына 1 г., 6) Канюшына 2 г.— + калійная соль 45 кгр. (?) + 90 кгр., 7) Жыта, 8) Авёс.

IV. Сортаапрабаваньне бульбы 10 сартоў.

V. У 1928 г. пастаўлен досьлед з вапнаваньнем пад авёс.

З вынікаў дасьледчага поля трэба адзначыць:

1) Лубін звораны пад жыта ці пад бульбу павялічвае ўраджай як і ½ нормы гною.

Мінэральныя ўгнаеньні, унесеныя пад лубін, павялічваюць ураджай пасьледуючых расьлін. У 1928 г. найлепшы ўраджай жыта далі дзялянкі: лубін + кал. с., фасфарыт + вапна, вышэй чым па лубіну + гною і лубін + вапна зраўняўся з лубінам + гной.

2) Торф з мінэральнымі ўгнаеньнямі дае значную прыбаўку ўраджаю расьлін і асабліва гэта адбіваецца на канюшыне, дзе торф з мінэральнымі угнаеньнямі лепш дзейнічае, чым гной.

3) Вапна у пасевах Дрыбінскага дасьледчага поля заслугоўвае асаблівае увагі. Так, у досьледах з вапнай адной пад авёс яна дае прыбаўку ураджаю аўсу, пры чым з павялічэньнем нормы вапны ураджай павялічваецца.

З сартоў бульбы вывучаюцца:

Альма, Від, Вольтман, Гаўронак, Кругер, Мэркер, Разноў, Царская ружа. Пры чым з вывучаемых сартоў за 7 гадоў па ўраджайнасьці клубняў на 1-м месцы стаіць Гаўронак, на II-м Кругер, III Жніч і па колькасьці крухмалу з гэктара у дв. ц. на першым месцы стаіць Розня Вольтман на II—Гаўронак, на III Мэркер, на IV Вольтман.

Вынікі працы—дасьледчае поле распаўсюджвае праз с. г. курсы, лекцыі, гутаркі, даклады і праз райаграномаў і г. д.

*Аграхэмічны аддзел.*

Аграхэмічны Аддзел Горацкай С.-Г. Дасьледчай Станцыі быў адчынен восеньню 1922 году. У 1924 годзе аддзел пры станцыі быў часова зачынен, пры гэтым, згодна пастановы Праўленьня быўш. Горы-Горацкага С. Г. Інстытуту, выкананьне задач зачыненага Аграхэмічнага Аддзелу было перададзена катэдры Агранамічнай хэміі Інстытуту, у сувязі з чым пры апошнім быў павялічан пэрсанал. Дзякуючы гэтаму часоваму зачыненьню аддзелу, хаця і затрымалася разьвіцьцё дасьледчай працы аддзелу, але поўнага перапынку ў працы пры гэтым ня было. У 1926 годзе Аграхэмічны аддзел ізноў адчынен і працягнуў сваю працу, згодна раней складзенай праграмы і адобранай на зьезду дасьледчыкаў пры быўш. Горы-Горацкім С. Г. Інстытуту ў 1922 годзе.

Аграхэмічны аддзел станцыі ставіць мэтай вывучэньне пытаньняў цікавых з пункту гледжаньня разьвіцьця сельскае гаспадаркі шляхам ужываньня аграхэмічных мэтадаў дасьледваньня. Дасьледчая праца аддзелу на працягу вышэй паказана часу была, галоўным чынам, у вывучэньні дынамікі падзолавых глеб, працэсаў, якія ўзьнікаюць у глебе пры ўзаімадзеяньні з ўгнаеньнямі, уплыў угнаеньняў на хэмічны склад сельска-гаспадарчых расьлін і запатрабаваньне глеб у угнаеньні. Пры гэтым асаблівая ўвага зварачвался на пытаньні, маючае значэньне для хэмізацыі земляробства БССР. Галоўнымі з гэтых прац зьяўляецца наступныя:

Дасьледваньні па вывучэньню ўплыву вапны на падзолавыя глебы БССР і на хэмічны склад с. г. расьлін.

Дасьледваньні па вывучэньню дзеяньня беларускіх фасфарытаў.

Дасьледваньні па вывучэньню дзеяньняў беларускіх торфаў.

Дасьледчая праца Аграхэмічнага аддзелу ідзе шляхам дасьледваньняў ляборторнага характару, вэгэтацыйных і палявых досьледаў.

Аддзел мае ляบораторыю, аддзяленьне ў вэгэтацыйным доміку на 500 пасудзін, супольна з катэдрамі агранамічнай і арганічнай хэміі Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскае Гаспадаркі, сетчаты вэгэтацыйны домік для досьледаў па мэтаду праф. Мітчэрліх на 150 пасудзін і два невялікіх вучасткі на Стэбутоўскім і Іваноўскім дасьледчых палёх.

На працягу 1927—28 і 1928—29 гг. дасьледчая праца аддзелу была наступная:

Скончана праца па вывучэньню ўплыву вапны на працэс мабілізацыі фосфарнай кіслаты ў глебе, у выніку чаго было вызначана, што пры вапнаваньні падзолавых глеб БССР пераходзіць у даступнае для расьлін становішча ня толькі глебавы азот, але і глебавы фосфар.

Скончана экспэрымэнтальная частка працы па вывучэньню ўплыву вапны на намнажэньне зольных элемэнтаў і арганічнай матэрыі у зімовым жыце на працягу вэгэтацыйнага пэрыяду.

Скончана праца па вывучэньню ўплыву лугавога і махавога торфаў пры ўнясеньні іх у глебу паасобку і сумесна з фасфарытам на ўраджай і хэмічны склад яравой пшаніцы і вікі (праца зроблена частковa на сродкі навуковага таварыства па вывучэньню Беларусі).

Скончана экспэрымэнтальная частка другой працы з тарфамі, якая складалася з вэгэтацыйных і ляборторных досьледаў 4—і узорамі беларускіх тарфоў, пры каторай вывучаўся ўплыў торфу на ўраджай і хэмічны склад аўса (першая расьліна) і вікі (другая расьліна). Пры

гэтым торф уносіўся ў глебу паасобку і сумесна з вапнай і з фасфарытам. Праца часткова выканана на сродкі Беларускай Акадэміі Навук.

Праводзілася праца па вывучэньню мэтадаў вызначэньня ўрадлівасьці глеб, у прыватнасьці вывучаліся мэтады вызначэньня ўрадлівасьці глеб Нэйбаўэра і Мітчэрліха ў адносінах ужываньня іх у умовах Беларусі.

Праводзілася вывучэньне па прыстасаваньню колёрымэтрычных мэтадаў вызначэньня калія і азоту ў умовах працы лябараторыі.

Праведзяны вэгэтацыйныя досьледы з мінэральнымі ўгнаеньнямі—азоцістымі, фасфаракіслымі і калійнымі—па схэмах Навуковага Інстытуту па ўгнаеньням. Прадукты ураджаю гэтых досьледаў і глебавыя спробы з пасудзін у наступны момант падлягаюць аналітычнай апрацоўцы.

Таксама праведзяны вэгэтацыйныя досьледы з беларускімі фасфарытамі, пры каторых вывучаўся ўплыў беларускіх фасфарытаў на розныя культуры, залежнасьць эфэкта фасфарытаў ад вільготнасьці, тонкасьці памолу і рэакцыі асяродзішча.

Праводзіліся, закладзеныя ў ранейшыя гады, палявыя досьледы з вапнай, фасфарытам і суперфасфатам на Стэбутоўскім і Іваноўскім дасьледчых палёх.

Акрамя гэтага, пры Аграхэмічным аддзелу восеньню 1928 году пачата, па даручэньню Белсельтрэсту, праца па вывучэньню ўрадлівасьці глеб 30 саўгасаў.

З працы, выкананых пры Аграхэмічным аддзеле, надрукаваны наступныя:

О. К. Кедров. 1) «Влияние извести на физические, химические и биологические свойства почвы». Записки Горы-Горецкого С. Х. Ин-та т. III 1925 год.

О. К. Кедров 2) «Некоторые данные об биохимических процессах, связанных с превращением фосфора в подзолистых почвах». Почвоведение 1926 год № 2.

О. К. Кедров и О. Э. Зіхман 3) «Некаторыя данныя аб узаемадзейнасьці фасфарытаў з падзолавай глебай». Праца Навуковага Т-ва па вывучэньню Беларусі пры Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскае Гаспадаркі т. I. 1926 год.

А. К. Кедраў 4) «Аб дасьледчай працы Аграхэмічнага Аддзелу Горацкай С. Г. Дасьледчай Станцыі. Праца Горацкай С. Г. Дасьледчай станцыі т. II—1927 год.

О. К. Кедров и А. Ю. Левицкий 5) «Беларускія фасфарыты паводле данных вэгэтацыйных досьледаў з яравой пшаніцай». Запіскі Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі С. Г. т. III—1927 год.

О. К. Кедров 6) «Влияние извести на подзолистые почвы, согласно данным вегетационных опытов с овсом». Запіскі Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі С. Г. т. IV—1927 год.

О. К. Кедров 7) «Влияние извести на мобилизацию фосфорной кислоты в почве» Научно-Агронимический журнал 1928 год № 4.

А. К. Кедраў 8) «Уплыў торфу і фасфарыту на ўраджай і хэмічны склад яравой пшаніцы і вікі». Праца Навук. Т-ва па вывуч. Беларусі 1928 г. т. 5.

А. Ю. Лявіцкі 9) «Намнажэньне мінэральнай матэрыі ў асобных ворганах аўса ў час росту».

А. Ю. Лявіцкі 10) «Да вызначэньня фосфарнай кісьліны па мэтаду Nyssens'а.

А. Ю. Лявіцкі 11) «Количественно-точный метод определения фосфорной кислоты типа „Molybdenblan“.

А. Ю. Лявіцкі 12) «Статыка і дынаміка пажыўнага рэжыму Стэбутоўскага дасьледчага поля».

В. Э. Зізман 13) «Некаторыя дадзеныя аб узаемаадносінах працэсаў нітрыфікацыі і мабілізацыі фосфарнай кіслаты ў падзолавай глебе».

Частка пералічаных прац выканана на сродкі іншых устаноў.

*Аддзел спэцыяльнага расьлінаводзтва.*

Аддзелам спэцыяльнага расьлінаводзтва вядзецца дасьледчая праца на 6-ці грунтоўных севазваротах і 2-х запольных вучастках агульнай плошчай каля 22 гэктараў. Глеба дасьледчага поля—суглінак з малай прымясью пяску. На аснаўных палёх вывучаюцца наступныя тэмы:

I севазварот; тэма досьледу: вывучэньне культуры аднагадовых кармавых расьлін (9 варыянтаў).

II севазварот; тэма досьледу: вывучэньне культуры яравых хлебных злакаў (11 варыянтаў—час і спосаб раскідкі гною; час сяўбы і комплексныя засевы).

III севазварот; тэма досьледу: вывучэньне папарзаймаючых расьлін і іх уплыў на наступную культуру (9 варыянтаў).

IV севазварот; тэма досьледу: вывучэньне культуры зімовых збожжавых (12 варыянтаў—час способы і гушчыня засеву).

V севазварот; тэма досьледу: вывучэньне культуры кармавых карань-пладоў—сортаапрабаваньне (18 сартоў).

VI севазварот; тэма досьледу: вывучэньне культуры бульбы (варыянтаў—час і спосаб унясеньня гною; плошча жыўленьня; просты і крыжавы абвор і асеньняе глебапаглыбленьне).

На запольных вучастках вядзецца праца па вывучэньню культуры цукравых буракоў.

Таксама аддзелам вядзецца ў Горках праца, на палёх калякцыйнага выхавальніку, па сортаапрабаваньню бульбы і культуры цукравых буракоў (сартоў бульбы каля 80-ці).

З вынікаў па кармоваму досьледу за 1928 г. першае месца займае ячменна-пялюшкавая мешаніна, якая дала ўраджай сухой расьліннай масы 55,06 дв. цэнтнераў на г-р. Потым ідзе чысты засеў серадэлі—52,56 дв. цэнт. на г-р. Затым па велічыне ўраджаю сухой масы: ячменна-сэрадэлевая мешаніна, якая дала летні ўкос—24,28 дв. цэнт. на г-р і асеньні—27,95 дв. цэнт; аўсяна-гарохавая мешаніна—49,71 дв. цэнт на г-р; жытня-вікавая—35,19 дв. цэнт.; аўсяна-вікавая—раньняга засеву—35,05 дв. цэнт.; кукуруза—32,96 дв. цэнт. на г-р і аўсяна-вікавая мяшаніны позднях сяўбы—30,4 дв. цэнтраў на г-р. З яравых хлебных злакаў, па часу ўнясеньня гною першае месца заняў ячмень, з асеньнім заворваньнем гною—22,5 дв. цэнт. на г-р зярнят. Па тэрмінах засеву большы ураджай зярнят ячменю адтрымаўся ад раньняга—18,2 дв. цэнт. на г-р, у той час як сярэдні тэрмін сяўбы даў ураджай 11,3 дв. цэнт., а поздні—6,8 дв. ц. на г-р зярнят. Комплексныя засевы аказаліся больш прадукцыўнымі, чым чыстыя. Папарзаймаючыя расьліны досыць значныя ўраджаі далі: канюшына—67,62 дв. цэнтн. на г-р; бульба—121,32 дв. цэнтн.; аўсяна-вікавая мяшаніна—32,06 дв. ц. і жытнявікавая мяшаніна (азімыя)—29,95 дв. цэнтн.; па ўплыву папарзаймаючых расьлін на жыта, па ўсёй сухой расьліннай масе, першае месца заняў раньні майскі папар—40,0 дв. ц. на г-р., потым аўсяна-вікавы—36,1 цэнт. на г-р, а па ўраджаю зернят першае месца засталося за аў-

сяка-вікавым папарам—12,8 дв. цэнтн. на г-р, а затым першы 11,8 дв. ц. на г-р.

Сваячасовы засеў жыта і пшаніцы амаль-што ў два разы далі большыя ураджаі у параўнаньні з другім тэрмінам. Гушчыня пасеву пшаніцы значна адбілася на карысьць рэдкага (120 кгр. на г-р) засеву, павялічыўшы ураджай зернят на 7,1 дв. ц. на г-р у параўнаньні з густым (180 кгр. на г-р).

Сарты буракоў па сортаапрабаваньню ў 1928 г.,—першыя месцы за Экендорфскім і Зорымнер; турнэпсы аказаліся лепшымі Остарзундомск і Токкард, а з морквау—лоберыхская—зялёнагаловая. З прыёмаў культуры бульбы значна павялічылі ўраджай асеньняе глебапаглыбленьне, заворваньне гною з восені, у параўнаньні з вясеньняй кладкай у зав і прысьціл. Крыжавы абвор таксама павялічыў (на 7,4 дв. ц. на г-р) ураджай. Па сортаапрабаваньню бульбы як па ўраджаю, так і па ўстойлівасьці супроць хвароб бульбоўніку аказаўся сорт «Крюгер», даўшы ўраджай 298,2 дв. ц. на гэктар. Па культуры цукравых буракоў ёсьць досыць значныя вынікі як па ўраджаю, так і па працанту цукру у бураках.

| Сарты | Е—0 | Кальнік | Э.І.п. | Ялтушк. | Уладаўск | ФУС | УС |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Ур. у дв. ц. на г-р . . | 266,9 | 212.7 | 270,3 | 298,0 | 224,5 | 241,5 | 260 |
| % цукру у бурак. . . | 17,24 | 17,73 | 18,00 | 18.61 | 17,67 | 18,39 | 187 |

*Сэлекцыйны Аддзел.*

Сэлекцыйны Аддзел Станцыі быў запраэктаван на ІІ-м Заходня-Краёвым Зьезьдзе па сельска-гаспадарчай дасьледчай справе, які адбыўся ў жніўні 1920 году, але фактычнае разгортваньне навукова-дасьледчай і практычна-сэлекцыйна-насеннаводнай працы аддзелу пачалося з восені 1925 году.

Схэма навукова-дасьледчай і практычна-сэлекцыйнай працы аддзелу зьяўляецца наступнай:

Гэнэтычныя працы.

а) Міжвідавая і міжродавая гібрыдызацыя з цыталёгічным дасьледаваньнем гібрыдаў з мэтай высьвятленьня філягенэтычнай залежнасьці асобных відаў культурных расьлін (жыта, пшаніцы ячменю, аўса, ільну, канюшыны і культурных расьлін сем. Crucifera.

б) Устанаўленьне гэнэтычнага складу культурных расьлін як у морфалёгічных, так і біалёгічных адзнаках.

І. Батанічнае вывучэньне сартоў культурных расьлін у глебава-кліматычных умовах нашай краіны з мэтай высьвятленьня батанічнага складу мясцовых сартоў і складаньня адзначніка дзеля найбольш пашыранага складу мясцовых сартоў і складаньня адзначніка дзеля найбольш пашыраных сартоў стасоўна да глеба-кліматычных умоў БССР. Гэта праца праводзіцца як шляхам экспэдыцыйных досьледаў, так і шляхам грунтавога вывучэньня спроб.

ІІ. Біалёгічнае вывучэньне асобных сартоў культурных расьлін у глебава-кліматычных умовах нашай краіны, у залежнасьці ад розных умоў уплыву. Гэта дасьледаваньне праводзіцца пры дапамозе вэгэтацыйнага і палявога мэтаду.

III. Распрацоўка пытаньняў мэтадалёгічнага зьместу, галоўным чынам па пытаньнях сартавога кантролю: а) лябараторны кантроль па зерню, б) палявы кантроль і в) грунтавы кантроль.

IV. Практычна-сэлекцыйная праца з жытам, ячменем, аўсом, ільном, канюшынай і бабовымі (гарох, віка).

V. Сортаапрабаваньне па тых-жа культурах як на тэрыторыі станцыі, так і ў сельскіх гаспадарках.

VI. Практычна-насеньняводная праца—рэпрадукцыя сартовага матар'ялу.

Наогул, агульны лік зробленых у летку 1928 году штучных скрыжаваньняў па ўсіх культурах з табліцамі—970. Гэтыя скрыжаваньні у большасьці выпадкаў маюць надзвычайна важнае значэньне практычнага ўхілу, бо, пасьля таго як будзе прапрацована спадчыннасьць тых ці другіх асоблівасьцяй, усе гібрыды паслужаць матэрыялам дзеля гомазіготных (ня зьменных) ліній і дадуць той матэрыял, які будзе злучаць (сынтэзаваць) пажаданыя асаблівасьці.

Акрамя навукова-дасьледчай працы, прадугледжаным вышэй адзначаным плянам пэрсаналь аддзелу прымаў шчырую сувязь:

1) у арганізацыі і кіраўніцтве курсаў па агульнай і ільняной апрацыі, 2) чытаньне лекцый сялянам, 3) правядзеньне экскурсій і 4) удзельнічаньне на зьездах.

За час існаваньня аддзелу надрукаваны наступныя працы:

1. Рэго Т. Р. Обследование хлебов в районе Горецкой С. Х. Оп. ст. т. III. зап. Гор. С. Х. И-та.

2. Ренард К. Г. Материалы по класификации ячменя т. I з. Академии.

3. Ренард К. Г. Случаи иммунности некоторых чистых линий льна к поражению льняной ржавчиной. т. III зап. Академии.

4. Рэго Т. Р.—Мэтад дасьледваньня чыстасартовасьці ячменю і аўса па зерню. т. II зап. Академии.

5. Ренард К. Г.—Влияние отдельных приемов возделывания двурядных ячменей на их пивоваренные особенности IV т. Зап. Акад.

6. Ренард и Рего. Матар'ялы па арганізацыі навукова-дасьледчай і практычна-сэлекцыйнай насеннаводнай працы на Гор. С. Г. Дасьлед. Ст. т. II працы станцыі.

7. Рего Т. Р. Влияние агрикультурных факторов на ботанический состав популяции. Научн. Агрономичн. журнал № 3 1927 г.

8. Ренард и Рего. Краткое руководство по аппробации зерновых хлебов. Издание кабинета на правах рукописи. 1927 г.

9. Медзіш, Рэго і Рэнард. Сартовы кантроль зернёвага збожжа Выд. НКЗБ 1928 г.

10. Рэго Ю. Р. Сартовы склад галоўных культур БССР Нав. Т-ва па вывучэньню Беларусі.

11. Рэнард К. Г. К вопросу о недостаточности обоснования селекции льна на волокно.

(Труды с'езда по селекции льна при льноцентре) 1928 г.

12. Ренард К. Г. О возможности посевов конопли на луговых болотах «Сборник с'езда коноплеведов» 1928 г.

13. Ренард К. Г. О дробной классификации ячменя для целей практической аппробации.

Даклад с'езду по апробац. при сахаротр. в Киеве 1928 г. (сдано в печать).

14. Ренард К. Г. Организация семеноводства в совхозах БССР. (Сдано в печать журн. «Совхоз»).

(Іншыя працы, у ліку 14, зробленыя ў напрамку прац катэдры, надрукаваныя пэрсаналам Аддзелу Сэлекцыі і катэдры Сэлекцыі БДА у розных выдавецтвах).

## *Аддзел фітопатолёгіі.*

Аддзел фітопатолёгіі Горацкай дасьледчай станцыі існуе з 1-га кастрычніка 1926 году, але фактычна падрыхтоўчая праца па абсьледваньню хвароб культурных расьлін пачалася значна раней, амаль што ў восень 1925 г.

Галоўнай мэтай працы аддзелу зьяўляецца вывучэньне хвароб культурных расьлін; пры чым вывучаюцца ня толькі самыя хваробы, але і тыя ўмовы, пры якіх яны узьнікаюць і разьвіваюцца.

Побач з гэтым вышукваюцца і меры барацьбы з хваробамі, а таксама вядуцца штогодныя колькасныя вучоты паражэньня галоўнымі хваробамі.

На падставе нагляданьняў і досьледаў за апошнія гады можна ужо сказаць, што абпырскваньне бардоскаю вадкасьцю сартоў бульбы, нахільных да паражэньня грыбком— Phytophthora infestans, у гады спагадныя для разьвіцьця грыбка, дае станоўчыя вынікі, і як мера барацьбы з грыбком—рэнтабельны. Пытаньне аб рэнтабельнасьці малаўспрыймаючых сартоў патрабуе высьвятленьня.

Што датычыцца адносін сартоў да ступені іх паражэньня бульбяным грыбком, дык знойдзена, што розныя сарты рэагуюць на гэта па рознаму. У умовах Горацкага раёну найбольш сталымі сартамі зьяўляюцца: Гаўронэк, Вольтман, Мікадо, Сілезя, Сьвіцязь, Зніч.

Зьвяртаецца ўвага на вывучэньне больш сталых сартоў збожжавых расьлін супроць дужа распаўсюджаных іржавых хвароб.

Паназіраньнях сярод розных сартаапрабаваньняў сэлекцыйнага аддзелу, аддзелам фітопаталёгіі намечана цэлы шэраг сталых сартоў пшаніц, аўсоў і ільну, якія паслужаць матэрыялам для далейшых досьледаў.

За апошні час высьветлена шэраг сартоў яблык і ігруш сталых, ці мала паражоных, у умовах Горак, паршой— Venturia inequalis. Яблыкі—антонаўка (звычайная і чырвонабокая), штрэйфлінг, цыганка, пэпін літоўскі, апорт рэпчаты, анісаўка, добры селянін. Ігрушы—картафлянка, літоўская, дуля астзэйская, баргамот летні.

Выдавецкая частка аддзелу выразілася ў складаньні і выданьні артыкулаў навуковых і чыста практычнага характару.

## *Аддзел садоўніцтва.*

Аддзел садоўніцтва Горацкай дасьледчай станцыі заснаван з восені 1921 году. Праграма і напрамак дзейнасьці першай у БССР дасьледчай установы па садоўніцтву былі зацьверджаны ў верасьні 1921 г. нарадай па дасьледчай справе б. Заходняй вобласьці ў Горы-Горках.

Аснаўныя праблемы павінны былі адпавядаць ў першую чаргу патрэбам садоўніцтва раёну. Шляхам экспэдыцыйных дасьледваньняў розных акруг БССР магчыма было на шэрагу пытаньняў садоўніцтва закрануць праблемы больш значныя (аб раёнах стандартных сартымэнтах, нармалізацыі закладаньня новых садоў і г. д.), выходзячыя за межы Горацкага раёну. Дасьледчая праца выконвалася выключна на пладоўніцтву. Па шэрагу ўмоў дасьледчая справа па гародніцтву не разьвівалася. З 1926 г. пачынае разгортывацца дасьледчая праца па тэхнічнай перапрацоўцы садовіны.

Агульныя вынікі аддзелу наступныя:

Па пладоваму выхавальніку вызначана непатрэбнасьць глыбокіх паравалаў глебы ў умовах БССР. Нармальнай будзе апрацоўка глыбінёй да 22 см. (5 вярш.) Оптымум адлегласьці для пікіраваных сеянцаў 18 × 18 см. (4 × 4 вяр.). Лепшай парой для высадкі дзічак у выхавальнік для Горацкага р. зьяўляецца восень (з 1 па 20 кастрычніка).

Апрацоўваецца новая сыстэма вывядзеньня кароны прышчэп яблыні з 4 галін. Кожная галіна адстае ад другой на адлегласьці 3-х пучкоў. Такім чынам будуецца карона, якая будзе адпавядаць асобнасьці клімату Беларусі (недахоп сьвятла для правільнага разьвіцьця і ураджайнасьці ня будзе мець шкодных вынікаў пры новай сыстэме пабудовы кароны).

Па пладоваму саду: разьвязана пытаньне аб тым, што аснаўныя пароды БССР, у прыватнасьці сарты яблынь—антонаўка, штрэйфлінг, бабушкіна, ружовае, белы наліў, цынамонавае паласатае і г. д. вымагаюць скрыжаваньня апылкаваньня. Лепшым апылкаваньнем для антонаўкі зьяўляецца цынамонавае паласатае (якое трэба падсажываць у садзе з антонавак да 10 проц.). Шляхам штучнага пераапылкаваньня атрыманы гібрыды яблынь (узросту 3-х год). З вясны 1928 г. закладзен шэраг досьледаў па ўгнаеньню яблынь антонавак (лікам да 500 шт.), высаджаных у сад. У якасьці ўгнаеньня ўжываліся: торф, торф + гной (дробны конскі), торф + кампост, торф + вапна, кампост, штучныя ўгнаеньні. На працягу шэрагу год ажыцьцяўляюцца экспэдыцыйныя дасьледваньні паасобных садовых гаспадарак Віцебшчыны, Мазыршчыны, Бабруйшчыны, Случчыны, Меншчыны. Больш стала з 1928 г. пачалося дасьледваньне пладоўніцтва Гомельшчыны (праз Бел. Нав. Дасьл. Ін-т імя Леніна). Атрыман значны матар'ял для абгрунтаваньня выбару раённых асартымэнтаў (пладовых) БССР, мэтаду закладаньня садоў і г. д. Вэгэтацыйныя досьледы (у цяпліцы) па пладоўніцтву пачаліся з 1927 г. па шэрагу тэм. Вывучаюцца нормы азоту і фосфарнага квасу для дзічак яблыні, уплыву вільгаці (таго ці іншага проценту) на разьвіцьцё дзічак і г. д. Вывучаецца працэс лёжкасьці пладоў (да 40 сартоў), у сувязі з зьменнасьцю хэмічнага складу. Антонаўка па лёжцы не здавальняючы сорт, бабушкіна добра захоўваецца (да красавіка 80 проц.) і г. д. Значную лёжкасьць маюць сарты паўднёвай БССР: бойкэн, штэцінка, чырвоная, ранэт касельскі і г. д.

Досьледы па вывучэньню хэмічнага складу пладоў і ягад для мэт вінаробства выконваюцца апошнія 3 гады. Дасьледвана да 50 сартоў яблык, ягад (рабіны, журавін і г. д.) парэчкі, клубніц, агрэсту, чарніц, маліны. Вызначана, што горкія і квасныя сарты яблык часам атрымліваюць лепшае злучэньне цукру, кісьлі і гарбатных матар'ялаў, як напр. антонаўка. У 1927 г. плады антонаўкі атрымлівалі 9 проц. цукру і 1,12 проц. кісьлі; зімовага штрэйфлінгу (горкія плады ня ўжываюцца для яды) 10,2 проц. цукру і 1,24 проц. кісьлі, які даў значна лепшае віно (у сувязі са значным процантам гарбатных матэрыялаў), чым антонаўка. Плады дробнаплоднай сібіркі у 1927 г. паказалі 17,3 проц. цукру, 2,98 проц. кісьлі; рабіна 14,5 проц. цукру і 2,37 кісьлі (10—15 проц. соку рабіны, як дадатак да соку антонаўкі, стварае вельмі добры купаж для атрыманьня лепшай якасьці віна). Нашы ягады (парэчкі, чарніцы, агрэст) даюць віна, якія магчыма параўнаць з вінаграднымі (добрай якасьці).

Заўважым, што пэрсанал аддзелу прымае ўдзел у экспэдыцыйным дасьледаваньні пладоўніцтва БССР, у арганізацыі курсаў для сялян-

ства, зьмяшчае артыкулы у часопіс. «Плуг», «Сельская і лясная гаспадарка», «Беларуская Вёска» і г. д.

Дзейнасьць аддзелу садоўніцтва увязана з мерапрыёмствамі (у гэтай галіне) Наркамзему, Бел. Нав.-Дасьл. Ін. імя Леніна, Наркамгандлю, Усесаюзны Інст. Прыкладн. Батанікі і г. д.

## *Аддзел жывёлагадоўлі.*

Аддзел Жывёлагадоўлі працуе, галоўным чынам, у 3-х напрамках: 1) выработка найбольш рацыянальных прыёмаў кармленьня скату у умовах раёну станцыі, 2) выработка найбольш падыходных для мясцовых умоў схэм гадаваньня маладняку, 3) вывучэньне і выдзяленьне найбольш прадукцыйных груп мясцовага і мэтыскага скоту.

Праца Аддзела Жывёлагадоўлі Горацкай С.-Г. Дасьледчай Станцыі за час яе існаваньня выявілася у наступным:

1. Вывучан і апрацован матэрыял па разьвядзеньню рагатага ската ангельскай пароды за пэрыяд з 1898 па 1924 год. Праца гэта надрукавана ў І томе работ Горацкай С.-Г. Дасьледчай станцыі.

2. Вывучан і апрацован матэрыял па разьвядзеньню рагатага ската швіцкай пароды за пэрыяд з 1898 па 1925 г. Праца надрукавана у запісках быўшага Горацкага С.-Г. Інстытуту.

3. Праведзена некалькі досьледаў па пытаньням утрыманьня скату на пашы:

А. Досьлед пасьцьбы малочных кароў на канюшыне з цімафейкай па дацкаму спосабу, на прывязі. Вывад атрымаўся такі, што на два месяцы пасьцьбы на адну карову патрэбна $1/_6$ дзес., і што адна дзес. канюшыннае пашы дае 219 вёдзер малака.

В. Досьледы параўнаньня 2-х спосабаў скарыстаньня зялёнай віка-аўсянай мешаніны. Адна група кароў паслася на віка-аўсянай мешаніне, а другая кармілася у стойле. З досьледу высьвятлілася, што скарыстаньне віка-аўсянай мешаніны дае лепшыя вынікі пры кармленьні кароў штодзенна накошанай травой, чым пры выпасе па дацкаму спосабу, на прывязі. Пры першым спосабе 1 дзес. аплачвала у сярэднім 2260 кілегр. (178 вед.), а пры другім 1866 кілёгр. (147 вед.) малака.

С. Аналёгічны досьлед быў праведзен з канюшын. + цімаф. III-га году карыстаньня, які даў лепшыя рэзультаты пры скарыстаньні на пашы.

D Улетку 1928 г. досьлед з віка-аўсянай мешанінай быў паўторан, пры гэтым атрымаліся вынікі: адзін гэктар віка-аўсянай мешаніны пры скарыстаньні у стойле дае 1386 кілёгр. малака, а пры пашы—1331 кіл.

У в а г а. Для апошняга досьледу з віка-аўсянай мешанінай былі ўзяты ў сілу неабходнасьці каровы з некалькі меншымі удоямі, чым пры першым, а таму з аднаго гэктара віка-аўсянай мешаніны атрымалася пры абодвых досьледах розная колькасьць малака.

4. Праведзен досьлед з малочным скотам па мэтаду праф Е. А. Багданава у мэтах устанаўленьня прадукцыйнай каштоўнасьці кармоў на тэму: «параўнаньне пажыўнасьці пшанічных высевак з мешанінай, якая складаецца з роўных вагавых частак ільняной макухі і пшанічных высевак». З даных досьледу відаць, што крухмальныя эквіваленты кармоў, вылічаныя па данных аналізу, сцьвердзіліся пастаўленым досьледам (разьніца атрымалася нязначная).

5. Акрамя досьледу з каровамі, пастаўлена некалькі досьледаў з сьвіньнямі па параўнаньню пажыўнасьці розных кармоў і іх мешаніны:

А. Параўнаньне аўсянай мукі з субарнай ($1/3$ аўсянай, $1/3$ жытняй і $1/3$ яшнай). Вынікі атрымаліcь на карысьць субарнай мукі.

В. Параўнаньне пажыўнасьці яшнай мукі з мешанінай (1/3 яшнай мукі, 1/3 аўсяной і 1/3 пшанічных высевак). Аказалася, што яшная мука лепш скарыстоўваецца сьвіньнямі, чым гэта мешаніна.

С. Параўнаньне пажыўнасьці яшнай мукі з мешанінай (1/2 яшнай мукі + 1/2 аўсянай мукі). Такая камбінацыя мешаніны дае лепшы прырост і аплату карма, чым адна яшная мука.

D. Адзін досьлед быў пастаўлен і ў сялянскіх гаспадарках на тэму: «Параўнаньне адкармліваньня мэтысных сьвіней з мясцовымі». Па проценту прыросту і аплаце корму мэтысныя сьвіньні стаяць вышэй мясцовых.

6. Улетку 1928 году былі пастаўлены тры досьледы па скарыстаньню сьвіньнямі зялёных кармоў.

А. Параўнаньне пажыўнасьці канюшыны II-га году з лугавой травой. Процант прыросту ад першапачатковай жывой вагі ў групе канюшыны ровен 25,23, а групы лугавой травы—21,40.

В. Параўнаньне пажыўнасьці віка-аўсянай мешаніны з лугавой травой. Прырост у групы віка-аўс. мешаніны 24,44 проц., а ў групы лугавой травы 24,85 проц.

С. Параўнаньне пажыўнасьці атавы канюшыны II-га году з лугавой травой. Прырост групы канюшыны—12,15 проц., а групы лугавой травы—11,44 проц.

7. Аддзелам жывёлагадоўлі пастаўлен досьлед па гадаваньню маладняка месцовай пароды. Выпрабоўваюцца розныя нормы гадоўлі маладняка ў малочны пэрыяд, а потым вядзецца і далейшае назіраньне над іх прыростам пры аднолькавых умовах кармленьня, дагляду і утрыманьня. Досьлед даў магчымасьць высьветліць разьмер кармовых дач для нармальнага гадаваньня месцовых сялянскіх целят пры малай затраце малака.

8. Праведзена невялікае абследваньне, мэтай якога было: сабраць матэрыял, характарызуючы асаблівасьць экстэр'еру, прадукцыйнасьці, тлустнасьць малака і аплату карму месцовага і мэтыскага скоту. З атрыманага матэрыялу выявілася, што найбольшаю удойнасьцю высоўваецца група мэтысаў-ангельнаў (1563 кілягр.), наступнае месца займаюць мэтысы швіцы (1511 кілягр.) і на апошнім месцы стаяць месцовыя (1227 кілягр.).

Тлустнасьць малака найбольшая у месцовага скоту. Аплата карму малаком на 100 кілегр. кармовых адзінак роўна: у мэтысаў-ангельцаў—92,5 кілёгр., у мэтысаў швіцаў—89,3 кілёгр. і у мясцовых 77,0 кілёгр. малака.

9. На працягу 5 год вяліся назіраньні над разьвіцьцём маладняку буйнай рагатай скаціны ангельскай і швіцкай парод. Гэта праца вялася адначасова пры катэдры спэцыяльнае зоотэхнікі і аддзелам жывёлагадоўлі.

10. Праароблен рад аналізаў (звыш. 40) месцовых кармоў, данныя аб якіх за недахопам мейсца тут не прыводзяцца.

### *Аддзел машынаспробны*

Аддзел машынаспробны мае ў сваём складзе тэхнічную ляботорыю і машынаспробнае поле[1]). Ляборатория абсталявана дастаткова поўна для прац па глебаапрацовачным арудзіям і сеялкам, а асаблівае па працам з зярном (сарціроўкі, веялкі); сярод абсталяваньня маюцца некалькі дынамомэтраў, дынамомэтрычная прылада, спэцыяльныя профільграфы і г. д. У асаблівасьці поўна прадстаўлена апаратура па

[1]) Памяшканьне, значная частка абсталяваньня, а поле—належыць акадэміі і знаходзяцца лепзь у карыстаньні аддзела.

выпрабаваньню плугоў, сярод якіх маецца вельмі патрэбны прыбор для адзначэньня ступені сапраціўляемасьці глебы (сьціскаНьня) і шэраг прылад уласнай пабудовы, як-та: 1) профіламер (для глебы); 2) глубінамер (дзеля барозд); 3) шырынямер (для барозд); 4) зьдвігамер (дзеля пластоў); 5) віграград і 6) прылада для азначэньня праэкцыі цэнтрацяжасьці цел (плугоў) на гарызанатльную плашчыню [1].

Дзеля перахову прылад і выкананьня лябораторна тэхнічных прац маецца спэцыяльнае (ня вельмі, праўда, вялікае) памяшканьне. Машынаспробнае поле (8 гк) мае наступны севазварот: 1) пар, 2 азім, 3) бульба, 4) авёс з травой, 5, 6 і 7) трава, 8) пластавае—які дае магчымасьць праводзіць працу з глебаапрацоўваючымі арудзьдзямі і сеялкамі у тыповых дзеля БССР севазваротных умовах; апрача таго, маецца невялічкі (0,5 гк) лужок для выпрабаваньня лугавых арудзіяў. У бліжэўшы час будзе арганізован спэцыяльны пункт дзеля вывучэньня прац балотна-лугавых арудзьдзяў.

Асноўнай задачай дасьледчых прац аддзелу зьяўляецца—устанаўленьне для даных гаспадарча-эканамічных і натуральна-гістарычных умоў БССР тыпа с. г. машыннага інвэнтару, у найбольш пэўнай ступені адказваючага запатрабаваньням машына-будаўнічай тэхнікі, навуковай агранаміі і сельска-гаспадарчай эканомікі; побач з гэтай задачай прыкладнога характару, аддзел займаўся таксама пытаньнем мэтодыкі досьледаў. У прыватнасьці аддзел заўсёды удзеляў вялікую увагу у сваіх дасьледчых працах вывучэньню працэсаў, якія зьяўляюцца ў выніку уздзейнічаньня на апрацоўваемы прадукт рабочых дэталей, і выпрацоўцы канструкцыйных форм рабочых органаў машын.

У гэтым разьдзеле быў праведзян вялікі шэраг прац над плугам, у выніку якіх зусім дасканала былі устаноўлены матэматычныя формы рабочых паверхняў плугоў для месцовых мінэральных і тарфяных глеб.

Належыць адзначыць з разьдзелу гэтых прац на досьледы па сашніках, у выніку чаго былі дастаткова дасканала устаноўлены асноўныя палажэньні, якімі магчыма кіравацца пры праэктаваньні сашнікоў радавых сеялак і іх у ёй устаноўцы (матэрыялы для стандартных работ па сеялках).

З два апошнія гады аддзел выканаў наступныя працы: 1) аб устойлівасьці руху плуга; 2) да пытаньня аб выраўніваньні глыбіні задзелкі зерня сашнікамі радавых сеялак; 3) агранамічныя і тэхнічныя досьледы бранскіх конскіх плугоў; 4) палявое выпрабаваньне трактарных плугоў; 5) выпрабаваньне бранскага трактарнага плуга; 6) выпрабаваньне групы плугоў; 7) палявое выпрабаваньне трактарных і конных балотных плугоў; 8) выпрабаваньне расійскага пяньковага шпагату; 9) выпрабаваньне саламарэзак; 10) выпрабаваньне 2-й групы саламарэзак (скончваецца); 11) кінематычны аналіз рэжучага апарату прыборачных машын; 12) выпрабаваньне (галоўным чынам лябораторнае); 13) пачата выпрабаваньне лугавых арудзьдзяў; 14) пачата вывучэньне прыёмаў ачысткі канюшыннага насеньня. Агранамічна-тэхнічнымі дасьледваньнямі плугоў было ўстаноўлена і неаднакроць далей сьцьверджана, што найлепшыя вынікі ў сэнсе рыхленьня пласта, павялічэньня ўзворанага слою ў вышыню, зьдзьвігу пласту ўперад, утварэньне зьлітнай паверхні пашні—даюць плугі з адваламі, набліжаючыміся па форме да цыліндру (з рознасьцю кутоў 2—3°) і з пачатковым кутам пад'ёму вытвараючай каля 25—30°.

[1]) Некаторыя з гэтых прылад і мэтады досьледаў намі распрацаваны, дапасоўваюцца і на іншых машынаспробных станцыях.

У працівалегласьць раней пануючаму ў навуцы погляду на неабходнасьць узворваньня тарфяных і, наогул плястычных глеб вінтавымі адваламі, нашымі дасьледваньнямі было выяўлена, што лепшыя вынікі атрымоўваюцца ад дапасаваньня цыліндроідных адвалаў з рознасьцю кутоў у 8—10°, пры пачатковым куту у 30—32° і адпавядаючай форме накіроўваючай; з адвалам гэтага тыпу і будуць спраэктаваны трактарныя і конныя балотныя плугі. Усе вынікі па працах аб сашніках складаюць 13 пунктаў, з якіх найбольш галоўнымі зьяўляюцца тыя, якія даюць азначаныя указаньні на канструкцыю сашнікоў, а іменна: на непатрэбнасьць і нават шкоднасьць атражацельных у іх пласьцінак і апушчаных шчок і непатрэбнасьць мэханізмаў для зьмены кута ўваходжаньня сашнікоў у глебу.

Іспытаньне расійскага пяньковага шпагату паказала, што ён цалкам можа замяніць дарагі замежны (манільскі) і нават, наўпрэкі сьцьвярджэньням некаторых спэцыялістых, без усялякіх пераробак вяжучага апарату.

Апошні час аддзел заняты працамі па уніфікацыі лугавога інвэнтару. Першая праца, у частцы папаўненьня матэрыялу і устанаўленьня асноўных палажэньняў пры праэктаваньні балотных плугоў—скончана. Асноўная форма рабочай паверхні падабрана; устаноўлены разьмеры конных і трактарных балотных плугоў, распрацаваны асноўныя палажэньні аб канструкцыі плугоў—і ў студзені 1929 году будзе прыступлена к праэктаваньню плугоў, каб усю працу скончыць к 1-му красавіка 1929 г., і з вясны перайсьці да працы па уніфікацыі лугавога інвэнтару, калекцыя якога часткаю падабрана, а часткаю падбіраецца.

За апошнія два гады было надрукавана аддзелам: 1) аб устойлівасьці руху плуга; 2) к пытаньню аб выраўніваньні глыбіні задзелкі насеньня сашнікамі радавых сеялак; 3) тэхнічнае і агранамічнае дасьледваньне бранскіх плугоў і 4) выпрабаваньне саламарэзак.

І. П. Антонаў. У сувязі з кампаніяй па падняцьцю ўраджайнасьці складзены тры артыкулы на тэмы: 1) трактар—машына ня толькі эканамічнага, але і тэхнічнага эфэкту, 2) што дае апрацоўка глебы палепшанымі арудзіямі і 3) значэньне машын у падвышэньні ўраджайнасьці і даходнасьці; апрача таго, да прадстаячага ў студзені зьезду зямельных працаўнікоў БССР, падрыхтован даклад на трэцюю указаную вышэй тэму.

## *Інстытут сялян дасьледчыкаў пры горацкай с. г. раёнай дасьледчай станцыі.*

Інстытут Сялян дасьледчыкаў—гэта новая форма сувязі навукі і жыцьця, гэта арганізацыя сялян, якія займаюцца дасьледчай справай у сваіх гаспадарках пры дапамозе мясцовых раёных с.-г. дасьледчых станцый.

Заснован Інстытут на самадзейнасьці і актыўнасьці саміх працоўных сялян, якія разам з дасьледчай станцыяй працуюць пад вырашэньнем невядомых у с.-г. гаспадарцы пытаньняў, вывучаючы іх пры месцовых сялянскіх умовах і сялянскай тэхніцы.

Пры Горацкай С.-Г. Дасьледчай Станцыі І. С. Д. існуе з восені 1917 г.

Асноўнымі і галоўнымі пытаньнямі гэтага як і мінулага году, над вырашэньнем якіх працуюць сяляне-дасьледчыкі наступныя:

Пытаньні ўгнаеньняў, праца з мінэральнымі, зялёнымі ўгнаеньнямі, попелам, торфам.

Вывучэньне рознай апрацоўкі глебы і гушчыні засеву.

Пытаньне аб кормадабываньні.

Аб вывучэньні чыстасортнага матэрыялу і г. д.

## АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ВЫНІКАЎ ПРАЦЫ

Падагульваючы працу мінулага і гэтага году на падставе атрыманых вынікаў, магчыма зрабіць наступныя заўвагі:

1) Нехапаючую колькасьць гною ў сялянскіх гаспадарках з вялікім посьпехам магчыма папоўніць мінэральнымі ўгнаеньнямі, якія ў першы-жа год аплачваюць выдаткі на іх і, акрамя таго, даюць значны прыбытак.

2) З паасобных мінэральных угнаеньняў на суглінках лепшыя прыбыткі атрыманы збожжавых культур і караньпладоў ад фосфарных ўгнаеньняў, у прыватнасьці ад супэрфасфату, пры значнай прыбаўцы, ад кал. солі і ў камбінацыі ад фосфарных і азотавых угнаеньняў.

3) Торф, калі ён уносіцца разам з гноям (½ торфу + ½ гною), дае ўраджай мала адменны ад дзеяньня нормы гною.

4) Недахоп неабходнай колькасьці кармоў у гаспадарцы таксама магчыма папоўніць шляхам унясеньня павярховага мінэральнага ўгнаеньня пад канюшыну і сенажаць з адначасовым баранаваньнем раньняй вясной, а таксама ўжываючы мінэральныя ўгнаеньні пад караньплоды, пры чым, ўраджай канюшыны, сенажаці, карнеплодаў значна падвышаецца.

З агульных станоўчых бакоў гэтае працы неабходна адзначыць наступнае:

З адначасовым павелічэньнем ліку дасьледчыкаў (лік дасьледчыкаў за апошні год павялічыўся больш чым у пяць раз) палепшаецца і якасьць іх, у будучым годзе некаторым з іх магчыма будзе даручыць праводзіць дасьледчую працу самастойна.

Сяляне-дасьледчыкі пачынаюць уваходзіць у ролю культурнага асяродку адносна акаляючых мас, у тыя пасельнішчы, дзе вядзецца дасьледчая праца прыходзяць экскурсіі з суседніх вёсак і выносяць адтуль шмат цікавых для іх пытаньняў.

Канчаючы ў кароткіх рысах агляд працы, неабходна заўважыць, што селянін-дасьледчык у нашым агранамічным жыцьці зьяўляецца тым фэрмэнтам, які узбудараждвае і накіроўвае працу акаляючых яго сялян па пэўнаму шляху да пабудовы культурнае гаспадаркі.

---

Заг. Віц. Ст. Энгельгардт.

# Аснаўныя вынікі працы Віцебскай с. г. дасьледчай станцыі.

Віцебская с. г. дасьледчая станцыя адчынена ў 1924 г. замест існаваўшай з 1919 па 1924 г. Сэлекцыйнай станцыі.

Ад Сэлекцыйнай станцыі амаль што не засталося ніякіх вынікаў, ды яна і ня мела патрэбных сродкаў для сталай працы, тым больш, што



Віцебская Дасьледчая Станцыя.

2 яе арганізатары не давялі да канца пачатай імі працы (адзін за другім памерлі).

Дзякуючы таму, што Сэлекцыйная станцыя мела мэтай гароднія расьліны, з моманту адчыненьня дасьледчая станцыя зараз-жа разгарнула працу Аддзела Гародніцтва, і ледзь з 1926 г. пачаў работу Аддзел Ральніцтва. Пагэтаму першы мае ўжо сталыя вынікі, тады як апошні толькі папярэдныя.

Аддзел Гародніцтва больш усяго цікавіцца сортаапрабаваньнем гародніны і караньплодаў, працуе ён як для гаспадарчага карыстаньня,

так і для забясьпячэньня насеньнем працы самой станцыі і пляну насеннаводнай гародняй справы Беларусі.

Атрыманы наступныя вынікі: у Віцебшчыне добра растуць гатункі: капуста позная Беларуская, Браўншвейская, Капенгагенскай рынак, Слава, Сабураўка, Капуста раньняя—Нумар першы, Буракі страўныя—Егіпецкія; буракі кармовыя: Экендорфскія чырвоныя, Барэс Цыліндрычны, Паўцукровыя; Морква кармовая—Іспалінская зялёнагаловая белая; бручка белая жоўтагаловая, Бангольмская; турнэпсы: Эстэрзундамскі, Бартфельскі. Дзеля гуркоў, морквы страўнай, рэпы, рэдзькі і памідораў, пакуль што ня маецца сталых вынікаў па ацэнцы гатункаў.

Вывучэньне насеньня гародніны і караньплодаў высьвятліла, што ў Беларусі пакуль што ня маецца насеньня здавальняючай гатунковай якасьці.

Масавы адбор насеньнікаў пры паверачных высевах, собранага пасьля яго насеньня, ня даваў належнага паляпшэньня якасьці распаўсюджанага насеньня, дзякуючы гібрыднасьці выходнага матэрыялу. Відавачна, у справе атрыманьня чыста гатунковага насеньня гародніны і караньплодаў, магчыма дабіцца найлепшых вынікаў толькі карыстаючыся індывідуальным адборам з экзэмпляраў большай ґатунковай якасьці.

Насенная праца выявіла значнае распаўсюджваньне шкоднікаў гародніх насеньнікаў, чаму насеннаводы павінны мець веды па барацьбе з імі.

Буракі на насеньне на караню цяжка дасьпявалі ў Віцебшчыне, чаму на вялікіх плошчах трэба мець іх высадкі толькі ў Паўднёвай Беларусі.

Велічыня насеньніка караньплодаў не адбівалася на ўраджаі насеньня, чаму магчыма на насеньнікі скарыстоўваць позныя пасадкі. Гэта зьмяньшае выдаткі па хаваньню насеньнікаў і па вырашчываньню іх.

Для хуткай прыборкі ўраджаю насеньня мае сэнс зразаць сьцяблы насеньнікаў да пэўнай сьпеласьці, а потым даваць ім дасьпяваць пад павеццю на козлах і інш.

Па культуры гародніны і караньплодаў маюцца наступныя вынікі:

Абрываньне лісьцяў да прыборкі цяжка адбівалася на вялічыні ўраджаю. Патрэбна пагэтаму клапаціцца, каб берагчы ліст ад пашкоджаньня, скарыстоўваць-жа яго можна толька аднапасова з прыборкай каранёў.

Перасадку ня толькі морквы і турнэпсу, але буракоў і бручкі, адмоўна адбівалася на ўраджаях. Таму, каб атрымаць большы ўраджай бручкі і буракоў, лепш сеяць іх адразу на вучастак. Калі ўсёж маецца думка садзіць іх расадай, дык трэба у расаднік іх сеяць раней.

Плошчы харчаваньня пад караньплоды—трэба пакідаць з нявялікімі адлегласьцямі ў радкох. Пры густой пасадцы карэньні вырастаюць невялікі, але ўраджай атрымліваецца большы, чым пры рэдкай пасадцы. Адлегласьць паміж радкоў меньш значна адбіваюцца на ўраджаях, чым адлегласьць у радкох. Таму пры разьмеркаваньні велічыні паміжрадзьдзяў належыць кіравацца выгадамі апрацоўкі іх і наяўнасьцю прылад.

Форма паверхні пад караньплоды і гародніну на звычайных суглінках і супясках, па досьледах станцыі не адбівалася на ўраджаях.

Чаму, відавачна, у гэтым пытаньні таксама належыць кіравацца наяўнасьцю прылад для апрацоўкі вучастка, мяркуючы як-бы спрасьціць яе.

На лёгкіх суглінках частае пульхненьне глебы пад гароднінай не рабіла ўплыву на ураджай, чаму на гэтых глебах догляд за глебай у гародзе трэба абмяжоўваць барацьбой з смятнякамі.

З розных кораньплодаў буракі давалі вялікія ураджаі толькі на ўрадлівых, добра ўгноенных вучастках. На нядужа багатых плошчах, ня гледзячы на ўжываньне па троху гною, яны былі меньш цікавы, чым морква, бручка і турнэпс.

Пікіроўка расады капусты пакуль што не дала прыбаўкі ўраджаю. Таксама як і ў досьледах з буракамі і бручкай перасадка дрэнна уплывала на разьвіцьцё капусты.

Сортаспрабаваньне палёвых расьлін, як і ўсе палёвыя досьледы, вытвараліся 2 гады, і толькі авёс 3 годы.

З 13-ці гатункаў аўса пакуль што ня знойдзен гатунак па ураджаях больш цікавы, чым мясцовы, таксама добрымі аказаліся: «Гэралецкі», «Лігава II», «Залаты Дождж».

З 8-мі гатункаў ячменю больш карысны 6-цірадовы «Брыо» і 2-х радовы «Залаты».

З 36-ці гатункаў бульбы большыя ўраджаі далі кармовыя: «Крюгер» і «Рэйтан»; з позных—«Гаўронак», «Вольтман»; з заводзкіх—«Сілезія», з сярэднясьпелых—«Мікада з Шацка», «Сас», з ранніх—«Эпікур».

У калекцыі лёну па ураджаях і якасьці валакна добрыя гатункі. «Пскоўскі», «Пячэрскі», «Чэрскі». Па вучоту досьледа 1928 г. шмат мясцовых гатункаў далі ня меньшыя ўраджаі саломы, чым лепшыя даўгунцы.

Пры параўнаньні глушакоў і скарасьпэлай канюшыны большыя ўраджаі далі першыя па укосах першака.

З іншых вытвараў Аддзелу Ральніцтва больш цікавы досьледы па пытаньнях з угнаеньнямі.

Дзейнасьць іх на лёгкіх суглінках настолькі яскрава, што трэба лічыць пытаньне з угнаеньнямі грунтоўным у справе падвышэньня ўраджайнасьці палёў у Віцебшчыне і Полаччыне.

Гной выяўляў вялікі ўплыў на ўраджай палёвых расьлін пры ужываньні паўнормы, не зьмяншалася значна на першым корані аплата пуда гною пры ўжываньні поўнай нормы.

Зялёнае лубінавае ўгнаеньне пад жыта і другое збожжа амаль што ня ўступала гною.

Усе штучныя ўгнаеньні на першым-жа корані аплачвалі сваю каштоўнасьць. Пад збожжа з іх асабліва карысны былі фасфаты. Пад лён, бульбу ня ўступаюць ім таксама каліевыя і азотовыя ўгнаеньні.

На суглінках дасьледчага поля па орыентыравальным досьледам значную карысьць дала вапна. Торф, асабліва з калійнымі і фасфатнымі ўгнаеньнямі, таксама даў значнаю карысьць пры ўжываньні пад жыта.

Досьледы з лубінам якія рабіліся ў мэтах вывучэньня гэтай новай у Віцебшчыне расьліны, паказалі, што лубін добра расьце як на суглінках, так і на пяскаватых глебах. Жоўты лубін даваў меньш значную зялёную масу для прыворваньня. Пад жыта патрэбна сеяць лубін сіні ў канцы траўня і пачатку чэрвеня; пад гародніну і наогул ярыну маг-

чыма сеяць лубін, да паловы ліпеня. Сваё насеньне лубіну ў Віцебшчыне атрымаць не заўсёды магчыма. Дзеля большага посьпеху ў гэтай справе трэба сеяць сіні лубін як мага раней, на беднай пяскаватай цёплай глебе. Пры незабясьпечанасьці дасьпяваньня лубіну для безупыннага карыстаньня на зялёнае ўгнаеньне, патрэбна клапаціцца, каб мець дапамогу лубіну. Па досьледах намечаецца магчымасьць на чыстай ад сьмяцьця глебе карыстаецца для гэтага серадэляй.

Лён даваў добрыя ўраджаі валакна. Асабліва вялікі ўраджай яго быў пасьля канюшыны, пры сяўбе ў другой палове траўня, з разьліку 1,2 дв. цэнтн. усхожага чыстага насеньня.

Канюшына, падсеянная ў ярыну, давала пры задзелцы насеньня ў два разы больш пэўныя ўсходы; на суглінку лёгка пераносіла задзелку да 2-х с/м без прыметнага абніжэньня поўнаты ўсходаў.

Бульба таксама на гэтых глебах здавальняюча ўсходзіла пры пасадцы на глыбіню да 7-мі с/м, давала яна пры гэтым лепшыя ўраджаі, чым пры больш плыткай задзелцы. Як і караньплоды, пры больш густой пасадцы ў радкох, павялічывала ураджай.

---

М. М. Пілько.

# Ахова расьлін на Беларусі.

Ахова расьлін ад шкоднікаў сельскае гаспадаркі пачалася на Беларусі толькі пасьля рэвалюцыі. Да гэтага часу ні справай барацьбы, ні вывучэньнем шкоднікаў ніхто не займаўся. Не займалася і не цікавілася ёю нават земства, якое організавалася ў апошнія гады перад рэвалюцыяй. Калі што і рабілася ў адносінах практычнай працы па барацьбе са шкоднікамі, дык рабілася толькі ў былых маёнтках паноў, ды і то, можна казаць, выпадкова. Сярод сялянства таксама ніякіх мерапрыемстваў ні ў сэнсе прыкладнога характару, ні ў прапагандыскім напрамку не вялося.

Вывучэньня шкоднікаў з навуковага боку таксама ня было і ніхто ім не займаўся, калі ня лічыць некалькі спарадычных прац, раскіданых у літаратуры рознага характару.

Калі паглядзім, што рабілася у гэтым напрамку у суседніх з намі рэспубліках да часу рэвалюцыі, дык убачым, што там існавалі па некалькі дзесяткаў гадоў Энтомолёгічныя Бюро, у дзейнасьць якіх уваходзіла ня толькі справа па змаганьню са шкоднікамі, але і іх дэталёвае вывучэньне з навуковага боку.

Між тым значэньне шкоднікаў і хвароб культурных сельска-гаспадарчых расьлін у экономіцы Беларусі вельмі вялізарнае. Акрамя звычайных шкоднікаў, якія штогодна зьяўляюцца на нашых палетках, садох і гародах, якія стала, са дня на дзень жывуць за рахунак расьлін, мы маем шэраг шкоднікаў спарадычна нападаючых на расьліны і прыносячых значныя страты. Іх-жа вывучэньне ні кім не рабілася, у той час як мы маем па фаўністычнаму складу вельмі багаты і цікавы матэрыял ня толькі з боку высьвятленьня біолёгіі і эколёгіі шкодных шасьціножак і ўплыву розных фактараў на іх разьвіцьцё, але і з боку прыкладнога напрамку.

У гэтых адносінах Беларусь на мапах па вывучэньню і географічнаму пашырэньню шкоднае фауны адзначалася белаю плямаю. Беларусь і ў гэтай галіне была загнанаю, забітаю краінай.

Што-ж мы маем у гэтым напрамку з часу Кастрычнікавае Рэволюцыі.

З пэрыяду організацыі сеткі агранамічнай дапамогі насельніцтву ў кола яе дзейнасьці стала ўваходзіць правядзеньне практычных мерапрыемстваў па барацьбе са шкоднікамі ў выпадку іх масавага зьяўленьня.

З паступовым узмацненьнем эканамічнага становішча краіны ўзмацняецца і праца па ахове расьлін. Ужо ў 1923 годзе пры Народным Камісарыяце Земляробства організуецца Станцыя Ахловы Расьлін, на якую ўскладаюцца абавязкі навукова-дасьледчага характару па вывучэньню шкоднікаў сельска-гаспадарчых культур на абшарах Беларусі і ўстанаўляецца пасада інструктара па барацьбе са шкоднікамі, які нясе абавязкі па організацыі і кіраўніцтву справы барацьбы са шкоднікамі.

З гэтага году праца пачала паступова пашырацца з навуковага і прыкладнога боку. Пачынаюць праводзіцца паказальныя мерапрыемствы па барацьбе са шкоднікамі шляхам перасоўных абозаў са спэцыяльнымі тэхнікамі на чале.

Мэтаю перасоўных абозаў зьяўляецца прапаганда ідэй па змаганьню са шкоднікамі, паказ—як праводзіць барацьбу з імі пры дапамозе розных механічных, культурных і хімічных мэтадаў. Пры гэтым, адной з умоў працы зьяўлялася непасрэднае удзельнічаньне у ёй самаго насельніцтва пад кіраўніцтвам і дапамогаю тэхніка абозу.

У сучасны момант мы маем 17 арганізаваных перасоўных абозаў, якія працуюць у найбольш паважных па эканамічнаму становішчу раёнах.

Вынікам дзейнасьці абозаў зьяўляецца паступовае штогоднае павялічэньне апрацованых і пазбаўленых ад шкоднікаў плошчаў садоў і гародаў і нават удзел насельніцтва мясцовымі сродкамі ў арганізацыі перасоўных абозаў.

| Апрацавана плошчаў перасоўнымі абозамі | 1924-1925 г. | 1925-1926 г. | 1926-1927 г. |
|---|---|---|---|
| Пад садамі (у гэктарах) . . . | 1029.7 | 2250,0 | 3281,5 |
| „ гародамі (у гэктар.) . . . | 259,5 | 239,0 | 352,3 |

Акрамя правядзеньня паказальных мерапрыемств па барацьбе са шкоднымі шасьціножкамі, раённай агранаміяй праводзіцца ўкараненьне ведаў сярод насельніцтва шляхам правядзеньня лекцый, гутарак, а ў веснавы і васеньні час правядзеньне кампаній па пратручваньню насеньня ад галаўні. Тутака таксама бачым паступовае павялічэньне пратручанага насеньня.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| у 1922-23 г. пратручана насеньня | 10200 | пуд. — | 170 | тон |
| „ 1923-24 „ „ „ | 32240 | „ — | 537 | „ |
| „ 1924-25 „ „ „ | 67430 | „ — | 1124 | „ |
| „ 1925-26 „ „ „ | 211580 | „ — | 3526 | „ |
| „ 1926-27 „ „ „ | | — | 3329,39 | „ |

У апошні час мы зьяўляемся сьведкамі яшчэ больш паважнага ўдзельнічаньня у справе аховы расьлін праз увядзеньне ў чатырох акругах штатаў інструктароў па барацьбе са шкоднікамі, што яшчэ больш павінна узмацніць гэтую справу.

Аб тым, як павялічваецца у нас справа аховы расьлін, кажуць самі за сябе лічбы асыгнаваньняў.

| Так выдаткавана сродкаў у г. | па дзярж. бюджэту | мясцоваму | Усяго |
|---|---|---|---|
| 1925-26 г. . . . . . | 10.000 р. | — | 10.000 р. |
| 1926-27 „ . . . . . | 17.752 „ | 7130 р. | 24.882 „ |
| 1927-28 „ . . . . . | 17.072 „ | 15962 „ | 33.034 „ |

Так паступова разьвіваецца практычная праца па ахове расьлін.

Што-ж мы маем з боку вывучэньня шкоднае фауны?

Раней ужо адзначалася, што адначасова з установкай на рэйкі працы практычнага характару была арганізавана Станцыя Аховы Расьлін.

Адною з задач у працах Станцыі зьяўлялася яскравае высьвятленьне энтомолёгічнага твару шкоднае фауны, каб цьвёрда і бяз усялякіх хістаньняў весьці справу вывучэньня шкоднікаў. Бяз вырашэньня гэтага пытаньня не магло быць ніякай думкі аб пашырэньні дасьледчай працы, бо самы фактар-шкоднік ня быў высьвятлены; потым на падставе вядомых ведаў распрацоўваць пытаньні біолёгіі і эколёгіі шкоднікаў і ўплыў розных фактараў на іх дзейнасьць.

Вынікамі такіх прац павінна зьяўляцца вывучэньне і прыстасаваньне мер змаганьня ва ўмовах сялянскіх гаспадарак, а таксама прыстасаваньне першапачатковых ведаў для мэт прыкладнога характару.

Першыя гады існаваньня Станцыі характарызуюцца организацыйнымі працамі. Пры вялікай напруджанасьці працаўнікоў Станцыі і дзякуючы бязупыннаму падтрымліваньню і дапамозе з боку (Наркомзему) удалося так організаваць і абсталяваць Станцыю, што стала магчымым вытвараць самыя шырокія працы па вывучэньню шкоднікаў і мэтодаў змаганьня з імі.



Лябараторыя Энтамолёгічнага Аддзелу Станцыі Аховы Расьлін.

Далейшыя гады працы характарызуюцца правядзеньнем шэрагу цікавых і паважных прац ня толькі для ўмоў Беларусі, але нават і ўсесаюзнага значэньня.

Сярод такіх прац можна адзначыць:

1) Вывучэньне суслакоў. Праца была пастаўлена шырока з уцягненьнем розных спэцыялістых, і суслакі ў мемуарах Станцыі застаюцца памятнымі па тых самабытных працах і артыкулах, якія былі аб іх надрукаваны.

2) Вывучэньне устойлівасьці мясцовых гатункаў ячмянёў супроць фізыолёгічных шкоднікаў.

Вынікі працы паказваюць, што сярод мясцовых гатункаў маюцца ўстойлівыя гатункі супроць пашкоджаньняў ад швэцкай мушкі і зялёнавочкі галоўных шкоднікаў гэтае культуры:

3) Вывучэньне пытаньня аб паступовым зьнішчэньні і прыстасаваньні асноўнай фауны балот да новых умоў культурнае гаспадаркі.

Часткова матэрыял па гэтаму пытаньню вырашан і надрукаваны у працах Станцыі.

4) Вывучэньне жытняга трыпса, як шкодніка жыта, і адначасовае высьвятленьне відавога складу фауны трыпсаў.

Вынікамі зьявілася высьвятленьне 17 відаў трыпсаў.



Лябараторыя Бактэрыялёгічнага Аддзелу Станцыі Аховы Расьлін.

5) Правядзеньне экспэдыцыйнага абсьледаваньня шкоднае фауны сельска-гаспадарчых расьлін па Полацкай, Мазырскай, Віцебскай і Магілеўскай акругах.

Папярэднія вынікі гэтае працы паказалі, што Беларусь вельмі багата па складу шкоднікаў і іх інтэнсіўнай дзейнасьці, чаму спрыяюць натуральна-гістарычныя ўмовы, а асабліва географічнае палажэньне краіны.

6) Вырашана пытаньне аб таннасьці спажыўных срэд для масавай барацьбы з грызунамі бактэрыяльным мэтодам.

Праца практычнага значэньня.

7) Вырашана пытаньне аб устойлівасьці бактэрыі Мерэжкоўскага, якія заключаны ў жытнія галачкі, ад мэтэоролёгічных умоў.

Праца практычнага значэньня.

8) Праводзілася вывучэньне бактэрый, шкодных для шасьціножак.

Папярэднія матэрыялы даюць станоўчы адказ.

9) Вырашалася пытаньне аб іммунітэце сярод пацукоў ад забіваючых бактэрый.

Першыя вынікі паказалі на прыгоднасьць бактэрыяльнага мэтоду барацьбы.

Вось некаторыя галоўныя працы Станцыі. Акрамя іх было праведзена шэраг дробных прац, маючых падрыхтоўчы характар, дзякуючым якім сабран даволі значны матэрыял.

Падводзячы падрахунак праробленай працы за такі кароткі час, магчыма канстатаваць, што ня гледзячы на значныя цяжкасьці, якія сустракаліся ў працэсе прац, прыкладная і навукова-дасьледчая дзейнасьць у справе аховы расьлін шырока і шпарка разгарнулася.

Станцыя за апошні час свайго існаваньня зрабілася організуючым і кіруючым фактарам у справе аховы расьлін на Беларусі.

Дзякуючы яе дзейнасьці, стала відавочным неабходнасьць праводзеньня больш шырокіх навукова-дасьледчых прац па вывучэньню шкоднікаў і па правядзеньню практычных мерапрыемств змаганьня з імі.

Так паступова і няўхільна разьвіваецца на Беларусі праца па вывучэньню шкоднае фауны сельскае гаспадаркі і змаганьню з імі. Дапамагчы ёй заклікаецца грамадзкасьць і сялянства, шляхам дасылкі на Станцыю збораў па фауне шкоднікаў, прымернікаў пашкоджаньняў і паведамленьняў аб зьяўленьні шкоднікаў.

---

*Заг. Дасьл. Ст.* **А. Астапенка.**

# Кароткі агляд працы і вынікі яе на Магілёўскай Дасьледчай Станцыі Лекавых Расьлін.

Паўстаўшы з эўрапэйскай вайной і асабліва зараз пасьля яе, лекавы голад яшчэ ў 1915 годзе прымусіў зьвярнуць увагу былога тады ўраду і земскіх арганізацый на разьвіцьцё ў нас промыслаў сбору лекавых расьлін і іх культуры. Пачатак культываваньня лекавых разьлін у межах сучаснай БССР адносіцца да 1917 году, і ўзьнікла яно каля г. Магілёву, на мейсцы заснаваньня ў далейшым Магілёўскай Дасьледчай Станцыі Лекавых Расьлін.

Першы камень у фундамэнт уноў узьнікаючай тады арганізацыі быў паложан рукою батаніка Г. К. Крэйера, які пасьля быў загадчыкам Дасьледчай Станцыі. Ён высеяў 16 відаў і рознавіднасьцяй лекавых расьлін, здабытых ад розных установаў і асоб. На невялікім вучастку (плошчай у 225 кв. саж.), былі ўтвораны першыя 2 гадавальнікі; расло тады на іх некалькі сот экзэмпляраў лекавых расьлін, з якіх сабрана ў той-жа год 13 лотаў насеньня і $1^{1}/_{2}$ ф. лекавай сыравіны.

Сьціплы пачатак, паложаны рукою прыхільнага да новай справы працаўніка, быў умела праведзены праз шэраг цяжкасьцяй, якія пранесьліся над г. Магілёвам, з прычыны пераходу з рук у рукі зьменьваючых адна другую ўладаў. Гэта карыснае мерапрыемства атрымала належнае разьвіцьцё толькі з замацаваньньнем савецкай улады, якая вызначыла шэраг зямельных вучасткаў з інвэнтаром і будынкамі для Дасьледчай Станцыі і падтрымала яе матар'яльнымі сродкамі.

У бягучым годзе на станцыі плошча пад дасьледчымі пасевамі лекавых расьлін дасягнула больш за 9 гэктараў, з якіх сабрана 8,6 цэнтнераў лекавай сыравіны і 71 клгр. насеньня лек. расьлін, найбольш каштоўных і выгодных у адносінах разьвіцьця іх ва ўмовах Беларусі. За пэрыяд існаваньня Дасьледчай Станцыі вялася дасьледчая і арганізацыйная праца, якая была пачата першым загадчыкам станцыі Г. К. Крэйерам. Складалася яна з батанічнага вывучэньня лекавых расьлін, з пастаноўкі шэрагу досьледаў па пытаньнях культуры і тэхнікі лекавых расьлін, іх акліматызацыі, сэлекцыі, арганізацыі хэмічнай лябораторыі, мэтэоролёгічнай станцыі і інш.

У шэрагу справаздач уся гэта праца досыць добра асьветлена і, разам з матар'яламі апошніх гадоў, яшчэ неапублікаванымі, выяўляецца ў прапрацоўцы цэлага шэрагу пытаньняў навуковага і практычнага значэньня, атрымаўшых усеагульнае прызнаньне.

Дасьледчая праца па лініі батанічнага вывучэньня лекавых расьлін вялася пераважна з лекавымі расьлінамі, якія, маючы вялікае прыстасаваньне ў мэдыцыне, могуць адыграць і аграмаднае значэньне ў прамысловых адносінах для нашай сельскай гаспадаркі. Да такіх расьлін адносяцца: Валер'яна, Беладона, Шалвей, Напярсьцянка і некаторыя

іншыя. Найбольш шырока на станцыі было праведзена вывучэньне валер'яны, пачатае з 1918 году. У выніку 5-гадовага досьледу стала магчымым падзяліць від Valeriana officinalis на шэраг новых відаў, з падрабязным апісаньнем іх батанічных адзнак, зьмешчаных у асобным выпуску Г. К. Крэйера—„Новые валерианы, выделенные из Valeriana officinalis L.“ У ліку вызначаных відаў валер'яны зьвяртае ўвагу від сухадольнай валер'яны, якой дана назва „Val. nitida Kreijer“. Гэта



Карэньне валер'яны.

валер'яна знойдзена на алювіяльных глебах быўш. Гомельскай губ. Дасьледваньне ўраджаю Valeriana nitida Kreijery і параўнаньне з іншымі відамі дало ня толькі значную пераважнасьць гэтага віду па ўраджаю карэньняў, але і па ўтрыманьню эфірнага масла і валер'янавай кісласьці.

Па чатырохгадовых дасьледваньнях на станцыі маюцца гэтакія вынікі:

| | Сярэдні ўраджай з гэктару ў кілёгр. | Адпаведнасьць ураджаяў | Колькасьць эфірн. масла ў $^0/_0$ |
|---|---|---|---|
| Valeriana mitida Kr. | 700.4 | 100 | 2,3 |
| Valeriana palustris Kr. | 577,0 | 81 | 1,9 |
| Valeriana stolonifera Kr. | 431.5 | 62 | 1,6 |

Шэраг праведзеных досьледаў па ўгнаеньню валер'яны рознымі нормамі гною, штучнымі ўгнаеньнямі і камбінаваным угнаеньнем (гною з штучн. угнаеньнямі) паказала, што гной падвышае ўраджай кораня, зьніжаючы яго хэмічнай якасьці; поўнае штучнае ўгнаеньне, з падвышэньнем нормы ад ардынарнай да трайной, падвышае ўраджай і якасьць кораню; камбінаванае ўгнаеньне, гной+штучн. угнаеньне, дало

сярэднія вынікі ў адносінах ураджайнасьці і добрыя ў адносінах якасьці кораню. Прымяненьне месцовага і ўгнаеньня гноям (гнездавога) пад валер'яну, у параўнаньні з раскіданым (сплашным), дало пераважнасьць у колькасьці ўраджаю кораню, але пагоршыла яго хэмічную якасьць. Такая хэміка-фармацэўтычная ацэнка карэньняў валер'яны дазволіла Дасьл. Станцы вызначыць месца валер'яны ў севазвароце сярод нашых с.-г. расьлін.



Культура валер'яны на станцыі.

Як відаць з досьледаў, валер'яна павінна блізка стаяць да гноявага ўгнаеньня і бяз рызыкі можа ісьці па сьвежаму гною. Але праз тое, што гэтая расьліна баіцца засьмечанасьці, дрэнна змагаецца з сьмяцьцёвымі травамі, дык лепшае месца для валер'яны ў севазвароце будзе пасьля асыпных. Досьледы з тэрмінамі пасадкі расады валер'яны ў полі на працягу шэрагу гадоў далі лепшыя вынікі для позьняй асеньняй пасадкі (у палове верасьня), у параўнаньні з раньняй пасадкай 18-VII і 15-VIII і вясеньняй пасадкай 15-IV.—Гушчыня пасадкі расады ў полі 27×27 сант. і $22^1/_2$×27 сант. дае пераважнасьць у сэнсе павышэньня ўраджаю карэньняў пры больш загушчанай пасадцы, але нявыгоды пры доглядзе і капаньні карэньняў, а таксама расход да 45000 лішняй расады пры больш густой пасадцы, астаўляе пераважнасьць на баку больш рэдкай пасадкі, якая і прынята на Дасьледчай Станцыі.—Пульхненьне міжрадзьдзяў валер'яны ў працягу лета, асабліва на цяжкіх глебах, спрыяюча адбіваецца на ўраджаі корэньня і яго якасьці.—У досьледах з відам Val. nitida адпаведнасьць ураджаяў з пульхненьнем і бяз пульхненьня зьяўлялася як 100 і 69, а ўтрыманьне эфірнага масла з 2,4 проц. пры пульхненьні паніжалася да 2,2 у карэньняў бяз пульхненьня.—Пры звычайна вялікай колькасьці працоўных рук па догляду за валер'янай, цікавым зьяўляецца параўнаньне спосабаў пасадкі валер'янавай расады ў полі. Пасадка валер'яны на градках, грэбнях і на роўным полі, пры большым ураджаі ад пасадкі на градках, чым на грэбнях, на 7 проц., павінна мець пераважнасьць у эканамічных адносінах пасадка на грэбнях, дзе можна рабіць апрацоўку коньмі, што значна скарачае працу па догляду. Практыка вяршкаваньня валер'яны перад красаваньнем адзначыла павялічэньне ўраджаю

карэньня, але гэтае мерапрыемства падлягае сумненьню з боку эканамічнай выгоднасьці асабліва зараз, калі насеньне валер'яны расцэньваецца да 8 руб. за кілгр., а правядзеньне вершкаваньня патрабуе значнай затраты працоўных рук.—Пытаньне аб працягласьці валер'янавай культуры ў полі правяралася на досьледах з Val. nitida і Val. Stolonifera ў працягу 3-х год. Досьледы з Val. nitida даюць наступную адпаведнасьць ураджаяў карэньняў: для 1-га году 32, для 2-га 100 і для 3-га 53. Досьледы з Val. Stolonifera падкрэсьліваюць даныя прыведзеных вышэй досьледаў з Val. nitida.

Капаньне валер'янавага карэньня восеньню і вясной паказала, што корань асеньняй прыборкі дае больш сухога таварнага кораню, чым вясной, а па колькасьці эфірна-валер'янавага масла, розьніцы ў залежнасьці ад тэрміну выкапкі не заўважана; надворны выгляд валер'ян. кораню вясеньняй копкі пасьля сушкі горшы, чым асеньняй копкі.

Як правіла, корань на Дасьледчай Станцыі мыецца і затым сушыцца пад страхою ці на рашотах сушылкі пры t° да 40°. Агульны ўраджай валер'янавага кораню з году ў год на Дасьледчай Станцыі вагаецца; ў бягучым годзе ўраджай сухога кораню на суглінкавых глебах атрыман, у сярэднім, 180 клгр. з гэктару, а на пескавых падымаўся да 587 клгр., па цане 1 р. за кілё. Усе віды валер'яны, як выдзеленыя на станцыі, так і атрыманыя з іншых месц, разводзяцца ў ізаляваных адзін ад аднаго гадавальніках і падтрымліваюцца ў сваёй чыстасьці. Забясьпечанасьць станцыі хэмічнай лябораторыяй дазваляе ўтвараць аналізы валер'янавага кораню і тым рабіць хэміка-фармацэўтычную ацэнку яго, а таксама і ацэнку з гэтага боку дзейных фактараў пры пастаноўцы досьледаў.

Батанічнае вывучэньне беладоны дазволіла вызначыць з віду пад назвай Atropa Belladonna L. тры формы пад назвамі Atropa Belladonna,



Ценявая культура беладона.

Atropa Caucasica Kr. і Atropa Paschkewiczi Kr. Хэмічны аналіз паказаў, што гэтыя тры формы, захоўваючы свае батанічныя адзнакі, маюць розную колькасьць алкалёідаў. Так, у верхніх лісьцях Atr. Caucasica у 1926 г. мелася алкалёідаў 0,402%, у Atr. Belladonna—0,393% і ў Atr. Paschkewiczi—0,381%.—Выяўлена таксама, што па фазах разьвіцьця

расьліны накапленьне алкалёідаў у лісьцях беладоны ідзе з паступовым падвышэньнем ад прабуджэньня і да красаваньня і сбору ягад. Найлепшы тэрмін сбору—гэта тэрмін ад красаваньня да сбору ягад, што і сцьвярджаецца дадзенымі Schirch'a і Sivers'a.—Вершкаваньне беладоны дае такое нязначнае павышэньне алкалёідаў, што не апраўдвае расходу працоўных рук на вядзеньне гэтай апэрацыі.—Сбор ніжніх лісьцяў неабходна рабіць да пачатку іх пажаўценьня, г. зн. у часе першага красаваньня беладоны, таму што жоўты ліст ня толькі псуе выгляд тавару, але і ўтрымлівае меньшы процант алкалёідаў. Па даных хэмічнага аналізу жоўты ліст меў 0,368 проц. алкалёідаў, а зялёны—0,385 проц.

Прыборку лісьцяў беладоны трэба закончваць да пачатку марозаў. Ліст, які папаў пад мароз, меў 0,360 проц. алкалёідаў, а не марожаны—0,387 проц.

З прычыны вялікага значэньня культуры беладоны для скарыстаньня яе ў нашых сялянскіх садох з загушчанай пасадкай дрэў, дзе звычайна растуць толькі бур'яны, Дасьледчай Станцыяй прадпрынята была праца ў 1928 годзе па вывучэньню ўплыву зацяненьня на колькасьць накапліваемага лекавага матэрыялу ў лісьцях беладоны. З гэтай мэтай браліся пробы лісьцяў па фазах разьвіцьця беладоны з тых, што расьлі на адкрытым месцы, і з кустоў, якія расьлі ў старым пладовым цяністым садзе станцыі. Аналіз у лябараторыі паказаў, што колькасьць алкалёідаў у сьветавой культуры максымальна было на 0,009 проц. вышэй, чым у ценявой, але ва ўмовах саду беладона ўяўляла больш надзейную культуру ў сэнсе ўстойлівасьці супроць вымярзаньня. Штучнае акрыцьцё пасадкі беладоны, якая ўтваралася на адкрытых мясцох, у садзе не патрабуецца, таму што тут акрыцьцём для беладоны служыць ападаючае восеньню лісьцё і больш раўнамерны сьнегавы насьціл. З аднаго гэктару саду можна, у сярэднім, разьлічваць на атрыманьне 5 цэнтнераў сухіх лісьцяў, што пры існуючай цане на ліст беладоны да 110 руб. за цэнтнер можна атрымаць валавога прыбытку звыш 500 руб. з гэктару. З прычыны параўнальна нізкага проценту ўтрыманьня алкалёідаў у лісьцях беладоны, якая разводзіцца на Магілеўскай Дасьледчай Станцыі, прадпрыняты працы па адшуканьню для сэлекцыі экзэмпляраў з высокім процантам алкалёідаў, а таксама закладваюцца досьледы па ўгнаеньню беладоны і вывучэньню хэмізму глебы.

Дасьледчая праца з чырвонай напярсьцянкай вялася з мэтай вывучэньня накапленьня глюказіда дігітаксіна ў лісьцях напярсьцянкі, павялічэньня сбору лісьцяў, а таксама і ў адносінах сортаспрабаваньня напярсьцянак. Пераважнасьць пры сартаспрабаваньні Digitalis purpurea і Digitalis ambigua у першы год цалкам на баку першае, якая дала значна большы ўраджай у першы год сухога лісьця. У другі год ураджай лісьцяў у абедзьвюх напярсьцянак амаль што зраўняўся, але ліст D. ambigua неахвотна купляецца аптэкамі і не даволі добра праверана яго фізыялёгічнае дзеяньне.

Пастаўлены досьлед на павышэньне прадукцыі лісьця чырвонай напярсьцянкі, з дапамогай вершкаваньня цьвятаносаў па спосабу Варашылава, даў добрыя вынікі. Дзялянкі, вершкаваныя 2 разы ў працягу лета, далі сбор сухіх лісьцяў 2428 клгр. з гэктару, а невершкаваныя—1843,5 клгр.; апрача таго, у вершкаваных расьлін колькасьць дігітаксіну была на 0,006 проц. больш. Сэлекцыйная праца станцыі зараз накіравана па лініі індывідуальнага адбору напярсьцянкі з высокім процантам дігітаксіну і зімастойкасьцю. У лік дасьледваемых сартоў

на станцыі з 1928 году ўваходзіць сорт Digit. ferruginea, які па кольkасьці ўраджаю лісьцяў ня ўступае D. purpurea, але пакуль што ён не атрымаў хэміка-фармацэўтычнай і фізыолёгічнай ацэнкі.



Кусты напарсьцянкі з кветкавымі стрэлкамі.

Культура шалвею (Salvia officinalis L.), якая атрымала значнае распаўсюджаньне на станцыі, вельмі чульліва ў часе зімы. Досьледы пакрыцьця шалвею на зіму іншы раз давалі адмоўны вынік, бо прычынай гібелі расьлін было ня вымярзаньне, а выправаньне. У выніку батанічнага вывучэньня шалвею на Станцыі вызначаны яго чатыры



Кусты шалвею.

формы, але пакуль што ні адна з іх не дае якой-колечы переваrі ў адносінах да зімастойкасьці. У аснову працы па сэлекцыі з шалвеям паложана задача па вышуканьню зімастойкіх кустоў. Хэмічны аналіз лісьцяў шалвею ў працягу шэрагу гадоў паказвае на поўную дабраякасьць культывуемага на станцыі шалвею. Так, па даным хэмічнага

аналізу процант эфірнага масла ў лісьцях шалвею (сбору 1927 г.) складаў 0,58%, дубільных матэрый—7,09 проц., а шалвей, які быў пад марозам, меў 0,49 проц. эфірнага масла і 6,31 проц. дубільных матэрый. У бягучым годзе назіраньні вяліся над патомствам 50 элітаў, а таксама сабрана насеньне з новых кустоў, якія вызначыліся па выключнаму свайму разьвіцьцю. Сярэдні сбор лісьцяў шалвею 1-га году атрымліваецца каля 456 клгр. з гэктару, а другога году—960 кілёгр.

Аптэчны румянак (Matricaria chamomilla) уведзен у культуру на Магілеўскай Дасьледчай Станцыі лекавых расьлін з 1918 году і меў у першым-жа годзе эфірнага масла 0,78 проц. Аналіз гэтага году паказаў колькасьць эфірнага масла—0,993 проц. Аптэчны румянак дасьледваўся як папарная расьліна з асеньнім і веснавым пасевам і ўнясеньнем гною ў паўтары разы больш, чым звычайна кладзецца на поле. Пераважнасьць застаецца на баку асеньняга пасеву. Збор сухіх кветак пры гэтым даў у бягучым годзе з 1-го гэктару 706,0 клгр., тады як ад веснавога пасеву румянку сбор даў усяго 116,2 клгр., па цане 1 р. за клгр. Асенні пасеў румянку даў 4 сборы кветак; першы сбор яго быў зроблен 6-VII, тады, калі румянак веснавога пасеву даў 1 сбор кветак у канцы лета—28-VIII. Ураджай жыта пасьля румянку па асенняму і веснавому пасеву ў папарным полі атрымаўся лепшы па асенняму пасеву румянку, а іменна — 15,23 цэнтнеры зернят і 37,59 цэнтн. саломы, а па веснавому пасеву зернят жыта сабрана 6,8 цэнтнераў і 21,58 цэнтн. саломы з гэктару.

На дасьледчай станцыі пашыраюцца пасадкі перцавай мяты (Mentha piperita), шток-розы (Althaea rosea Cav. f. nigra) і інш. Над усімі гэтымі расьлінамі (да 54 відаў) вядуцца назіраньні ў калекцыйным гадавальніку і ўтвараюцца аналізы на ўтрыманьне дзейных пачаткаў.

Акрамя прылад для вядзеньня аналізаў лекавых расьлін, лябораторыя ў бягучым годзе папоўнілася прыладамі і апаратамі для ўтварэньня аналізаў глебы кштоўнасьцю звыш 2-х тысяч рублёў. Акрамя таго, Дасьледчая Станцыя абагацілася ў бягучым годзе цэлым шэрагам будынкаў спэцыяльнага і гаспадарчага значэньня. Пабудавана 2-х паверхавая сушылка з бэтону, дрыўляная 2-х паверхавая сушыльня, хлеў, сьвіран, склеп, адрэмантаваны будынак з навуковымі ўстановамі Станцыі і 6 кватэр для рабочых і служачых, пабудаваны платы навокал саду і ў самой сядзібе і інш.

Дасьледчая праца Станцыі не абмяжоўваецца тэрыторыяй адной станцыі; у бягучым годзе ў раён дзейнасьці дасьледчай Станцыі ўваходзіў Інстытут сялян-дасьледчыкаў у ліку 27 асоб.

Пачатак дасьледчай працы з сялянамі-дасьледчыкамі ўпэўнівае станцыю, што культура лекавых расьлін таксама прыступна і для селяніна, як і культура іншых с.-г. расьлін. Тут, для прыкладу, прывядзем падлік ураджаю кветак румянку ў аднаго з дасьледчыкаў, па дакладным яго запісам ураджай сухіх кветак даў з 1-го гэктару 1783 клгр., што, пры цане 1 руб. за кілгр., дасьць валавы прыбытак з гэктару 1783 руб. Такі ўраджай румянку запатрабаваў-бы затраты да 1000 працоўных дзён, з магчымасьцю скарыстаньня некалькіх сот дзён адной дзіцячай працы. Усё гэта кажа аб высокай працаёмкасьці культуры лек. расьлін і аб шырокіх пэрспэктывах пры ўвядзеньні яе ў сялянскую гаспадарку. Патрэбна прызнаць палажэньне, якое высоўвае станцыя, што культура лек-расьлін ёсьць культуры тэхнічныя, што па сваёй высокай працаёмкасьці яны могуць паменшыць беспрацоўе ў вёсцы, што разьвіцьцё культуры лек.-расьлін адчыняе магчымасьці

разьвіцьця нашай індустрыяльнай прамысловасьці, якая, у працэсе апрацоўкі лекавай сыравіны, можа паслабіць беспрацоўе і ў горадзе.

Магілеўскай Дасьледчай Станцыяй Лек. Расьлін за пэрыяд свайго існаваньня выпушчана шараг пэрыядычных выданьняў і брашур пад такімі назвамі:

„Могилевская Опытная Станция Лекарственных растений, ее организация и деятельность до 1923 г.—часть I“; агульны нарыс пад той-жа назвай: „Исследовательская работа Могилевскай Оп. Ст. Лек. Растений за 1921—1925 г.“, „Новые валерианы, выделенные из Valeriana officinalis L.“; „Кароткая інструкцыя, як сялянам-дасьледчыкам ставіць пачатковыя досьледы з лекавымі расьлінамі“.

---

Л. Б. Арлова.

# Хэмічная лябораторыя Магілеўскай Дасьледчай Станцыі Лекавых Расьлін.

У 1917 годзе па ініцыатыве Г. К. Крэйера была заснавана Магілеўская плянтацыя лекавых расьлін, якая ў далейшым атрымала назву Дасьледчай Станцыі, пад якой яна існуе і вядома зараз.

З прычыны недахопу сродкаў і памяшканьняў, хэмічныя досьледы спачатку ўтвараліся ў лябораторыі Магілеўскага аддзелу аховы здароўя, хэмікам С. В. Галынскім, а з 1920 году аграномам-хэмікам Л. Б. Арловай. Праца ў чужой лябораторыі была вельмі цяжкай у сэнсе недахопаў патрэбных прылад і рэактываў. Пагэтаму ў 1922 г., з вялікімі цяжкасьцямі была арганізавана хэмічная лябораторыя пры самой станцыі.

Па меры павялічэньня хэмічнага інвентару павялічылася і колькасьць аналізаў. У гэтай лябораторыі рабіліся аналізы па ўяўленьню дзейных пачаткаў лекавых расьлін па навейшых мэтадах, аналізы глеб і ўгнаеньняў для дасьледчых вучасткаў. Да 1926 г. рабілася да 200 аналізаў штогодна.

За апошнія гады лябараторыя абсталявана значнай колькасьцю прылад, дзякуючы чаму зьяўляецца ўжо магчымым рабіць да 400 аналізаў у год. Дасьледчая праца станцыі, сумесна з хэмічнай лябараторыяй, дала наступныя вынікі:

Для большай яскравасьці падаю табліцы з утрыманьнем эфірных масел рознымі валер'янамі, а таксама і ўтрыманьне каштоўных матэрый іншымі лекавымі расьлінамі:

Valeriana nitida (параўнальна з іншымі сартамі) больш устойліва і падыходзіць па % колькасьці эфірных маслаў і па ўраджайнасьці да клімату і глебы Магілеўшчыны.

| Назва расьлін | % эфірных маслаў |
|---|---|
| Val. nitida . . . . . . . . . | 2,3 |
| Val. stolonifera . . . . . . . . | 1,61 |
| Val. palustris . . . . . . . . | 1,92 |
| Val. officinalis (дзікая месцов.) . . | 0,91 |

2. Falia Atropa Caucasica мае большы % алкалёідаў, чым іншыя сарты па апошніх досьледах 1927 г.

| Назва расьлін | % алкалёідаў |
|---|---|
| Atr. Caucasica . . . | верхні ліст 0,402 ніжн. і сярэдні 0,401 |
| Atr. Belladonna . . | „ „ 0,393 „ „ „ 0,392 |
| Atr. Paschkewicz . . | „ „ 0,381 „ „ „ 0,381 |

3. Folia Digitalis purpurea мае большы % глюказідаў чым F. Dig. ambigua па досьледах 1926 г.

| Назвы расьлін | % глюказідаў (у сярэднім) | | |
|---|---|---|---|
| | Дігітаксін | Дігіталін | Дігітанін |
| Digit. purpurea . . | 0,271 | 0,172 | 0,121 |
| Digit. ambigua . . | 0,260 | 0,159 | 0,113 |

4. Folia Salviae officinalis мае большы % эфірных маслаў і менш дубільных матэрый, а сьцябло мае наадварот,—менш эфірных маслаў, а больш дубільных матэрый:

| Назва расьлін | % дубільных матэр. | | % эфірных масл. | |
|---|---|---|---|---|
| | Ліст | Сьцябло | Ліст | Сьцябло |
| Salvia officinalis . . | 5,1 | 7,83 | 0,671 | 0,25 |

Апрача таго, былі атрыманы вынікі па цэламу шэрагу дасьледчых пытаньняў: найлепшы час пасеву, перасадкі, збору лек. расьлін, падыходзячых глеб і ўгнаеньняў. Таксама зроблены досьледы з многімі культурамі па колькасьці накапленьня дзейных пачаткаў у асобных частках расьлін.

У 1924 годзе зроблена хэмічная ацэнка колькасьці % эфірных маслаў у карэньнях валер'яны рознай таўшчыні. У 1926—28 г. прароблены 2 мэтадычныя працы на тэмы: 1) „Параўнаньне мэтадаў вызначэньня % маслаў у эфірна-маславых расьлінах“ і 2) „Параўнаньне 4-х мэтадаў вызначэньня % алкалёідаў у F. Atropa Belladonna і F. Datura Stramonium“.

Станцыю наведвала значная колькасьць экскурсіяў як паасобна, так і групамі, сярод якіх былі студэнты Магілеўскага Фарматэхнікуму і інш.

У апошні час Хэмічная Лябораторыя Магіл. Дасьледч. Ст. Лек Расьлін паступова перабудоўваецца ў Лябораторыю Лекавай Сыравіны.

Дырэктар Станцыі С. І. Журык.

# Беларуская Цэнтральная Дасьледчая Сьвінаводная Станцыя.

Беларуская Цэнтральная Дасьледчая Сьвінаводная Станцыя Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя У. І. Леніна адчынена афіцыйна 1 кастрычніка 1927 г., калі на арганізацыю гэтае Станцыі былі вызначаны не вялікія сродкі (каля 16.000 р.). Фактычна Станцыя стала арганізоўвацца пасьля прыняцьця ёю гаспадаркі Малой Сьлепянкі пад Менскам, 17 мая 1928 г.

Улетку 1928 г. на Станцыі пабудована і зусім прыстасована для сьвіньней шэсьць сьвінарнікаў, па 20 стойлаў у кожным. Сьвінарнікі пабудованы па апошняму слову зоотэхнічнае навукі. Яны зьяўляюцца сухімі, сьветлымі і цёплымі. Прынцып пабудовы ўзят у Эўрапейскае і Амэрыцкай практыкі.

Кожны сьвінарнік мае плошчу 23,15×6,00 м. Вышыню сьвінарнікі маюць розную, ад 2,2 да 3,0 м. Станкі маюць плошчу 2,3×2,2 м., а калідор—1,5 м. Першыя два сьвінарнікі зроблены з апілованых 18 см. плашчакоў. Апошнія чатыры зроблены торфанабіўныя, г. ё. абабітыя шалёўкай з двух бакоў і між імі засыпаны торфам, 18 см. Столь зроблена накатам і зьверху замазана глінай. На гліне насыпан торф, 6 см. таўшчынёй. Падлога зроблена вельмі цёплай. На насыпаным пяску пакладзен тонкі слой, каля 2 см. гравію, затым ляжыць шлакабэтон, 5—7 см., як дрэнны праваднік цяплыні, а паверху пакладзена пластом селікатная цэгла Клімавіцкага заводу. Калідор выгараджан штакетам, 5 см. на 9 см., а разгародкі між станкамі зроблены з жэрдак, каля 7 см. таўшчынёй, растаўленых адна каля другое на 6—9 см. Вышыня разгародак зроблена 1,25 м. Кармушкі ў першых двох сьвінарніках зроблены з навеснымі заслонкамі, а ў апошніх чатырох паварочваючыяся на восі. З паўднёвага боку сьвінарнікі маюць выгулы з вылазкамі, 70×90 см. Плошча выгулаў для кожнага станка на дварэ зроблена 2,3×10,0 см. Сьвятавая плошча вакон да падлогі складае $^1/_{10}$—$^1/_{12}$ частку.

Каля сьвінарнікаў зроблена кухня плошчай 6,4×6,4 м. Кухня падзелана на два аддзяленьні. У меншым аддзяленьні, прыблізна каля $^1/_3$ плошчы знаходзіцца склад сытных кармоў, а ў другім, большым, пастаўлены два простыя катлы і тут-жа ідзе разьмеркаваньне корму. У далейшым прыдзецца каля кухні рабіць дадаткова прыбудоўку для ўстаноўкі прыбыўшага з Нямеччыны запарніку для бульбы і падаграваньня вады. Запарнік ужо атрыман і зьяўляецца вельмі каштоўным у сэнсе эканоміі тапліва і хуткасьці запаркі. Недалёка ад сьвінарніку пабудована цагляная абмазаная цэментам сіласная яма, разьмерам 4 м. у дыямэтры і 3,5 м. глыбінёй. У яме засіласован корм і будзе вывучацца пытаньне кармленьня сьвіней сіласам.

Наогул, Станцыя ў асноўным забясьпечана сьвінарнікамі на першы час сваёй працы.

У спадчыну Сьвінаводная Станцыя атрымала ад гаспадаркі Прылукі-Атоліна сьвіней буйнай белай англійскай пароды ў колькасьці 9-ці матак і 3-х кныроў. Большасьць гэтых сьвіней у 1924 г. былі набыты Менскім Сельска-Гаспадарчым Інстытутам у „Госплемкультуры". З гэтым матар'ялам пачала разгортвацца навуковая і арганізацыйная праца Станцыі.

Акрамя прынятых ад гаспадаркі Прылукі-Атоліна сьвіньней, Станцыя набыла яшчэ дадаткова ў „Госплемкультуры" ў РСФСР. Набыта ў ліпені 1928 г. 5 матак, 8 падсьвінкаў узростам каля 6—8 м. і два кныры. Сьвіньні набыты белай буйнай ангельскай пароды, вельмі добрых сем'яў, як: „Беатрыса", „Хоп", „Пандора", „Букет", „Вербена", „Валшэбніца" і г. д. Кныры куплены: „Лявон" ад вывезенага з Англіі лініі „Lioniad Bellringer". Кныр „Лявон" зьяўляецца надзвычайна здаровым, вельмі статным камбінаванага мяса-сальнага напрамку. Гэты кныр зьяўляецца адзіным у БССР і, па зданьню лепшых маскоўскіх специялістых, нават рэдкім у самой Англіі.

„Bellringer" зьяўляецца добрым кныром бэконнага напрамку. Ад Прылук-Атоліна прыняты „Агаты", „Сары", „Курчаўкі" і інш., а кныры „Рахманы IV", „Рахманы V" і „Турн". Набыты ад Бел. С.-Г. Акадэміі два кныры „Джэя", закуплены таксама прадстаўнікі і больш сальнага напрамку.

Акрамя ангельскіх сьвіньней. Станцыя мае шэраг мясцовых беларускіх. Вясной 1928 г. набыта 22 маткі простых і палепшаных сялянскіх сьвіньней. Выяўлена, што сялянскія сьвіньні на БССР бываюць двух напрамкаў. Адзін тып—кароткія сьвіньні, плашчэйшыя, на тонкіх кароткіх нагах, з кароткімі стаячымі вушамі. Гэты тып больш падыходзіць да дзікіх сьвіньней і распаўсюджан на Беларусі ў мясцовасьцях з экстэнсіўнай гаспадаркай, з большай колькасьцю лясных масываў і на Станцыі гэты тып завецца „Лясной" сьвіньнёй.

Другі тып сьвіньней мае доўгую шыю з перахопам, доўгае тулава, высокія тонкія ногі і доўгія вушы. Гэты тып зьяўляецца значна лепшым, чым „Лясны". Відаць гэта сьвіньня стварылася на Беларусі ад лепшых умоў утрыманьня ад прыліцьця крыві іншакраёвых парод сьвіньней.

У далейшым гэта сьвіньня, пры яе паляпшэньні і сэлекцыі, павінна стварыць моцную культурную беларускую пароду сьвіньней, як гэта ўдалося зрабіць у іншых краінах. Пакуль што гэта сьвіньня мала канстантная.

На Станцыі маецца два кныры мясцовае пароды „Ляснога" тыпу.

Ад простых сьвіньней зараз маюцца парасяты ўзросту ад ½ да 3 м., як простыя, так і мяшанцы. Простыя сьвіньні вывучаюцца з боку іх хуткасьці росту, скарыстаньня корму і якасьці іх прадуктаў.

Ад Белсельтрэсту Станцыя гэтымі днямі атрымоўвае дацкіх і нямецкіх белых „благародных" сьвіней для іх вывучэньня як у чыстым выглядзе, так і пры скрыжаваньні з мясцовымі беларускімі розных напрамкаў.

У далейшым будуць закуплены для вывучэньня на Случчыне сьвіньні пясочнай і сівай афарбоўкі, а таксама на Меншчыне рабыя і чорныя палепшаныя сьвіньні.

Зараз Станцыя мае больш 300 шт. сьвіньней.

Леташнім годам Станцыя заказала за межамі абсталяваньне для біо-зоотэхнічнай лябараторыі, коштам каля 3.000 р. Гэта абсталяваньне

ўжо пачынае прыходзіць з па-за межаў. У гэтым годзе заказана зноў абсталяваньне за межамі на 1.200 руб.

У НДІ пачынаецца арганізоўвацца спэцыяльная лябараторыя Сьвінаводнай Станцыі. У далейшым лябараторыя павінна быць пабудована на Станцыі для досьледаў біолёгічных, фізіолёгічных, хэмічных, гісталёгічных і іншых.

Станцыя мае сваёй асноўнай мэтай вынаходжэньне лепшых шляхоў пераходу і ператварэньня беларускага познасьпелага сальнага сьвінаводзтва ў больш прадукцыйнае мясное, бэконнае.

Выходзячы з гэтага і вядзецца ўся навукова дасьледчая і племянная праца Станцыі.

У галіне кармленьня вядуцца досьледы з устанаўленьнем колькасьці зялёнае травы пры бэконным адкорме.

Улетку 1928 г. праведзен досьлед з бэконным адкормам на белых ангельскіх буйных сьвіньнях з 4 групамі. Першая група атрымоўвала 75 проц. травы па спажыўнасьці, другая 50 проц., трэцяя 25 проц., чацьвертая кармілася зусім без травы.

Спачатку парасяты з 3 месячнага ўзросту атрымоўвалі зялёную канюшыну, а потым праз месяца паўтара зялёную мешанку вікі з ячменем. Сытнымі кармамі былі ячменныя высеўкі, пшанічныя высеўкі і жытняя мука ў розных суадносінах, у залежнасьці ад налічча корму, які здабываць было вельмі трудна.

Другі досьлед праведзен з бэконным адкормам на бульбе. Чатыры групы падсьвінкаў атрымоўвалі корм з рознай колькасьцю бульбы і зусім бяз бульбы. Першая група мела ў дачу 75 проц. бульбы, другая 50 проц., трэцяя 25 проц. і чацьвертая зусім бяз бульбы. Мешанка канцэнтраваных кармоў была такая-ж, як і пры травяным адкорме. Зараз сьвіньні адкормлены і 27 сьнежня 1928 г. праз „Белдзяржгандаль“ будуць накіраваны на Ленінградзкую бэконную фабрыку для забою і досьледу якасьці бэкону. Вынікі досьледаў будуць апублікованы своечасова.

Усе маткі як ангельскай буйнай белай пароды, так і мясцовыя кормяцца індывідуальна з мэтай высьвятленьня патрэбнасьці матак у розныя пэрыяды іх жыцьця, як растушчым і халастым, так і супаросным і падсосным.

Гадоўля парасят займае значнае месца на Станцыі, дзе вядуцца назіраньні над гадоўляй парасят пры розных кармох.

У галіне расплоду, акрамя індывідуальнага вывучэньня сьвіньней ангельскіх белых буйных і мясцовых, вядзецца мэтызацыя з мэтай выяўленьня ўплыву ангельскай буйнай белай сьвіньні розных напрамкаў на беларускіх „Лясных“ і палепшаных. Таксама вядзецца мэтызацыя ангельскіх сьвіньней мясцовымі з мэтай выяўленьня якасьці мэтысаў ад простае сьвіньні.

З атрыманьнем дацкіх і нямецкіх белых „благародных“ сьвіньней пачнецца іх вывучэньне, як у чыстым выглядзе, так і ў скрыжаваньні з іншымі пародамі.

Вядзецца зараз праца па вывучэньню ўмоў утрыманьня сьвіньней розных парод на Беларусі, а таксама тыпы будынкаў для сьвіньней, з боку іх якасьці і гігіенічнасьці.

Улетку 1928 г. праведзена экспэдыцыя па вывучэньню сьвінагадоўлі на Беларусі. Экспэдыцыя сабрала каля 1.500 шт. падворных картак і больш 3.000 індывідуальных.

Праца станцыі за час яе існаваньня вельмі шпарка разгортваецца і стала добра вядома вакольчнаму насельніцтву.

На Станцыі арганізован абгульны пункт. Амаль кожны дзень прыганяюць і прыводзяць сяляне сьвіньней да кныра. Арганізуюцца экскурсыі сялян для агляду сьвіньней.

Назіраецца надзвычайна вялікі попыт сялянства на ангельскіх буйных белых сьвіньней і іх мэтыкаў. У сучасных разьмерах Станцыя ня можа задаволіць насельніцтва, бо мае сьвіньней і магчымасьці амаль толькі для дасьледчых мэт. Аднак Станцыя задавальняе лепшыя заводы Беларусі высокаклясным матар'ялам.

У далейшым, для забясьпечаньня абслугоўваньня насельніцтва і заводаў добрым племянным матар'ялам, неабходна каб пры Станцыі Наркамзем пабудаваў сьвінны завод, бо сама Станцыя, за адсутнасьцю належных сродкаў, гэтага зрабіць ня зможа.

С. П. Такмачоў.

# Варанецкі сельска-гаспадарчы тэхнікум.

Варанецкі с.-г. Тэхнікум рэвакуаваны быў у Беларусію ў 1923 г. і разьмешчаны у Стара-Барысаве.

Вучэбная гаспадарка, прадстаўленая школе мае 771,4 гэкт., з іх: 225,4 гэкт. пахаты, 279,3 гэкт. сенажаці па рацэ Бярэзіне і 236,7 гэкт. лесу.

Ня гледзячы на фінансавыя цяжкасьці, зьвязаныя з грашовай рэформай, Наркамземам БССР прадастаўлены былі сродкі, якія дазволілі адразу-ж пачаць арганізацыю вучэбнай установы і яго гаспадаркі, значна падарванай вайною. У 1923 годзе вучэбная фэрма надзелена была поўнасьцю с.-г. інвэнтаром, уключаючы сюды і паравую малатарню, снопавязальныя і жатвеныя машыны, рухавік, млын і інш. Адрамантаваны ўсе жалезныя дахі, адноўлена і пашырана вадаправодная сець, зроблены найбольш тэрміновы рамонт ўсіх жылых памяшканьняў і абсталяваны неабходнай абстаноўкай школьныя агульныя памяшканьні.

На палёх вучэбнай фэрмы ліквідавана супольшчына і уведзены 8-мі польны севазварот, праведзены дарогі, пачата палепшаная апрацоўка глебы і ўжываньне штучных угнаеньняў.

У 1924 годзе адчынена электрастанцыя, якая надзяляе сьветам усе вучэбныя памяшканьні і дае электра-энэргію для невялікіх матораў, устаноўленых у сядзібе. У працягу гэтага году утвораны вялікія работы па пабудове скотнага двара з шчыльнымі падлогамі і датскімі кармоўкамі.

Наркамземам перададзена Тэхнікуму стада галяндзкага скоту ў 70 галоў.

А з жніўня м-ца 1924 г. стара-барысаўскае поле пачаў першы раз узорваць амэрыканскі трактар «Фордзон».

Паралельна з гэтым ішла арганізацыя Тэхнікуму—забясьпечаньне яго падручнікамі, навучальнымі дапаможнікамі, арганізоўвалася вучэбна-дасьледчае поле.

У 1925 годзе утвораны меліарацыйныя работы па асушцы забалочаных сенажацяў вучэбнай фэрмы. Усяго асушкай абхоплена 77 гэкт., з якіх 19 гэкт. асушана трубчатым, драўляным і фашынным дрэнажам, а астатняя частка—адчыненымі канавамі з агульнай выемкай 12.000 куб. мэтр. У гэтым годзе будынак быўшых «выездных» стайняў пераатвораны у лябораторныя памяшканьні—нанава адрамантаваныя, дзе цяпер разьмешчаны: хэмічная лябараторыя (якасны і колькасны аналіз), зоотэхнічная (аналіз кармоў), земляробчая і лябараторыя па малочнай гаспадарцы (аналіз малака і масла.).

Адначасова у працягу летняга пэрыяду на вучэбнай фэрме выпаўнены грунтоўны рамонт закінутага цагельнага будынку, які прыстасаваны для племяннога сьвінарніка з бетоннай падлогай, студняю і кармоўкамі. Каля скотных двароў заложаны цагельныя ямы для сілосаў і глінабітная гнаёўня.

З вясны 1925 г. пачало функцыянаваць вучэбна-дасьледчае поле і заложаны пладовы выхавальнік на плошчы ў 3 дзес.

У 1926 годзе, калі Тэхнікум знаходзіўся ўжо ў веданьні Наркамасьветы, з будаўнічых работ можна адзначыць сканчэньне рамонту будынку лябораторыяў і пачатак аднаўленьня Галоўнага будынку—пабудовы згарэўшай у часе вайны, ад якой засталіся толькі цагельныя сьцены. Па мэліарацыйным работам у гэтым годзе закончана умацаваньне ўсіх асушальных канаў на сенажацях фэрмы. У восень 1926 г. адчынена мэтэаролёгічная станцыя і закончана арганізацыя вучэбна-дасьледчага поля. Здабыты другі трактар.

У 1927 годзе закончана аднаўленьне Галоўнага будынку, дзе разьмешчаны вучэбныя памяшканьні, адрэмантаваны інтэрнаты на 100 чал. вучняў, праведзены вадаправод у лябораторыі, на электра-станцыю, зроблены у сядзібе мост і мураваная грэбля каля возера.

У 1928 годзе пры Тэхнікуме адчынена профшкола па жывёлаводзтву і масларобству. Вучэбныя памяшканьні абсталяваны мэбляй. У лябораторыі здабыта неабходнае вучэбнае дапаможнае абсталяваньне.

У гаспадарцы—пашыраны пладовы выхавальнік да 6 дзес. і ўся плошча яго абнесена плотам, пры электрастанцыі пастаўлена цыркулярка, на гаспадарчых будынках пачата перамена старых гонтавых дахаў. Пушчаны ў ход новы невялікі маслабойны завод.

Такім чынам, крок за крокам, у працягу 5-ці год на месьце на палову зруйнаванай вайной гаспадаркі вырастаў культурны асяродак; на месьце быўшага памешчыцкага маёнтку ўтвараўся новы рассаднік с.-гаспадарчых ведаў, які з кожным годам усё больш прываблівае да сябе з розных канцоў Беларусі сялянскую і рабочую моладзь.

У даны момант Варанецкі с.-г. Тэхнікум, які мае мэтай падрыхтоўваць аграномаў сярэдняй кваліфікацыі з ухілам па жывёлаводзтву малочнай гаспадарцы, функцыянуе ў складзе 4-х курсаў і мае 105 студэнтаў і 54 вучні прафшколы.

За час свайго існаваньня у БССР Тэхнікум выпусьціў у 1926 годзе—15, у 1927 г.—11, у 1928 г.—14 аграномаў сярэдняй кваліфікацыі, якія падзяляюцца па роду заняткаў наступным парадкам:

| | |
|---|---|
| На вайсковай службе | 4 |
| Выкладчыкамі ў школах сялянскай моладзі | 5 |
| Кантроль-асыстэнтамі | 1 |
| Раённымі заотэхнікамі | 10 |
| Пам. раён. аграномаў | 7 |
| Раён. аграномамі | 1 |
| Вучацца ў ВУЗ'ах | 11 |
| Працуюць у сваіх гаспадарках | 1 |
| Усяго | 40 |

Вучэбная частка у Тэхнікуме паляпшаецца па меры штогоднага абсталяваньня лябораторыяў, здабыцьця вучэбных падсобных сродкаў і паслядоўнай арганізацыённа-мэтадычнай работы пэдагагічнага пэрсаналу.

Апошнія гады пры садзейнічаньні Наркамасьветы і пры бліжэйшым удзельнічаньні грамадзкіх арганізацыяў пачаў наладжвацца выхаваўчы бок школы.

Адмовіўшыся ад старых мэтадаў павярхоўнага выхаваньня, школа практычна шукае у гэтай труднай справе новых шляхоў, аснованых на прыцягненьні шырокай самадзейнасьці вучняў і на іх самакрытыцы.

П. С. Саўкін.

# Менская Цэнтральная Балотная Дасьледчая Станцыя.

*Кароткае падсумаваньне прац мінулага 10-гадовага пярыяда.*

Мінулы пярыяд існаваньня і прац Менскай Балотнай Дасьледчай Станцыі, як вопытнай установы БССР, зьяўляецца досыць доўгім і вельмі цяжкім. Гэты пярыяд да 1918 году супаў з цяжкімі абставінамі ваенных часоў, затым з нямецкай і польскай акупацыяй, якія выклікалі неймаверна цяжкае гаспадарчае зьнішчэньне. Аб якіх-колечы зносных умовах працы ў гэты час нечага нават было і думаць. І толькі пачынаючы з 1922 г. Балотная Дасьледчая Станцыя магла перайсьці да плянавай працы ў спакойных умовах, і з гэтага часу Станцыя пачала ўзмоцнена разьвіваць сваю працу ва ўсіх кірунках, пры энэргічным падтрыманьні і падмозе НКЗБ.

Буйныя мерапрыемствы па мэліорацыі і культуры балот, якія Урад БССР энэргічна пачынае праводзіць на землях Дзяржфонду і насельніцтва, з выдаткам буйных Дзяржаўных і мясцовых сродкаў,— патрабавалі самых уважлівых адносін усіх зацікаўленых асоб і установаў да гэтых мерапрыемств, з мэтай рацыянальнага іх правядзеньня.

Патрабавалася арганізацыя паважнага і добра падрыхтованага мэліорацыйнага і культуртэхнічнага пэрсоналу, які быў-бы знаёмы з навейшымі дасягненьнямі вопытных і дасьледчых установаў па пытаньнях мэліорацыі і культуры балот і лугоў.

Перад пачаткам с.-г. выкарыстаньня бросавых зямель, каб не ўносіць памылак і лішніх выдаткаў,—неабходна было вывучаць гэтыя балотныя землі і тарфяныя, з боку іх прыдатнасьці для сельска-гаспадарчага выкарыстаньня, фізычных уласьцівасьцяў, водна-пэзетранага і пажыўнага рэжыму. Веды рацыянальных прыёмаў асушкі і культуры балот і лугоў, прыладаў апрацоўкі тарфяных глеб і тэхнікі культываваньня на гэтых новых арганічных глебах с-г расьлін— зьяўляюцца аднымі з галоўных умоў пачатку прац па мэліорацыі і с-г. выкарыстаньню балот і лугоў.

Вывучэньне ўсіх гэтых пытаньняў дасьледаваньня балот і лугоў БССР, устанаўленьне рацыянальных прыёмаў і мэтадаў іх с-г выкарыстаньня, уваходзіла ў задачы прац Менскай Балотнай Дасьледчай Станцыі.

Менская Цэнтральная Балотная Станцыя зьяўляецца навукова-дасьледчай і вопытнай установай і працуе ў галіне апрацоўкі навуковымі мэтадамі практычных пытаньняў культуры балот і лугоў і абслугоўваньне з гэтай мэтай сельска-гаспадарчага насельніцтва БССР.

Да цяперашняга часу Балотная Дасьледчая Станцыя прадстаўляе з сябе буйную Усебеларускага значэньня Дасьледчую установу з задачай кіраваньня вопытнай справай па культуры балот БССР. У яе склад

уваходзяць дапаможныя навуковыя ўстановы—лябараторыя, вэгэтацыйны павільён з лізімэтрычным аддзяленьнем, батанічны габінэт, мэтэаралёгічная Станцыя на балоце і суседнім сухадоле, музэй, бібліятэка і тры дасьледчых полі на розных найбольш характэрных для Беларусі тыпах балот.

Апроч таго, Балотная Дасьледчая Станцыя вядзе навуковае кіраўніцтва над усімі апорнымі пунктамі, дасьледчымі гаспадаркамі і ўдзельнічае у працах па культуры балот арганізаваных НКЗБ.

У выніку сваёй цяжкай і складанай працы да цяперашняга часу Балотнай Дасьледчай Станцыяй отрыман вельмі каштоўны матар'ял для пазнаньня прыроды балот БССР і іх с-г вартасьці і ўстаноўлены рацыянальныя шляхі і прыёмы с-г выкарыстаньня збытна абвільготненых зямель—балот і тарфянікоў з ператварэньнем гэтых гаспадарча-безкарысных зямель у новы тып арганічных глеб, вельмі каштоўных як у адносінах лёгкасьці апрацоўкі, так і пладароднасьці.

Асноўныя палажэньні па гэтаму пытаньню прыводзім наступныя.

Тарфяныя балоты сваім пахаджэньнем абавязаны няспрыяючым злучэньням элемэнтаў клімату: збыткавай вільготнасьці і недахвату цяплыні. Яны выяўляюць вялізарны ўплыў на клімат атачаючых раёнаў і санітарнае іх становішча.

Пагода балотных раёнаў адзначаецца большаю суровасьцю, збыткавай вільготнасьцю і паніжанай тэмпэратурай, больш частымі ў летні час замаразкамі і туманамі па параўнаньні з сухадоламі таго самога суседняга раёну.

Тарфяныя балоты высокія, дзе мае перавагу мох—сфагнум, маюць здольнасьць хутка расьці ня толькі ўшыр, распаўзацца далёка за свае граніцы, але гэтыя балоты растуць і ў вышыню да 2—3 см. у год.

Тарфяныя глебы вытвараюцца з тарфянікоў шляхам прыстасаваньня да апошніх мэліорацыйных і культуртэхнічных мерапрыемств.

Уласьцівасьці тарфяных глеб тыя, што гэтыя глебы, у супраціўнасьць мінэральным, розьняцца багацьцем арганічнай матэрыі да 87—95 проц. і наадварот—зьмяшчаюць вельмі мала мінэральнай залістай матэрыі—ад 5—13 проц.—рэдка больш. Гэтае багацьце арганічнай матэрыяй вызначае ў тарфяных глебах і асабістыя іх фізычныя ўласьцівасьці: вельмі нявысокую ўдзельную і аб'ёмную вагу, высокую влагаёмістасьць, слабую вадапрапушчальнасьць.

Тарфяныя глебы, у параўнаньні з мінэральнымі, прамярзаюць на меншую глыбіню, а мёрзлыя адтайваюць вясною больш марудна; адмярзаньне тарфянай глебы, у параўнаньні з мінэральнай, на многа позьніцца. Гэта тлумачыцца дрэннай праводнасьцю цяплыні тарфяной глебай. Па гэтай-жа прычыне—малай праводнасьці цяплыні тарфянымі глебамі, нярэдка наглядаюцца выпадкі зьяўленьня замаразкаў на балоце і ў летні час.

Тарфяныя балоты пад уплывам асушкі і культуры асядаюць, і гэтае асяданьне адбываецца больш усяго ў першыя годы асушкі і, галоўным чынам, з паверхні.

У сувязі з асушкай і даўнасьцю культуры, тарфяныя глебы здабываюць больш спрыяючыя фізычныя ўласьцівасьці, павялічваецца зольнасьць, а ў сувязі з гэтым павялічваецца і ўдзельная вага, памяншаецца влагаёмістасьць, дзірчастасьць і іншыя ўласьцівасьці зьмяняюцца ў бок спрыяючых граніц, якія робяць з іх мінэральныя глебы ня толькі роўнацэннымі добрым мінэральным глебам, але і перавышаючымі іх па прыдатнасьці, асабліва для лугавых і кармавых расьлін.

Дзеля гэтага задача палявога земляробства і лугаводзтва на тарфяных глебах складаецца з таго, каб выклікаць у глебе гэтыя зьмены і ператварыць балота ў каштоўнае с-г поле, якое давала-б ўстойлівыя адносна да надвор'я і высокія ураджаі.

З пажыўных матэрый у тарфяных глебах у першым мінімуме— калій, а затым фосфарная кіслота. Гэтыя элемэнты неабходна ўносіць у тарфяную глебу пры культуры ў выглядзе мінэральных угнаеньняў. Гнойнае ўгнаеньне для тарфяных глеб не патрабуецца.

Выкарыстаньне запасаў прыроднага багацьця ў тарфянай глебе, галоўным чынам азоту, дасягаецца рацыянальнай асушкай і апрацоўкай гэтых глеб. Гэтыя культуртэхнічныя прыёмы цалкам зьмяняюць умовы біотэхнічных працэсаў і ператварэньняў, якія вытвараюцца ў тарфянай глебе, дзякуючы прабуджэньню ў ёй шырокай дзеяльнасьці мікраарганізмаў.

Агульная колькасьць азоту, які прыўлашчаецца расьлінамі—Нітратаў у культурнай тарфянай глебе—даходзіць да вельмі вялікіх разьмераў.

Для с-г выкарыстаньня ў першую чаргу прыдатны ўсе балоты, так. зв. траўныя і лясныя, торф якіх вытварыўся з расьлін больш багатых залістымі матэрыямі.

Гэтыя тарфянікі большаю часткаю маюць добрую ступень разлажэньня торфу, лягчэй вытвараюць перагной і валадаюць найбольш спрыяючымі фізычнымі ўласьцівасьцямі.

Для с-г выкарыстаньня мохавыя сфагнавыя балоты могуць быць прыдатны толькі праз некалькі год пасьля іх асушкі, калі торф асядзе і зьменіцца ў больш цёмную зямлістую масу.

Рацыянальная норма асушэньня тарфяных балот дасягаецца: для земляробства палявога—канавы глыбінёй 0,70 да 1,0 мт., адлегласьць між імі 40—60 мт. Для лугаводзтва канавы гэткай самай глыбіны разьмяшчаюцца ў адлегласьці між сабой 60—80 мт. і нават больш.

Лепшы спосаб асушкі тарфяных балот—закрыты дрэнаж. Дрэнаж на тарфяных глебах, апроч трубчатага, можа ўжывацца—жэрдзяны і фашынны.

На дынаміку грунтовых вод, апроч канаў, мае ўплыў у большай ступені выпараваньне расьлінамі і глебаю вільготнасьці, якое бывае натолькі вялікае ў летні час, што перавышае колькасьць ападкаў, якія выпадаюць у гэты час і таму зьяўляецца натуральным фактарам асушэньня. Гэта парушае ў корані чаканую згоду з законам у залежнасьці ад роўня грунтовай вады, ад канаў, і дзеля гэтага сець, якая рэгулюе канавы, можна рабіць ня так глыбокую, але часьцейшую між сабою гусьцейшую.

На тарфяных балотах асушальныя канавы дапушчаецца праводзіць з больш крутымі адкосамі, ад амаль што праставесных для махавых балот з торфм, які яшчэ не разлажыўся, да трохчвэрткавага (1:¾) ня болей для нізінных тарфянікоў і культурных тарфяных глеб.

Асушка тарфяных балот зьмяняе ў корані іх расьлінную шату, і чымся інтэнсыўней асушка, тым шыбчэй ідзе зьмена расьліннасьці ў бок гаспадарчага палепшаньня.

Грунтоўная апрацоўка тарфянога балота вытвараецца спэцыяльнымі плугамі з доўгімі вінтавымі адваламі і іншымі прыладамі, з крышучымі і рвучымі глебу часткамі.

Пры палявой культуры штогодную чарговую запашку тарфянай глебы, як правіла, трэба праводзіць не часьцей аднаго разу ў год.

Пасеў расьлін вытвараецца агульнапрынятым способам. Мае пераваrу пасеў радавы, з больш глыбокім ураблeньнем насеньня, чымся гэта прынята для мінэральных глеб. Першай расьлінай па пласту, пры пачатку культуры тарфяных балот,—высяваецца авёс. На наступны, другі год,—вікааўсяная мяшанка. Наступнай расьлінай ідзе жыта, ці ізноў авёс. Гэтай расьлінай і распачынаецца прынятый той ці іншы ў гаспадарцы севазварот, альбо вытвараецца залужэньне пад шматгадовы луг.



Уборка тарфянага балота.

Угнаеньні на тарфяных глебах ужываюцца:—каліфасфатныя і, як правіла, штогодна пад кожную расьліну. З калійных угнаеньняў ужываецца калійная соль. З фосфорна-кіслых—лепшым зьяўляецца тамасшлак і затым суперфасфат. У якасьці фосфарна-кіслых угнаеньняў, зусім падыходзіць фасфарытная мука.

Попел на тарфяных глебах можа замяніць падвойнае каліфасфатнае ўгнаеньне, пры ўнясеньні яго ў глебу да 1,5 тон нармальнага зьмяшчэньня $K_2O$—6 проц. і $P_2O_5$—3 проц. Гэтай нормы, як мінімуму, трэба прытрымлівацца пры ўнясеньні і іншых каліфасфатных угнаеньняў.

Вапны ў культурныя тарфяныя глебы ня трэба ўносіць, бо яна істотна ніякай карысьці ня прыносіць дзеля таго, што сама глеба мае яе ў дастатковай колькасьці.

Гной на тарфяных глебах ня можа зьвяртаць на сябе ўвагі таму што, апроч высокай каштоўнасьці пры ўнясеньні яго ў глебу, ён выклікае падаўжэньне вэгэтацыйнага пэрыяду зернявых расьлін, вельмі чаcтае і моцнае іх паляганьне, асабліва ў час дажджоў і, апроч таго, дужа дапамагае да засьмечаньня палёў пустазельлем.

Севазварот на тарфяных глебах неабходна ўжываць травапладазьменны, каб ухіліцца ад распыленьня глебы і пустазельля.

Разумнае чаргаваньне ў часе пасеваў і, галоўным чынам, культура лугавых траў, зьяўляюцца найбольш надзейнымі і гаспадарча-карыснымі способамі барацьбы з пустазельлем, пры ўтварэньні спрыяючых фізычных уласьцівасьцяў і страеньня распыленай частай апрацоўкай тарфянай глебы.

Вэгетацыйны пэрыяд расьлін на тарфянай глебе падоўжваецца у параўнаньні з мінэральнымі. Асабліва выразна гэта відаць у сырыя

па надвор'ю годы; зернявыя расьліны: авёс, жыта, ячмень у дасьпяваньні позьняцца на 10—16 дзён.

Суадносіны зярна ў агульнай масе ўраджаю на тарфянай глебе таксама іншыя. Вэгэтацыйных частак—саломы і мякіны адносна да ураджаю зярна шмат больш, чымся на мінэральных глебах.

З сельска-гаспадарчых расьлін на тарфяных глебах, ва ўмовах чорнай культуры, з посьпехам і карысьцю культывавацца могуць усе расьліны, якія растуць на мінэральных глебах таго-ж самага раёну. З гэтых расьлін найбольш рэнтабельнымі зьяўляюцца шматгадовыя лугавыя травы: ячмень, авёс, жыта, караньплоды, аднагадовыя матыльковыя, лён, канапля, і гародныя: капуста, бульба, і сталовыя караньплоды.

Ураджай с-г расьлін на тарфянам балоце залежыць ад ступені культурнасьці тарфянай глебы: сярэдняе—жыта 17 цэнт., авёс—18 цэнт., ячмень—18 цэнт., бульбы—160 цэнт., капусты—300 цэнт., караньплодаў—400 цэнт., травы—60 цэнт.

У першы год культуры балота і без угнаеньня атрымліваецца вельмі ня высокі ўраджай аўса да 5—6 квім. з гэктара. Каліфасфатнае ўгнаеньне падвышае ўраджай зярна на 150 проц. На другі год культуры балот, ураджай падвышаецца на 50 проц., на трэці год—на 75 проц., на чацьвёрты год на 120 проц., і, нарэшце, культурная тарфяная глеба, за 5—10 год культуры, дае падвышэньне ўраджаю аўса, у параўнаньні з першым годам культуры, на 160 проц.



Культура аўса на тарфяным балоце.

З спосабаў залужэньня асушаных тарфяных балот, па колькасьці ўраджаяў сена і па даходнасьці, лепшым зьяўляецца грунтоўнае залужэньне праз двухгадовую папярэднюю культуру.

Калі добра разложыцца торф на натуральных асушаных балотах магчыма рэнтабельнае залужэньне па пласту з пакроўным аўсом і

нават павярхоўным спосабам праз стараннае баранаваньне з падсевам траў і угнаеньне.

Адно баранаваньне натуральнага балотнага луга зусім не рэнтабельна, таму што, ні па колькасьці, ні па якасьці травастою, луг палепшаны толькі адным баранаваньнем не адрозьніваецца ад непалепшанага нічым балота.

Спосабы пасеву траў пры залужэньні магчымы, як з пакроўным азімым і яравым, нават на насеньне, так і без пакрову. Ва ўсіх выпадках вынікі отрымліваюцца добрыя і мала адрозьніваюцца між сабой.

Прыкатваньне лугоў на культурных тарфяных глебах, якое раіцца ў практыцы лугавой культуры тарфяных балот, па досьледах на Менскай Балотнай Дасьледчай Станцыі, не дае відавочных пэўных вынікаў, так роўна і на ўстанаўленьне адмоўных дзеяньняў на лугох прыкатваньня.

Пустазельле на тарфяных глебах вельмі распаўсюджана. Разьвіцьцё сарнякоў назіраецца ўжо на другі год культуры зернавых расьлін, і да 5-га году культуры расьлін засьмечаннасьць можа дайсьці да 70 проц., і звыш. Найбольш церпіць ад засьмечанасьці лён, затым у парадку паніжэньня—азімая пшаніца, авёс, ячмень, жыта і, нарэшце, віка.

Засьмечанасьць штучных лугоў самая нязначная, ня звыш 5 проц.

Найлепшай мерай барацьбы з пустазельлем, пры палявой культуры балот, трэба прызнаць метазгоднае чаргаваньне расьлін па гадох з абавязковым увядзеньнем у севазварот прапашных расьлін і лугавых шматгадовых траў.

Культура тарфяных балот толькі ў першыя два годы, дзеля вялікіх выдаткаў на мэліорацыю, дае страту. З трэцьцяга году культуры балот пакрываюцца ўсе затраты на грунтоўную мэліорацыю і культуру расьлін і можа быць яшчэ нават атрыманы чысты прыбытак.

Самай рэнтабельнай культурай на тарфянай глебе зьяўляюцца лугавыя травы, затым капуста і караньплоды і нават зернявыя расьліны.

Уплыў асушкі забалочанага лесу таксама сказваецца на палепшаньні росту лясных парод.



Драздоў і Трапашка.

# Турская с.-г. дасьледчая станцыя к 10-годзьдзю існаваньня савецкай Беларусі.

Кастрычнікавая рэвалюцыя паўднёва-ўсходняй часцы Беларусі (Бабруйшчына, Магілеўшчына і Гомельшчына) дала Турскую С. Г. Дасьледчую Станцыю. Апошняя заснавана на падставе пастановы зьезду дасьледчыкаў заходняй вобласьці, які адбыўся ўвосень 1921 г. ў Горках, Гомельскім Губзу ў 1922 годзе; такім чынам існаваньне Станцыі і яе праца налічваюць ужо шэсьць гадоў.

На працягу гэтых мінулых шасьці гадоў Станцыя аддавала галоўную сваю ўвагу арганізацыйнай працы, а першыя тры гады былі аддадзены ёй выключна. Гэта была неабходна дзякуючы таму, што абабраны для арганізацыі і мейсцазнаходжаньня Станцый былы абшарніцкі маёнтак Турск падыходзіў дзеля гэтага толькі з прыродна-гістарычнага боку, адбіваючы даволі ўдала сярэднія прыродныя умовы паўднёва-ўсходняй часткі Беларусі.

Унутранае абсталяваньне яго, апрача таго, што зусім не адпавядала мэтам нарадзіўшайся новай установы, было старым, напалавіну раскіданым, а напалавіну чакаўшым з месяцу на месяц канчыны свайго існаваньня як будыніны іператворэныя ў груды развалін і гнільля, аналёгічна таму, якператварыўся волею працоўных стары палітычны лад у груду развалін і мінулага гістарычнага гнільля.

Такое становішча быўшага маёнтку прымушае Станцыю і па гэты час займацца будаўніцтвам і абсталяваньнем, неабходным для вядзеньня больш менш нармальнай дасьледчай працы.

Такім чынам дасьледчая праца ў першыя 3—4 гады існаваньня Станцыі была зусім амаль што не прыметна, яна тапілася ў арганізацыйнай і будаўнічай працы і к таму-ж матарыяльныя ўмовы для яе разьвіцьця былі зусім нікчэмнымі, бо яны поўнасьцю залежалі ад гаспадарчых магчымасьцяў, і ня мела ні капейкі дапамогі з боку дзяржбюджэту. Толькі апошнія тры гады пачала разьвівацца хуткім тэмпам дасьледчая праца.

З моманту заснаваньня Станцыі да 1927 году распачата была і вялася праца, як арганізацыйнага, так і тэхнічнага зьместу, толькі па дасьледчаму паляводзтву. У 1927 годзе быў адчынен другі аддзел Станцыі—аддзел лугаводзтва і лугавога насенаводзтва, які мае раёнам свайго абслугоўваньня тэрыторыю далёка выходзячую за межы паўднёвага ўсходу Беларусі, г. з. раёну дзейнасьці аддзелу паляводзтва н-Станцыі.

За кароткае, усяго 2-х гадовае, існаваньне, аддзелам лугаводзтва і лугавога насеньняводзтва к дню сьвяткаваньня 10 гадавіны Савецкай

Беларусі выканана і распачата для выкананьня наступная праца па лугазнаўству, лугаводзтву і лугавому насеньняводзтву:

*А. Па лугазнаўству на пойме.*

1. Выканана геоботанічнае дасьледваньне Турскага вучастку Дняпроўскай поймы плошчаю каля 500 гэкт. Праца па гэтаму дасьледаваньню рыхтуецца да друку.

2. Распачата праца па стацыянарнаму геабатанічнаму дасьледваньню асобных пытаньняў лугазнаўства на асноўных расьлінных згуртаваньнях Дняпроўскай поймы, куды уваходзіць вывучэньне наступных пытаньняў:

а) Дынамікі прыроднага травастою.

б) Складаньне фенолёгічных спектараў.

в) Вывучэньне падэкаднага прыросту ў асноўн. расьлін. згуртаваньнях.

г) Сувязь між расьліннымі згуртаваньнямі, аллювіальным харчаваньнем і ўзроўнем грунтовых вод.

3. Разгорнутая дасьледчая праца па павярховаму палепшаньню асобных зон Дняпроўскай поймы паказала:

а) Што прыруславая зона яе надзвычайна рэагуе на азот, павышаючы ураджай прыблізна ў 2 разы, ў той час як цэнтральная зона рэагуе на яго слаба.

б) Што калі (K) і фосфар (P), ужытыя па аднаму на некаторых расьлінных згуртаваньнях прыруславай і цэнтральнай зон, ніякага уплыву у бок падвышэньня ураджаю гэтых ассоцыацый ня робяць і толькі сумеснае іх ужываньне дае ў некаторых выпадках рэзка вызначаную прыбаўку.

в) Што залужэньне ў прыруславай зоне Дняпроўскай поймы магчыма толькі на падставе караной запраўкі яе лёгкіх аллювіяльных глеб, у той час як для цэнтральнай зоны яно магчыма без дадатковага ўнясеньня таго ці іншага угнаеньня. Пры гэтым найлепшымі відамі траў для мэт залужэньня зьяўляюцца наступныя: а) для прыруславай зоны—касьцёр бязвусы (Bromus inermis), цімафейка (Phleum pratense) аўсяніца лугавая (Festuca pratensis), аўсяніца чырвоная (Festuca rubra) канюшына швэцкая (Trifolium hybridum), а для месц прыруславай зоны, якія не заліваюцца—ячшэ канюшына чырвоная і яжа зборная; б) для цэнтральнай зоны: Alopecurus pratensis (лісахвост лугавы), мятлік балотны (Poa palustris), бэкманія (Beckmania erucifor), цімафейка лугавая (Phleum pratense), канюшына швэцкая (Trifolium hybridum); в) для паніжаных месц цэнтральнай зоны:—Beckmania ermiformis (бэкманія), Phalaris arundinocea (канарэячнік), Poa palustris (мятлік балотны), Vicea cracca (мышыны гарошак).

4. Адчынен вадамерны пост на рацэ Дняпру і арганізаваны гідраметрычныя нагляданьні па усяму створу рэчной даліны між каранными бярагамі яе.

*Б. Па лугаводзтву на сухадолах.*

5. Досьледамі па экстэнсіўнаму палепшаньню сухадолаў устаноўлены наступныя палажэньні.

а) Баранаваньне сухадолаў нармальнага і нізіннага тыпаў баронамі як нажоўкамі, так і мох-зьдзірацелямі у год вытварэньня гэтай апэрацыі зьніжае ураджайнасьць травы на 5, а ў некаторых выпадках да 10 проц.; на другі год ураджай выраўніваецца і нават трохі перавышае кантрольны.

б) Павярховае залужэньне без унесеных мінеральных угнаеньняў, нават пры інтэнсіўным баранаваньні вядзе толькі к дарэмным стратам. Насеньне культуры лугавых траў у цьвярдым неугноеным субстраце дзярна сухадолу у большасьці гіне зараз жа пасьля прарастаньня.

в) Залужэньне па угноенаму калі-фосфарнаму фону дае здавальняючыя тэхнічныя вынікі, але яно не заўсёды рэнціруецца эканамічна, а заўсёды ўступае, па эканамічнай рэнтацыі залужэньню пры каранным палепшаньні.

г) На нармальных сухадолах з спажыўчых матэрый у першым мінімуме знаходзіцца азот, затым калі; фосфар амаль не дае прыбаўкі ураджаю. Што датычыцца кальцыя, дык ён пакуль што, амаль што, ня выявіў сябе да гэтага часу.

д) Попел, будучы унесены у колькасьці 1,5—2 тоны на гэктар, дае большае павышэньне ураджаю, чым адзін калі, але меншае чым калі з фосфарам разам у колькасьцях першага 80 кгр., а другога 60 кгр. на гэктар.

е) Без больш-менш належнай арганізацыі воднага рэжыму на сухадолах усе мэтады павярховага паляпшэньня іх не даюць жаданых вынікаў, а ў некаторых выпадках зусім ня робяць ніякага уплыву.

6. Досьледы па каранному палепшаньню сухадолаў паказалі што:

а) Залужэньне сухадолаў магчыма і без папярэдняй палявой культуры пры умове добрага ворыва ў восень і дасканалага рондаляваньня вясной пластоў дзярна гэтага ворыва. Пры гэтым угнаеньне павінна быць унесена ў нармальнай колькасьці. Лепей усё-ж такі рабіць яго пасьля адно-двухгодняй папярэдняй культуры.

б) Пакраўная культура пры залужэньні сухадолаў, асабліва сухадолаў бедных арганічнай матэрыяй, значна паніжае ураджайнасьць сена на працягу першых далейшых гадоў карыстаньня гэтай штучнаю сенажацьцю.

в) Найлепшымі травянымі мешанкамі для залужэньня нармальных і нізінных сухадолаў будуць такія, якія маюць у сваім складзе 20 проц. бабовых, 30 проц., нізовых злакаў і 50 проц. вярховых злакаў.

7. Намі закладзены досьледы па пытаньнях тэхнікі стварэньня штучнай пашы для жывёлы на сухадолах, вынікаў па якіх мы яшчэ ня маем.

8. Арганізован батанічны выхавальнік, які к сённяшняму дню налічвае 480 дзялянак, і ў якім з аднаго боку вывучаецца, і найлепшыадбіраецца, матар'ял па злакам і бабовым з нашай прыроднай лугавой флоры, а з другога боку вывучаюцца некаторыя пытаньні тэхнікі лугавога насеньняводзтва.

9. Арганізуецца матачны выхавальнік насеньня лугавых траў (Размножнік 1 рэпрадукцыі) на плошчы 24 гэкт. З якіх 3,8 гэкт. засеяны летась і такая-ж плошча будзе засеяна вясной 1929 году. Агульная плошча пры 6-ці палёвым севазвароце пад пасевамі лугавых траў у матычным выхавальніку будзе—16 гэкт. пры поўным яго разьвіцьці. Відамі траў, які множацца ў размножніку 1-ай рэпрадукцыі зьяўляюцца наступныя: 1) аўсяніца лугавая (Festuca pratensis), 2) яжа зборная (Dactysis glomerata), 3) цімафейка лугавая (Phleum pratense), 4) лісахвост лугавы (Alopecurus pratensis), 5) мятлік лугавы (Poa pratensis), 6) паляўіца белая (Agrostis alba), 7) канюшына швэцкая (Trifolium hybridum), 8) канюшына белая (Trifolium repeus), 9) лядвенец балотны (Zofus uliginosus), 10) канарэечнік (Phalaris orundinocia).

10. Арганізуецца з вясны 1928 г. размножнік насенных лугавых траў 2 рэпрадукцыі на плошчы 240 гэкт. Размножнік будзе мець наступны

6-ці палёвы севазварот: 1) асыпныя культуры, 2) травы, 3) травы, 4) травы, 5) травы, 6) жыта. Як відаць з севазвароту, кожны год пад 2 рэпрадукцыю насеньня лугавых траў засяваецца 40 гэкт. Пры поўным разьвіцьці севазвароту пад насеннымі лугавымі культурамі будзе 160 гэкт. з якіх са 120 гэкт. мы будзем здымаць ураджай кожны год;



Шырокарадковы пасеў „Лісахвосту лугавога“.

а 40 гэкт. ёсьць плошча засяваемая кожны год, якая, як вядома, ураджаю у год засеву не дае. Віды траў у Размножн. 2 рэпрадукцыі зьяўляюцца тымі-ж што і з размножн. 1 рэпрадукцыі. Размножнікі 1 і 2 рэпрадукцыі насеньня лугавых траў нашай Станцыі павінны даваць насенны матар'ял лугавых траў для ўсей беларускай 3 рэпр., якая непасрэдна павінна абслугоўваць культур-тэхнічныя патрэбы у справе залужэньня беларускіх балот і лугоў.

11. У 1927 годзе намі у гаспадарчым севазвароце занята пад насенныя лугавыя культуры плошча ў 22 гэкт. Зьняты сёлета ўраджай паказаў, што ураджайнасьць асобных відаў траў хістаецца ад 1,5 да 3 дв. цэнт. на гэктар. Пры існуючых у сучасны момант цэнах на насеньне лугавых траў мы атрымліваем 300—400 руб. валавога прыбытку з 1 гэктара.

Пры вылічэньні выдаткаў, якія неабходны для вядзеньня гэтай культуры і якія складаюцца з агульных агранамічных выдаткаў плюс 2—3-х кратная полка, што складае суму 150—200 руб., нам астаецца як чыстага прыбытку з плошчы ў 1 гэкт. кожны год ня менш 150 руб. Гэтыя арыентыроварныя лічбы паказваюць наколькі выгадным зьяўляецца займацца насеннаю культураю лугавых траў у нашых умовах.

12. Закладзены намі досьледы па тэхніцы лугавога насеньняводзтва на тэмы:

а) Тэрміны пасеву лугавых траў на насеньне.

б) Шырыня міжрадзьдзя пры пасеве лугавых траў на насеньне.

в) Уплыў пакраўной расьліны.

г) Гушчын высеву.

паказалі, што найлепшым тэрмінам пасеву зьяўляецца другая палавіна траўня м-ца і ўвесь чэрвень м-ц. Пасевы ліпеня м-ца зьяўляюцца ўжо слабейшымі за чэрвеньскія, а пасевы жніўня зусім слабымі. Найлепшаю шырынёю міжрадзьзя пры коннай апрацоўкі іх зьяўляецца 44—50 сант., а пры ручной—35—40 сант. Уплыў пакроўнай расьліны заўсёды зьяўляецца адмоўным на насенную прадукцыю лугавых траў. Гушчыня высеву мае таксама сваё, хоць і ня рэзка выражаньнае, значэньне і уплыў на ўраджай насеньня лугавых траў.

Аддзел паляводзтва пачаў сваю працу амаль што спачатку існаваньня Станцыі. Але разгорнуў ён яе і паставіў у належныя умовы для далейшага разьвіцьця толькі з 1926 году, калі Станцыі ўпяршыню была дадзена дапамога з боку дзяржбюджэту і з боку банкаўскага крэдыту. К 10-цігодзьдзю Савецкай Беларусі мы ўжо маем тэрыторыю занятую пад палявымі досьледамі ў 55 гэкт., агрохімічную лябораторыю, вэгетацыйную хатку, музэй, насенную і палявую лябораторыю.

Праграма працы аддзелу паляводзтва к бягучаму моманту разгорнута ў наступным аб'ёме.

1) Досьледы па вывучэньню папараў у 2-х севазваротах 3-х і 4-х польным.

2) Досьледы па вывучэньню караной запраўкі глеб гноем, лубінам, торфам разам з вапнаваньнем, фасфарытваньнем у шасьціпольным севазвароце.

3) Фосфарна-каліевы ўгнаеньні пад жыта і канюшыну—у шасьціпольным севазвароце, а таксама вывучэньне уплыву мінэральных угнаеньняў па схэмах Н. І. У.

4) Пажніўныя, падсяўныя ў шчыльненным 4-х польным севазвароце.

5) Розныя колькасьці гною пад бульбу, ячмень для утварэньня запраўкі пяшчаных глеб, на якіх бы добра разьвівалася канюшына (5-ці польны севазварот).

6) Параўнаньне 2-х сяміпольных севазваротаў з падсевам канюшыны ў жыта і ў авёс і скарыстаньне травянога пласту жытам і аўсом.

7) Пакрыўныя і гушчыня канюшыны і мешанкі траў.

8) Уплыў выпасу насеннай канюшыны на рост яе ў 2-м годзе.

9) Паўднёвыя і новыя культуры на малых дзялянках (кіяхі, суданка, сорга, доннік).

10) Спосабы і гушчыня пасадкі бульбы.

11) Тэрміны, гушчыня і спосабы пасеваў—лубіну, грэчкі і жыта.

12) Выпрабаваньне гатункаў пшаніцы, бульбы, аўсу, ячменю, канюшыны, лубіну, караныплодаў.

13) Хэмічная лябораторыя: вывучэньне вільготнасьці глеб, пажыўных матэрый і вэгетацыйных досьледаў.

14) Мэтэоролёгічная Станцыя, акрамя назіраньняў за элементамі пагоды, вядзе фенолёгічныя назіраньні над с. г. расьлінамі раёну.

Праца па вывучэньню азначаных пытаньняў вядзецца мэтадамі—палявымі, лябараторным і вегетацыйным.

Вывады Станцыі па паляводзтву ў агульных рысах могуць быць выражаны наступнымі палажэньнямі:

1. Чыстыя раньнія і звычайна пастбішчныя сялянскія папары зьяўляюцца для паўднёвага усходу Беларусі, з яе пераважна пяшчанымі і супяшчанымі глебамі, надта стратнымі; у той час як занятыя папары—канюшынны, віка-аўсяны, пялюшка-аўсяны, бульбяны, грэчкавы (на

насеньне)—даюць магчымасьць атрымаць 2 ураджаі, пры гэтым ураджай жыта амаль што такі самы як і пры першых папарах.

Ураджай жыта па занятаму лубінаваму папару ня ніжэй чым па угноенаму гноем папару. Вось гэта таблічка ўраджайнасьці за 4 гады падкрэсьлівае зробленыя вывады.

| | Лубін бяз гною | Раньні чысты папар 2400 п. гною | Сялянскі папар 2400 пуд. гною | Канюшыны 2400 пуд. гною | Вікавы 2400 пуд. гною | Бульбяны 2400 п. гною | Грэчкавы 2400 п. гною |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Ураджай жыта | 15.5 кв. | 16.2 кв. | 15.4 кв. | 16.0 кв. | 14.1 кв. | 16.3 кв. | 16.4 кв. |

2. Двухгадовыя даныя па тарфаваньню і 4-х гадовыя па вапнаваньню даюць магчымасьць зрабіць наступныя вывады:

а) Торф добра прагніўшы, праветраны павышае ураджай жыта і ужываньне яго зьяўляецца рэнтабэльным.

б) Крэйда і вапна на жыце і асабліва на канюшыне даюць прыбаўку ураджаю ў 1-ы і 2-гі год і поўнасьцю рэнціруюцца.

3. Фасфарытная мука ў умовах супяшчаных слаба падзолістых глеб станоўча уплывае на ураджай жыта і канюшыны.

Калійная соль заметна павысіла ураджай канюшыны. Вось лічбы: Прыбаўка ураджаю канюшыны падсеянай пад жыта у квінталах на гэктар.

| | | |
|---|---|---|
| Па вапне | . | 19.7 кв. |
| Па торфу | . | 28.3 „ |
| Па фосфарнай муцэ | . | 18 „ |

Устанаўліваецца, што ў першым мінімуме ў глебах раёну дзейнасьці нашай Станцыі знаходзіцца азот і фосфар, а ў другім калі.



Досьледы з мінэральнымі ўгнаеньнямі.

4. Пажніўны лубін не заўсёды зьяўляецца рэнтабельным пры дарагавізьне на насеньне яго і пры не спрыяючых кліматычных умовах раёну (позднія вясеньнія і раньнія асеньнія замаразкі).

Падсеўны лубін лепей рэнціруецца чым пажніўны, але значна зьніжае ураджайнасьць жыта пры густым радковым пасеве апошняй. На падставе гэтага Станцыя ўстрымліваецца раіць шырока ужываць і падсеўную культуру як і пажніўную, пакуль ня будуць знойдзены новыя спосабы культуры жыта з падсевам пад яго лубіну, якія-б не вялі к зьніжэньню ураджаю асноўнай культуры—жыта.

Сэрадэля зьяўляецца надзейнаю харчоваю і сэдарацыйнаю культураю ў раёне паўднёвага усходу Беларусі.

| | Ад сэрадэлі заворан. 38.3 п. сух. масы | Лубіну падсяўнога 29.0 п. масы | Лубіну пажніўн. завор. 9.9 п. масы |
|---|---|---|---|
| Прыбаўка ўраджаю бульбы . | + 51.0 | + 44.5 | + 22.5 |

Ураджай па кантрольнай дзелянке 130.4 кв. бульбы на гектар.

5. Малые нормы гною (600—800—1200 пуд. на дзес.) аплачваюцца прыбаўкаю ураджаю вышэй чым вялікія (у 2400—3600 п.) але агульны эканамічны эфэкт усё-ж такі больш пры вялікіх нормах чым пры малых. Культура канюшыны на пяшчаных глебах магчыма толькі пры папярэдняй добрай запраўцы арганічнай масай іх. Пры гэтым агульны эканамічны эфэкт на адзінку плошчы вышэй пры запраўцы яе большымі колькасьцямі гною (2400—3600 п.) чым малымі.

Пакраўныя канюшыны (жыта, авёс, ячмень і пшаніца) ня маюць рашаючага значэньня на ураджай яе. Колькасьць высеву канюшыны пры добрай якасьці насеньня яе павінна быць больш 16 кгр. на гэктар, але пры дарагавізьне насеньня і на добрых глебах можна карыстацца бяз рыску і 12—14 кгр. колькасьцямі высеву на гэктар.

Па 9-му пытаньню праграмы неабходна адзначыць, што новыя паўднёвыя культуры: кіякі, кукуруза, сорга, суданка, доньнік і сланечнік у нашых умовах заслугоўваюць вялікай увагі для вывучэньня іх.

Па даным Станцыі кіякі з посьпехам могуць культываваться асабліва як папар—займаючая расьліна на зялёную і сіласованую харч для жывёлы. Ураджай да квіценьня у такі год як 1928 з вялікаю вільгацьцю і адносна халодны дае ня менш 50 дв. цэнт., а ў лепшыя гады ў два разы больш.

Сланечнік для сіласованай харчы ў нашых умовах па даным аднаго году, пры тым году няўдалага для яго культуры, поўнасьцю заслугоўвае таго, каб яго разьвіваць.

Пасьпяваньне кіякаў і сланечніку магчыма, але далёка ня кожны год.

Па 10-му пытаньню праграмы—культура бульбы на нізкіх падзолістых балоцістых мейсцах у сырые гады абсалютна немагчыма дзякуючы вымачкам. У больш сухія гады яна магчыма, але толькі пры грэбневай пасадцы яе.

На слаба падзолістых пяшчаных і супяшчаных глебах пасеў бульбы павінен выконвацца пад плуг, альбо пад рыдлёўку, без стварэньня грэбняў.

Плошчы харчаваньня бульбы устанаўліваюцца наступныя:

| | | |
|---|---|---|
| а) | Пры запраўцы глебы гноем 1200 пуд. . . . . . . . . | 12×10 вярш. |
| б) | „ „ глебы большымі калькасьцямі гною (2400 п.) . | 12×12 „ |
| в) | „ „ глебы гноем пад папяр. культур . . . . . | 12× 8 „ |

11. Найлепшымі гатункамі палявых культур для паўднёвага усходу Беларусі зьяўляюцца наступныя: жыта—пэткускае, авёс—пэткускі, бульба—позьні завадзкі Вольтман, сталовы позьні, сілезія, сталовы раньні і Эпікур.

12. Суданка на добра запраўленых пяшчаных і супяшчаных глебах разьвіваецца здавальняюча і дае ў сярэднім 40—50 дв. цэнт. сена на гэктар. 1928 год для яе разьвіцьця быў мусіць не здавальняючым—не хапіла ёй цепла—і яна сьнізіла свой ураджай напалавіну супроць вышэйпаказанага.

13. Сорга надзвычайна добра разьвівалася у 1926—27 гадох, яно заслугоўвае вялікай увагі для культуры у нашых умовах на зялёную і сіласованую харч і нават на сена. Сухой масы яно дае ад 36 да 78 дв. цэнт.

14. На падставе сваёй працы Станцыя вызначае наступныя палявыя культуры, як найбольш выгадныя для паўднёвага усходу Беларусі—бульба, насенная канюшына, насенны лубін і жыта.

Ня гледзячы на тое, што наш раён зьяўляецца адным з самых экстэнсіўных сярод усёй Беларусі, культура бульбы стаіць тут даволі высока ў параўнаньні з астатняй Беларусьсю, як з боку процанту палявой плошчы, якую яна займае, так і з боку атрымліваемых ураджаяў. Канюшына на пяшчаных глебах пры сучаснай запраўцы іх арганічнай масай разьвіваецца на сена слабавата; гэта робіць больш выгадным скарыстаньне яе на насеньне.

Асабліва-ж выгадным становіцца скарыстаньне на насеньне другога укосу яе. Насенны лубін па ураджайнасьці ў 2 і больш разоў вышэй жыта і аўса. Цяжка прывесьці усе вывады працы Станцыі ў кароткім артыкуле; але і сказанага ужо даволі каб адзначыць, што дзякуючы працы Станцыі, наш раён Беларусі, якая сёньня сьвяткуе 10-ую гадавіну свайго савецкага існаваньня, усе больш і больш дасьледуецца, а ў зьвязку з гэтым усё больш і больш выяўляюцца шляхі, па якім павінен ісьці прагрэс у тэхніцы сельска-гаспадарчай культуры.

---

С. Гаркавы.

# Кароткі агляд працы і вынікі яе па Мар'інскім Балотным Дасьледчым Полі за час яго існаваньня.

*(1927-1928 г. г.).*

Мар'інскае Балотнае Дасьледчае Поле адчынена ў 1927 годзе, у паўночнай частцы Беларускага Палесься на Мар'інскім балотным масыве, Любанскага р-ну, Бабруйскай акругі.

Поле зьяўляецца трэцяй па ліку дасьледчай балотнай установай на Палесьсі (Беларускім); першай быў дасьледчы вучастак Западнай Экспэдыцыі у уроч. „Стоў", Рачыцкага павету, Менскай губэрні, які існаваў з 1883 па 1890 год; другой была дасьледчая гаспадарка Менскай Балотнай Станцыі ў Лахве, адчыненая ў 1912 годзе і адрэзаная ад нас цяпер граніцай.

З часу існаваньня і працы першых 2-х дасьледчых установ тэорыя й практыка мэліорацыі і культуры балот у нас зайшла далёка наперад; мы цяпер зусім проста падыходзім да шмат якіх пытаньняў, да якіх папярэднія працаўнікі падыходзілі са страхам. У нас зараз працуюць сотні мэліорацыйных т-ваў, абсушаюцца й закультоўваюцца тысячы гэктароў балота па ўсёй Беларусі. Надыйшла чарга й да Палесься. Наступ на Палесьсе пачаўся з Мар'інскага балота, дзе зараз падрыхтоўваецца калёнізацыйны фонд, плошчай да 10.000 гэктараў, будуецца саўгас на пл. 3.245 гкт., намечаны да пабудовы: электрычная станцыя, лесапільны завод, цагельны завод, крухмальны завод, завод для апрацоўкі лёну й канопель.

З усім тым мы сталі перад фактам, што іменна Палескія балоты ў нас менш за ўсе вывучаны ў сэнсе мэліорацыі й культуры іх, вытворчасьць тут пакуль што прымушана йсьці вобмацкам.

Мар'інскае Поле й прызвана запоўніць гэты прабел і вывучыць спосабы с.-гаспадарчага скарыстаньня балот Палесься наогул і Мар'інскага, у прыватнасьці, і ў першую чаргу.

На працягу лета 1927 года праведзена падрыхтоўчая праца: абрана месца для Поля і распрацован плян абсушкі і асваеньня тэрыторыі (праца праведзена асыстэнтам Н. Д. І., М. Х. Лебядзевічам).

У 1928 годзе з каштарысу Палескай С.-Г. Станцыі ў Скрыгалаве вылучана для Поля 3174 р. 96 к.; апрача таго, мелася на ўвазе атрымаць дадатковыя сродкі ад НКЗБ; аднак, сродкі гэтыя не былі атрыманы, і Поле засталося толькі пры папярэднім бюджэце—3174 р. 96 к.

Поле ставіла сабе заданьнем залажыць першыя культуры на балоце на плошчы 5 гкт., якія служылі-б адначасова дэманстрацыяй і спробай, і разам з тым—вывучыць пытаньне з угнаеньнем для Мар'інскага балота. Кіраўніцтва калфондам „Мар'іна" таксама задалося мэтай закультаваць 25 гкт. ужо абсушанага балота, і Поле павінна было непасрэдна кіраваць і гэтай працай.

Акрамя таго, вяліся некаторы час нагляданьні над грунтовымі водамі, вывучалася расьліннасьць балота і сабраны гэрбары.

Нагляданьні і непасрэдныя досьледы, пастаўленыя на Мар'інскім балоце, дасьць магчымасьць зрабіць наступныя вывады:

1. Усе нормы асушкі, якія дагэтуль прапанаваліся дасьледчымі ўстановамі для балот, зьяўляюцца для Мар'інскага балота залішне інтэнсыўнымі, патрэбныя для Мар'інскага балота нормы яшчэ ня знойдзены, але праца гэтага году паказала, што адлегласьць між абсушальнымі канавамі нават у 150 гкт. не зьяўляецца лішне вялікай.

2. Звычайна ужываемы ў мэліорацыйных т-вах Беларусі паракконны балотны плуг Г. Эвэна патрабуе некаторых спэцыяльных прырыхтаваньняў: круглы (талерачны) нож павінен замяняцца на просты, простая цяга—на бакавую.

3. Найлепшае ворыва дае аднакорпусны плуг Эбэргардта з трактарам „Фордзон" альбо Пуцілаўскім „ФП", але пажадана спробаваць яшчэ вусяневы трактар з многакарпуснымі плугамі.

4. Пасьля першага ўзорваньня дзікага балота рондаляваньне магчыма зрабіць толькі трактарам; коні рондаляваць ня могуць з прычыны топкасьці аголенага торфу; пасьля рондаляваньня праца на полі можа вытварацца і коньмі.

5. Для трамбаваньня поля пасьля засеву на Мар'інскім балоце патрабуюцца цяжэйшыя каткі, чым звычайна ўжываемыя ў нас на балотах каткі Майфарта, бо Мар'інскі торф адзначаецца малай шчыльнасьцю.

6. З прычыны малай разложанасьці Мар'інскага торфу, ад першага ўзорваньня парушаецца капілярная сувязь паміж верхнім і ніжнімі слоямі, чым выклікаецца частковае перасыханьне верхняга ворнага слоя, гэтым, у сваю чаргу, выклікаецца некаторае пасыханьне культурнай расьліны, пасеянай на такой пахаці; каб ухіліцца гэтага, трэба першае ворыва вытвараць з осені і ўжываць цяжкія каткі.

7. Першай расьлінай па пласту могуць ісьці: авёс, віка з аўсом, капуста, турнэпс, бульба; для аўса і вікі з аўсом нормы высеву—8 і 12 пудоў на гкт. па пласту—трэба прызнаць недастатковымі.

8. З пажыўных матэрыялаў у Мар'інскім торфе ў мінімуме калі; нормы ўгнаеньня можна радзіць пакуль што такія: фосфарнага квасу ($P_2 O_5$) па розьліку на гкт.—45 кг. і калію ($K_2 O$)—60 кг. і ў параўнаньні з Камароўскім балотам гэта выходзіць меней фосфарнага квасу на 15 кг. на гкт.; фосфарнае ўгнаеньне павінна давацца ў першыя гады ў выглядзе тамасшлаку; супэрфасфат у павялічаных нормах абніжае ўраджай, павялічваючы кваснасьць глебы.

За сэзон усю працу Поля бачылі ад пачатку і да канца некалькі тысяч землякопаў і мясцовага насельніцтва, якія былі заняты на асушальных працах колфонда Мар'іна. Акрамя таго, Поле даведвалася 2 спэцыяльнымі экскурсіямі: 1—настаўнікаў з акалічных вёсак Любанскага й Старобінскага раёнаў, другая—моладзі мястэчка Любані.

Экскурсанты выказвалі вялікае зьдзіўленьне і поўнае здавальненьне працамі Поля.

Абразкі культур Дасьледчага Поля былі паказаны на раённай выстаўцы ў м-ку Любані і адтрымалі ўзнагароду—ганаровы дыплём.

Заг. Ст. **Трызно.**

# Кароткі агляд дзейнасьці Палескай с.-г. Дасьледчай Станцыі за 1926-28 г.

За тры гады свайго існаваньня Палеская с.-г. дасьледчая станцыя выпаўніла значную частку гаспадарча-арганізацыйнай і навукова-дасьледчай працы, але дзейнасьць станцыі, дзякуючы недастачы сродкаў на папярэднія дасьледчыя і вытворчыя работы, абмяжоўваецца покуль што вывучэньнем часткі пастаўленых на разрашэньне пытаньняў.

З ліку аддзелаў [1]), намечаных агульным арганізацыйным плянам станцыі, у сучасны момант у поўнай меры працуе, апроч арганізацыйна-гаспадарчага, аддзел паляводзтва, мэтэоролёгічная станцыя 2-га разраду.

Дасьледчая праца па вывучэньні спосабаў найлепшага скарыстаньня Палескіх балот распачата ў 1927-28 годзе на травяна-асаковым балоце ў Марьіно, Бабруйскай акругі. Арганізацыйная праца па адчыненьню аддзела жывёлаводзтва і аддзела прыстасаваньня распачата станцыяй у 1928 годзе.

У 1927 годзе дасьледчая станцыя кіравала 42 сялянамі-дасьледчыкамі, а ў 1928 годзе станцыяй аб'ядналоцца ўжо 93 селяніна-дасьледчыкі, якія знаходзяцца, галоўнейшым чынам, у Мазырскай акрузе.

Прыступаючы да плянавай працы, дасьледчая станцыя, у першую чаргу, занялася падрабязным вывучэньнем месцовых прыродных умоў, ад якіх і павінна залежаць далейшая яе дзейнасьць.

З праведзенага гео-батанічнага абсьледваньня і глебавага [2]) на правабярэжжы і левабярэжжы ракі Прыпяці па Мазырскай акрузе, можна характарызаваць мейсцовасьць раёну дзейнасьці дасьледчай станцыі як паніжаную раўніну балот, лугоў, падзеленых большымі і меньшымі градамі і пагоркамі дюнных і алювіяльных вільготных і сухіх пяскоў. Пры гэтым, на частку вільготных пяскоў прыпадае большая плошча.

На адной з такіх пяшчаных град вільготных і сухіх пяскоў, з прылягаючым да яе музэем балот, якія па тыповасьці састаяць з гіппаасаковага, пераходнага, альшатнікавага і мохавага, распачала дасьледчую працу станцыя ў Скрыгалове, Мазырскай акругі.

Азначаны вучастак з'яўляецца часткай агульнай сыстэмы балот і пяскоў басэйна р. Прыпяці і нізоў р. Пцічу.

На вызначаным вучастку пяскоў і балот дзеля дасьледчай працы станцыі праведзены гідра-тэхнічныя вышуканьні і складзены праэкт

---

[1]) Плянам станцыі прызначаны да арганізацыі аддзелы: паляводзтва, сэлекцыі і насеннаводзтва, балотазнаўства, жывёлаводзтва, прыстасаваньня і арганізацыі садоўніцкай базы.

[2]) Гео-батанічнае абсьледаваньне праводзілася пад кіраўніцтвам праф. В. В. Адамава. Глебавае абсьледаваньне праводзілася пад кіраўніцтвам праф. Айфанасьева і Рагавога.

асушкі і арашэньня. Да выкананьня намечаных праэктам работ будзе прыступлена у летку 1929 года.

Вялізарныя плошчы нізінных балот травянога і ляснога паходжаньня з багатымі запасамі арганічнай матэрыі і азота, вільготныя пяскі, напамінаючыя глебу ў вегэтацыйнай пасудзіне, дзе таксама, як і ў апошняй, можна рэгуляваць вільготнасьць у той меры, якая патрэбна растучай расьліне (дзякуючы блізкасьці стаяньня ўзроўню грунтоўных вод), шляхам пабудовы сыстэмы асушкі і арашэньня, і палепшаньнем фізычных якасьцяй глебы праз унясеньне арганічнай матэрыі ў выглядзе торфа, гною, пасевам сідэрацыйных расьлін і інш.,—а затым, лугавыя плошчы,—вось галоўным чынам, што характарызуе зямельныя ўжыткі Беларускага Палескаго раёну, на каторых пераважна і адбываецца вядзеньне сельскай гаспадаркі трудавога сялянскага насельніцтва.

Статыстычныя даныя за апошнія гады па дакладнасьці ад існуючых галін сельскай гаспадаркі па Беларускім Палесьсі, падкрэсьліваюць, што прыбыткі ад такой значнай галіны, як культура балот і лугоў, займае апошняе месца. Між іншым прыбытак ад галіны культуры балот і лугоў, пры вайстраце кармовага пытаньня на Палесьсі [1]) павінен у гаспадаркі заняць першае месца, таму што наліччам кармоў, папершае, апрэдзяляецца ўтрыманьне патрэбнай колькасьці прадукцыйнай жывёлы, а затым, і забясьпечаньне гаспадаркі неабходнай колькасьцю гною, дзеля угнаеньня бедных пяшчаных глеб.

Недахоп гною ў гаспадарцы служыць прычынаю павелічэньня, а не зьнішчэньня вельмі распаўсюджанай ў раёне дзейнасьці станцыі абложнай сыстэмы паляводзтва, пры якой карыстаньне Палесься бывае на працягу 5—15 і больш гадоў толькі адным засевам жыта, альбо грэчкі. Такіх абложных зямель па Мазырскай акрузе налічваецца да 40 проц. ад пасеўнай плошчы. Запас арганічнай матэрыі ў гэтых абложных пясковых глебах, па аналізах Станцыі, складае ад 0,93 проц. да 1,82 проц. Больш багатыя арганічнай матэрыяй і азотам глебы—гэта забалочаныя плошчы, якія патрабуюць грунтоўнай мэліарацыі.

Пры такіх умовах існаваньня маламоцнай сельскай гаспадаркі Беларускага Палесься, праца дасьледчай станцыі накіроўваецца ў першую чаргу на развязаньне пытаньняў—кармовага і па павялічэньню ўрадлівасьці пяшчанай глебы, шляхам найбольш рацыянальнага скарыстаньня такіх угнаеньняў, як торп, сідэрацыйных і часткова штучных.

Падсумоўваючы прароблѐную дасьледчую працу як на станцыі, і так і сярод сялян-дасьледчыкаў, неабходна зрабіць наступныя заўважаньні:

1. Прымяненьне тарфянога угнаеньня неабходна лічыць самым рацыянальным спосабам дзеля сазданьня пладародзьдзя пяшчанай глебы, таму што запасы тарфянога угнаеньня на балоце, распаложаным амаль што заўсёды разам з пяшчанымі палямі, могуць быць у першую чаргу выкарыстаны гаспадаркай, як найбольш багатае азотам угнаеньне, і пры тым бяз вялікіх грашовых затрат. Значэньне апошняга (тарфянога) угнаеньня для пяшчаных глеб яшчэ больш павелічваецца тым становішчам гаспадаркі, пры якім недахоп таго служыць прычынаю скарачэньня пасеўнай плошчы. Малаўраджайныя пяшчаныя глебы, пры унясеньні тарфянага ўгнаеньня (балота нізіннага паходжаньня),

[1]) Утрыманьне жывёлы вясною на адной саломе са страхі бывае звычайным у некаторых раёнах на Беларускім Палесьсі зьявішчам.

павелічваюць ураджай у некаторых выпадках да 3-х раз у параўнаньні з тымі ўраджаямі, якія атрымліваюць сяляне пры абложнай сыстэме паляводзтва.

2. Запраўка пяшчанай глебы паветрана-сухім торфэм, альшатнікавага паходжаньня павялічвае запас арганічнай матэрыі ў апошняй, і тым самым дапамагае павелічэньню ўраджаю культур — лубіну, жыта, бульбы.

3. З павелічэньнем колькасьці паветрана-сухога торфу, паступова павелічваецца прыбаўка ўраджаю жыта; пры колькасьці торфу у 800 дв. цэнтн. на гэктар, амаль што ўдвая, дзеля лубіну, наступнага ўраджаю жыта—утрая, наступнага ураджаю бульбы—удвая, у параўнаньні з няўгноеным полем, якое раней знаходзілася пад аблогам, пры глыбіні грунтовых вод ад 1 да 1½ мэтра.

4. Тарфяное ўгнаеньне, унесенае сумесна з нэйтральнымі штучнымі угнаеньнямі (фосфарыт, вапна, попел, ч. салетра), аказвае найлепшы уплыў на ўраджай, у параўнаньні з уплывам штучных угнаеньняў бяз тарфянога.

5. Запраўка пяшчанай глебы торфам сумесна з калійнай сольлю пад пасеў лубіну, наступных пасеваў жыта, бульбы, найбольшую прыбаўку да ўраджаю дае колькасьцю ў 800 дв. цэнтн. торфу+90 кл. калійнай солі дзеля ўсіх названых культур. Глыбіня стаяньня грунтовых вод ад ½ да 1 мэтра.

6. Тарфяное угнаеньне, унесенае сумесна з калійнай сольлю пад пасеў жыта, аказвае звужаючае дзеяньне на ўраджай апошняй. Глыбіня стаяньня грунтовых вод ад ½ да 1 мэтра.

7. Торф, унесены сумесна з вапнаю пад пасеў жыта, павелічвае ўраджай апошняга ў два разы. Глыбіня стаяньня грунтовай вады ½—1 мэтра.

8. Амсьціслаўскі фасфарыт у колькасьці 45 кл. ($P_2 O_5$) на гэктар даваў найбольшы ўраджай грэчкі, чым большыя дозы таго-ж фасфарыту і іншых фасфарытаў (замежнага і Рослаўскага).

9. Адзін супэрфасфат не аказвае плыву на ўраджаі пялюшкі, аўса бульбы.

10. Чылійская салетра аказвае вельмі значнае дзеяньне на ўраджай жыта, пялюшкі, аўса, бульбы; для пялюшкі—большыя, чым ад гною.

11. Чылійская салетра+калійная соль+фасфарыт значна павелічвае ўраджай сэрадэлы.

12. Гной+калійная соль даюць досыць значную прыбаўку да ураджаю турнэпсу.

13. Гной+супэрфасфат давалі зьніжэньне ўраджаю турнэпсу ў параўнаньні з ураджаем па адным гною.

14. Дзеяньне калійных угнаеньняў (хлорыстага калія, сільвініта, сернакіслага калія) далі прыбаўку ураджаю бульбы толькі па нэйтральнаму фону (чыл. салетра+томасоўка).

Па кісламу органу (сульфат, аммонія і супэрфасфат) не аказвае уплыву на ўраджай.

15. Адносна выяўленьня найлепшага тэрміну пасеву жыта можна вызначыць у сучасны момант пэрыяд ад 15 верасьня па 1-е кастрычніка. У паказаны пэрыяд выстаўка ўраджаю жыта даходзіць да 2,5 дв. цэнтн., дзеля зярна і да 5 дв. цэнтн. саломы на гэктар.

16. З прац па сортаапрабаваньню выдзяляюцца найлепшымі па ўраджайнасьці дзеля жыта—„Пяткускае“ Гомельскай Гомселькультуры; зімовай пшаніцы—„Іваноўская Стойкая“ і „Іваноўская № 2707“;

ячменя—„Вяцкі 1163“, „Мясцовы“;

аўса—„Пяткускі“, „Лейтовіцкі“ і „Маскоўскі № 13—326“;

бульбы—ранніх сартоў—„Бовэ“, „Падмаскоўны Міндальны“, сярэдняя сьпелых—„Сеянец Корэнева 02“, „Сеянец Корэнева 05“, „Перад фронтам“, „Смыслаўскі“ і „Кур‘ер“, познасьпелых—„Кругэр“, „Сеянец Корэнева 04“, „Сеянец Корэнева 03“, „Пірола“ і „Вольтман“.

Вядома, што зробленыя заўважаньні неабходна лічыць як арыентыравальныя матэрыялы дзеля далейшага вырашэньня с-г. пытаньняў на Беларускім Палесьсі шляхам грунтоўнай дасьледчай працы.

---

А. Шохар.

# Кароткі агляд прац і вынікаў Забалацкае балотнае дасьледчае г-кі за 1922-28 год.

Балотная гаспадарка пачала сваю працу ў 1922 годзе на тэрыторыі быўш. Гомельскай губ.

Перамены, вызваныя пазьней раёнаваньнем, і організацыйная пабудова дасьледчай сеткі БССР, у зьвязку з абмежаванасьцю адпускаемых сродкаў, складалі ня зусім спрыяючыя ўмовы для роста і разьвіцьця дасьледчай гаспадаркі. Тым ня менш, узрост яе, як у напрамку гаспадарча-матэрыяльнага абаснаваньня, так і ў бок пашырэньня дасьледчай працы, бязупынна павялічваўся.

Некалькі лічб яскрава характарызуюць сучаснае становішча Балотнай Г-кі. У 1923 годзе бюджэт Бал. Г-кі вызначаўся ў 477 руб., у 1928 годзе ён павялічваецца да 14347 руб. Пачаўшы справу з дзікага пустога балота, Дасьледчая Гасп-ка к сучаснаму мае: будынкаў і мэліарацыйных пабудоў на 7141 руб., інвэнтару і кабінэтнага абсталяваньня на 4490 руб. Узрос і абслугоўваючы і рабочы пэрсанал, значна пашыралася плошча закультываванага балота (50 гк.).

Побач з прагрэсыўным узростам гаспадарчых асноў, пашыраецца і навукова-дасьледчая праца, якая праводзіцца і на слаба асушаным балоце і на дрэнаваным.

Сабраныя за сем гадоў матэрыялы, як адказ на пытаньня тэхнікі і экономікі культуры балот у мясцовых умовах, маюць бязумоўную цікавасьць і навуковы інтарэс, даючы для практыкі шэраг правераных досьледам палажэньняў і кіруючых падстаў.

Праграма утылітарнай па свайму напрамку Балотнай Г-кі ўключала пытаньні экстэнсіўнага і інтэнсіўнага скарыстаньня балот, з вырашэньнем момантаў: асушкі, апрацоўкі, угнаеньня, залужэньня і тэхнікі паасобных культур.

Пытаньням падняцьця ўраджайнасьці натуральных балотных сенажацяў і стварэньня штучнай на балоце дзярніны ў працах Балотнай Г-кі адводзілася значнае мейсца. Досьледы па павярховаму паляпшэньню балот, іначай кажучы па прымяненьню экстэнсіўных форм, далі вельмі добрыя вынікі, агулам за 4 гады падвысіўшы ўраджайнасьць балотнай сенажаці на 226%. Такі эфэкт адтрыман дзякуючы павярховаму ўнясеньню ўгнаеньня з аднačасовым асвяжэньнем дзярніны. Іншыя прыёмы чакаемага эфэкта ня далі.

Прапрацоўка паасобных пытаньняў штучнага залужэньня выявіла: 1) роль і значэньне ў вызначаных умовах пакроўнай расьліны, 2) перавагу асобных тэрмінаў залужэньня, 3) ступень гаспадарчай каштоўнасьці форм лугавых злакаў і бабовых, 4) добрыя і адмоўныя бакі практыкуюшчыхся травяных мяшанак, 5) уплыў на вытворчасьць луга павярховага ўгнаеньня, 6) якасную і колькасную характарыстыку прыбранай сухой масы ў зьвязку з часам прыборкі і г. д. Цэлы рад

грунтоўных у практыцы лугаводзтва момантаў, высветленых вышуканьнямі і працяглым досьледам.

Сярод сабраных матэрыялаў і вывадаў належыць асобна падкрэсьліць: а) прапрацованы Балотнай Г-кай прыём васеньняга беспакроўнага залужэньня балот, які ўводзіцца на зьмену практыкуюшчамуся веснавому, b) увядзеньне ў травяныя мяшанкі для балот стойкіх Bectania eruciformiz і Bromus Secalinus і выпрацоўка арыгінальнай травяной мяшанкі для лугоў збыткавай вільгасьці, с) вызначэньне прыменімасьці паасобных тэрмінаў прыборкі сенажаці і ўстанаўленьне фэнолёгічнага моманту для практычна каштоўнейшага.

Падтрыманьне вытворчасьці лугавой дзерніны, як і пасьпяховасьць культур палявога кліна ўпіраецца ў пытаньне ўгнаеньня балота. У гэтай частцы вынікі прац Дасьледчай Гасп-кі вельмі характэрны і адыходзяць ад прынятай нормы, падкрэсьліваючы выключную патрэбнасьць тарфяніка ў каліевым угнаеньні. Досьледы вызначылі вялікі натуральны запас фосфора, якім магчыма карыстацца доўгі час, ня ўносячы яго. Эканамічны бок такога факта відавочны і вызначае: 1) неабходнасьць шырокага вывучэньня тарфянікаў Беларусі і 2) першпачатковую паверку патрэбнасьці тарфяніка ў калійных і фосфарных угнаеньнях пры працах у мэліарацыйных таварыствах.

Дзейнасьць калія ў досьледах Балотнай Г-кі выказалася ў павялічэньні ўраджаю на 100—250%, у залежнасьці ад групы культур і яго дазіроўкі. Досьледамі устаноўлены аптымальныя нормы, якія даюць наступны ўбываючы рад: клубняплоды, травы, тэхнічныя расьліны і злакі. Цэлы шэраг іншых момантаў угнаеньня, як працягласьць дзейнасьці калія, час яго расьсеву, эфэкт павярхоўнага ўнясеньня на лугах, сувязь з асушкай і адбітак на якасным баку прадукцыі,—прайшлі ў сэрыі досьледаў, даўшы вызначаныя і каштоўныя для практыкі матэрыялы.

Побач з лугаводзтвам досьледы Балотнай Г-кі ахапілі рад культур палявога кліна, маючы на мэце ў асноўным вывучэньне пытаньняў тэхнікі паасобных культур, сортаапрабаваньне і вызначэньне рэнтабельнасьці пасеваў.

На дасьледчых дзялянках і палёх гаспадарчых пасеваў прайшлі зерневыя злакі, караньплоды, клубняплоды, гародніна, прамыслова-тэхнічныя расьліны і адтрыманыя вынікі вызначылі поўную іх пасьпяховасьць, а ў адносінах некаторых культур высокую акром таго рэнтабельнасьць. Выключна высокія па ўраджайнасьці віды гародніны і караньплоды павінны цалком перайсьці з мінэральных палёў на балота, з'каноміўшы тым самым гаспадарцы гной. Па той-жа прычыне заслугоўвае асаблівай і падкрэсьленай увагі культура канаплі на балоце, па ўраджайнасьці (сярэдняй за 3 гады), набліжаючайся да ўраджайнасьці лепшых канапляньнікаў Арлоўскай губ.

У зьвязку з высокай даходнасьцю, азначаная гародніна, каноплі і ў першыню ўведзеная Балотнай Г-кай на тарфяніку—фасоль—вызначаюць рад выгаднейшых на балоце культур.

Пасьпяховасьць асобных палёвых культур зьвязана з радам патрабаваньняў, сярод якіх віднейшае мейсца займае асушка. Матэрыялы, пакуль ня вычэрпваючы ў дэталях усіх культур, з асаблівай рэльефнасьцю абрысавалі рэакцыю на асушку канапляў, у адносінах да якіх адлегласьць паміж дрэнамі ня павінна быць больш 20 мэт. У меньшай ступені вызначылася патрэбаваньне зернавых злакаў і асабліва траў.

Уплыў асушкі знаходзіць адбітак ня толькі ў вялічыні ўраджаю, але і ў якасьці прадуктаў, што заўважана ў адносінах % крухмалу ў бульбе. Апошняя на балоце з'яўляецца вельмі цікавай і каштоўнай

культурай, з якой Г-кай праведзена шырокая праца, дазволіўшая ўстанавіць уплыў на ўраджайнасьць і крухмалістасьць цэлага раду фактараў, як-та: асушкі, угнаеньня, сорта, часа пасадкі, прыборкі і г. д...

Час пасадкі і пасеву асобных культур, роўна як і аптымальныя нормы пасеву, маюць у адносінах ураджаю вялікае значэньне, і прысьвечаныя гэтаму дасьледу на працягу некалькіх гадоў дазволілі ў выніку адтрымаць вызначальныя ўказаньні ў адной частцы і важны арыентыравальны матэрыял—у другой.

Значнае мейсца ў працах Балотнай Г-кі было прысьвечана сортаапрабаваньню падсобных культур, якое дала магчымасьць устанавіць каштоўнасьці шэрагу сартоў і дазволіла сабраць матэрыял па гаспадарчай іх ацэнцы. Характэрна адзначыць, што ў некаторых сартоў, напрыклад, у фасолі, першае мейсца заняла „мясцовая жоўтая“, таксама як сярод бульбы (асортымэнт, праўда, не вялікі) асабліва ўраджайным вызначыўся мясцовы „розавы скарасьпелы“ і вышэйшым па ўтрыманьню крухмалу месцовы „Вольтман“. За тое, у больш шырокай (да 40 форм) калекцыі аўсоў, адным з каштоўнейшых сортам зьявіўся Дацкі № 3487 (па каталогу У. І. П. Б. і Н. К.)—выключна стойкі ў адносінах спэцыфічнага пашкоджаньня, зьніжаючага ўраджай аўса на палавіну. Значэньне сорта яскрава сказалася і на культурах азімага жыта, капусты і паасобных відаў караньплодаў.

Далей, нагляданьні за разьвіцьцём паасобных культур і вывучэньне іх асаблівасьцяй прывяло Балотную Г-ку да выпрацоўкі свайго севазвароту на балоце, які ў адной частцы дае кожнай культуры лепшае месца, а ў другой—вырашае пытаньне барацьбы з засьмечанасьцю, якая разрастаецца пад уплывам працяглай палявой культуры.

З вучоту вынікаў досьледу і нагледаньняў севазварот на балоце складзен 8-палёвы, у якім 4 полі заняты расьлінамі палявога кліна і 4—лугам. Пачынаючы з бульбы і далей праз зернявыя і караньплоды, севазварот канчаецца залужэньнем.

Такі агульны, далёка ня поўны, агляд дасьледча-палявой працы выканан надзвычайна абмяжаваным лікам персаналу.

Асобнае месца займае грамадзкая праца. Балотная Г-ка па магчымасьці зьмяшчала шэраг артыкулаў у пэрыядычным і паўсядНеўным друку па пытаньнях культуры балот. Папулярызавала свае працы, высьвятляючы для культуртэхнікі паасобныя пытаньні і даючы мэтад практычнага скарыстаньня вынікаў. Вынікі сваіх прац за 5-годзьдзе Балотная Г-ка, не залежна ад артыкулаў, выдала асобнай брашурай і падрыхтавала матэрыял для другой брашуры, прысьвечанай выключна пытаньням лугаводзтва.

Акрамя друку, скарыстана вусная прапаганда, і ў апошні год ажыцьцяўлена сувязь з 15-мэліарацыйнымі тав-ствамі, дзе вылучана 11 дасьледчыкаў і закладзена 10 досьледаў па схэмах Балотнай Г-кі. Наколькі пасьпяховы былі працы і агульнае разьвіцьцё Балотнае Г-кі, і ў якой меры практычнымі аказаліся вынікі прац, сьведчаць такія факты, як арганізацыя навакол балотнай гасп-кі шэрагу мэліарацыйных тав-стваў, дзе праца пачалася і пашыраецца—гэта, па-першае, і па-другое—ужываньне культуртэхнікай (пакуль. месцовай акругі) у практыку тав-стваў асноўных вынікаў прац Балотнай Г-кі.

Э. І. Шыпэрко.

# Да пытаньня аб рэнтабельнасьці калёнізацыі мохавых (імшарных) балот у Нямеччыне

## (па дадзеных кіраўніцтва Калёнізацыі ў Гановэры за 25 г.)[1]).

Праблема калёнізацыі балот Беларусі, якая яшчэ так нядаўна лічылася ўтопіяй, у сучасны момант атрымала сваё прызнаньне і ажыцьцяўленьне ў пастановах нашага ўраду. У бягучым годзе пачынаецца першая спроба засяленьня калёністамі-беларусамі часткі балота ў басэйне рэчкі Арэсы, так званага Мар'інскага Калфонду на плошчы звыш 4.000 гэкт. На другой частцы гэтага масыву на плошчы каля 4.000 гэкт. організуецца высока-вытворчы прамысловы Саўгас „Мар'іна". За гэтаю першаю спробаю мяркуецца па пяцілетнему пляну НКЗ Беларусі калёнізаваць 50.000 гэктараў балота і на другіх 500.000 гэктараў організаваць буйныя высока-вытворчыя прамысловыя Саўгасы.

Працы Менскай Балотнай Дасьледчай Станцыі, якая нарадзілася амаль што ў пачатку імпэрыялістычнай вайны, узрастала разам з ростам сацыялістычнага будаўніцтва Беларусі і атрымала к 10 гадавіне незалежнасьці Савецкай Беларусі за сваю працу ўзнагароду ў выглядзе Ордэну Працоўнага Сьцягу, настолькі за гэты час пасунуліся ўперад, што далі магчымым абгрунтаваць ня толькі высокую тэхнічную вытворчасьць балотных глеб, але і эканамічнаю мэтазгоднасьць і выгаднасьць культуры балот на Беларусі.

Грунтуючыся дадзенымі Менскай Балотнай Станцыі, наш Урад пры вырашэньні аграрнай праблемы зьвярнуў асаблівую ўвагу на пераватварэньне Беларускіх балотных пустынь у квітучыя Калёніі і высока вытворчыя Саўгасы з прамысловым ухілам.

Каб мець больш упэўненасьці ў выгаднасьці організуемых гэтых новых прадпрыемств, мы ніжэй прывядзем дадзеныя дабрабыту аднэй Калёніі, заснаванай на махавым балоце (імшарным) у Нямеччыне.

У № 10 Mittelungen des Vereins zur Forderung der Moorkultur im Dentschen Reiche надрукаваны артыкул Кіраўніцтва Калёніямі ў Гановэры, які вызначае прыбытковасьць аднэй калёніі, організаванай на цяжка падаюшчымся культуры махавым балоце і гісторыю матар'яльнага дабрабыту калёністаў гэтае Калёніі ад часу заснаваньня 1882 да 1912 г.

Мы лічым, што будзе досыць цікавым падзяліцца зьместам гэтага артыкулу.

---

[1]) (№ 10 Mittelungen des Vereins zur Förderung der Moorkultur im Dentschen Reiche).

У 1885 годзе праца Брэменскай Балотнай Дасьледчай Станцыі настолькі дала здавальняючыя вынікі, што магчымасьці peратварэньня балотных абшараў у палявыя і лугавыя ўжыткі стала жыцьцёвым фактарам. І ў гэтым-жа 1885 годзе Гановэрскае герцогства зрабіла першы досьлед праверкі, насколькі прыбытковай і магчымай зьяўляецца культура балот у вялікім маштабе, у форме калёнізацыі балот. Для набыцьця балота, яго мэліярацыя і калёнізацыя Гановэрскае герцогства вызначыла 400.000 марак. Проценты з гэтага капіталу павінны былі ісьці на гэтае прадпрыемства.

Далей прыводзіцца адказ на наступныя пытаньні:

1) У якім становішчы знаходзіцца гэтае прадпрыемства пасьля 25 году.

2) Якая зроблена агульная сума выдаткаў на гэтае прадпрыемства і сума выдаткаў на 1 гэктар.

3) Якое гаспадарчае становішча калёністаў і як вялікія выдаткі, якія калёністы пакрывалі з даходаў сваёй гаспадаркі.

4) Які канчатковы балянс усяго прадпрыемства.

Ніжэй прывядзём адказ у парадку вышэй прывядзёных запытаньняў.

### I. Адказ на першае пытаньне.

Пад будучую калёнію ў 1888 годзе было куплена 441,9 гэктараў балота, якое складала частку балотнага масыву, вядомага пад назваю „Буртангскага балота", якое ляжыць на канаве „Südnord". Выбранае балота ўяўляе рэзка выражаны тып махавога (імшарнага) балота, якое доўгі час выкарыстоўвалася пад агнявую культуру, а дзеля гэтага будучая інтэнсыўная культура гэтага балота павінна была праходзіць у выключна цяжкіх неспрыяючых умовах. Працы па правядзеньні мэліярацыі пачаліся ў 1888 г. і праходзілі ў цяжкіх умовах: правадзілася гэтая праца пад кіраўніцтвам Брэменскай Балотнай Станцыі. Уся плошча была разьмяркована на 39 паасобных гаспадарак. З працягам часу быў пабудаваны цэлы шэраг будынкаў на суму 185.118 марак. Апрача гэтага, былі пабудаваны будынкі для балотнага наглядальніка на суму 16.361 м.

Да канца 1912 году пад сельска-гаспадарчымі культурамі знаходзілася ўсяго 390 гэктараў. Астатняя плошча знаходзілася пад:

| | |
|---|---|
| 1) Зашчытнымі ляснымі пасаджэньнямі | 7,5 гэкт. |
| 2) Лес . . . . . . . . . . | 19 „ |
| 3) Пяшчаны кар'ер . . . . . . | 1,6 „ |
| 4) Някультурнае балота . . . . | 4,1 „ |
| 5) Пад тэхнічнай выпрацоўкай торфу і г. д. . . . . . . . . . | 11,3 „ |
| Усяго . . . | 51,9 „ |
| А разам . . . . . . | 441,9 „ |

II. На другое пытаньне: якая зроблена агульная сума выдаткаў на ўсе прадпрыемствы і сума выдаткаў на 1 гэктар, дае адказ ніжэй прыведзеная табліца, у якой зьведзяны падсумаваньні выдаткаў і прыбыткаў за 24 гады.

*Табліца № 1.*

| Г о д. | Выдаткі ў бягучым годзе | | Выдаткі з пачатку прадпрыемства да канца году | | Прыбытак у бягучым годзе | | | | | | % прыбытку на затрачаны капітал з выключэньнем прыбытку ад процантаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Прыбытак з балота | | Проценты | | Усяго | | |
| | М. | Пф. | М. | Пф. | М. | Пф. | М. | Пф. | М. | Пф. | |
| 1888 | 131898 | 56 | 131898 | 56 | 208 | 98 | 11784 | 90 | 11993 | 88 | 0,16 |
| 1889 | 36192 | 35 | 168090 | 91 | 487 | 55 | 9522 | 82 | 10010 | 37 | 0,29 |
| 1890 | 38878 | 89 | 206969 | 80 | 1780 | 52 | 8476 | 71 | 10257 | 23 | 0,84 |
| 1891 | 37611 | 73 | 244581 | 53 | 4796 | 85 | 7786 | 97 | 12523 | 82 | 1,94 |
| 1892 | 20954 | 76 | 265536 | 29 | 5863 | 31 | 6782 | 29 | 12645 | 60 | 2,21 |
| 1893 | 39309 | 91 | 304846 | 20 | 10582 | 55 | 6287 | 57 | 16870 | 12 | 3,47 |
| 1894 | 38321 | 26 | 343167 | 46 | 11676 | 44 | 5081 | 30 | 16757 | 74 | 3,40 |
| 1895 | 36939 | 78 | 380107 | 24 | 8777 | 46 | 4576 | 80 | 13354 | 26 | 2,31 |
| 1896 | 34486 | 28 | 414593 | 52 | 13532 | 66 | 4016 | 23 | 17548 | 89 | 3,26 |
| 1897 | 23002 | 26 | 437595 | 78 | 11291 | 77 | 3434 | 72 | 14726 | 49 | 2,58 |
| 1898 | 19026 | 55 | 456622 | 33 | 13719 | 04 | 3200 | 05 | 16919 | 09 | 3,00 |
| 1899 | 24319 | 90 | 480942 | 23 | 15396 | 61 | 3081 | 47 | 18478 | 08 | 3,20 |
| 1900 | 18671 | 60 | 499613 | 83 | 13925 | 35 | 2860 | 67 | 16786 | 02 | 2,79 |
| 1901 | 19145 | 25 | 518759 | 08 | 18132 | 36 | 2875 | 91 | 21008 | 27 | 3,50 |
| 1902 | 24950 | 83 | 543709 | 91 | 18813 | 26 | 2817 | 43 | 21630 | 69 | 3,46 |
| 1903 | 19680 | 95 | 563390 | 86 | 14217 | 77 | 2734 | 02 | 16951 | 79 | 2,52 |
| 1904 | 22687 | 97 | 586078 | 83 | 29461 | 28 | 2677 | 77 | 32139 | 05 | 5,03 |
| 1905 | 25397 | 48 | 611476 | 31 | 30213 | 94 | 3047 | 82 | 33261 | 76 | 4,94 |
| 1906 | 26533 | 29 | 638009 | 60 | 24265 | 49 | 3181 | 49 | 27446 | 98 | 3,80 |
| 1907 | 23889 | 52 | 661899 | 12 | 26141 | 39 | 3276 | 56 | 29417 | 95 | 3,95 |
| 1908 | 30266 | 00 | 692165 | 12 | 35813 | 89 | 3540 | 64 | 39354 | 53 | 5,17 |
| 1909 | 19551 | 75 | 711716 | 87 | 23589 | 67 | 3805 | 39 | 27395 | 06 | 3,31 |
| 1910 | 19648 | 80 | 731365 | 67 | 23236 | 98 | 4338 | 38 | 27575 | 36 | 3,77 |
| 1911 | 19428 | 63 | 750794 | 30 | 26671 | 69 | 5007 | 76 | 31679 | 45 | 4,22 |
| Разам | — | — | — | — | 382536 | 81 | 114195 | 67 | 494732 | 48 | — |

Падсумаваньне выдаткаў і прыбыткаў з укладзенага ў прадпрыемства капіталу 400.000 марак з моманту організацыі прадпрыемства.

У 1912 годзе з усяго фонду 400.000 марак засталося 148.576 мар. Як было ўжо паказана вышэй, у пачатку 1889 году для патрэбы прадпрыемства быў вылучаны капітал у 400.000 мар. Проценты з невыдаткаванага капіталу павінны былі таксама ісьці на гэтае прадпрыемства. Лічачы, што гэты капітал у працягу 24 год павінен прыносіць пэўны процант, мы павінны гэты процант прылічыць да выдаткаў прадпрыемства 3%, аўтар лічыць дастатковым для сельска-гаспадарчага прадпрыемства. Дзеля гэтага за 24 гады атрымалася процантаў

$$\frac{400.000 \times 3.24}{100} = 288.000 \text{ марак.}$$

Такім чынам на ўсе прадпрыемствы ўложана капіталу 400.000 м. + + 288.000 м. = 688.000 марак. З гэтае сумы трэба адняць 148.576 мар., якія яшчэ і зараз не выдаткованы і знаходзяцца ў гатоўцы. Такім чынам сапраўдны выдатак = 539.424 м.

Апрача гэтага, трэба мець яшчэ на ўвазе, што да агульнай сумы выдаткаў прылічаны таксама выдаткі па ўтрыманьню балотнага наглядальніка, яго раз'езды і выдаткі на кіраўніка прадпрыемства.

Між тым балотны наглядальнік і кіраўнік працы, апрача паказанай калёніі, абслуговывалі цэлы шэраг іншых мерапрыемстваў, дзеля гэтага з агульнай сумы, выдаткованай на ўтрыманьне балотнага наглядальніка і раз'езды яго і кіраўніка, трэба адняць ня менш як 1/3 частку штогодніх выдаткаў на іх утрыманьне і раз'езды, што за ўвесь час складае суму ў 41.312 марак. Такім чынам выдаткі на прадпрыемствы вынясуць 498.112 м., а на адзін гэктар сельска-гаспадарчай плошчы прыходзіцца 498.112 : 397,5 г. = 1,253 маркі.

Кошт культуры астатняй плошчы ў 57,9 гэктара, якая знаходзіцца пад лесам, дарогамі і інш., кладзецца цалкам таксама на тыя-ж 397,5 гэктары, якія прыведзены ў культуру, а гэта бязумоўна павышае агульны кошт выдаткаў на прывядзеньне ў культуру кожнага гэктара балота. Так, разьлік прыняты з прычыны меркаваньняў, што падобныя пабочныя выдаткі зьяўляюцца абавязковымі для кожнай другой калёніі. Пад сумленьнем можа толькі быць плошча ў 19,4 гэктара лесу, які лічыцца вельмі пажаданым для ўсякай калёніі, каб упрыгожыць малюнак балотнай пустыні.

## III. Якое гаспадарчае становішча калёністаў і як значныя выдаткі, якія калёністы пакрывалі з даходаў сваёй гаспадаркі.

Наогул усе калёністы здаволены сваім становішчам. Большасьць з іх прышла ў калёнію без усякай, альбо з вельмі незначнай маемасьцю, якая непаддаецца ацэнцы. Добрабыт калёністаў на 1912 год значна палепшыўся. Колькасьць дзяцей у іх вялікая. Дзеці і дарослыя здаровы, сыты, проста і чыста адзеты. Вядома, гэта агульныя фразы, якія мала гавораць аб сапраўдным матар'яльным становішчы калёністаў; неабходны цыфры, якія паказалі-б нам, якія свае запатрабаваньні і ў якой колькасьці калёністы здавальнялі, вядучы гаспадарку на балоце, а таксама якое іх матар'яльнае становішча ў сучасны момант.

З тае прычыны, што калёністы самі не вялі рахункаводзтва, адміністрацыя ў працягу цэлага шэрагу год старалася высьвятліць жыцьцёвыя запатрабаваньні калёністаў. За доўгі час адміністрацыі

ўдалося зусім дакладна высьвятліць той мінімум, які пры дадзеных умовах быў неабходны для здавальняючага жыцьця сям'і калёніста. Шматгадовыя назіраньні балотнага наглядальніка выявілі, што штодзенны выдатак на продукты, уключаючы асьвятленьне і апал, выносіць па 70 pf. на кожнага дарослага члена калёніі і па 40 pf. на кожнае дзіця да 14 год. У далейшым, па меры палепшаньня гаспадаркі, значна растуць і выдаткі на ўтрыманьне.

Гаспадарчыя ўмовы калёністаў у разглядаемай намі калёніі, пасьля ўстанаўленьня кошту ўтрыманьня сям'і ў далейшым паддаюцца зусім дакладнаму вучоту. Ніжэй прыводзіцца некалькі прыкладаў, якія маюць на мэце паказаць, якія прыбыткі калёністы атрымоўвае з свайго балота. У прывадзімых прыкладах нельга абыйсьціся без некаторых папраўак.

Па сваіх гаспадарчых здольнасьцях і працаздольнасьці ўсе калёністы разьмярковываюцца на 3 групы: *A*.—дрэнных гаспадароў, *B*.—сярэдніх і *C*.—добрых.

Усе цыфры прыводзяцца з сапраўднага жыцьця з беззаганнай дакладнасьцю.

*Тлумачэньне да табліцы № 2 (A.).*

Калёністы заняў калёнію ў 1902 годзе і заставіў яе 1 кастрычніка 1912 году. Да 1902 году калёнія была ў арэндзе ў другіх асоб. Калёнія ў сярэднім павінна была даваць сродкі для пражыцьця 10 асоб.

Да пачатку 1902 году маемасьць калёніста была ацэнена ў 1000 марак. У момант астаўленьня ім калёніі ён атрымаў за бульбу пасьля ўплаты ўсіх даўгоў 1.600 м., такім чынам атрымаў прыбытку 600 м. Пад канец 1902 году яго інвэнтар быў застрахован у 3.027 марак, а ў 1912 годзе ў 6.480 марак, значыць, атрымаў прыбытак інвэнтару на 3.453 м., а ўсяго прыбытку 4.053 маркі.

Такім чынам, за 10 год каштоўнасьць яго маемасьці павялічылася на 4.053 м. У працягу гэтага часу, як відаць з табліцы № 2 (*A*.), ён змог з прыбыткаў ад сваей калёніі пракарміць сваю сям'ю з 8 душ дзяцей і 1 дарослага рабочага. Апрача гэтага, ён змог пакрываць і другія свае запатрабаваньні, якія былі досыць вялікія, бо калёністы быў алкоголік (п'яніца). У працягу 10 год ён выплаціў 2.602,18 м. арэнднай платы па 29,98 м. за гэктар. Для пакрыцьця ўсіх сваіх выдаткаў калёністы павінен быў атрымоўваць з сваёй гаспадаркі па 331 м. з гэктара. Гэтая сума, увачавідкі, вылічана правідлова, з 1891 году па ўсёй калёніі вылічалася каштоўнасьць сярэдняга ўраджаю, з 1 гэктару плошчы, якая знаходзілася пад сельска-гаспадарчымі культурамі. Паводле гэтых дадзеных сярэдняя каштоўнасьць ураджаю за дзесяцігодзьзе 1902—1912 год была 297 м. з гэктара, гэта значыць на 34 маркі менш, чымся атрымаў калёністы. А гэта здарылася дзеля таго, што пры вылічэньні сярэдняга кошту ўраджаю з усёй калёніі прымаліся толькі пад увагу жыта, авёс, бульба і сена. Прыбытак-жа ад пашы і ад утрыманьня жывёлы не ўлічываўся. Атрыманая розьніца ў 34 маркі і павінна быць аднесена на рахунак прыбытку ад утрыманьня жывёлы.

*Тлумачэньне да табліцы № 3 (B.).*

Калёністы заняў калёнію ў 1801 годзе. Спачатку яму далі толькі 1,8207 гэктара, а пасьля паступова плошчу яму павялічылі да 9,0752 гэктара. З даходаў гэтае калёніі павінна было жыць 9 чалавек сям'і.

*Табліца № 2 (А).*

| Год пасяленьня калёніста | Страхавая ацэнка інвэнтару | Вялічыня сям'і: Дарослых | Вялічыня сям'і: Дзяцей | Вялічыня сям'і: Усіх разам | Штогодныя выдаткі на ўтрыманьне сям'і і на апал і на асьвятленьне (у марках): Дарослых 70 pf. | Дзяцей 40 pf. | Адзежа кожнага члена сям'і 30 м. | Разам выдаткаў на ўтрыманьне сям'і і адзежу | Выдаткі ў марках: Арэнда за зямлю | | На набыцьце мінэральных угнаеньняў | | Насеньне | | Выдаткі на розныя павіннасьці, страхоўку маемасьці і цэркоўныя выдаткі | | Выдаткі на рамонт будынкаў | | Выдаткі на штогодны рамонт інвэнтару і ўпражы | | Усяго ў год выдаткаў | | Плошча зямлі калёніста | Сярэдні выдатак калёніста на 1 гэктар |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1902-03 . | 3027 | 3 | 5 | 8 | 756 | 720 | 240 | 1716 | 249 | 23 | 134 | 93 | 173 | 00 | 30 | 00 | 30 | 00 | 40 | 00 | 2373 | 16 | 8,3076 | |
| 1903-04 . | 3027 | 3 | 5 | 8 | 756 | 720 | 240 | 1716 | 249 | 23 | 146 | 12 | 178 | 03 | 30 | 00 | 30 | 00 | 40 | 00 | 2389 | 38 | 8,3076 | |
| 1904-05 . | 3027 | 3 | 6 | 9 | 756 | 864 | 270 | 1890 | 249 | 23 | 223 | 27 | 173 | 00 | 30 | 00 | 30 | 00 | 40 | 00 | 2635 | 50 | 8,3076 | |
| 1905-06 . | 4805 | 3 | 6 | 9 | 756 | 864 | 270 | 1890 | 249 | 23 | 254 | 34 | 173 | 00 | 30 | 00 | 30 | 00 | 40 | 00 | 2666 | 57 | 8,3076 | |
| 1906-07 . | 4805 | 3 | 7 | 10 | 756 | 1008 | 300 | 2064 | 258 | 11 | 281 | 57 | 173 | 00 | 30 | 00 | 30 | 00 | 40 | 00 | 2876 | 68 | 8,6038 | |
| 1907-08 . | 6480 | 3 | 8 | 11 | 756 | 1152 | 330 | 2238 | 258 | 11 | 292 | 63 | 173 | 00 | 30 | 00 | 30 | 00 | 40 | 00 | 3061 | 74 | 8,6038 | |
| 1908-09 . | 6480 | 3 | 8 | 11 | 756 | 1152 | 330 | 2238 | 272 | 26 | 328 | 09 | 179 | 11 | 30 | 00 | 30 | 00 | 40 | 00 | 3117 | 46 | 9,0752 | |
| 1909-10 . | 6480 | 4 | 7 | 11 | 1008 | 1008 | 330 | 2346 | 272 | 26 | 318 | 72 | 183 | 68 | 30 | 00 | 30 | 00 | 40 | 00 | 3220 | 66 | 9,0752 | |
| 1910-11 . | 6480 | 4 | 6 | 10 | 1008 | 864 | 300 | 2172 | 272 | 26 | 331 | 85 | 181 | 61 | 30 | 00 | 30 | 00 | 40 | 00 | 3057 | 72 | 9,0752 | |
| 1911-12 . | 6480 | 5 | 6 | 11 | 1260 | 864 | 330 | 2454 | 272 | 26 | 343 | 48 | 181 | 27 | 30 | 00 | 30 | 00 | 40 | 00 | 3351 | 01 | 9,0752 | |
| Разам . | | 34 | 64 | 98 | 8568 | 9216 | 2940 | 20724 | 2602 | 18 | 2655 | 00 | 1768 | 70 | 300 | 00 | 300 | 00 | 400 | 00 | 28749 | 88 | 86,7388 | 331 |

*Табліца № 3 (В).*

| Год пасяленьня калёніста | Страхавая ацэнка інвэнтару | Вялічыня сям'і: Дарослых | Дзяцей | Усіх разам | Штогодные выдаткі на ўтрыманьне сям'і і на апал і асьвятленьне (у марках): Дарослых 70 pf. | Дзяцей 40 pf. | Адзежа 30 м. | Разам выдаткаў на ўтрыманьне і адзежу сям'і | Выдаткі ў марках: Арэнда за зямлю | Мінэральныя ўгнаеньні | Насеньне | Выдаткі на розныя павінласьці, страхоўку маемасьці і царкоўныя выдаткі | Выдаткі на рамонт будынкаў | Выдаткі на штогодны рамонт інвэнтару і ўпражы | Усяго ў год выдаткаў | Плошча зямлі каланіста | Выдатак калёніста на 1 гэктар |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1891 . . | 1336 | 2 | 2 | 4 | 504 | 288 | 120 | 912 | 72 83 | — — | 27 08 | 5 00 | 5 00 | 5 00 | 1026 91 | 1,8207 | |
| 1892 . . | 1696 | 2 | 3 | 5 | 504 | 432 | 150 | 1086 | 75 43 | 169 05 | 90 12 | 6 00 | 5 00 | 5 00 | 1436 60 | 3,7064 | |
| 1893 . . | 2227 | 2 | 3 | 5 | 504 | 432 | 150 | 1086 | 142 97 | 205 46 | 102 28 | 10 00 | 6 00 | 6 00 | 1558 71 | 5,7100 | |
| 1894 . . | 2407 | 2 | 4 | 6 | 504 | 576 | 180 | 1260 | 223 68 | 245 71 | 171 08 | 10 00 | 6 00 | 6 00 | 1922 47 | 7,5956 | |
| 1895 . . | 3305 | 2 | 4 | 6 | 504 | 576 | 180 | 1260 | 256 88 | 275 36 | 257 06 | 10 00 | 8 00 | 8 00 | 2075 30 | 8,3076 | |
| 1896 . . | 3305 | 2 | 5 | 7 | 504 | 720 | 210 | 1434 | 220 75 | 225 41 | 246 53 | 10 00 | 8 00 | 8 00 | 2152 69 | 8,3076 | |
| 1897 . . | 3305 | 3 | 6 | 9 | 756 | 864 | 270 | 1890 | 249 23 | 191 16 | 208 96 | 15 00 | 10 00 | 10 00 | 2574 35 | 8,3076 | |
| 1898 . . | 3305 | 2 | 6 | 8 | 504 | 864 | 240 | 1608 | 249 23 | 196 73 | 221 51 | 15 00 | 10 00 | 10 00 | 2310 47 | 8,3076 | |
| 1899 . . | 3305 | 2 | 7 | 9 | 504 | 1008 | 270 | 1782 | 249 23 | 262 00 | 182 84 | 20 00 | 15 00 | 15 00 | 2527 07 | 8,3076 | |
| 1900 . . | 5268 | 2 | 7 | 9 | 504 | 1008 | 270 | 1782 | 249 23 | 213 19 | 178 32 | 25 00 | 20 00 | 20 00 | 2487 74 | 8,3076 | |
| 1901 . . | 5268 | 2 | 7 | 9 | 504 | 1008 | 270 | 1782 | 249 23 | 199 94 | 173 52 | 30 00 | 30 00 | 40 00 | 2504 69 | 8,3076 | |
| 1902 . . | 5268 | 3 | 7 | 10 | 756 | 1008 | 300 | 2064 | 249 23 | 202 87 | 165 88 | 30 00 | 30 00 | 40 00 | 2781 98 | 8,3076 | |
| 1903 . . | 5268 | 3 | 8 | 11 | 756 | 1152 | 330 | 2238 | 249 23 | 174 65 | 172 03 | 30 00 | 30 00 | 40 00 | 2933 91 | 8,3076 | |
| 1904 . . | 5268 | 3 | 7 | 10 | 756 | 1008 | 300 | 2064 | 249 23 | 243 93 | 167 00 | 30 00 | 30 00 | 40 00 | 2824 16 | 8,3076 | |
| 1905 . . | 5738 | 3 | 7 | 10 | 756 | 1008 | 300 | 2064 | 249 23 | 274 43 | 169 56 | 30 00 | 30 00 | 40 00 | 2857 22 | 8,3076 | |
| 1906 . . | 5738 | 5 | 6 | 11 | 1260 | 864 | 330 | 2454 | 258 11 | 326 61 | 171 80 | 30 00 | 30 00 | 40 00 | 3309 92 | 8,6038 | |
| 1907 . . | 5738 | 4 | 7 | 11 | 1008 | 1008 | 330 | 2346 | 272 26 | 322 38 | 179 00 | 30 00 | 30 00 | 40 00 | 3219 64 | 9,0752 | |
| 1908 . . | 5738 | 4 | 7 | 11 | 1008 | 1008 | 330 | 2346 | 258 11 | 363 31 | 203 84 | 30 00 | 30 00 | 40 00 | 3277 26 | 9,0752 | |
| 1909 . . | 5738 | 4 | 7 | 11 | 1008 | 1008 | 330 | 2346 | 272 26 | 311 39 | 210 24 | 30 00 | 30 00 | 40 00 | 3239 89 | 9,0752 | |
| 1910 . . | 5738 | 5 | 7 | 12 | 1260 | 1008 | 360 | 2628 | 272 26 | 305 55 | 223 56 | 30 00 | 30 00 | 40 00 | 3529 37 | 9,0752 | |
| 1911 . . | 5738 | 5 | 6 | 11 | 1260 | 864 | 330 | 2454 | 272 26 | 326 01 | 220 68 | 30 00 | 30 00 | 40 00 | 3372 95 | 9,0752 | |
| Разам. | | 62 | 123 | 185 | 15624 | 17712 | 5550 | 38886 | 4840 87 | 5034 54 | 3742 89 | 456 00 | 423 00 | 533 00 | 53916 30 | 164,1961 | 328 |

Калёніст уступіў у калёнію без усякай маемасьці, за выключэньнем нязначнай колькасьці дзяшовай мэблі. Ужо праз год яго інвэнтар пры страхаваньні быў ацэняны ў 1336 марак, у гэтую суму не уваходзіў кошт бульбы. Пад канец 1912 году яго інвэнтар быў ацэняны ў 5738 мар., г. з. яго прыбытак павялічыўся на 4402 маркі. Вялікіх ашчаднасьцяў ён ня быў у стане зрабіць з прычыны вялікай сям'і, якая патрабавала значных выдаткаў, а таксама ў гэты час ён выдаў замуж дачку, якой даў пасаг. У гэтага калёніста было 8 дзяцей, з якіх адно памерла. Ён выплаціў 4840,9 м. арэнднай платы за зямлю і могбы плаціць і большую арэнду. Кошт яго інвэнтара, як мы відзелі, павялічыўся за гэты час на 4402 маркі. Па сваіх гаспадарчых здольнасьцях і працаздольнасьці калёніст адносіцца да сярэдніх гаспадароў. З сваёй гаспадаркі за ўвесь час для пакрыцьця усіх павіннасьцей і запатрабаваньняў сваёй сям'і ён атрымаў 53.916, марак альбо па 328 марак з гэктара штогодна.

*Тлумачэньне да табліцы № 4 (С).*

Калёніст лічыцца адным з лепшых і беражлівых гаспадароў калёніі. Заняў ён калёнію ў 1896 годзе. У 1907 годзе ў яго было 5 дзяцей. Плошча калёніі з пачатку была 2,6514 гэктара, а пасьля паступова павялічылася да 9,8947 гэктара. Калёнія павінна была пракарміць сям'ю ў сярэднім у 6 чалавек.

Праз год пасьля перасяленьня інвэнтар яго быў ацэнены ў 1419 марак, а к канцу 1912 г. кошт яго інвэнтару вырас да 8614 марак, гэта значыць павялічыўся на 7195 марак. Апрача гэтага, у 1907 годзе калёніст пабудаваў новую адрыну за 1000 руб. Пры ўступленьні ў калёнію гэты калёніст ня меў ніякай маемасьці. Пры астаўленьні ім калёніі балотны наглядальнік ацаніў яго маемасьць у 2000 марак. Такім чынам, у працягу 16 год калёніст набыў у сваёй гаспадарцы 10.195 м., а ў сярэднім па 667 марак кожны год. З тае прычыны, што сямья яго была меншая, чымся ў 2-х першых калёністаў, яму патрэбна было для пакрыцьця яго запатрабаваньняў па 242 маркі з гэктара, а не 331 м. і 328 м., як гэта было ў калёністаў першых 2 груп. Такім чынам, яго матар'яльнае становішча было лепшым за 16 год, чымся калёніста А 1 групы на 133,96 × 89 = 11.922 м. і чымся калёністы В 2 групы на 133,99 × 86 = 11.520 м. Як мы бачым, атрымліваецца не вялікая розьніца гэтага вылічэньня з сапраўднай ацэнкай яго маемасьці ў 10195 м. Гэтая розьніца тлумачыцца трохі лепшым утрыманьнем сям'і гэтага калёніста ў параўнаньні з двума першымі. За 16 год калёніст выплаціў 3929,89 марак арэнднай платы.

З паказанага мы бачым наступнае (гл. наступную старонку):

1) Купля зямлі (233,33 м. за гэктар), кошт правядзеньня ўсей меліарацыі, уключна да перадачы калёністам, пабудова ўсіх будынкаў і г. д. абышлося па 1253 маркі на гэктар, з уключэньнем сюды і 3% гадовых процантаў на затрачаны капітал.

2) З далучаных трох табліц № 2 А, № 3 В і № 4 С відаць, што ўсе тры групы калёністаў: дрэнныя, сярэднія і добрыя гаспадары былі ў стане ў працягу цэлага шэрагу гадоў утрымліваць у дастатку сваю сям'ю, выпаўняць усе павіннасьці і, апрача гэтага, павялічылі сваю маемасьць на 4000 м., 4400 м. і 10.000 марак.

3) Арэнднай платай кіраўніцтва, як прадпрыемства, было ў стане аплачываць на ўложаны на гэктар капітал 1253 маркі у сярэднім па 2,4% гадавых, што зьяўляецца да пачатку справы зусім дастатковым.

*Табліца № 4 (С),*

| Год пасяленьня калёніста | Страхавая ацэнка інвэнтару | Вялічыня сям'і | | | Штогодные выдаткі на ўтрыманьне сям'і і на апал і асьвятленьне ў марках | | | Разам выдаткаў на утрыманьне сям'і і адзежу | Выдаткі ў марках | | | Выдаткі на розныя павіннасьці, страхоўку маемасьці і цэркоўныя выдаткі | Выдаткі на рамонт будынкаў | Выдаткі на штогодны рамонт інвэнтару і ўпражы | Усяго ў год выдаткаў | Плошча зямлі калаліста | Сярэдні выдатак калёніста на 1 гэктар |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Дарослых | Дзяцей | Усіх разам | Дарослых | Дзяцей | Адзежа на кожнага члена сям'і | | Арэнда за зямлю | На набыцьце мінэральных угнаеньняў | Насеньне | | | | | | |
| 1896 . . | 1419 | 2 | 1 | 3 | 504 | 144 | 90 | 738 | 106 06 | — — | 103 08 | 5 00 | — — | 5 00 | 957 14 | 2,6514 | |
| 1897 . . | 2491 | 2 | 2 | 4 | 504 | 288 | 120 | 912 | 75 88 | 49 30 | 159 40 | 6 00 | 3 00 | 6 00 | 1211 58 | 4,5484 | |
| 1898 . . | 3763 | 2 | 3 | 5 | 504 | 432 | 150 | 1086 | 144 00 | 218 31 | 203 66 | 8 00 | 5 00 | 8 00 | 1672 97 | 5,4969 | |
| 1899 . . | 4415 | 2 | 4 | 6 | 504 | 576 | 180 | 1260 | 229 36 | 259 68 | 210 35 | 10 00 | 10 00 | 12 00 | 1991 39 | 6,6825 | |
| 1900 . . | 4415 | 2 | 4 | 6 | 504 | 576 | 180 | 1260 | 300 87 | 247 30 | 256 54 | 15 00 | 15 00 | 20 00 | 2114 71 | 8,7073 | |
| 1901 . . | 4415 | 2 | 2 | 4 | 504 | 288 | 120 | 912 | 201 57 | 305 09 | 230 42 | 20 00 | 20 00 | 25 00 | 1714 08 | 9,4188 | |
| 1902 . . | 5865 | 2 | 3 | 5 | 504 | 432 | 150 | 1086 | 261 21 | 302 25 | 193 52 | 25 00 | 25 00 | 30 00 | 1922 98 | 9,4188 | |
| 1903 . . | 5865 | 2 | 3 | 5 | 504 | 432 | 150 | 1086 | 282 56 | 254 02 | 193 40 | 30 00 | 30 00 | 40 00 | 1915 98 | 9,4188 | |
| 1904 . . | 5865 | 2 | 4 | 6 | 504 | 576 | 180 | 1260 | 282 56 | 287 32 | 197 09 | 30 00 | 30 00 | 40 00 | 2126 97 | 9,4188 | |
| 1905 . . | 5865 | 2 | 4 | 6 | 504 | 576 | 180 | 1260 | 282 56 | 372 87 | 208 80 | 30 00 | 30 00 | 40 00 | 2224 23 | 9,5982 | |
| 1906 . . | 7227 | 2 | 4 | 6 | 504 | 576 | 180 | 1260 | 287 95 | 335 57 | 196 83 | 30 00 | 30 00 | 40 00 | 2180 35 | 9,5982 | |
| 1907 . . | 7227 | 2 | 5 | 7 | 504 | 720 | 210 | 1434 | 287 95 | 332 11 | 190 76 | 30 00 | 30 00 | 40 00 | 2344 82 | 9,8947 | |
| 1908 . . | 7227 | 3 | 4 | 7 | 756 | 576 | 210 | 1542 | 296 84 | 323 07 | 209 08 | 30 00 | 30 00 | 40 00 | 2470 99 | 9,8947 | |
| 1909 . . | 8614 | 3 | 4 | 7 | 756 | 576 | 210 | 1542 | 296 84 | 334 85 | 196 84 | 60 00 | 30 00 | 40 00 | 2500 53 | 9,8947 | |
| 1910 . . | 8614 | 3 | 4 | 7 | 756 | 575 | 210 | 1542 | 296 84 | 350 54 | 212 47 | 60 00 | 30 00 | 40 00 | 2531 85 | 9,8947 | |
| 1911 . . | 8614 | 3 | 4 | 7 | 756 | 576 | 210 | 1542 | 296 84 | 361 82 | 222 84 | 60 00 | 30 00 | 40 00 | 2553 50 | 9,8947 | |
| Разам . | | 36 | 55 | 91 | 9072 | 7920 | 2730 | 19722 | 3929 89 | 4334 10 | 3185 08 | 449 00 | 348 00 | 466 00 | 32434 07 | 133,9557 | 242 |

У наступныя гады можна будзе бяз усякага ўшчэрбу для дабрабыту калёністаў арэндную плату павялічыць.

*Табліца № 5.*

**Кошт ураджаю з ўсёй сельска-гаспадарчай плошчы калёніі з 1891—1912 год.**

| Год | Плошча над культурамі (у гэктарах) | Кошт ураджаю калёністаў | Агульны кошт ураджаю з усей с.-гаспадарчай плошчы калёніі | Кошт ураджаю (з 1 гэктару) |
|---|---|---|---|---|
| 1891 | 40,0 | 10806 | 13000 | 325 |
| 1892 | 65,8 | 15060 | 17000 | 258 |
| 1893 | 98,0 | 29077 | 35000 | 357 |
| 1894 | 130,9 | 30177 | 36300 | 277 |
| 1895 | 164,9 | 36266 | 40600 | 247 |
| 1896 | 194,3 | 44000 | 49000 | 252 |
| 1897 | 216,2 | 51573 | 58700 | 270 |
| 1898 | 259,7 | 57646 | 66000 | 254 |
| 1899 | 283,5 | 69652 | 85000 | 300 |
| 1900 | 310,3 | 47906 | 79000 | 226 |
| 1901 | 336,6 | 74548 | 87750 | 261 |
| 1902 | 349,1 | 76472 | 88330 | 253 |
| 1903 | 356,0 | 65856 | 77375 | 218 |
| 1904 | 361,2 | 80216 | 109930 | 304 |
| 1905 | 366,4 | 90159 | 105523 | 288 |
| 1906 | 369,2 | 88499 | 104484 | 283 |
| 1907 | 374,0 | 92025 | 105359 | 277 |
| 1908 | 384,7 | 99126 | 112099 | 291 |
| 1909 | 389,8 | 103878 | 116420 | 299 |
| 1910 | 390,2 | 107362 | 120375 | 308 |
| 1911 | 390,0 | 119183 | 135980 | 348 |
| 1912 | 390,0 | 124186 | 139323 | 357 |
| | У сярэднім у год . . . | | | 284 |

Для таго, каб паказаць разьвіцьцё калёніі і прыбыткі, якія атрымліваліся ўсёй сельска-гаспадарчай плошчы калёніі і з 1 гэктару, а таксама кошт ураджаю ў розныя годы ад розных культур, ніжэй прыводзіцца яшчэ некалькі табліц.

*Табліца № 6.*

**Прыбыткі і выдаткі з сельска-гаспадарчай плошчы балота, якая знаходзілася пад загадам кіраўніцтва каленіі з 1891—1912 год.**

**Падагуліваньне па гадох.**

| Год | Плошча, занятая с.-г. культурамі (у гэктарах) | Ураджай | | | | Разам прыбытку | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Выдаткі | | Прыбытак | | З усей плошчы | | З аднаго гэктара |
| | | М. | Пф. | М. | Пф. | М. | Пф. | М. |
| 1891 | 8,0096 | 2266 | 28 | 2519 | 92 | 253 | 64 | 31,7 |
| 1892 | 7,9591 | 1706 | 41 | 2026 | 84 | 320 | 43 | 40,3 |
| 1893 | 21,2976 | 3952 | 63 | 6242 | 85 | 2290 | 22 | 107,5 |
| 1894 | 17,5967 | 3487 | 98 | 5653 | 64 | 2165 | 66 | 123,0 |
| 1895 | 15,8538 | 3455 | 53 | 4315 | 08 | 859 | 55 | 54,2 |
| 1896 | 14,1554 | 2835 | 25 | 3661 | 37 | 826 | 12 | 58,4 |
| 1897 | 11,2476 | 2980 | 64 | 3683 | 97 | 703 | 33 | 62,5 |
| 1898 | 20,1483 | 3196 | 95 | 4243 | 55 | 1046 | 60 | 51,9 |
| 1899 | 23,4029 | 3368 | 39 | 4799 | 58 | 1431 | 19 | 61,1 |
| 1900 | 15,2766 | 3365 | 63 | 3752 | 27 | 386 | 64 | 25,3 |
| 1901 | 25,9162 | 5209 | 65 | 8548 | 26 | 3338 | 61 | 129,2 |
| 1902 | 32,4198 | 5135 | 03 | 6804 | 29 | 1669 | 26 | 51,5 |
| 1903 | 40,9312 | 7190 | 53 | 8994 | 21 | 1803 | 68 | 44,1 |
| 1904 | 65,8563 | 11882 | 24 | 18622 | 01 | 6739 | 77 | 102,3 |
| 1905 | 61,5031 | 12320 | 51 | 16749 | 06 | 4428 | 55 | 72,0 |
| 1906 | 59,8421 | 12897 | 68 | 16548 | 76 | 3651 | 08 | 61,0 |
| 1907 | 53,5236 | 11530 | 57 | 13453 | 65 | 1923 | 08 | 35,9 |
| 1908 | 46,1174 | 9961 | 81 | 12564 | 94 | 2603 | 13 | 56,4 |
| 1909 | 39,8610 | 9657 | 71 | 12982 | 21 | 3324 | 50 | 83,4 |
| 1910 | 37,0072 | 8998 | 19 | 12120 | 93 | 3122 | 74 | 84,4 |
| 1911 | 36,6070 | 9265 | 50 | 16969 | 43 | 7703 | 93 | 210,6 |
| 1912 | 27,8179 | 8368 | 22 | 12532 | 32 | 4164 | 10 | 149,6 |
| Разам | 682,3504 | 143033 | 33 | 197789 | 14 | 54755 | 81 | 80,2 |

*Табліца № 7.*

**Зводка прыбытковасьці па культурах**

| Плошча пад культурамі (у гэктарах) | Культура | Ураджай | | | | Усяго прыбытку | | | Страта | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Выдаткі | | Прыбытак | | С плошчы | | з 1 гэкт. | З плошчы | | з 1 гэкт. |
| | | М. | Пф. | М. | Пф. | М. | Пф. | М. | М | Пф. | М. |
| 161,4924 | Жыта . . . . | 29228 | 90 | 38545 | 44 | 9316 | 54 | 57.7 | — | — | — |
| 155.3739 | Бульба . . . | 74492 | 70 | 106540 | 11 | 32047 | 41 | 206.3 | — | — | — |
| 124.6850 | Авёс . . . . | 24184 | 50 | 32666 | 35 | 7881 | 85 | 63.0 | — | — | — |
| 5.1691 | Гарох, боб. . . | 1106 | 64 | 692 | 93 | — | — | — | 413 | 71 | 80,8 |
| 142,8462 | Канюшына і травы | 7867 | 63 | 11843 | 50 | 3975 | 87 | 27,7 | — | — | — |
| 92,6377 | Паша . . . . | 6134 | 43 | 8091 | 31 | 1956 | 88 | 21.1 | — | — | — |
| 0.1461 | Грэчка. . . . | 18 | 53 | 9 | 50 | — | — | — | 9 | 03 | 61.8 |
| 682,3504 | | 143033 | 33 | 197789 | 14 | 54755 | 81 | 80,2 | — | — | — |

*Табліца № 8.*

**Чысты прыбытак паасобных культур на гэктар па гадох.**

| Год | Жыта | Бульба | Авёс | Матылько-выя (гарох, боб і інш.) | Канюшына і травы | Паша | Грэчка | Сярэдні чысты прыбытак на гэктар па ўсіх культурах |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1891 | 42,5 | 40,0 | 52,8 | —61,5 | — | — | — | 31,7 |
| 1892 | 158,1 | 84.4 | —27,5 | —89,0 | 79.3 | — | — | 40,3 |
| 1893 | 135,4 | 51,5 | — 4.6 | —106,4 | 49,6 | — | — | 107,5 |
| 1894 | 133,7 | 267.0 | 43.0 | —69.0 | 30,0 | — | — | 123,0 |
| 1895 | 26.9 | 179,5 | 64.6 | —37.7 | 13,0 | — | — | 54.2 |
| 1896 | 34.5 | 203.9 | —11.8 | —101.0 | 40,2 | — | — | 58.4 |
| 1897 | 55.4 | 65,3 | 90.3 | — | — | — | — | 62,5 |
| 1898 | 66,1 | 219.9 | 5,8 | — | — | — | — | 51.9 |
| 1899 | 32.9 | 185,1 | 61,6 | — | 37,3 | — | — | 61,1 |
| 1900 | 0.6 | 47,2 | 45.8 | — | 37,7 | — | — | 25,3 |
| 1901 | 15,1 | 406.1 | 108.3 | — | 36,8 | — | — | 129,2 |
| 1902 | 45.6 | 99,5 | 108,8 | — | 27,4 | — | — | 51.5 |
| 1903 | 37,1 | 127.9 | 91,1 | — | 26,6 | —35.5 | — | 44.1 |
| 1904 | 53,0 | 319.6 | 92,4 | — | 38.0 | 32.4 | — | 102,3 |
| 1905 | 64,2 | 184,9 | 24.2 | — | 32,3 | 30.2 | —61.8 | 72,0 |
| 1906 | 91,0 | 94,0 | 66.0 | — | 26,0 | 31,0 | — | 61,0 |
| 1907 | 65,7 | 16,4 | 105,0 | — | 5.9 | 2,2 | — | 35,98 |
| 1908 | 58,9 | 129,8 | 72.3 | — | 1,8 | 1,0 | — | 56.4 |
| 1909 | 60,3 | 144,8 | 147,0 | — | 36,4 | 31,8 | — | 83,4 |
| 1910 | 8,1 | 253.7 | 25.2 | — | 37.1 | 46,4 | — | 84.4 |
| 1911 | 21,8 | 615.8 | 119,2 | — | 18,0 | 45,0 | — | 210,6 |
| 1912 | 69,0 | 320,9 | 57,9 | — | 36,0 | 27,5 | — | 149,6 |

З паказанага артыкулу можна зрабіць наступныя вынікі:

1) Першая спроба Нямеччыны 40 год таму назад па калёнізацыі беднага азотам, вапнаю, фосфарам і каліем махавога балота, на засадзе вынікаў Брэменскай Балотнай Станцыі, паказала поўную жыцьцёвасьць гэтага прадпрыемства.

2) Гэтая першая ўдачная спроба калёнізацыі балота паслужыла сьцімулам для далейшага разьвіцьця цэлага шэрагу калёній у Нямеччыне.

3) Дасьледаваньні Беларускіх балот паказалі, што пераважна большую частку нашых балот складаюць нізінныя балоты, багатыя вапнаю, азотам, а частка з іх багата і фосфарам.

4) Менская Балотная Станцыя паказала, што гэтыя балоты лёгка паддаюцца культуры, даюць высокія ўстойлівыя ўраджаі, даюць высокую прыбытковасьць і рэнту.

5) Тэхніка ў сельскае гаспадарцы за апошнія часы значна пасунулася наперад і стварае надзвычайна спрыяючыя ўмовы для разьвіцьця сельскае гаспадаркі на балоце. На гэтых глебах магчыма поўная мэханізацыя з прыстасаваньнем трактараў, фрэз маторных, каткоў і інш.

6) Урад Беларусі ўдзяляе асабліва выключную ўвагу мэліорацыі і культуры балот накіроўваючы яе па шляху калёнізацыі і організацыі буйных прамысловых прадпрыемств—Саўгасаў.

Улічваючы гэтыя глаўнейшыя фактары, мы прыходзім да перакананьня, што пэрспэктывы калёнізацыі балот на Беларусі надзвычайна вялікія, непараўнаўча большыя, чымся ў Нямеччыне, што сьмелыя плянавыя меркаваньні Наркамзему Беларусі аб прывядзеньні ў культурны стан і засяленьні ў 5 год 100.000 гэкт. балота, зьяўляюцца рэальнымі і яны будуць дасягнуты пры ўмове дружнай працы Наркамзему, Навукова-Дасьледчага Інстытуту, грамадзкіх і партыйных організацый.

---

В. А. Сьцяпуржынскі.

# Шляхі аграхіміі ў БССР за 10-цігодзьзе.

Аграхімія—навука, аб'ектамі якой зьяўляюцца расьліны, глебы, паветра (атмасфэра) і якую таксама цікавіць вывучэньне спосабаў уздеяньня на ўласьцівасьці глебы.

Мэтады, якія ўжываюцца гэтаю навукаю, як паказвае і самая яе назва—хімічныя, але для магчымасьці правесьці жывую сувязь паміж лябораторнай мэтодыкай і яе прыстасаваньнем на практыцы,—вэгэтацыйны мэтад ужо здаўна заваяваў у ёй сабе поўнае права грамадзянства.

Аднак, трыццаць пяць год таму назад, у б. Расеі зьнікла самастойнае існаваньне гэтае дысцыпліны, што было выклікана палітычнымі ўмовамі таго часу, у сувязі з жаданьнем атрымаць «новы» сельскагаспадарчы Інстытут, які ня быў-бы падобны да старой «рэвалюцыйнай» Пятроўскай Акадэміі. Аграхімія была злучана з органічнай хіміяй.

Гэты доўгі час жыцьця аграхіміі ў якасьці падсуседа ма-быць шмат павінен у той адсталасьці нашае сельскае гаспадаркі, якую назіраем цяпер у параўнаньні з краінамі Захаду, дзе, да рэчы сказаць, гэткага «ўніяцтва» аграхімія ня пераживала, калі ня лічыць аднаго моманту ў Нямеччыне, у якой як-раз каля 1894 году аграхімік, гэта трэба падкрэсьліць, праф. Флейшэр аб'яднаў і катэдру органічнай хіміі, што відаць і было, як заўсёды «удала», улічана «рэфармістымі» б. Расеі.

Гэткая «ўнія» для расейскай аграхіміі, як вядома скончылася ў 1920 г. Аднак, трэба адзначыць, што і ў час яе заняпаду, дзякуючы існуючым навукова-дасьледчым сельска-гаспадарчым установам, аграхімія мела магчымасьць, хоць прыцішаным тэмпам і не плянава, весьці свае працы.

На абшарах сучаснай Беларусі, у сувязі з тэндэнцыйнымі поглядамі б. царскай улады, у адносінах да навукова-дасьледчай працы наогул, і ў прыватнасьці адносна да сельска-гаспадарчых навукова-дасьледчых установаў, было пустое месца.

Толькі ўсяго дзесяць год назад, як у студзені месяцы Часовы Ўрад Беларусі дэкрэтаваў яе незалежнасьць. Гэтыя дзесяць год у адносінах да магчымасьці вытворчага, стваральнага жыцьця скарочваюцца яшчэ, амаль на 1/3 частку, бо цэлы шэраг акупацый, як у калейдаскопе праходзіць праз Беларусь, і апошняя з іх—у верасьні мес. 1920 году.

Такім чынам, пачатак больш супакойнага і пачатак творчага навуковага жыцьця трэба лічыць з канца 1921 году, ці нават з 1922 году, калі барацьба і зьнішчэньне бандыцкіх шаяк і партызанскіх атрадаў, амаль зусім спыняецца.

Тады адчыняецца ў Банцараўшчыне Беларуская Агранамічная Станцыя на мінэральных глебах; ствараецца ў Менску Сельска-Гаспа-

дарчы Інстытут; пачынае сваю працу, пасьля змушанага шасьцігадовага анабіозу, старэйшая і, амаль, адзіная дасьледчая ўстанова ў Беларусі таго часу,—Менская Балотная Станцыя. Нанова ствараецца яе хімічная лябараторыя.

Урэшце трэба адзначыць адчыненьне ў канцы 1921 году і пачатку 1922 году Катэдры Аграхіміі пры Сельска-Гаспадарчым Інстытуце ў Горках, якія ў той час ня былі яшчэ ў складзе БССР.

Праўда, і да 1922 г., у самыя цяжкія і цёмныя гады для навукі, як 1919 і 1920 г. г., падобна да мэтэораў, ці бліскавіцы, займаюцца паасобныя іскаркі агранамічных лябараторый то Тэхнікумаў, то Практычных Інстытутаў, у розных гарадох сучаснай Беларусі, але, як бліскавіца яны хутка і гаснуць у віхры бязупынных організацый і рэарганізацый, пакідаючы па сабе той ці іншы сьлед беларускай аграхіміі.

Глебавыя і геолёгічныя дасьледаваньні,—як працы распачатыя ў Беларусі Менскім і Горацкім С. Г. Інстытутамі; працы балотнае Станцыі—па вывучэньню зьмены торфу, як спажыўнай матэрыі пад уплывам культуры, аналіз дрэнажнай балотнай вады, крухмалістасьць бульбы на балоце, хімічныя аналізы торфу і штучных угнаеньняў; уплыў вапны на фізычныя, хімічныя і біолёгічныя ўласьцівасьці глебы, вывучэньне біохімічных працэсаў у сувязі з пертвараньнем іх фосфару ў падзолістых глебах, узаемадзейнасьць фасфарытаў з падзолавай глебай, памножваньне мінэральнай матэрыі ў асобных ворганах аўсу ў час росту, ёмістасьць паглынаньня і ступень ненасычанасьці глеб Горацкага Раёну, працэсы нітрыфікацыі і мабілізацыя фосфарнае кіслаты ў падзолавай глебе і іншыя, і іншыя працы катэдры аграхіміі Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскае і Лясное Гаспадаркі; паасобныя працы Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі Інбелкульту, асабліва ў сэнсе вывучэньня беларускіх фасфарытаў; працы, якія распачаты Цэнтральнай Хімічнай Лябараторыяй БНДІ, як у галіне мінэральных глеб па вывучэньню паглынальнага глебавага комплексу, так і ў галіне балотных глеб па вывучэньню іх паасобных фізыка-хімічных уласьцівасьцяй і распрацоўцы тае ці іншае мэтодыкі; аналізы расьлін, глеб і ўгнаеньняў, якія вядуцца рознымі нашымі дасьледчымі ўстановамі—гэта ўсё шляхі Беларускай Аграхіміі за апошнія 10 год.

Толькі нажаль гэтыя шляхі не плянаваныя, яны як тыя сьцежачкі бяссыстэмна перасякаюць адна-адну, чаму і вынікі іх і прыстасоўваньне іх да сапраўднага жыцьця вельмі і вельмі нязначныя.

Патрэбна асаблівая зьбіраючая лінза, якая павінна ня толькі сабраць усе гэтыя праменьні, але і накіраваць іх у належным парадку і чарзе па новых рэчышчах, найбольш патрэбных для сучаснага жыцьця.

Такой зьбіраючай лінзаю можа быць, павінен быць і будзе Беларускі Навукова-Дасьледчы Інстытут імя Леніна, у якім, як у галоўным фокусе, на базе навуковых дасьледаваньняў перасякуцца ўсе мерапрыемствы, якія маюць сувязь з сельскай і лясной гаспадаркай.

Стварэньне Інстытуту, фактычна на парозе дзесяцігадовага юбілею БССР, ня выпадкова.

У Аграхімічным Аддзеле, яго павінна знайсьці свой фокус, сваю будучыну, і Беларуская Аграхімія, як у іншых яго Аддзелах знаходзяць сабе адпаведнае пераламленьне, амаль усе мерапрыемствы, якія тым ці іншым парадкам зьвязаны з сельскай і лясной гаспадаркай; хоць нажаль такія пытаньні, як тарфяная гаспадарка, ад належнае пабудовы якой залежыць і лясная гаспадарка і культура балот,

пакуль-што таксама ня ў сфэры аграхімічнага ўплыву Навукова-Дасьледчага Інстытуту.

Гэты артыкул, які выкліканы жаданьнем мець да 10-цігадовага юбілею БССР вынікі аграхіміі ў Беларусі, нажаль ня можа поўнасьцю адпавядаць гэтаму, як ужо відаць з папярэдняга, але за тое ён няхай адпавядае таму, чаго магчыма чакаць ад беларускае агранамічнае хіміі да другога 10-цігадовага юбілею БССР, ці нават раней, да 10-цігадовага юбілею існаваньня Інстытуту імя Леніна:

I. На падставе амаль поўнага адсутнічаньня дадзеных аб аграхімічных дасьледаваньнях адносна кожнай глебавай рознасьці, павінна быць праведзена, пасьля штандартнага апісаньня кожнай глебавай рознасьці, яе дэталёвае ахарактарызаваньне як з боку фізыка-хімічных уласьцівасьцяў, і проста фізычных і хімічных, так і з боку вывучэньня яе мікрабіолёгіі, мікрафлёры і пустазельля.

Сувязь аграхіміка ў гэткім дасьледаваньні з селянінам-дасьледчыкам дасьць лічбовы матэрыял ураджайнасьці кожнай глебавай рознасьці.

У выніку ўсяе гэтае працы павінен быць атрыманы ня толькі карысны, багаты, навуковы матэрыял, які ляжа ў аснову стварэньня глебавай мапы, але будзе падведзены грунтоўны фундамант для беспамылковага ўжываньня штучных угнаеньняў і вапны, што нарэшце вывядзе нашага вучастковага аграномa з таго тупіку, у якім ён знаходзіцца цяпер.

II. На падставе поўнага адсутнічаньня дадзеных аб хімічным складзе расьлін, якія культывуюцца ў БССР, неабходна правесьці і гэтую марудную працу.

Гэтая праца дасьць магчымасьць адмовіцца ад карыстаньня дадзенымі замежных краін, ня гледзячы на вялікае хістаньне хімічнага складу расьлін ад узаемадзейнічаньня ўмоў, пры якіх яны ўзрастаюць.

У выніку гэтае працы высьвятліцца сапраўдная колькасьць спажыўных матэрый, якія выносяцца ўраджаямі розных расьлін з паасобных глебавых рознасьцяў у нашай Беларусі.

III. Самае дэталёвае вывучэньне пытаньняў зьвязаных з угнаеньнямі і ў першую чаргу такіх угнаеньняў як фасфарыт, торф, лубін, вапна.

Імкненьне высьвятліць ня толькі эфэктыўны бок гэтых пытаньняў, але знайсьці залежнасьць дзейнічаньня кожнага з гэтых угнаеньняў на паасобныя глебавыя рознасьці, вывучыць тыя хімічныя працэсы, якія выклікаюцца ўнясеньнем гэтых угнаеньняў пры ўзаемадзейнічаньні як з самай глебай, так і паміж сабою—вось грунтоўныя заданьні на бліжэйшыя гады беларускай аграхіміі.

IV. Літаратурныя матэрыялы ўсё больш і больш змушаюць зьвяртаць увагу на вывучэньне атмасфэры, паасобныя часткі якой зьяўляюцца таксама крыніцай спажыўных матэрый для расьлін.

Агульнае становішча атмасфэры і асабліва ніжніх слаёў яе маюць вялізарны ўплыў на рост расьлін; так, з аднаго боку ўжо добра вядома, што колькасны процант вуглекіслаты атмасфэры ложыць свой пэўны адбітак на ўраджайнасьць культур, як з другога боку можна лічыць даказаным уплыў стану электрычнага зямнога поля на такія культуры як, напрыклад, капуста, чым і тлумачыцца хістаньне ўраджайнасьці гэтае культуры па гадох.

V. Распрацоўка мэтадаў аграхімічных дасьледаваньняў павінна заняць значную частку ў працы аграхімікаў на Беларусі.

Бо ня толькі гэтага патрабуюць балотныя глебы, пра якія магчыма сказаць, што тут «не пачаты край працы», але і мінэральныя глебы

чакаюць палепшаньня мэтадаў вызначэньня плоднасьці, фосфару і інш.

VI. Пытаньні біолёгічныя, вывучэньне мікробіолёгіі глебы і яе мікрафлёры, як і пустазельля ня могуць быць адсунуты ў шэраг другарадных заданьняў.

VII. Самая цесная сувязь аграхіміі з Асоавіохімам, паглыбленьне прац па паасобных тэмах, якія зьяўляюцца найбольш актуальнымі для гэтай арганізацыі—ёсьць залог пэўнага росквіту і найбольш вялізарнага пашырэньня Беларускай Аграхіміі.

Чаго-ж магчыма чакаць у выніку вырашэньня гэтых праблем? Усё гэта дасьць поўную магчымасьць дакладна ведаць, якія фактары на паасобных глебавых рознасьцях абмяжоўваюць уздым ураджайнасьці,—добра ведаць, у якім памеры гэтае абмежаваньне ўтвараецца. Ведаць, як складаюцца на паасобных глебавых рознасьцях фактары, якія вызначаюць яе плоднасьць. Ведаць, нарэшце, якія зьмены гэтых фактараў неабходны для найбольш пасьпяховага выніку ў дадзеным месцы і для дадзенай культуры.

Усё гэта будзе мець таксама пэўныя вынікі ў справе садзейнічаньня ўмацаваньню абароны краіны і разьвіцьця хімічнае прамысловасьці. бо кожны аграхімік,—ёсьць у першую чаргу сапраўдны сябра Асоавіохіму.

Задачы цяжкія, але благодарныя, і залогам іх пэўнага выконваньня на Беларусі служыць і тая ўпартасьць, якую беларус нёс праз стагодзьдзя да соцыялістычнага самавызначэньня, і тая беларуская ўпартасьць, з якой яе моладзь набывае веды на сваёй бацькаўшчыне і на галодным пайку пазамежамі, і тая надмерная ўпартасьць, якую мы бачым у нашых родных заходніх братоў, у іх пакуль што няроўнай барацьбе з панскаю Польшчай.

———

**М. Савіцкі.**

# Да вапнаваньня глебы на Беларусі.

*(Па матар'ялах дасьледчых станцый за апошняе дзесяцігодзьдзе).*

Вапнаваньне глебы да гэтага часу зьяўляецца адным з надзвычайна складаных і, па сутнасьці, яшчэ мала вывучаных пытаньняў. Да апошняга часу сустракаюцца праціўнікі вапны, як угнаеньня. Яны яшчэ знаходзяцца пад моцным уплывам старых поглядаў, калі лічылі, што «вапна абагашчае айцоў і разарае дзяцей». Гэтак было ў некаторых краінах Заходняй Эўропы пры аднабаковым захапленьні ўжываньня вапны на ўгнаеньне самастойна, без іншых угнаеньняў. Гэта было яшчэ ў тыя часы, калі людзі дзейнічалі ў сьляпую, калі дадатныя бакі дзеяньня вапны яшчэ ня былі вывучаны.

У 60-х гадох мінулага стагодзьдзя, упяршыню ў нашым Саюзе, на абшарах сучаснае БССР (у Горках) праф. І. А. Стэбут пісаў свой вучоны даклад (дысэртацыю) аб карысным дзеяньні вапны, як угнаеньня на падзолавых глебах.

У 70-х гадох таго-ж стагодзьдзя наш расейскі хэмік Д. І. Мендзелееў пісаў, што «известь прихотливое удобрение и его надо изучить подробнее, чем оно нам известно», ня гледзячы на гэта, нашы веды аб вапнаваньні глебы яшчэ далёка недасканалы.

У той час, як некаторыя замежныя краіны пэражылі ўжо пэрыяд захапленьня і расчараваньня ад аднабаковага ўжываньня вапны на ўгнаеньне, а зараз перайшлі да пастаяннага і плянамернага вапнаваньня глебы, мы яшчэ толькі пачынаем дзейнічаць. Саўнаркомам Саюзу па дакладу Навуковага Інстытуту Угнаеньняў прапанована ў некаторых мясцовасьцях прыступіць да абавязковага вапнаваньня глебы. На першы год дадзена задача завапнаваць ва ўсім Саюзе 350 тысяч гэктар плошчы. Гэта пастанова датычыцца і БССР і вось, каб ня было і ў нас нечаканага расчараваньня ад вапнаваньня глебы, трэба вельмі асьцярожна падыходзіць да практычнага ўжываньня вапны на угнаеньне.

Шмат каму вядома, што ўнасіць вапну ў глебу для беспасрэднага харчаваньня нашых расьлін селяніну ня трэба. Расьліны бяруць патрэбную ім вапну з тых запасаў, якія маюцца ў глебе. У рэдкіх выпадках, вапна знаходзіцца ў мінімуме як пажыўная матэрыя ў глебе. Звычайна патрэбнасьць у вапне, як пажыўной матэры на нашых глебах, стаіць на 4-м месцы, пасьля забесьпячэньня глебы азотам, фосфарам і каліем.

Але найбольшае значэньне вапна мае не як пажыўная матэрыя, а як матэрыя, забясьпечваючая нармальны ход працэсаў глебы і дапамагаючая пераводу пажыўных матэрый арганічнай формы ў мінеральную, рашчыняльную ў вадзе, у якім выглядзе яна і паглынаецца расьлінай. Вапна значна узмацняе жыцьцё карысных бактэрый глебы, якія і раскладаюць арганічныя матэры глебы на мінеральныя часткі.

Справа ў тым, што нашы глебы ў большасьці зьяўляюцца ападзоленымі глебамі. Ападзальваньне-ж глебы якраз і зьвязана з вымываемасьцю вапны з павярхновых пластоў глебы ў ніжэйшыя і нават ў грунтовыя веды. Ад гэтага падзолавыя глебы зьяўляюцца кіслымі і малаўраджайнымі, асабліва пры моцнасьці ападзальваньня. Ападзальваньне глебы сьведчыць аб ненасычанасьці глебы аснаваньнямі, у першую чаргу вапнай, ад чаго ўтвараюцца вольныя кіслоты. Каб унікнуць кісласьці глебы, трэба забясьпечыць глебу вапнай, ад чаго, як кажуць аграхэмікі, вастанаўліваецца глебава-паглынальны камплекс і ступень кісласьці глебы зьмяншаецца. У гэтым сэнсе ў сучасны момант Заходня-Эўрапейская навука і практыка высунула новае тлумачэньне, што «известь есть страж почвенного плодородия». Як адзін з недахопаў (кіслых глеб) можна ўказаць, што на кіслых глебах павольна раскладаецца арганічная матэрыя глебы на мінэральныя часткі, а часам і рашчыняльныя ў вадзе пажыўныя матэрыі выкарыстоўваюцца ня ў поўнай меры, вымываючыся з глебы. Акрамя таго, шмат якія расьлін не пераносяць вялікай кісласьці глебы.

У дадатак, на нашых пылаватых бесструктурных глебах вапна паляпшае фізычныя ўласьцівасьці глебы, прыдае ёй дробна-камкаватую структуру. За абмежаванасьцю месца, усе дадатныя бакі вапны не пералічыш, хаця яны поўнасьцю яшчэ і ня вывучаны.

Па досьледах праф. Кедрава-Зіхмана на Горацкай с. г. дасьледчай станцыі таксама высьвятляецца, што вапна:

1) Значна ўзмацняе жыцьцёвую дзейнасьць бактэрый глебы, у выніку чаго хутчэй раскладаецца арганічная маса глебы на мінэральныя часткі, узмацняецца ход працэсаў нітрыфікацыі, або награмаджэньне азоту глебы, але разам з гэтым павялічваецца распад зьвязнага азоту глебы аж да вольнага азоту: вольны азот страчваецца для расьліны. Гэта так сказаць адмоўны бок дзеяньня вапны. Ён вядзе да значнага абядненьня нашых падзолавых глеб у адносінах азоту. Але мы павінны кампенсаваць гэтае зьявішча ўнясеньнем азотатрымаючых угнаеньняў.

2) Вапна мабілізуе таксама калій глебы, забясьпечваючы ім расьліны ў лёгкай рашчыняльнай форме.

3) Асабліва каштоўнае дзеяньне вапны ў адносінах да фосфару глебы. Нараду з узмацненьнем дзейнасьці бактэрый глебы па раскладу арганічнай матэрыі глебы і пераводу арганічнага фосфару ў лёгка ўсваяемыя мінэральныя формы, вапна пераводзіць таксама цяжка рашчыняльны фосфар глебы ў лёгка ўсваяемыя расьлінаю формы. Для гэтага вапна можа быць унёсена ў глебу перад самым пасевам, але гэта па дадзеных досьледаў у сасудах.

Такім чынам факт паляпшэньня хэмічных працэсаў ў глебе, ператварэньне кісласьці глебы ў нейтральную, або нават слаба шчолачную форму, зьяўляецца амаль што галоўным фактарам дзеяньня вапны ў глебе. Акрамя-ж прыродных прычын закісаньня і ўтварэньня падзолавых глеб мы і самі дапамагаем павялічэньню кісласьці глебы ўнясеньнем фізіолёгічна-кіслых угнаеньняў, як супэрфасфат, сернакіслы амміяк і г. д.

Гэта-ж падкісьленьне глебы для шмат якіх расьлін, як канюшына, караньплоды, лён, ячмень, часткова авёс і г. д. зьяўляецца няспрыяючай умовай для іх разьвіцьця. Адсюль таксама выцекае вывад, што пры масавым ужываньні мінеральных угнаеньняў, ужываньне вапны на нашых падзолавых глебах становіцца абавязковым. Магчыма, што карысьць ад ужываньня самых мінэральных угнаеньняў пры гэтым павялічыцца.

З пададзенага вышэй ужо відаць, што ўжываць вапну лепш усяго на добра угноеных глебах, або з аднначасовым унясеньнем гною, торфу ці мінэральных угнаеньняў. Вядома, што правілы агранаміі аб немагчымасьці зьмешваць вапну з некаторымі кіслымі угнаеньнямі пры гэтым трэба абавязкова выконваць. Магчыма, што дзе-ні-дзе унясеньне ужо аднае вапны дасьць станоўчыя вынікі, але унясеньне аднае вапны ў глебу, як масавае зьявішча, магло-бы прывесьці нас да растраты аснаўнога багацьця нашых палёў. Да гэтага дапусьціць немагчыма. У дадатак, на нашых бедных пажыўнымі матэрыямі глебах, такі «часовы заём» у глебы пры дапамозе вапны, ня будзе асабліва карысным.

Вядомы знаўца вапнаваньня праф. Пранішнікаў кажа, што «известкование не освобождает сельского хозяйства от заботы о внесении в почву азота, фосфора и калия, подобно тому, как применение кнута к лошади, вызванное необходимостью, не заменяет дачи овса».

Ужываньне вапны разам з гноем, торфам і мінэральнымі ўгнаеньнямі на палёх нашых дасьледчых станцый дае даволі значную прыбаўку ураджаю. Так па сярэдніх данных з 23-х досьледаў, унясеньне 120 пудоў на дзесяціну вапны пад жыта з падсевам канюшыны пераважна на дасьледчых станцыях БССР і часткова на Энгельгардаўскай станцыі ў Смаленскай губ., мы атрымоўваем за першы год дзеяньня вапны прыбаўку ураджаю ў 7½ пудоў жыта і 12 пудоў саломы з кожнай завапнаванай дзесяціны. На другі і трэці год дзеяньня вапны атрымоўваем таксама дадатак ў ураджаю канюшыны за 2 гады ў колькасьці 36 пудоў сена на дзесяціну. Гэта па сярэдніх дадзеных нават з 47 досьледаў нашых-жа станцыяў. У пераводзе на адзін пуд вапны гэта прыбаўка дае павялічэньне ураджаю за 3 гады ў колькасьці 2½ фунты жыта, 4 фунты саломы і 12 фунтаў сена канюшыны.

З маючыхся матар'ялаў па вапнаваньню на дасьледчых станцыях Беларусі вынікае, што: 1) найбольш карысным зьяўляецца унясеньне вапны і крэйды пад жыта з падсевам канюшыны. 2) Унясеньне мэргеля нават у падвойнай колькасьці (240 пудоў на дзесяціну) не дае такога эфэкту, як 120 пудоў абажонай вапны. 3) Асабліва карыснай зьявілася вапна ў колькасьці 120 пудоў на дзесяціну на лёсавідных суглінках Горацкай Дасьледчай Станцыі за 1922—1926 г. у канюшынавым севазвароце, у камбінацыі з 40 пудамі фасфарытавай мукі, 10 пудоў калійнай солі і 650 пудоў сухога луговага торфу, павялічыўшы пры ўнясеньні 120 п. вапны ураджай у наступным разьмеры (у параўнаньні з тымі-ж угнаеньнямі бяз вапны):

У 1-ы год —жыта+5 п. 30 ф. зерня і+2 п. саломы.
У 2-і „ —канюш. 1 г.+12 п. 25 ф. сена.
На 3-і „ —канюш. 2 г.—8 п. 10 ф. сена.
На 4-ы „ --жыта+10 п. 20 ф. зерня і саломы жыта.
На 5-ы „ – авёс+10 п. 20 ф. зерня і+7 п. 15 ф. саломы.

З досьледу відаць, што ў 6 палёвым канюшынавым севазвароце на суглінках вапна дзейнічае ў працягу усяго севазвароту. З 2-4 гадовых дадзеных гэтага досьледу можна заўважыць, што толькі на канюшыну другога году вапна аказала значна адмоўны ўплыў, а ў працягу ўсяго севазвароту вапна дала досыць добрыя вынікі.

4) Каля 25 проц. усіх досьледаў з вапнаваньнем глебы пад жыта на дасьледчых станцыях далі адмоўныя вынікі.

5) У наступныя гады па канюшыні вапна дала адмоўныя вынікі ў значна меншым ліку досьледаў.

6) На Беларускіх Дасьледчых станцыях няма досьледаў з вялікімі нормамі вапны і пакуль што прыходзіцца застанавіцца на нормах 120 п. вапны на дзесяціну, пры гэтым магчыма іх крыху павялічваць на суглінках і зьмяншаць на супесках.

7) Пры недахопе мінэральных угнаеньняў, магчыма ужываць вапну з гноем, зьмяншаючы колькасьць гною нават да паловы нормы на дзесяціну.

8) Вапну з аднолькавым посьпехам можна замяняць крэйдай.

9) Вапнаваньне на лёгкіх песчаных глебах дае пераважна адмоўныя вынікі.

10) Лубін, сэрадэля, а ў значнай колькасьці выпадкаў і бульба, адмоўна адносяцца да вапнаваньня глебы.

Няма магчымасьці дэталёва разабраць тут усе вынікі досьледаў з вапнаваньнем на Беларусі, але трэба заўважыць, што гэтых досьледаў для практычнай пастаноўкі пытаньня аб вапнаваньні глебы ў нас яшчэ далёка недастаткова. Мы яшчэ ня можам сур'ёзна растлумачыць, чаму на дасьледчых палёх былі адмоўныя вынікі з вапнаваньнем глебы. Палявы досьлед не дае на гэта поўнага адказу і тут трэба яшчэ папрацаваць аграхэмікам. Каб ня было такіх-жа адмоўных вынікаў пры практычным правядзеньні вапнаваньня, трэба раней даведацца, ці патрабуе данная глеба вапнаваньня. Дзейнічаць у сьляпую нельга. Тут можа дапамагчы орыентыровачнае экспэдыцыйнае дасьледваньне патрэбнасьці нашых глеб у вапне, а яшчэ лепш правесьці масавы палявы досьлед з лябораторнай апрацоўкай. Ва ўсякім выпадку трэба з пачатку даведацца, што тут патрэбна вапна, а потым ужо праваздіць вапнаваньне.

Цяпер на конт організацыйных пытаньняў.

Выходзячы з эфэкцыйнасьці вапны і орыентуючыся на цану мінэральных угнаеньняў можна сказаць, што вапна павінна каштаваць прыблізна 8 кап. за пуд. Тады пры сучасных цэнах ужываньне вапны будзе рэнтабельна. Вапна будзе апраўдваць сябе ў першы-жа год. Цікава адзначыць, што Навуковы Інстытут Угнаеньняў (у Маскве) мяркуе мець вапну па 6 кап. пуд.

Калі ў сучасны момант вапна каштуе ў шмат разоў даражэй, дык зьніжэньне цаны магчыма будзе зрабіць пры дапамозе спэцыяльных установак па размолу вапнякоў, якія будуць будавацца ў Саюзе якраз на Беларускіх заводах. Організацыю вытворчасьці і забесьпячэньне вапнай насельніцтва магчыма выканаць толькі праз уцягненьне ў гэту карысную справу сельска-гаспадарчай коопэрацыі як у цэнтры, гэтак і на мясцох.

Па дасьледваньню Гэолёгічнага Інстытуту пры Інбелкульце і Горнага Аддзелу ВСНГ запасамі сырцу вапны і крэйды БССР забясьпечана. Значныя колькасьці гэтых карысных выкапняў знойдзены ўжо ў Калінінщчыне, каля Воршы, на Меншчыне, Гомельшчыне і ў іншых мясцох. Вельмі пажадана-б было, каб Горны Аддзел ВСНГ выявіў і вызначыў запасы і якасьць гэтых карысных выкапняў па ўсей БССР і склаў карту выхаду ўсіх карысных выкапняў на паверхню.

Трэба застанавіцца яшчэ на пытаньні аб раёнах БССР, у якіх магчыма будзе праводзіць вапнаваньне глебы.

Разгледжаны дасьледчы матар'ял па вапнаваньню глебы ў БССР прымушае нас быць вельмі асьцярожнымі пры вапнаваньні пяшчаных глеб на поўдні БССР. Па досьледах Навазыбкаўскай Дасьледчай Станцыі вапна і крэйда на пяшчаных сухіх глебах пад зернявыя культуры не дае амаль што ніякае карысьці. Што датычыцца лубіна і сэрадэлі,

дык для гэтых культур унясеньне вапны і крэйды на ўсякіх глебах зьяўляецца шкодным. Гэта шкода часткова можа быць паралізавана унясеньнем калія. Бескарысным вапна зьяўляецца і для бульбы на пяшчаных глебах. У дадатак пяшчаныя глебы, па дасьледваньню глебазнаўцаў, найбольш забясьпечаны вапнай. Гэта дае нам права пакуль што выключыць сухія пяшчаныя глебы Палесься і Гомельшчыны з ліку раёнаў, падлягаючых вапнаваньню.

Надзвычайна складным зьяўляецца пытаньне вапнаваньня ільняных раёнаў. Гэта пытаньне слаба распрацована і тут асабліва шчыра прыдзецца папрацаваць Віцебскай дасьледчай станцыі. Наогул, лён ня любіць кіслых глеб, але ўнясеньне вапны шкодна адбіваецца на якасьці, а часам і на колькасьці валакна лёну. Па РСФСР пераважна ільняныя раёны ў гэтым годзе выключаны з раёнаў абавязковага вапнаваньня. Здавалася-б, найбольш патрабуюць вапнаваньня раёны кіслых глеб на паўночы БССР, раёны з пашыраным травасевам канюшыны, але пакуль што нам трэба зусім устрымацца ад вапнаваньня гэтых ільняных раёнаў, акрамя можа заведама кіслых глеб.

Такім чынам, для абавязковага вапнаваньня застаюцца абшары Менскае (з папраўкай на лубін), Бабруйскае, Магілеўскае і часткова Аршанскае акругі. Сюды-ж трэба прылічыць абшары мэліорыруемых мохавых верхавінных балот.

Пры правядзеньні вапнаваньня на плошчы прыблізна 250 тысяч дзесяцін кожны год, у канцы пяцігодкі, на што патрабуецца каля 30 мільёнаў пудоў вапны, гэта мерапрыемства дасьць прыбаўку ў ўраджаі за першы год каля двух мільёнаў пудоў жыта і 3 мільёны пудоў саломы. У далейшыя 2 гады гэта-ж плошча дасьць значную прыбаўку ў ураджаі канюшынавага сена (каля 9 мільёнаў пудоў).

На тэхнічных прыёмах унясеньня вапны я застанаўлівацца ня буду. Аб гэтым можна прачытаць у часопісе «Плуг».

Трэба толькі пажадаць, каб сяляне-дасьледчыкі, саўгасы і калгасы на сваіх палёх, разам з дасьледчымі станцыямі і іх лябораторыямі, зьвярнулі шчырую ўвагу на справу вывучэньня вапны, як угнаеньня.

На падставе гэтых матар'ялаў і лябораторных досьледаў Навукова-Дасьледчаму Інстытуту імя Леніна і Дасьледчым станцыям у бліжэйшыя гады, па прыкладу Даніі, трэба скласьці карту мясцовасьцяў БССР, патрабуючых вапнаваньня.

**Б. Бойка.**

# Аддзел с.-г. эканоміі і аграрнае палітыкі БНДІ.

У сучасны момант перад сельскай гаспадаркай Беларусі стаіць аграмаднай важнасьці задача—у бліжэйшыя гады, на падставе ўздыму ураджайнасьці, падвоіць вытворчасьць і значна узмацніць таварнасьць усёй гаспадаркі.

Задача гэта вырашыма толькі пры перабудове сельскай гаспадаркі ў сацыялістычным напрамку і пры паступовым, але бязупынным і сыстэматычным зьнішчэньні аграрнае пераллюдненасьці вёскі. Усе мерапрыемствы Дзяржавы, як арганізацыйныя, так і матэрыяльныя, вымяраемыя дзесяткамі мільёнаў рублёў, якія укладаюцца у сельскую гаспадарку, павінны быць накіраваны на перарэканструкцыю гаспадаркі у паказаным напрамку.

Адсюль зразумела, якую паважную ролю павінна адыграць і адыгрывае навукова-дасьледчая праца Аддзела с.-г. эканоміі і аграрнае палітыкі, бо толькі на падставе навуковых ведаў, канкрэтнай эканомікі сельскай гаспадаркі у параённым падзеле і яе эвалюцыі, магчыма, зусім сьвядома, складаць і ажыцьцяўляць дзяржаўныя мерапрыемствы з найбольшым сацыяльна-эканамічным посьпехам.

Яшчэ да арганізацыі Аддзелу у складзе БНДІ паасобнымі установамі было распачата вывучэньне некаторых проблем эканомікі сельскай гаспадаркі Беларусі, але толькі з моманту адчыненьня Аддзелу гэта праца набыла пэўную плянаванасьць, сыстэматычнасьць, у выніку чаго яна значна пашырылася і атрымалася магчымасьць з параўнаўча меншымі выдаткамі дасягнуць значна большага і навукова-каштоўнага эфэкту.

Уся навукова-дасьледчая праца Аддзелу па асноўнаму зьместу тых пытаньняў і проблем, якія пастаўлены на вырашэньне і сталае вывучэньне, падзеляецца на тры вялікіх часткі, якія арганізацыйна прымацаваны да 3-х існуючых габінэтаў.

1) Габінэт с.-г. эканоміі і арганізацыі гаспадаркі; пры гэтым габінэце згрупавана вывучэньне наступных разьдзелаў пытаньняў: арганізацыя дробнай гаспадаркі, эканоміка землеўпарадкаваньня і эканоміка мэліорацыі. Да гэтага габінэта далучаны, у якасьці самастойных адзінак, бюро рахунковых запісаў у дробных гаспадарках і арганізуемае з 1928—29 г. бюро с.-гаспадарчай каньюнктуры.

2) Габінэт аграрнай палітыкі і соцыялістычнага земляробства, да якога, акрамя непасрэдных пытаньняў аграрнай палітыкі, аднесена вывучэньне: арганізацыі буйных сацыялістычных форм сельскай гаспадаркі, сельска-гаспадарчай каапэрацыі і крэдыту, сельска-гаспадарчай індустрыі, яўрэйскага земляробства, калёнізацыі і перасяленьня і мэтодыкі аградапамогі.

3) Габінэт с.-гаспадарчай геаграфіі, раёнаваньня і статыстыкі, куды далучана распрацоўка дробнага

с.-гаспадарчага раёнаваньня Беларусі, штандорт с.-гаспадарчай вытворчасьці і інш.

Ня гледзячы на тое, што Аддзел працуе толькі ня поўных два гады, навукова-дасьледчая праца ўжо разгорнута настолькі шырака, што вывучэньнем абхоплена значная частка высунутых праблем.

У гэтым годзе ўжо скончаны вялізныя працы па вывучэньню эканомікі мэліарацыі і земляўпарадкаваньня. Паасобныя тэмы паказаных прац вывучаліся на працягу 2-3 год, пры чым досьледам абхоплена ўся БССР. З паасобных вынікаў прац адзначым наступныя: па вывучэньню мэліарацыі—вызначаны раёны інтэнсіўнай і экстэнсіўнай мэліарацыі; рэнтабельнасьць розных відаў мэліарацыі; найбольш выгадныя ў эканамічным сэнсе адлегласьці між каналамі; пэрспэктывы разьвіцьця (у сувязі з мэліарацыяй) сельскай гаспадаркі і унутраная калёнізацыйная ёмістасьць БССР. Па вывучэньню землеўпарадкаваньня—устаноўлены аптымальны разьмер тэрыторыі пасёлкаў для розных с.-г. раёнаў; эфэкт землеўпарадкаваньня пры утварэньні пасялковай формы землекарыстаньня; сацыяльна-эканамічная і арганізацыйна-вытворчая рэнтабельнасьць розных форм землекарыстаньня, уключаючы і калгасы; тэхніка-эканамічны эфэкт землеўпарадкаваньня. Ужо адзін пералік атрыманых вывадаў па паказаным працам яскрава падкрэсьлівае ўсю і навуковую і практычную вартасьць праведзеных досьледаў. Некаторыя з гэтых прац ужо надрукованы (Пасёлкі, Я. Кісьлякоў, выданьне НДІ, Менск, 1928 г.), усе іншыя знаходзяцца ў друку.

З іншых досьледаў, якія адбываліся ўлетку 1928 году, таксама накірованых на вывучэньне Дзяржаўных мерапрыемстваў і іх уплыву на сельскую гаспадарку і на зьмены сацыяльных узаемаадносін у вёсцы, адзначым экспэдыцыю па вывучэньню эфэктыўнасьці с.-гаспадарчага крэдыту і экспэдыцыю па вывучэньню эфэктыўнасьці цэлага комплексу Дзяржаўных мерапрыемстваў. Досьледамі ахоплена ў 3-х раёнах Беларусі каля 7.000 гаспадарак.

З папярэдняга азнаямленьня з матэрыяламі экспэдыцыі па вывучэньню эфэктыўнасьці с.-г. крэдыту і частковай яго апрацоўкі магчыма зрабіць некаторыя вынікі: вёска мала насычана крэдытам,—менш паловы; адчуваецца востры недахоп крэдыту на угнаеньне, кармы і сартовае насеньне; адносна лепш абслужаны крэдытам бядняцкія групы гаспадарак; калгасы, і саўгасы у большым стопню, чым індывідуальныя гаспадаркі, забясьпечаны крэдытам і суадносіны доўгатэрміновых і кароткатэрміновых пазык у іх больш спрыяючыя; гаспадаркі, абслужаныя крэдытам, эканамічна растуць значна хутчэй і іх сувязь з рынкам іаграмаджаным сэктарам мацней; рэнтабельнасьць с.-гаспадарчага крэдыту па сацыяльна-эканамічным групам рэзка дыфурэнцыравана: у ніжэйшых групах найбольшую эфэктыўнасьць даюць—крэдыты на угнаеньне, насеньне траў і яравых культур і кармы; у вышэйшых групах параўнача вышэйшы эфэкт даюць пазыкі, накіраваныя на ўзмацненьне не зваротных, а асноўных сродкаў вытворчасьці—на с.-гаспадарчыя машыны, працоўную і прадукцыйную жывёлу і гаспадарчыя будынкі.

Задача перабудовы сельскай гаспадаркі у сацыялістычным напрамку,—пераводу дробных і драбнейшых сялянскіх гаспадарак у буйныя аграмаджаныя гаспадаркі, бо па сваёй сутнасьці дробныя формы пазбаўляны магчымасьці асваеньня новых форм прагрэсыўнай тэхнікі, а значыць пазбаўлены магчымасьці у далейшым у дробных формах шпаркага разьвіцьця,—выклікае неабходнасьць самага

настойлівага і дэталёвага вывучэньня стану і умоў разьвіцьця і арганізацыйных недахопаў ужо існуючых сацыялістычных форм гаспадарак—саўгасаў і калгасаў. У сувязі з гэтым, Аддзел паставіў як задачу вывучэньне ўсяго комплекса проблем, зьвязаных з будаўніцтвам саўгасаў і калгасаў, і праводзіць на працягу цэлага шэрага гадоў, вылучаючы для кожнага году дасканалае вывучэньне пэўнай тэмы. У бягучым годзе праводзіцца вывучэньне стану саўгасаў па іх справаздачах за папярэднія гады і апрацоўваецца спэцыяльная праграма і плян досьледа для атрыманьня тых зьвестак, якіх у справаздачах саўгасаў няма.

Па вывучэньню калгаснага будаўніцтва выпрацавана мэтодыка, плян і праграма досьледа. Улетку бягучага году гэта праграма была апрабована пры вывучэньні арганізацыйнае пабудовы 4-х калгасаў. На падставе адбыўшайся практыкі у наступным годзе будзе магчыма досьлед па вывучэньню калгасаў паставіць ужо значна шырэй і па больш удасканаленай праграме. Некаторыя вынікі адбыўшагася досьледа зьмешчаны у часопісі «Плуг» за 1928 г. (Артыкулы Клімко М.).

Значную частку сваёй працы Аддзел прызначыў вывучэньню арганізацыйна-вытворчых тыпаў с.-гаспадаркі Беларусі у дробным параёным маштабе, вывучэньню зьмен будовы гаспадаркі, як геаграфічна, так і ў дынаміцы зьместа і характара эвалюцыі гаспадаркі ў залежнасьці ад эканамічнага палажэньня і ад прыродных умоў. Усе ніжэй пералічаныя працы гэтага разьдзелу абхопліваюць вывучэньне гаспадаркі у цэлым, разглядаючы гаспадарку як пэўны цэластны арганізм, які будуецца на падставе пэўных асазнаных, ці стыхійных законаў, і зьмены пабудовы якой падпарадкаваны вызначаным законам эвалюцыі.

Да гэтых прац належаць: Эканамічны профіль БССР і дробнае с.-гаспадарчае раёнаваньне. Першая праца мае на мэце мэтадам профілей удасканаліць высьвятленьне пытаньняў, зьвязаных з зьменамі сельскай гаспадаркі з захаду на ўсход, а паколькі профіль пракладзен так, што праразае ўсю Беларусь з рознымі тыпамі глеб, з розным рынкавым палажэньнем (праходзіць праз Менск і Магілеў), дык матэрыялы гэтай экспэдыцыі зьяўляюцца выключна поўнымі і каштоўнымі для ўсялякіх тэарэтычных меркаваньняў і ўстанаўленьня эмпірычных праверак і ілюстрацый гэтых меркаваньняў. Праца—дробнае с.-гаспадарчае раёнаваньне—імкнецца на падставе масавых і манаграфічных дадзеных даць інтэгральныя дробныя с.-гаспадарчыя раёны БССР і запоўніць той пропуск, які так балюча дае сябе адчуваць пры складаньні вытворчых і пэрспэкцыйных плянаў разьвіцьця с.-гаспадаркі і ў параённым маштабе і па БССР у цэлым. К сучаснаму моманту апрацоўка матэрыялаў па абедзьвюм тэмам скончана і падрыхтоўваецца да друку.

Па зьместу да паказаных двух прац можна далучыць вельмі каштоўную тэму па вывучэньню эвалюцыі і хістаньня ураджайнасьці галоўнейшых культур у сувязі з эвалюцыяй сельскай гаспадаркі Беларусі. Тэма ахоплівае 33-годні пэрыяд (1883—1915 г. г.) і мае на мэце даць малюнак зьмен ураджайнасьці у межах этнаграфічнай Беларусі па кожнаму павету асобна, што дасьць мажлівасьць устанавіць геаграфію ўраджайнасьці, статыстычныя і дынамічныя каэфіцыэнты росту ураджайнасьці у даволі дробным параённым падзеле. Пры апрацоўцы лічбовых матэрыялаў ужываюцца мэтады матэматычнай статыстыкі, што асабліва каштоўна, затым што забясьпечвае найбольшую сталасьць вынікаў.

Выконваючы пэрспэкцыйны плян сваёй працы, дзе вызначана неабходнасьць вывучэньня эканомікі паасобных галін і культур сельскай гаспадаркі, якія маюць найбольшае значэньне для народнай гаспадаркі і для прагрэсыўнага далейшага яе разьвіцьця, Аддзелам былі арганізаваны экспэдыцыі па вывучэньню эканомікі культуры лёну і па вывучэньню эканомікі рынкавай сьвінагадоўлі. Распрацоўка матэрыялу скочана і часткова надрукована (па рынкавай сьвінагадоўлі). Гэтыя экспэдыцыі далі выключна цікавыя вынікі, некаторыя з якіх і адзначым: Канстатуючы вельмі нізкую прыбытковасьць гаспадарак льняных раёнаў (17—64 р. умоўначыстага прыбытку на гэктар с.-г. плошчы), аўтар гэтым тлумачыць рэзка выяўлены глыбокі крызіс таварнай льнянай гаспадаркі; таварнасьць льняного валакна ў рыначных раёнах высокая—62 проц., пры адначасовай вельмі малой таварнай масе, якая роўна—2,5 п. на адну гаспадарку. Аднэй з прычыны гэтага зьяўляецца нізкая ўраджайнасьць лёну—11,7 п. валакна на гэктар. Пры вывучэньні эканомікі сьвінагадоўлі за даваенныя гады выяўлена правільная цыклічнасьць разьвіцьця гэтай галіны у рыначных раёнах, у сувязі з цыклічнасьцю сусьветнага рынку, пераважна нямецкага—з аднаго боку, і з ураджайнымі гадамі бульбы—з другога боку; акрамя таго на падставе ўложанай дэталёвай карты прасторавага пашырэньня рыначнай сьвінагадоўлі ва ўмовах Случчыны, устаноўлена сьціслая залежнасьць гэтай пашыранасьці ад: 1) якасьці глеб (праз налічча лішкаў зернёвых хлебоў; 2) рыначных умоў—адлегласьці да г. Слуцку; зроблена таксама поўная характарыстыка арганізацыйна-вытворчай структуры рыначна-сьвінаводных гаспадарак Случчыны і ўмоў рэалізацыі прадукцыі сьвінаводзтва.

Улетку 1928 г. была арганізавана экспэдыцыя па вывучэньню севазваротаў у 2-х рынкавых раёнах, Слуцкім—сьвінаводным і Суражскім—льняным. Матэрыялы зараз знаходзяцца ў стадыі распрацоўкі. З папярэдняга азнаямленьня з пабудовай севазваротаў ва умовах паказаных раёнаў вынікае вялікая залежнасьць севазваротаў ад мікра-глеб; з правільных севазваротаў больш замацоўваюцца тыя з іх, якія мала зьменшаюць плошчу пад зернёвымі, асабліва зімовымі, і калі травы уводзяцца ў севазварот за рахунак зьмяншэньня плошчы незанятога папару.

У сувязі з недахопам першапачатковага статыстыка-эканамічнага лічбовага матэрыялу, значную частку сваёй працы да гэтага часу Аддзел праводзіў на падставе экспэдыцыйных досьледаў. У цяперашнія часы па большасьці пытаньняў канкрэтнай эканомікі гаспадаркі Беларусі паасобнымі ўстановамі, асабліва ЦСУ, ужо набыў багаты лік матэрыялаў. Пагэтаму у далейшым перад Аддзелам стаіць задача наладзіць, паводле свайго пэрспэкцыйнага пляну, распрацоўку ужо сабранага матэрыялу мэтадам камэральнай яго апрацоўкі; з другога боку,—паглыбіць і удасканаліць як мэтодыку зьбіраньня, так і папаўняць сабраны матэрыял у некаторых частках больш дасканалымі ведамі.

Для выкананьня гэтай задачы Аддзел зрабіў спробу перайсьці на стацыянарны мэтад вывучэньня селянскай гаспадаркі, які-б забяспечваў больш дасьціпнае фіксаваньне ўсіх зьявішч і працэсаў гаспадарчага разьвіцьця. Па прыкладу іншых краін з інтэнсіўнай сельскай гаспадаркай, Аддзел, для дасягненьня пастаўленай мэты, стаў на шлях закладкі у селянскіх гаспадарках сталых рахунковых запісаў. К сучаснаму моманту у Аддзеле распрацоўваюцца матэрыялы запісаў па 61 гаспадарцы за папярэдні год. У бягучым годзе сетка рахунковых

запісаў па 9 найбольш цікавых з навуковага боку раёнах значна пашырана: у плянавым парадку была закладзена 108 запісаў—па 12 шт. на раён і ў сялян-дабраахвотнікаў каля 60 шт. Нязначная частка гаспадарак на працягу году кінула вядзеньне запісаў, у выніку чаго к сучаснаму моманту у плянавым парадку рахунковыя запісы вядуцца па 99, і ў добраахвотнікаў—па 35 гаспадаркам. Такім чынам, сама магчымасьць закладкі і вядзеньня рахунковых запісаў, аб чым гаворыць паўтарагадовая практыка, сьведчыць аб посьпеху гэтай працы і аб неабходнасьці і магчымасьці нашу інтэнсыўную сельскую гаспадарку вывучаць інтэнсыўным больш дасканалым стацыянарным мэтадам. Цікава адзначыць, што якасьць і паўната запаўненьня сшыткаў рахунковых запісаў у сялян-дабраахвотнікаў ніколькі ня горш, калі ня лепш, чым у сялян, якія вядуць запісы у плянавым парадку, пад непасрэдным наглядам аграномаў. У сувязі з гэтым неабходны больш шчыльны удзел месцовых аграномаў пры кіраўніцтве і нагляду за гэтай працай у раёнах, уключэньне інструктаваньня павядзеньню рахунковых запісаў у плян працы раённай агранаміі, на што згода ад НКЗ атрымана. Аддзел спадзяецца, што месцовыя аграномы, як у першую чаргу зацікаўленыя у дэталёвым вывучэньні сельскай гаспадаркі свайго раёну, усямерна дапамогуць у арганізацыі гэтай справы, тым больш, што часу на гэта патрэбна ня так многа.

У 1928 г. распачаты працы па вывучэньню аграрнага паўстаньня на Беларусі па тэмах: Аграрная рэвалюцыя на Беларусі,—тэма для сваяго сканчэньня патрабуе некалькі год, і зямельныя адносіны Беларусі ад ІІ паловы XIX стагодзьдзя да Кастрычнікавай рэвалюцыі і ў час утварэньня БССР. Апошняя праца будзе скончана у наступным 1929 г.

Памер артыкула часопісі надае магчымасьць хоць коратка даць зьмест і некаторыя вынікі іншых навукова-дасьледчых прац Аддзелу, як ужо скончаных, так і тых, якія падрыхтоўваюцца да друку. Пагэтаму падаем іх тэматычна.

1) Сыстэма ральніцтва на Палесьі (друкуецца).

2) Нарысы сыстэмы жывёлагадоўлі Мазырскага Палесья (друкуецца).

3) Да пытаньня аб пэрспэктывах разьвіцьця Мазырскага Палесься (друкуецца).

4) Сельская саматужна-рамесьніцкая прамысловасьць Беларусі (распрацоўваецца).

5) Нормы землякарыстаньня і праблема недрабімасьці (падрыхтовываецца да друку).

6) Геаграфічнае разьмяшчэньне і дынаміка форм землекарыстаньня у БССР (распрацоўваецца).

7) Броварная прамысловасьць і яе штандорт на тэрыторыі сучаснае БССР па матэрыялам за 1884—1927 г. (надрукована).

8) Забалочанасьць і асушэньне зямель і іх уплыў на селянскую гаспадарку Беларусі (падрыхтоўваецца да друку).

9) Сельская вадазабясьпека Беларусі (падр. да друку).

10) Інтэнсыўныя мэліарацыі па Беларусі (падр. да друку).

11) Мэліарацыйныя таварыства Беларусі (распрацоўваецца).

12) Формы агранамічнай арганізацыі БССР (распрацоўваецца).

Па апошняй тэме, як вельмі актуальнай для сучаснасьці, адзначым папярэднія вынікі:

1) У БССР няма сталай формы агранамічнай арганізацыі, ёсьць два асноўных тыпы і восем пераходных. Асноўныя тыпы:

а) Неспэцыялізаваны, участковы, цэнтралізаваны, раённы.

б) Неспэцыялізаваны, участковы, дэцэнтралізаваны, падраённы.

2) Форма агранамічнае арганізацыі адбіваецца на зьмесьце агранамічнай працы: дэцэнтралізаваны тып павялічвае процант асноўнае агранамічнае працы з 24,9 проц. да 34,7 проц. і зьмяншае канцылярскую і неагранамічную працу з 31,2 да 22,6 проц.

З папярэдняга даволі схэматычнага нарысу аб навукова-дасьледчай працы Аддзелу с.-гасподчай эканомікі і аграрнай палітыкі БНДІ відаць, што круг вывучаемых праблем, на працягу толькі няпоўных 2-х год, абхоплен з дастатковай паўнатой. Праз усю працу чырвонай стужкай праходзіць імкненьне на падставе навуковага аналізу даць пэўныя адказы на канкрэтныя запатрэбаваньні сацыялістычнага будаўніцтва у нашай краіне, як у сэнсе разуменьня тых дынамічных сацыяльна-эканамічных і арганізацыйна-вытворчых працэсаў разьвіцьця сельскай гаспадаркі, так і ўжываньня з найбольшым сацыяльным эфэктам Дзяржаўных мерапрыемстваў і укладаемых у гаспадарку капітальных сродкаў.

Акрамя працы па вывучэньню канкрэтнай эканомікі сельскай гаспадаркі Беларусі, Аддзел, хоць і значна ў меншай меры, займаўся агульна-тэарытычнымі праблемамі с.-гаспадарчай эканоміі. Зразумела, што тэарытычныя пытаньня пераважна распрацовываліся у сувязі з пастаноўкай дасьледчай працы. На шырокіх Пленумах Аддзелу, перад арганізацыяй амаль кожнай экспэдыцыі, а таксама перад распрацоўкай сабраных матэрыялаў, дэталёва абгаворваліся—мэтадалёгія, плян і праграма досьледаў. У выніку гэтага тэарытычныя ўстаноўкі паасобных навуковых працаўнікоў, на падставе якіх выпрацоўваліся канкрэтныя пляны зьбіраньня і апрацоўкі матэрыялаў, падлягалі падчас даволі жорсткай, ня толькі абстрактна-дэдукцыйнай, але і канкрэтнай крытыцы, што трэба лічыць асабліва карысным. А такая праца, як паказаў вопыт, з абавязковай устаноўкай,—як правіла,—народна-гаспадарчага пункту погляду пры навуковым вырашэньні тых ці іншых праблем, вельмі і вельмі патрэбна. Такіх шырокіх Пленумаў Аддзелу з удзелам прадстаўнікоў іншых навучальных, навукова-дасьледчых і зацікаўленых плянуючых і апэрацыйных устаноў адбылося за кароткі час існаваньня Аддзелу тры.

Чарговы пашыраны Пленум Аддзела для заслуханьня і абмеркаваньня вынікаў некаторых скончаных навуковых прац склікаецца 23/I-1929 г.

---

**А. Е. Сюбараў.**

# Кароткі нарыс прац Беларускае Станцыі Ўсесаюзнага Інстытуту Прыкладное Батанікі і Новых Культур.

*За пэрыяд 1926—28 г.г.*

Беларуская Станцыя Ўсесаюзнага Інстытуту Прыкладное Батанікі і Новых Культур, фармальна адкрытая ў кастрычніку 1925 г., працы свае распачала з вясны 1926 году.



Агульны від двору станцыі У. І. П. Б.
(Лошыца пад Менскам).

Месцам дзеля навукова-дасьледчых прац, як у палявых, так і ў лябараторных абставінах, Станцыя мае гаспадарку «Лошыца 1-я» і фольварак «Зацішша», якія знаходзяцца ў 5—6 вярстах ад г. Менску. Ва ўжытках гаспадаркі Станцыі знаходзіцца 340,3 гектар. агульнае плошчы, з якое каля 240 гект. ворнае.

Навукова-дасьледчыя працы Беларускай Станцыяй Інстытуту вядуцца ў поўнай адпаведнасьці і ўзгодненасьці з агульнымі заданьнямі Аддзелу цэнтру і ў дапасаваньні да натуральна-гістарычных і географічных умоў месца знаходжаньня Станцыі. Па заданьнях цэнтру, Станцыяй на сваіх палёх закладаюцца: 1) выхавальнікі розных прызначэньняў (калекцыйныя, батанічныя, сэлекцыйныя, сортапараў-

наньня і расплоджаньня); 2) сталыя насадкі (памалёгічныя і матчыныя сады, географічныя насаджэньні, дэндрарыум ды інш.); 3) палі першапачаткова расплоджаньня і г. д. Сярод гэтых навукова-дапаможных установ пад палявымі, кармавымі і гароднымі расьлінамі маецца каля 50 гект.; пад пладова-ягаднымі і дрэўнымі пародамі звыш 25 гектараў.

Асноўнаю мэтаю навукова-дапаможных установ зьяўляецца папярэдняе вывучэньне, вызначэньне і апісаньне вялізарных гатунковых расьлінных матар'ялаў, а таксама расплоджаньне ў першую чаргу найбольш найважнейшых дзеля краіны расьлін. У той-жа час усе гэтыя навукова-дапаможныя ўстановы зьяўляюцца падставай дзеля забесьпячэньня гатунковым матар'ялам зацікаўленых рэспубліканскіх дасьледчых ды іншых установ.

Такім чынам, Беларуская Станцыя, зьяўляючыся выхавальнікам сусьветных асартымэнтаў Інстытуту Прыкладнае Батанікі, сярод шмат якіх сельска-гаспад. расьлін, зварочвае спэцыяльную ўвагу з палёвых—ячменю, лубінам, зімцы і бульбе; з кармовых—вікам, канюшыне, цімафейцы, баркунам (томкам) і бураком кармовым; з гародных—цыбулям, капусьце, гурком і памідорам. Вялікая праца вядзецца па пладова-ягадных, а таксама дрэўных пародах.



Гадавальнік кармовых расьлін Беларускай Станцыі У. І. П. Б. (Лошыца пад Менскам).

Апрача таго, на Станцыі (самастойна і пад кіраўніцтвам спэцыялістых цэнтру) выконваюцца наступныя тэмы:

1.—Вывучэньне засьмечанае расьліннасьці (пустазельля), а таксама дзіка-ўзрастаючых лекавых і тэхнічных расьлін Беларусі.

2.—Геаграфічныя пасевы і насаджэньні.

3.—Дзяржспроба гатункаў.

4.—Анатамічнае і фэрмэнтатыўнае дасьледваньне ячмянёў.

5.—Батаніка—сыстэматычнае вывучэньне сусьветнае калекцыі лубінаў, буракоў, макаў, вішні, вікі, тополяў (ясакараў).

6.—Генэтычны склад гароху.

Паколькі культура ячменю ва ўмовах Беларусі мае ня толькі вялікае гаспадарчае, але і вялізарнае эканамічнае значэньне, дык гэтая культура, па ўзгадненьню з мясцовымі працаўнікамі, на Станцыі навукова апрацоўваецца са спэцыяльным да яе падыходам.

Больш усебакова Станцыяй пакуль вывучаецца тэма—«ячмені Беларусі», дзе асноўнымі пунктамі ў праграме працы зьяўляюцца:

1) Батанічны склад ячмянёў.
2) Гатунковы склад ячмянёў.
3) Хемічны склад ячмянёў.
4) Якасьць пасеўнага матар'ялу і
5) Элемэнты, якія засьмечваюць пасевы ячменю.

На Станцыі вывучаюцца 333 узоры свайго збору і такая-ж, прыкладна, колькасьць з асноўнае калекцыі цэнтру. Па папярэдніх даных, пры апрацаваньні гэтае тэмы, высьветлена, што 1) батанічна ячмені Беларусі прадстаўлены 7адменамі, якія, у сваю чаргу, характарызуюцца рознымі расамі; 2) якасьць пасеўнага матар'ялу вельмі нізкая; 3) Гатунковыя мясцовыя ячмені пераважна прадстаўлены 2-х раднымі формамі; 4) Хімізм ячмянёў Беларусі заслугоўвае ўвагі: шматрадныя ячмені зьмяшчаюць % пратэіну ня больш, а часта менш 2-х радных мясцовых гатунковых ячменяў; 5) культура ячменю па ўсёй БССР засьмечваецца да 80-ці розным пустазельлем.

Працу па тэме—«Ячмені Беларусі» мяркуецца скончыць і абвясьціць у пачатку 1929 г.

Роўналежна на Станцыі апрацоўваецца і іншая тэма: «Ячмені Абісініі ва ўмовах Беларусі», якую маецца на ўвазе абвесьціць у пачатку 1930 году.

Па папярэдніх даных, ячмені з раёнаў Афрыкі (Абісінія, Эгіпт, Алжыр, Туніс і інш.), перададзеныя на Станцыі экспэдыцыяй праф. Н. І. Вавілава, а таксама ячмені, атрыманыя з асноўнае калекцыі Інстытуту,—ва ўмовах БССР зьяўляліся вельмі каштоўнымі з практычнага пункту гледжаньня. Станоўчымі іх уласьцівасьцямі зьяўляюцца: 1) Вялікая абсалютная вага (1.000 зернят), якая ў сярэднім перавышае больш, чымся ў 1,5 разы мясцовыя ўзоры; 2) Раньнія па высьпяваньню; 3) Больш імунныя да грыбных захварэньняў; і 4) Адрозьніваюцца трываласьцю саломы, і асабліва ў параўнаньні з мясцовымі ўзорамі.

Па лініі пладовых расьлін, на Станцыі да гэтага часу ўдавалася больш поўна апрацаваць тэму—«Залежнасьць ураджайнасьці ў пладовых расьлін ад запладжэньня». У гэтых адносінах, у працягу 3 год (1926-27-28 г. г.), на Станцыі штогодна праводзіліся досьледы па штучнаму апылкаваньню непасрэдна ў садзе, дзе вывучалася пакуль каля 20 гатункаў пераважна яблыні і, большаю часткаю, шырока пашыраныя мясцовыя гатункі.

Роўналежна ў 1927 г. крыху, а ў 1928 г. былі праведзены значныя лябораторныя працы па дасьледваньню пылку пладовых расьлін у штучных асяродзішчах, а таксама па яе морфалёгічнаму вывучэньню і г. д.

На мэтадах прац, а таксама на радзе дэталяў зараз мы спыняцца ня будзем, таму што ў сучасны момант намі рыхтуецца па дадзенаму пытаньню ў цэлым спэцыяльная значная праца дзеля апублікаваньня. Тут-жа лічым патрэбным падзяліцца часткова некаторымі данымі ў выглядзе папярэдніх вывадаў:

1. У садоўніцтве цэнтр цяжару, бязумоўна, ляжыць у пытаньнях ураджайнасьці пладовых дрэў, што, у сваю чаргу, вельмі цесна зьвязана з працэсамі запладненьня.

2. Дзеля запладненьня неабходны дзейны жаночы родавы апарат і пылок здольны запладніць. Таму што гарантыя збытнага ўраджаю, калі здольна да прарастаньня пылок пападае на рыльца, дзе прарастае і добра ўрастае праз слупок да яйка і ўтварае запладненьне.

3. Паводжаньне пылку, г. зн. энэргія і здольнасьць прарастаньня, а, значыцца, і фэртыльнасьць пылку—розная і залежыць ад гатунку.

4. Вызначэньне фэртыльнасьці пылку мэтазгодна ўтварыць шляхам лябараторных скрыжаваньняў у штучных асяродзішчах, як папярэднія досьледы дзеля ўжываньня штучнага запылкаваньня, якое мае масавае значэньне дзеля практыкі. Шляхам гэтых дасьледаваньняў павінна ўстанаўляцца спараднеьне паасобных гатункаў паміж сабою. Гатунак, які не ўладае спарадненьнем (роднасьцю) у адносінах да іншых гатункаў і пылок якога не прарастае, павінен выключацца пры дасьледчых працах у садзе.

5. Практычнае садоўніцтва ад навукі павінна патрабаваць, каб дасьледаваньні ўмоў красаваньня і запладненьня пладовых расьлін ішлі-б узмоцненым тэмпам пры скарыстаньні тых мэтадаў, якія забясьпечваюць дакладныя і правільныя вывады.

6. У большасьці гатункаў яблынь крыжавое запылкаваньне зьяўляецца, як правіла, і, пасьля яго, атрымліваецца непараўнальна больш высокі ўраджай, чымся пры самазапылкаваньні. Пры гэтым ёсьць гатункі, якія могуць быць, пры крыжавым запылкаваньні, за добрых запылкавацеляў, тады як іншыя зусім ня могуць зьяўляцца запылкавацелямі.

7. У пытаньнях аб запылкавацелях вельмі важна здолець падабраць іх належным чынам. Запылкавацель павінен здрозьнівацца роўным і збытным красаваньнем, якое па часе супадае з красаваньнем, запылкоўваемага гатунку. Ён павінен даваць у дастатку пылок высокае жыцьцяздольнасьці; дарэчы, гэтыя апошнія дзьве ўласьцівасьці звычайна адна з аднэю зьвязаны.

Карыстаючыся выпадкам, зазначым, што намі, грунтуючыся на ўласных 3-х гадавых досьледах у садзе і дасьледаваньнях у лябараторных абставінах, а таксама прыняўшы пад увагу вынікі іншых дасьледчыкаў,—увосень 1928 году, на фольварку «Зацішша», які належыць станцыі, закладзены сад на 6-ці гектарах з невялікім лікам гатункаў і падборам адпаведных запылкавацеляў.

Гатункі ўзяты прамысловыя з сваіх выхавальнікаў: 1) Антонаўка—камянічка, 2) Шафран-кітайка, 3) Барздор-кітайка, 4) Штрэйфлінг, 5) Серынка. Запылкавацелямі ўзяты—Апорт і Пэпін Літоўскі, якія пасаджаны паступова, чаргуючыся па аднаму паасобніку на кожныя 8 дрэў матчыных гатункаў.

У працягу 1927—28 г. г. цэнтрам, пры ўдзеле Станцыі і мясцовых ўстаноў, праводзілася экспэдыцыйнае абсьледваньне садоўніцтва Беларусі. Праца экспэдыцыі праходзіла пад непасрэдным кіраваньнем праф. В. В. Пашкевіча. Вынікі прац экспэдыцыі аб садоўніцтве БССР, у выглядзе папярэдняга нарысу, мяркуецца апублікаваць у 1929—30 г., а поўнае апісаньне «Садоўніцтва Беларусі» даць у 1931—32 годзе.

Па тэме «Генэтычны склад гароху» мы імкнемся да мэты: 1) па-першае, высьвятленьня геаграфічнага разьмеркаваньня генаў і, па-другое, да устаўленьня зчапленьняў і вольнага рашчапленьня генаў.

Прыцягваючы да скрыжаваньняў вялізарны матар'ял рознага геаграфічнага пахаджэньня, удалося высьветліць звыш дзесяцёх факта-

раў, якія пазаставаліся да гэтага часу невядомымі (выключаючы колькасныя азнакі).

Удалося таксама ўстанавіць некалькі новых груп зчапленьня, якія ў сучасны момант параўноўваюцца з вядомымі ўжо групамі. Папярэднія вынікі паведамляюцца ў паасобным дакладзе на Усесаюзным зьезьдзе па генэтыцы і сэлекцыі, які мае быць у студзені 1929 году. Больш падрабязнае абагульненьне мяркуецца выпусьціць да 1930 году.

У адносінах да вывадаў, якія маюць агранамічнае значэньне, трэба адзначыць, што формы міжземнаморскага і афрыканскага пахаджэньня ўладаюць найвялікшаю колькасьцю спадчынных фактараў, якія вызначаюць высокую прадукцыйнасьць расьлін, і ў той-жа час, як формы Паўднёва-Заходняе Азіі (Афганістан, Індыя, Памір) уладаюць фактарыяльным складам, які вызначае зьніжаную ўраджайнасьць расьліны. Між тым, формы Паўднёвы-Заходняе Азіі выяўляюць вельмі каштоўную ў практычных адносінах азнаку—высокую разварымасьць насеннадоляй (выяўляецца пры гатаваньні бяз лушпайкі). Магчымасьць утварэньня ўраджайных гатункаў з высокаю разварымасьцю выдзяляецца цэлым шэрагам скрыжаваньняў.



Насеньнікі сартавое цыбулі на ізаляцыйным вучастку Бел. Станцыі У. І. П. Б. (Лошыца под Менскам).

Вывучэньне зчапленьня і вольнага рашчапленьня ў гаросе дазволіла ўстанавіць, што тыя-ж самыя зчэпленыя фактары, але ў розных камбінацыях, паказваюць даволі буйныя розьніцы ў %% кросынг-овэр. Розьніцы гэтыя зусім пэўна паказваюць шляхі камбінаванае сэлекцыі ў тых выпадках, калі прыходзіцца злучаць фактары, якія знаходзяцца ў аднэй хромазоме і якія разьмешчаны на вельмі блізкай адлегласьці адзін ад аднаго. Парушыць пры гэтым зчапленьне зьяўляецца ў большасьці выпадкаў магчымым пры вялікім ліку камбінацый з прыцягненьнем матар'ялу рознага пахаджэньня.

З 1927 году на Станцыі распачата вывучэньне кармовых карань-плодаў, вік, ячменю, жыта, бульбы, гародных і пладовых расьлін непасрэдна дзеля практычных мэт. На Станцыі вядзецца рэпрадукцыя гэтых расьлін, якая паводле прапановы НКЗБ перадаецца зацікаўленым дасьледчым установам, а таксама ў мясцовую Дзяржнасенкультуру, як выходны гатунковы матчыны матар'ял.

З ураджаю 1927 году Станцыяй перададзена звыш 1.000 пладова-ягаднага пасаджанага матар'ялу і каля 47 цэнтн. іншых культур. У 1928 годзе з сваіх выхавальнікаў Станцыяй перададзена звыш 5 тысяч гатунковага пладовага матар'ялу ў сад і каля 295 цэнтн. іншых культур.

З першага-ж году сваіх прац удалося праз Цэнтр і непасрэдна Станцыяй упарадкаваць цесную сувязь з сялянамі-дасьледчыкамі і дапішчыкамі, лік якіх цяпер перавышае 400. Рассылаючы ім штогодна



Насеньнікі сартовое цыбулі ў селяніна-дасьледчыка А. Шумскага. (Лошыца).

гатунковы пасеўна-пасадкавы матар'ял з сваіх выхавальнікаў, Станцыя тым самым прасоўвае і вызначае паводзіны гэтага матар'ялу ва ўмовах сялянскае гаспадаркі, а ў той-жа час падыходзіць практычна да пытаньняў разьмеркаваньня сваіх гатунковых матар'ялаў у дапасаваньні да паасобных натуральна-гістарычных і географічных раёнаў БССР.

Сумесна з сялянствам найбліжэйшых вёсак, на тэрыторыі Станцыі штогодна наладжваецца да «Дню Ўраджаю» сельска-гасп. выстаўка, што, у сваю чаргу, дае поўную магчымасьць усебакова знаёміць шырокія народныя масы з дасягненьнямі Станцыі.

У працягу лета, штогодна, Станцыю наведваюць экскурсіі і розныя асобы.

У заключэньне, дзеля большай паўнаты, трэба зазначыць, што на працы Станцыяй грашовых сродкаў, апрача зарплаты, было атрымана: у 1926 годзе каля 15 тысяч рублёў, у 1927 годзе—25 тысяч рубл. і ў 1928 годзе—да 30 тысяч рублёў.

---

А. Л. Ярашчук.

# Некаторыя вынікі працы сыстэмы сел.-гасп. крэдыту БССР.

Агульна вядома, што сельска-гаспадарчы крэдыт зьяўляецца адным з важнейшых сродкаў уплыву коопэрацыі і Дзяржавы на сялянскую гаспадарку, на павышэньне яе экономічнай магутнасьці і супраціўленьня вызыскаўным тэндэнцыям кулацкіх гаспадарак. Ён павінен будзе адыграць вялікую гістарычную ролю ў вырашэньні адной з найцяжэйшых сацыяльна-экономічных праблем нашай Дзяржавы праблемы социялістычнай перабудовы нашай архіадсталай сялянскай гаспадаркі, у сваёй падаўляючай большасьці „дробнай і драбнейшай“, гаспадаркі, якая надзвычайна дакладна характырызуецца Я. А. Якаўлевым, як „гаспадарка не рэнтабельная, гаспадарка непамерна дарагая, гаспадарка з цудоўна нізкай вытворчасьцю працы...[1]). Цяжкасьць рэарганізацыі такой гаспадаркі закладзена ў самай яе прыродзе, як гаспадаркі дробна-буржуазнай.

Сыстэма сельска-гаспадарчага крэдыту існуе толькі пяць гадоў. Зразумела, гэты тэрмін яшчэ вельмі малы ў справе вырашэньня пастаўленых перад сыстэмаю задач, але ён дастатковы для падрахунку ўжо некаторых вынікаў.

У данным артыкуле я затрымаюся, галоўным чынам, на адным момэнце працы сыстэмы, гэта на пытаньні аб сацыяльна-экономічнам кірунку крэдыту. Пытаньне гэта мае надзвычайна важнае значэньне, асабліва з боку разглядаваньня сельска-гаспадарчага крэдыту, як способу рэгуліраваньня дзяржавай клясавага расслаеньня ў вёсцы, як способу мобілізацыі сродкаў самаго сельскага насельніцтва і выкарыстоўваньне гэтых сродкаў праз коопэрацыю на дапамогу бядняцкім і серадняцкім пластам вёскі і абмежаваньне эксплуатататарскіх тэндэнцый капіталістычных элементаў вёскі. Але спачатку, крыху спыніліся на разглядзе разьвіцьця сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту БССР.

У дарэволюцыйны час сельская гаспадарка Беларусі абслугоўвалася рознымі крэдытнымі ўстановамі: спэцыяльным сялянскім банкам, прыватным і акцыянэрнымі банкамі, Галоўным Кіраўніцтвам Земляробства, часткаю Госбанкам і рознымі арганізацыямі дробнага крэдыту, з якіх у нашай краіне былі распаўсюджаны крэдытныя таварыствы, пазычкова-ашчэдныя т-вы і валасныя касы ашчэднасьці. Гэтыя крэдытныя ўстановы, за выключэньнем арганізацый дробнага крэдыту, абслугоўвалі пераважна абшарніцкія і буйна-капіталістычныя сялянскія гаспадаркі. Кастрычнікавая рэволюцыя, якая скінула капіталістычны лад, зьнішчыла і ўсю капіталістычную фінансава-крэдытную сыстэму, замест якой быў утворан зусім новы тып фінансава-крэдытных устаноў, тып

[1]) К вопросу о социалистическом переустройстве сельского хозяйства. ГИЗ. М. 1928 г. стр. 45-46.

адпавядаючы зьмененым палітычным формам дзяржавы і адбіўшымся грунтоўным зьменам у галіне эканамічных адносін і эканамічных форм разьвіцьця. Сярод гэтых, новага тыпу крэдытных устаноў, вельмі паважнае месца, як па адноснай вазе, так і па задачах, заняла сыстэма сельска-гаспадарчага крэдыту, якая прыняла з першых дзён свайго існаваньня структуру Дзяржаўна Коопэрацыйнай Установы: верхняе зьвяно—Сельска-гаспадарчы Банк, з капіталамі пераважна Дзяржаўных Устаноў, сярадняе зьвяно—Акруговыя Таварыствы сельска-гаспадарчага крэдыту, а пазьней і крэдытныя саюзы і нізшае зьвяно—сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы.

Арганізацыя сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту ў Беларусі, як і ў іншых рэспубліках нашага Саюзу, саўпала з пэрыядам максымальнага абніжэньня валюты і наогул абніжэньня ролі грошай, як платна менавых сродкаў, абніжэньня грашова-крэдытных узаемаадносін. Гэты пэрыяд быў надзвычайна няспрыяючы для арганізацыі і працы сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту, у зьвязку з чым яна ў першыя месяцы разьвівалася вельмі марудна. Толькі з пераходам да цьвёрдай валюты, сыстэма атрымала ўстойлівую фінансавую падставу і спрыяючыя ўмовы для свайго разьвіцьця.

Узьнікнавеньне сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту ў БССР адносіцца да 20 кастрычніка 1923 г., калі пачало дзейнічаць у Менску Беларускае Таварыства сельска-гаспадарчага крэдыту з наяўным грунтоўным капіталам у 46 тыс. руб., пры статутным у 400 тыс. рублёў. З першым укрупненьнем Беларусі, т-ва сельска-гаспадарчага крэдыту было, пастановай VI-га Надзвычайнага Зьезду Саветаў БССР ад 16 сакавіка 1924 г., рэарганізована ў Рэспубліканскі сельска-гаспадарчы банк, першапачатковы грунтоўны капітал якога быў вызначан у 1.200 тыс. рублёў.

Пачаўшы сваю дзейнасьць з капіталам у 46 тыс. руб., Беларускі Сельска-гаспадарчы Банк ужо к канцу пяцігодзьдзя меў 4.979 тыс. рублёў асноўнага капіталу пры балянсу ў 29.548 тыс. рублёў. Такі-ж хуткі фінансавы ўзрост мы бачым і ў акруговых т-вах сельска-гаспадарчага крэдыту, асноўны капітал якіх вырас з 154 тыс. руб. на 1 кастрычніка 1924 г. да 1935,6 тыс. рубл. на 1 кастрычніка 1928 г. Тэмп фінансавага росту сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту рэльефна адзначае дынаміка яе балянсу. (Графік № 1, глядзі старонку 154).

Буйны ўзрост балянсу акруговых т-ваў с.-г. крэдыту ў 1927 годзе абумоўлен рэорганізацыяй усіх аддзяленьняў Белсельбанку ў акруговыя т-вы с.-г. крэдыту, якіх павялічалася, разам з гомельскімі, з трох да сямі.

Праўда, удзельная вага асноўных капіталаў, як у Белсельбанку, так і ў акруговых таварыствах с.-г. крэдыту з году ў год падае: У Белсельбанку з 25,3 проц. к балянсу на 1-X 1924 г. да 16,5 проц. на 1-X 1928 г., у акруговых т-вах з 56,3 проц. да 8,4 процантаў. Гэткае зьніжэньне адноснай вагі асноўных капіталаў у верхніх двух зьвеньнях сыстэмы абумоўлена, з аднаго боку, больш хуткім прытокам дзяржаўных сродкаў у сыстэму па лініі займаў і сродкаў спэцыяльнага прызначэньня, і з другога,—хутка пашыраючыміся камісыйнымі опэрацыямі і прытокам сродкаў па ўкладам і бягучым рахункам; удзельная вага апошніх у балянсу Белсельбанку вырасла з 2,3 проц. на 1-X 1924 г. да 4,4 проц. на 1-X 1928 г. Па акруговым т-вам сельска-гаспадарчага крэдыту за пяцігодзьдзе ўклады і бягучыя рахункі дасягнулі амаль 2-х міл. руб., ці 7,4 проц. к балянсу.

Такі адносна хуткі фінансавы рост сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту быў абумоўлен напруджаным, усё пашыраючымся, патрабаваньнем сельскай гаспадаркі на крэдыт.

Сялянская гаспадарка, якая панесла вялізныя матар'яльныя страты ў зьвязку з перанесенымі ёю імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайной, з першых-жа дзён існаваньня сыстэмы паставіла перад ёю надзвычайна востра праблему сельска-гаспадарчага крэдыту. Вялізная патрэба ў крэдыце на адбудову і разьвіцьцё сельскай гаспадаркі яшчэ больш узмацнялася арганізацыяй новых сялянскіх гаспадарак, якая адбывалась спачатку галоўным чынам за рахунак надзяленьня батракоў і беднаты зямлёй, а пазьней пераважна за рахунак узмоцненага працэсу драбленьня сялянскіх гаспадарак.

Патрэба ў крэдыту, якая павялічвалась у меру пашырэньня адбудоўчых працэсаў на вёсцы, штурхала сыстэму сельска-гаспадарчага крэдыту на пашырэньне сваіх пасываў, павялічэньне якіх адбывалася пераважна за рахунак сродкаў Дзяржавы. Зразумела, што сыстэма сельска-гаспадарчага крэдыту, працаваўшая пакуль што выключна на сродкі Дзяржавы, не магла поўнасьцю здавальняць патрэбу сялянскай гаспадаркі ў крэдыту. Гэта неабходна падкрэсьліць, таму, што з пераходам да рэконструкцыйных працэсаў у сельскай гаспадарцы, патрэба ў крэдыту прыме яшчэ больш шырокія разьмеры; значыцца, перад сыстэмай будзе пастаўлена яшчэ больш востра праблема сельска-гаспадарчага крэдытаваньня, праблема адшуканьня і прыцягненьня сродкаў.

Граф. № 1. Дынаміка балянсу Белсельбанку і акруговых т-ваў сельска-гаспадарчага крэдыту (у млн. рублёў).




Неабходна адзначыць, што ўжо сыстэмай с.-г. крэдыту Беларусі ўкладзены ў сельскую гаспадарку даволі значныя сродкі. Так за пяцігодзьдзе Белсельбанкам і Акруговымі Таварыствамі сельска-гаспадарчага крэдыту ўкладзена ў сельскую гаспадарку каля 50 мільён. рублёў, з якіх да 46% доўгатэрміновых.

Вельмі важна падкрэсьліць, што суадносіны доўгатэрміновых і каротка-тэрміновых пазык з году ў год хутка паляпшаюцца ў бок павялічэньня ўдзельнай вагі доўгатэрміновых, аб чым яскрава сьведчыць

дынаміка запазычанасьці па мэтавым пазыкам у сыстэме сельска-гаспадарчага крэдыту.

Па Бельсельбанку запазычанасьць па доўгатэрміновым пазыкам вырасла з 93,5 тыс. рублёў, ці 9,5% к агульнай суме запазычанасьці па мэтавым пазыкам на I-X—1924 г. да 20,3 міл. руб., ці 77,4% на

Граф. № 2. Дынаміка запазычанасьці Бельсельбанку і акруговым т-вам с.-г. крэдыту па мэтавым крэдытам у міл. руб.




I-X—1928 г. Падобныя лічбы доўгатэрміновых пазык па Акруговым т-вам сельска-гаспадарчага крэдыту: павялічыліся з 1,6 тыс. руб. ці 0,7% да 11,9 міл. руб. ці 79,0% к агульнай суме запазычанасьці па мэтавым пазыкам. Ужо адзін факт такога вялікага пашырэньня доўгатэрміновых крэдытаў, у параўнаньні з кароткатэрміновымі, гаворыць аб буйных дасягненьнях сыстэмы с.-г., крэдыту ў галіне крэдытаваньня сельскай гаспадаркі.

Як вядома, напрамак крэдытнай працы сыстэмы, як і наогул агульны характар крэдытных адносін у сучаснай вёсцы, у значнай меры абумоўлены сельска-гаспадарчай палітыкай нашай Дзяржавы, у якой заложаны пачаткі:

„а) абагуліваньня гаспадарчых працэсаў у форме коопэраваньня індывідульных гаспадарак і ў форме разьвіцьця буйнай вытворчасьці ў відзе калгасаў і саўгасаў;

б) клясавага падыходу, які прадугледжвае орыэнтацыю на бядняцкія і серадняцкія групы і ўтварэньня з гэтых груп моцнай у сацыяльных адносінах вытворчай падставы;

в) разьвіцьця таварнасьці сялянскай сельска-гаспадарчай вытворчасьці ў мэтах утварэньня моцных сыравінных, спажыўчых і экспартных баз, якія забясьпечваюць хуткі і ўстойлівы тэмп індустрыяльнага будаўніцтва".

У першыя гады працы сыстэма с.-г., крэдыту, відаць, галоўную увагу зьвяртала на адбудову вытворчых сіл у сельскай гаспадарцы, бо асноўныя маса крэдытаў накіроўвалася ёю на забесьпячэньне сельска-гаспадарчых прадпрыёмстваў сродкамі вытворчасьці.

У апошнія гады сыстэмай с.-г. крэдыту былі пашыраны укладаньні крэдыту у мерапрыемствы і галіны сельскай гаспадаркі, якія зьвязаны з працэсамі у сельскай гаспадарцы, накіраванымі на вырашэньне задачы тэхнічнай і социяльна-экономічнай рэканструкцыі гаспадаркі. У зьвязку з гэтай асноўнай устаноўкай, рэзка павялічыліся крэдыты на прызначэньні, якія зьвязаны з механізацыяй і інтэнсіфікацыяй с.-г. вытворчасьці, з павялічэньнем яго таварнасьці з пераробкай і збытам с.-г. прадуктаў.

Асабліва важна падкрэсьліць дасягненьні Беларускай сыстэмы с.-г. крэдыту у крэдытаваньні социялістычнага сэктару. Так па данных Белсельбанку удзельная вага крэдытаў, якія накіроўваліся у социялістычны сэктар сельскай гаспадаркі, дасягнула да канца пяцігодзьдзя амаль паловы агульнай сумы вытворчых крыдытаў.

Дынаміка крэдытаў, якія выданы сыстэмай с.-г., крэдыту розным сэктарам с.-г. у % %.

| Сэктары с.-гаспадаркі | 1933-24 | 1924-25 | 1925-26 | 1926-27 | 1927-28 |
|---|---|---|---|---|---|
| Індывідуальным гаспадаркам . | 90,0 | 76,0 | 67,0 | 59,0 | 51,5 |
| Аграмаджанаму сэктару с-г. | 10,0 | 24,0 | 33,0 | 41.0 | 48,5 |
| У тым ліку | | | | | |
| Саўгасам . . . . . . . | 1,4 | 10.9 | 12,0 | 15.6 | 17,3 |
| Калгасам . . . . . . . . | 4,4 | 5,3 | 6,0 | 6,3 | 11,3 |
| Інш. першапач. коопэратывам | 4.0 | 3,0 | 5,2 | 8,2 | 14,5 |

Прыведзеныя лічбы сьведчаць аб рашучым павароце крэдытнай палітыкі сыстэмы у бок социялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі. Удзельная вага социялістычнага сэктару у крэдытах у 20—24 разы вышэй удзельнай вагі іх валовай прадукцыі у агульнай валовай прадукцыі ад сельскай гаспадаркі. Тут можа быць гутарка не аб недакрэдытаваньні, а аб пэракрэдытаваньні социялістычнага сэктару, разумеючы апошняе з боку правільнага гаспадарчага выкарыстоўваньня пазык. Пакуль што ў гэтай справе застаецца жадаць яшчэ вельмі многага.

Бясспрэчна, крэдытаваньне у такіх разьмерах социялістычнага сэктара с.-г., зьявілася адным з самых магутных мерапрыемстваў у справе разьвіцьця коопэраваньня і колектывізацыі індывідуальных сялянскіх гаспадарак. Зараз звыш трох з паловай тысяч коопэратыўных колектыўных аб'яднаньняў зьяўляюцца членамі с.-г. крэдытнай коопэрацыі. Адзін толькі гэты факт гаворыць аб ролі сыстэмы с.-г. крэдыту ў перабудове нашай вёскі на новых социялістычных пачатках.

Максімальнае павышэньне крэдытаў социялістычнаму сэктару яшчэ больш завострывае праблему с.-г. крэдытаваньня, асабліва праблему крэдытаваньня індывідуальных бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, патрэба якіх у крэдыце, як адзначалась раней, з кожным годам хутка павялічваецца.

[1]) Очередные вопросы с.-х. кредита. Выд. ЦС-Г Банку М. 1927 г.

У той час, як саўгасы, калгасы і коопэрацыйныя аб'еднаньні крэдытуюцца усімі зьвеньнямі сыстэмы с.-г. крэдыту, індывідуальныя сялянскія гаспадаркі крэдытуюцца выключна праз нізавую с.-г. крэдытную сець. Значыцца, апошняя, як у палітыцы крэдытаваньня, так і у выніках самога крэдытаваньня адыгрывае выключную ролю. Яна адыгрывае рашучую адказную ролю ў сыстэме адносін Савецкай Дзяржавы да сялян, адносін пролетарыяту да асноўнай масы сялянства, якія адбываюцца праз сельска-гаспападарчы крэдыт.

Як вядома, для такога тыпу соцыяльных адносін найбольш характэрным зьяўляецца плянавы уплыў Дзяржавы на стыхійныя працэсы, якія адбываюцца у сельскай гаспадарцы, уплыў яго на падняцьце і разьвіцьцё самой сельска-гаспадарчай вытворчасьці, на разьмеркаваньне сродак вытворчасьці сярод гаспадарак розных соцыяльна-экономічных груп і тыпаў і на рэгуляваньне сацыяльна-клясавых адносін у вёсцы. У гэтай справе с.-г. крэдытным таварышчэствам належыць галоўная роля.

У зьвязку з такой важнасьцю с.-г. крэдытнай коопэрацыі у сыстэме с.-г. крэдыту БССР, мы затрымаемся на аналізу яе дасягненьняў больш падрабязна, асабліва па пытаньню, якое нас найбольш тут цікавіць, гэта аб *сацыяльна-экономічным* напрамку яе працы—па пытаньню, якое „вызначае зьмест і напрамак працы сыстэмы с.-г. крэдыту, зьяўляецца асноўнай меркай пры вывучэньні і ацэнцы яе дзейнасьці".

Арганізацыя савецкай с.-г. крэдытнай коопэрацыі фактычна пачалася у БССР пасьля дэкрэту ад 27 студзеня 1922 г., які даў першы штуршок яе разьвіцьцю. Але з пачатку organізацыя с.-г. крэдытных і пазычкова-ашчэдных т-в праходзіла стыхійна і вяла. Гэтыя т-вы ня мелі адпаведных насываў для вядзеньня крэдытных опэрацый і прымушаны былі займацца гандлем, радзей вытворчымі опэрацыямі. Толькі пазьней, з організацыяй сыстэмы с.-г. крэдыту, організацыя с.-г. крэдытных т-в набыла плянавы характар, а самыя т-вы—форму супраўдных вясковых установ дробнага крэдыту. Такім чынам, організацыя існуючых зараз с.-г. крэдытных коопэратываў саўпадае у нас на БССР з організацыяй сыстэмы с.-г. крэдыту.

У маю задачу не ўваходзіць падрабязны аналіз разьвіцьця Савецкай Крэдытнай Коопэрацыі БССР.. Але каб мець некаторае агульнае уяўленьне аб яе разьвіцьці за апошнія гады, я прывяду толькі асноўныя паказчыкі яе разьвіцьця і працы у дынамічным разрэзе.

Асноўныя паказчыкі разьвіцьця і дзейнасьці с.-г. крэдытнай коопэрацыі [1]).

| Назва паказчыкаў | на 1/X 1924 г. | на 1/X 1925 г. | на 1/X 1926 г. | на 1/X 1927 г. | на 1/X 1928 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Лік с.-г. крэдытных таварыств | 115 | 114 | 144 | 203 | 256 |
| Агульны лік членаў т-ва: індывідуальных у тыс. | 23,5 | 91,5 | 157,4 | 240,7 | 302,7 |
| калектыўных і коопэр. | 233 | 719 | 1208 | 2418 | 3577 |
| %% коопэрыраваных індыв. гаспадарак | 3,6 | 13,5 | 22,9 | 30,2 | 38,0 |
| Сярэдні лік членаў на 1 крэд. т-ва | 204 | 803 | 1093 | 1185 | 1181 |
| Сума балянсу у тыс. руб. | 992,6 | 4183,3 | 8308,2 | 15396,0 | 25950,0 |
| Сума асноўных капіталаў у тыс. руб. | 84.6 | 518.6 | 1028,0 | 2172,8 | — |
| Сярэдняя сума балянсу на коопэр у тыс. р. | 8.6 | 36,7 | 57,7 | 75.8 | 101,4 |
| Сума пазычак у тысячах руб. | 591,2 | 2583,4 | 5510,9 | 10518,1 | 15811,8 |
| У тым ліку доўгатэрміновых у тыс. руб. | 16,4 | 355,8 | 1964,3 | 5017,9 | 10732,5 |
| Сярэдняя сума пазычкі на 1 члена т-ва у р. | 25,2 | 28,2 | 52,8 | 64,0 | 52,2 |
| Сума укладаў у тыс. руб. | 32,6 | 74,3 | 270,0 | 609,0 | 1463,6 |
| Сярэдняя сума укладаў на т-ва у тыс. руб. | 0,3 | 0,7 | 1,9 | 3,0 | 5,7 |
| Сярэдняя сума укладаў на 1 члена т-ва у р. | 1,4 | 0,8 | 1,7 | 2.5 | 4,8 |
| Сума займаў у Акр. т-в с.-г. крэд. у тыс. р. | 598,3 | 2970,6 | 5845,0 | 10386,6 | 15827,8 |

[1]) За 1926/27 г. разам з Гомельшчынай. Даныя на 1/X 1928 г. па квартальным справаздачам нізавой с.-г. крэдытнай коопэрацыі; з 304 крэдытных коопэратываў на 1/X 1928 г. у зводку ўключана толькі 256.

Праходзіць буйны узрост колькасьці с.-г. крэдытных коопэратываў. Але тэмп узросту іх усё ніжэй, чым узрост крэдытнай коопэрацыі на Беларусі за апошнія 6—7 год перад вайной. Як вядома, крэдытная коопэрацыя зарадзілася на Беларусі яшчэ у 1876 годзе, у б. Віцебскай губэрні. З пачатку разьвівалася яна вельмі марудна.

Трыццаць два гады, г. значыць да 1908 году організавалась толькі 74 т-вы, а з 1908 г. адзначаецца буйны ўзрост колькасьці крэдытных т-в, якія дасягнулі у 1914 г. да 421. Таксама да 1914 г. організавалася на тэрыторыі б. Менскай, Магілеўскай і Віцебскай губ. 396 пазычкова-ашчэдных кас. У час вайны далейшая організацыя крэдытных коопэратываў спынілася. Коопэратывы, у меру пагоршаньня фінансава-крэдытнай кон'юнктуры, пашырылі гандлёвыя і зьменшылі крэдытныя опэрацыі. З Кастрычнікавай рэволюцыяй крэдытныя опэрацыі ў т-вах займалі зусім нязначную ролю, т-ва марнелі і яшчэ да дэкрэта 1920 г., зусім распаліся.

Зараз адзначаецца даволі значны узрост коопэраваньня індывідуальных гаспадарак. За чатыры апошнія гады колькасьць коопэраваных гаспадарак павялічылася ў дванаццаць раз[1]). У пятнаццаць раз павялічылася і коопэрыраванасьць коопэрацыйных і колектыўных аб'яднаньняў. Коопэраваньне і абслугоўваньне гэтых організацый зьяўляецца адной засаблівасьцяй, якія адрозьніваюць нашу савецкую коопэрацыю ад буржуазнай.

Агульная сума балянсу с.-г. крэдытных т-в вырасла з міліёна да 25,9 міл. руб., а асноўны капітал з 84,6 тыс. руб. да 3,4 міл. руб. гэта значыць за чатыры апошнія гады павялічыўся амаль у сорак раз. Зразумела, павялічэньне коопэраванасьці было ў значнай меры абумоўлена прытокам сродкаў у крэдытную коопэрацыю, нават можна сьцьвярджаць, што тэмп коопэраваньня індывідуальных гаспадарак адстае ад тэмпу прытоку сродкаў. Укосным паказчыкам гэтага зьяўляецца ўзрост сярэдняй сумы пазыкі на члена крэдытнага коопэратыву з 25 да 64 руб.

Недахоп працы с.-г. крэдытнай коопэрацыі—гэта вельмі слаба разьвітыя укладныя опэрацыі. Праўда, тэмп узросту вялікі, але абсалютная сума у пасыве т-ваў надзвычайна малая, асабліва малая сума сялянскіх укладаў з агульнай сумы ўкладаў у 1463,6 тыс. руб. на 1/X 1928 г. было ўкладаў індывідуальных гаспадарак толькі 328,9 тыс. р. у той час як у 1914 г. крэдытныя і пазычкова-ашчэдныя т-вы, пры сводным балянсу у 25 міліёнаў рублёў, мелі звыш 17 міл. рублёў укладаў (пераважна укладаў сялянскіх), якія амаль поўнасьцю пакрывалі пазычковыя опэрацыі гэтых т-в. Зараз-жа у с.-г. крэдытнай коопэрацыі асноўнай крыніцай крэдытаваньня сялянскіх гаспадарак зьяўляюцца сродкі дзяржавы. Пашырэньне патрэб у крэдыце асноўнай масы індывідуальных сялянскіх гаспадарак, пры усё узрастаючым накіроўваньні сродкаў сыстэмы с.-г. крэдыту на крэдытаваньне сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, ставіць перад сыстэмай с.-г. крэдыту надзвычайна востра пытаньне аб прыцягненьні сродкаў самога насельніцтва. У гэтым кірунку, як бачылі вышэй, ёсьць некаторыя дасягненьні, але яны зусім нязначны у параўнаньні з патрэбамі сялянскіх гаспадарак у крэдыце. Гэта асабліва важна падкрэсьліць таму, што асноўнай дырэктывай у справе разьвіцьця савецкай с.-г. крэдытнай коопэрацыі зьяўляецца дырэктыва: забясьпечыць

[1]) На першым месцы па коопэраванасьці стаіць Аршанская (45.2%), Магілеўская (44,8%) і Полацкая (41,4%) акругі і на апошнім месцы—Гомельская акруга (24,6%).

у такім разьмеры і такім напрамку крэдыту, які забясьпечваў-бы уздым экономічнай магутнасьці бядняцкіх і серадняцкіх пластоў вёскі і спрыяў-бы больш хуткаму узросту сацыялістычных элемэнтаў у сельскай гаспадарцы за рахунак абмяжоўваньня і выпінаньня прыватна-капіталістычных элемэнтаў вёскі.

У якой-жа меры с.-г. крэдытная коопэрацыя выканала гэтую дырэктыву Савецкай Дзяржавы адносна абслугоўваньня крэдытам гаспадарак розных сацыяльна-экономічных груп і тыпаў?

Раней чым прыступіць да адказу на гэтае пытаньне, на падставе аналізу даных с.-г. крэдытнай коопэрацыі аб социяльна-экономічным напрамку яе працы, лічу неабходным зрабіць некалькі заўваг адносна метаду вучоту соцыяльнага напрамку крэдыту.

У практыцы працы сыстэмы с.-г. крэдыту прымянялася групоўка членаў крэдытных т-в і заёмшчыкаў па забясьпечанасьці іх пасеўнай плошчай, рабочай жывёлай і каровамі. Пры чым першы паказчык—пасеўная плошча—лічыўся асноўным для вызначэньня груп сялянскіх гаспадарак, а два апошніх адыгрывалі нібы падсобную ролю паказчыкаў гэтых-жа груп.

Асноўнае пярэчаньне супроць групоўкі сялянскіх гаспадарак па пасеўнай плошчы зводзіцца да таго, што гэты паказчык не заўсёды правільна характэрызуе экономічную моц гаспадаркі, а тым больш у умовах савецкага землякарыстаньня, дзе, як правільна адзначаюць некаторыя аўтары, „шматпасеўнасьць“ часта азначае шматсямейнасьць“ сялянскай гаспадаркі. Але з гэтага не вынікае яшчэ, што шматсямейныя гаспадаркі заўсёды маламоцныя. Як раз наадварот, вялікая сям'я гаспадаркі зьяўляецца адной з прадпасылак яе магутнасьці. Праўда, сярод „шматпасыўных“ і „шматсямейных“ гаспадарак сустракаюцца часта гаспадаркі, якія вельмі дрэнна забясьпечаны сродкамі вытворчасьці, у зьвязку з чым прымушаны прыбягаць да найму апошніх. Зразумела, такія гаспадаркі памылкова адносіць да заможных, а тым больш да кулацкіх груп вёскі.

Наколькі недасканалым паказчыкам пры сацыяльна-эканамічнай групоўцы сялянскіх гаспадарак зьяўляецца пасеўная плошча, асабліва для некаторых раёнаў, дакладна даказана праверкай НК РСІ хлеба-фуражнага балянсу 1925 г., які быў складзен ЦСУ СССР, і які для сацыяльнай групоўкі сялянскіх гаспадарак ужыў пасеўную плошчу. Так, данымі НК РСІ паказана, што у спажываючым раёне, у групе гаспадарак, якія аднесены былі ЦСУ да багатых, было бяз коней 2,3%, з адным канём 50,6%, з 2-я конямі 39,4%. У Паўднёва-Сьцяпной Украіне, у гаспадарках, якія былі аднесены ЦСУ да заможных, было: у групе гаспадарак з пасевам ад 6 да 8 дзесяцін без рабочай жывёлы 24,1%, з адной галавой рабочай жывёлы 41,1%, з двумя—30,9%, з 3-я і больш—3,9%, а у групе з пасевам ад 8 да 10 дзесяцін без рабочай жывёлы—14,9 проц., з адной галавой рабочай жывёлы—37,6 проц., з двумя—39 проц., з 3-я і болей—8,5 проц. Гэта у раёне, дзе рабочай жывёлай у значнай меры зьяўляюцца рабочыя валы. У Цэнтральна-Земляробчым раёне, сярод гаспадарак, якія аднесены ЦСУ да заможнай групы (з пасевам ад 6 да 8 дзес.), больш паловы гаспадарак бяз коняй і з адным канём і амаль дзьве трэці аднакароўнікаў [1]).

Усе гэтыя меркаваньні гавораць аб тым, што пасеўная плошча ня можа лічацца в ы ч э р п в а ю ч ы м паказчыкам сацыяльна-экономічнай групоўкі сялянскіх гаспадарак і што, пры а н а л і з е с а ц ы я л ь н а г а

[1]) Я. А. Я к о в л е в. Об ошибках хлебо-фуражного баланса ЦСУ и его истолкователей. Изд. Комакад. М. 1926 г. стр. 22—23. Запазычана з кніжкі П. Севрук „Сельско-хозяйственный кредит в союзе СССР“.

напрамку с.-г. крэдыту з прымяненьнем групоўкі па пасеўнай плошчы, неабходна мець на ўвазе той факт, што сярод шмат пасеўных гаспадарак можа быць даволі значная колькасьць слабых і нават маламоцных гаспадарак.

Але паколькі разьмер пасеўнай плошчы зьяўляецца вынікам дзейнасьці усіх элемэнтаў вытворчасьці сялянскай гаспадаркі, дык гэта гаворыць за тое, што яна зьяўляецца значна лепшым паказчыкам магутнасьці сялянскай гаспадаркі, чым такія паказчыкі як рабочая жывёла і каровы. Гэта асабліва верна для Беларусі, дзе пасеўная плошча зьяўляецца даволі блізкім паказчыкам магутнасьці сялянскай гаспадаркі [1]).

Пры вывучэньні сацыяльна-эканомічнага напрамку працы с.-г. крэдытнай коопэрацыі, на падставе іх гадавых справаздач, мы абмяжованы, пры групоўцы членаў і заёмшчыкаў крэдытнай коопэрацыі, тымі паказчыкамі, якія былі ужыты сыстэмай с.-г. крэдыту: пасеўнай плошчай, рабочай жывёлай і каровамі. Але пры аналізе матэрыялаў нізавой крэдытнай сеці, мы па прычыне раней адзначанай, будзем больш карыстацца групоўкай па пасеўнай плошчы.

Пасьля крыху зацягнуўшыхся заўваг адносна метаду вучоту сацыяльнага складу членаў і заёмшчыкоў, які прымяняўся сыстэмай с.-г. крэдыту, пяройдзем да аналізу дасягненьняў у соцыяльна-эканомічным кірунку працы яе нізавога зьвяна.

Пытаньне аб сацыяльным складзе членаў сельска-гаспадарчай крэдытнай коопэрацыі, пытаньне аб тым, якія пласты сялян фактычна кіруюць справай крэдытнага коопэратыву, а значыцца, найбольш поўна выкарыстоўваюць сыстэму с.-г. крэдыту, зьяўляецца, па сутнасьці, асноўным пытаньнем будаўніцтва сельска-гаспадарчай крэдытнай коопэрацыі. Вось на гэтым пытаньні і варта затрымацца крыху больш падрабязна.

Данныя гадовых справаздач с.-г. крэдытнай коопэрацыі БССР даюць наступны малюнак абслужанасьці розных груп сялянскіх гаспадарак сыстэмай с.-г. крэдыту [2]).

Дынаміка коопэраваньня і абслугоўваньня крэдытам розных груп сялянскіх гаспадарак БССР [3]).

| Групы гаспадарак па пасеву | Удзельная вага у %% | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усіх сялянскіх гаспадарак | | | У складзе членаў крэд. т-ва | | | У складзе заёмшчыкаў | | | У агульнай суме запазычанасьці наук | | |
| | 1925 | 1926 | 1927 | 1925 | 1926 | 1927 | 1925 | 1926 | 1927 | 1925 | 1926 | 1927 |
| I. Без пасеву . . . . . | 1,4 | 1,4 | 1.2 | 3,9 | 3,2 | 3,5 | 3,0 | 2.2 | 2.2 | 4,5 | 4,6 | 2,4 |
| II. З пасевам да 2-х дзес. . | 27,3 | 24,4 | 22,8 | 17,8 | 19.2 | 26.3 | 19,2 | 21.8 | 26,2 | 18.8 | 23,1 | 27,7 |
| III. „ ад 2,1 да 6 дзес. | 64,4 | 66.5 | 67,3 | 54,8 | 55,9 | 55,7 | 53,7 | 54,7 | 58,1 | 50,7 | 49,8 | 56,0 |
| IV. „ „ 6,1 да 8 „ | 4,5 | 5,2 | 5,9 | 14,1 | 12,7 | 9,3 | 14,8 | 12,9 | 9,3 | 16,0 | 13,7 | 9,2 |
| V. „ „ 8 і больш „ | 2,4 | 2,5 | 2,8 | 9,4 | 10,0 | 5,2 | 9,3 | 8,4 | 4,2 | 10,0 | 8,8 | 4,7 |
| Разам . . . . . | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |

[1]) Па вылічэньнях Б. С. Бойка коэфіцыэнт корэляцыі паміж валавым прыбыткам і разьмерам пасеўнай плошчы дасягае + 0,741. (Часопіс „Сельская і лясная гаспадарка" № 2, 1927).

Гэта даволі высокая корэляцыйныя залежнасьць у суадносінах пасеўнай плошчы да валавога прыбытку гавораць аб тым, што у нашых умовах пасеўнай плошчай мажліва карыстацца па групіроўкам сялянскіх гаспадарак па іх магутнасьці.

[2]) Мы вядзем аналіз толькі за тры гады таму, што за 1923-24 г. няма данных аб сацыяльным складзе членаў крэдытнай коопэрацыі, а за 1927-28 г. яшчэ няма ўсіх матар'ялаў—гадавых справаздач нізоўкі.

Данныя гадавых справаздач нізоўкі да 1926-27 г.—бяз Гомельшчыны (б. Рэчыцкага і Гомельскага паветаў), а з 1926-27 г—з Гомельшчынай.

[3]) Узяты для групоўкі сялянскіх гаспадарак БССР веса дынамічкі ЦСУ БССР.

Прыведзеная табліца дазваляе зрабіць наступныя вывады.

1. Удзельная вага беспасеўных гаспадарак у складзе членаў крэдытнай коопэрацыі у тры разы вышэй, чым у складзе усіх сялянскіх гаспадарак, некалькі меншая вага іх у складзе заёмшчыкаў, чым у складзе членаў і значна большая доля удзелу у агульнай суме запазычанасьці, чым у складзе заёмшчыкаў.

2. Група з засевам да 2-х дзесяцін мае значна большую удзельную вагу у складзе заёмшчыкаў, чым у складзе усіх сялянскіх гаспадарак, вышэйшую удзельную вагу у заёмшчыках, чым у членах і значна вышэйшую долю удзелу гэтай групы у агульнай суме запазычанасьці, чым у заёмшчыках.

3. Шматпасеўныя гаспадаркі, таксама як і беспасеўныя, значна паўней уцягнуты у коопэрацыю, чым сярэднія пасеўныя групы сялянскіх гаспадарак, іх удзельная вага у коопэрацыі значна большая, чым ў складзе ўсіх сялянскіх гаспадарак, але, што вельмі важна падкрэсьліць, значна ніжэй удзельная вага іх у заёмшчыках у параўнаньні з удзелам у членах; праўда, доля удзелу у агульнай суме запазычанасьці крыху вышэй іх долі у заёмшчыках.

4. Самая найбольшая група сялянскіх гаспадарак з пасевам ад 2-х да 6 дзесяцін найменш абслужана сыстэмай с.-г. крэдыту. Удзельная вага яе у складзе членаў значна ніжэй, чым у складзе усіх гаспадарак, у складзе заёмшчыкаў вышэй, чым у складзе членаў, але ніжэй доля удзелу у рэшце запазычанасьці, чым у заёмшчыках.

5. Надварот, IV група, з пасевам ад 6 да 8 дзесяцін абслужана сыстэмай с.-г. крэдыту значна лепш, чым III-я група; удзельная вага у складзе членаў у паўтара—два разы вышэйшая, чым у складзе усіх гаспадарак, вышэй удзельная вага у заёмшчыках і запазычанасьці, чым у складзе членаў і заёмшчыкаў.

6. Разглядваючы працэс у дынаміцы, мы бачым, што удзельная вага беспасеўных і з пасевам да 2-х дзесяцін у агульнай масе сялянскіх гаспадарак зьменшаецца, а сярод членаў, заёмшчыкаў і у долі агульнай сумы запазычанасьці рэзка вырастае. Выключэньнем зьяўляецца беспасеўная група, доля якой у заёмшчыках і агульнай суме запазычанасьці у 1927 г. крыху зьменшылася. Калі гэта зьмяншэньне адбылося за кошт зьмяншэньня крэдытаваньня заёмшчыкаў не сялянскага тыпу (служачых, саматужнікаў і інш.), якія звычайна адносяцца нізоўкай у групу „без пасеву“, дык выражаная тэндэнцыя мае станоўчае значэньне, у іншым выпадку—адмоўнае.

7. Удзельная вага сярэдня-пасеўных у агульнай масе гаспадарак значна павялічылася. У складзе членаў, заёмшчыкаў і агульнай суме запазычанасьці удзельная вага групы гаспадарак з пасевам ад 2-х да 6 дзесяцін рэзка павялічваецца, а групы з пасевам ад 6 да 8 дзесяцін—зьмяншаецца.

8. У групе шматпасеўных маем незначны ўзрост іх удзельнай вагі сярод усіх гаспадарак і надзвычайна рэзкае зьніжэньне ўдзельнай вагі ў членах, заёмшчыках і асабліва у долі агульнай запазычанасьці. Гэта неабходна адзначыць, як вялікае дасягненьне нашай сыстэмы ў галіне сацыяльна-экономічнага накірунку яе працы. Тут мы маем яскрава выражаную тэндэнцыю да зьмяншэньня абслугоўваньня сыстэмай с.-г. крэдыту шматпасеўных груп і значнага павялічэньня абслугоўваньня крэдытам малапасеўных груп вёскі.

Да такіх-жа вывадаў прыходзім, калі прыменім групоўку сялянскіх гаспадарак па рабочай жывёле і па каровам.

Дынаміка коопэраваньня і абслугоўваньня с.-г. крэдытам гаспадарак розных груп у %%.

| Групы гаспадарак | У складзе ўсіх гаспадарак | | | У складзе членаў крэдытн. т-в | | | У складзе заёмшчыкаў | | | Доля ў агульнай суме запазычнасьці | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1925 | 1926 | 1927 | 1925 | 1926 | 1927 | 1925 | 1926 | 1927 | 1925 | 1926 | 1927 |
| **Па рабочай жывёле** | | | | | | | | | | | | |
| Без рабочай жывёлы . | 14,2 | 136 | 13,2 | 26,4 | 22,3 | 18,8 | 31,8 | 22,5 | 19,0 | 33,1 | 29,6 | 22,1 |
| З 1-ой галавой . . | 71,0 | 72,5 | 74,6 | 55,1 | 59,5 | 64,0 | 53,4 | 60,8 | 65,8 | 52,7 | 53,9 | 61,2 |
| З 2-я „ . . | 13,6 | 12.9 | 11,6 | 14,9 | 15,2 | 14,8 | 13,0 | 14,3 | 13,6 | 12,0 | 13,8 | 14,5 |
| З 3-я і больш галовамі | 1,2 | 1,0 | 0,6 | 3,6 | 3.0 | 2,4 | 1,8 | 2,4 | 1,6 | 2,2 | 2,7 | 2,2 |
| **Па кароўнасьці** | | | | | | | | | | | | |
| Без кароў . . . | 5,4 | 4,3 | 5,1 | 13,0 | 10,6 | 9,5 | 12,8 | 10,0 | 9,9 | 13,5 | 11,7 | 10,5 |
| З 1-й каровай . . | 51,1 | 46,7 | 49,3 | 44,8 | 45,7 | 48,7 | 46,8 | 47,5 | 50,6 | 47,2 | 43,6 | 49,4 |
| З 2-я каровамі . . | 35,1 | 38,4 | 35,9 | 30,4 | 31,7 | 31,3 | 32,7 | 32,6 | 31,1 | 31,8 | 30,4 | 30,8 |
| З 3-я каровамі . . | 6,9 | 8,5 | 7,7 | 8,5 | 9,5 | 8,1 | 6,6 | 7,8 | 6,9 | 5,9 | 12,5 | 7,5 |
| З 4-я і больш кар. . | 1,5 | 2,1 | 2,0 | 3,3 | 2,5 | 2,4 | 1,3 | 2,1 | 1,5 | 1,6 | 1,8 | 1,8 |

Даныя прыведзеных табліц у асноўным падкрэсьліваюць вывады, зробленыя з першай табліцы. Крайнія групы лепш забясьпечаны крэдытам, асабліва без рабочай жывёлы і бескароўнікі. Аднаконьнікі і аднакароўнікі недакоопэраваны і, як вынік гэтага,—недакрэдытаваны. Разглядваючы працэс у дынаміцы, мы прыходзім да падкрэсьленых яшчэ вышэй вынікаў,—да яскрава выражанай тэндэнцыі павышэньня абслужанасьці с.-г. крэдытам нізшых (слабейшых) груп, за выключэньнем груп без рабочай жывёлы і без кароў. Тут, як і ў групе беспасеўных, вызначаецца тэндэнцыя некаторага зьніжэньня ўдзельнай вагі ў заёмшчыках і ў запазычанасьці. Гэта тлумачыцца, з аднаго боку,—пераходам, пад уплывам крэдыту, часткі гаспадарак з нізшых груп у высшыя, з другога боку,—зьніжэньнем крэдытаваньня гаспадарак не сялянскага тыпу.

Яшчэ больш яскравы малюнак абслужанасьці с.-г. крэдытам розных груп сялянскіх гаспадарак дае аналіз наступнай табліцы:

Дынаміка ступені коопэраванасьці і абслужанасьці крэдытам розных груп сялянскіх гаспадарак.

| Групы гаспадарак па пасеву | % членаў крэдытных т-в у групе ад усіх гаспадарак | | | % заёмшчыкаў у групе, ад усіх гаспадарак | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. |
| Без пасеву . . . . . | 37,6 | 59,0 | 87,5 | 21,8 | 32,1 | 42,7 |
| З пасевам да 2-х дзес. . . | 8,7 | 17,9 | 34,8 | 7,1 | 18,1 | 26,2 |
| З пасевам ад 2,1 да 6 дзес. . | 11,4 | 19,2 | 24,9 | 8,3 | 16,6 | 19,7 |
| „ „ ад 6,1 да 8 „ . | 41,7 | 56,0 | 47,6 | 33,1 | 50,6 | 35,9 |
| „ „ ад 8,1 і больш . | 52,6 | 81,6 | 56,7 | 39,7 | 68,0 | 34,6 |
| Разам . . | 13,8 | 22,9 | 30,1 | 10,0 | 20,3 | 22,8 |

Сыстэмай с.-г. крэдыту пакуль што абслужана нязначная частка індывідуальных сялянскіх гаспадарак—22,8%. Праўда, у 1928 годзе, па папярэдніх даных, гэты процант павялічыўся да 34. Такім чынам, с.-г. крэдытам ахоплена толькі 1/3 усіх індывідуальных сялянскіх гаспадарак. Процант здаволеных крэдытам членаў крэдытнай коопэрацыі зьменшыўся з 88,5% да 75,4%.

З табліцы бачым, што ступень коопэрыраваньня і абслужанасьці с.-г. крэдытам рэзка дыфэрэнцыравана па групах. Самая вялікая па колькасьці гаспадарак, сярэдняя група, адносна менш коопэрыравана і менш абслужана крэдытам, крайнія групы, наадварот, лепш абслужаны крэдытам, асабліва беспасеўная група.

Тэмп коопэраваньня і абслужанасьці с.-г. крэдытам гаспадарак розных груп рэзка вырастае ад высшых да нізшых груп па пасеву. Пры чым, група з пасевам ад 6 да 8 дзесяцін, і асабліва шматпасеўная група, даюць, што вельмі важна падкрэсьліць, рэзкае зьніжэньне проценту коопэраванасьці і яшчэ большае зьніжэньне % заёмшчыкаў у групе. Такім чынам, і даныя гэтай табліцы сьцьвярджаюць правільнасьць ранейшых вывадаў.

У першыя годы працы сыстэмы с.-г. крэдыту, відаць, уступалі ў крэдытную коопэрацыю пераважна больш моцныя гаспадаркі, пазьней, наадварот,—пераважна слабейшыя сялянскія гаспадаркі, а зараз коопэрыраваньне ідзе амаль выключна па лініі бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак. Адсюль вывад, што тэмп далейшага палепшаньня сацыяльнага складу членаў і заёмшчыкаў крэдытнай коопэрацыі абумоўлен тэмпам далейшага ўзросту самой с.-г. крэдытнай коопэрацыі і яе фінансавай магутнасьці.

Неабходна адзначыць, што ўжо зараз па соцыяльнаму складу коопэраваных сялянскіх гаспадарак с.-г. крэдытная коопэрацыя стаіць на першым месцы сярод галоўных відаў коопэрацыі БССР. Гэта можна бачыць з наступных даных дынамічкі ЦСУ за 1927 г.

Соцыяльна-экономічны склад членаў асноўных відаў коопэрацыі БССР.

| Групы гаспадарак па пасеўнай плошчы | % усіх гаспадарак | % гаспадар. з членамі альбо якой коопэр. | С.-г. крэдытнай | Мэліярацыйнай | Сельска-гаспадарчай | Па збыту | Спажывецкай | Прамысловай |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Без пасеву і з пасевам да 2-х дз. | 24,0 | 20,3 | 18,4 | 12,8 | 20,1 | 7,2 | 21,2 | 2,3 |
| З пасевам ад 2-х да 4-х дзес. | 46,6 | 45,9 | 47,4 | 44,8 | 44,5 | 47,0 | 43,4 | 9,4 |
| „ „ ад 4,1 да 6 дзес. . | 20,7 | 23,7 | 24,8 | 24,0 | 24,0 | 37,9 | 24,2 | 51,2 |
| „ „ ад 6,1 да 8 дзес. . | 5,9 | 6,6 | 6,5 | 11,2 | 7,6 | 5,2 | 7,2 | 16,2 |
| „ „ ад 8 і больш . | 2,8 | 3,5 | 2,9 | 7,2 | 3,8 | 2,7 | 4,0 | 20,9 |
| Разам . . | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |

Сельска-гаспадарчая крэдытная коопэрацыя мае найбольш здавальняючы соцыяльна-экономічны склад членаў. Праўда, вывады аб соцыяльным складзе для прамысловай і часткай для мэліарацыйнай коопэрацыі могуць быць зусім не характэрны таму што гэтыя віды коопэрацыі прадстаўлены вельмі нязначнаю колькасьцю членаў: па прамысловай 43, а па мэліарацыйнай—125 членаў, у той час як па крэдытнай коопэрацыі—2.441, спажывецкай—3.554 і сельска-гаспадарчай—542 члена.

Каб скончыць з пытаньнем аб социяльна-экономічнам напрамку працы с.-г. крэдытнай коопэрацыі, прывядзем яшчэ па гэтаму пытаньню даныя дынамічкі ЦСУ БССР за 1927 г., якой ахоплена і ўключана у распрацоўку 23.724 гаспадаркі, у тым ліку: 6.386 членаў с.-г. крэдытнай коопэрацыі і 4.948 гаспадарак, якія маюць запазычанасьць у крэдытных т-вах.

Абслужанасьць сыстэмай с.-г. крэдыту сялянскіх гаспадарак розных сацыяльна-экономічных груп.

| Групы гаспадарак па кошту асноўных сродкаў вытворчасьці | % у складзе ўсіх сялянскіх гаспадарак | % у складзе членаў крэдытн. т-ва | % у складзе заёмшчыкаў | Доля ў агульнай суме запазычанасьці | Сярэдні размер запазычанасьці на гаспадарку ў руб. |
|---|---|---|---|---|---|
| I. Бяз сродкаў вытворчасьці | 0,7 | 0,2 | 0,2 | 0,2 | 55,4 |
| II. З сродкамі вытвор. да 100 р. | 4,9 | 3,6 | 3,5 | 3,1 | 45,9 |
| III. З сродкамі вытвор. ад 101 да 200 р. | 12,1 | 13,3 | 13,8 | 12,8 | 48,2 |
| IV. „ „ „ „ 201 да 400 р. | 35,6 | 37,3 | 38,4 | 37,9 | 49,6 |
| V. „ „ „ „ 401 да 800 р. | 34,6 | 33,5 | 33,0 | 34,3 | 53,9 |
| VI. „ „ „ „ 801 да 1600 р. | 10,5 | 10,6 | 9,9 | 10,2 | 58,7 |
| VII. „ „ „ „ 1601 і больш | 1,6 | 1,5 | 1,2 | 1,5 | 68,0 |
| Разам | 100 | 100 | 100 | 100 | 51,8 |

Найлепш абслужаны сыстэмай с.-г. крэдыту III, IV і V групы і значна горш крайнія—VII і асабліва I. З 157 гаспадарак гэтай групы, якія ўвайшлі ў распрацоўку дынамічкі, зьяўляюцца членамі крэдытнай коопэрацыі толькі 11 гаспадарак, поўнасьцю абслужаныя крэдытам.

З табліцы відаць, што падаўляючая большасьць, каля 0,9 (88,3%) усіх сродкаў, знаходзіцца ў руках 87,9% сялянскіх гаспадарак груп з коштам асноўных сродкаў вытворчасьці ня вышэй 800 рублёў. Такім чынам, амаль усе крэдыты накіроўваюцца бядняцкім і серадняцкім гаспадаркам вёскі.

За выключэньнем першай групы гаспадарак сярэдні разьмер запазычанасьці законамерна павялічваецца па меры ўзбуйненьня групы па кошту асноўных сродкаў вытворчасьці.

Кароценька рэзюміруем сказанае вышэй аб сацыяльна-экономічным напрамку працы с.-г. крэдытнай коопэрацыі.

1. Асноўная маса членаў крэдытнай коопэрацыі складаецца з беспасеўных, малапасеўных і сярэдняпасеўных гаспадарак, і наогул бядняцкія і серадняцкія гаспадаркі складаюць падаўляючую большасьць членаў крэдытнай коопэрацыі. Праўда, ступень коопэраваньня крайніх груп крыху вышэй, чым сярэдніх, але усё-ж па вышыні коопэраванасьці стаяць на першым месцы нізшыя (у сэнсе матэрыяльнай забясьпечанасьці) групы сялянскіх гаспадарак. У дынамічцы рэзка выяўлен працэс зьніжэньня % коопэраванасьці больш моцных груп і буйнага узросту матэрыяльна слабейшых груп.

2. Аналёгічна малюнку коопэраванасьці выглядае і малюнак абслугоўваньня с.-г. крэдытам розных груп. Найлепш забясьпечаны крэды-

там бяднейшыя групы гаспадарак, удзельная вага якіх у крэдытах з кожным годам хутка ўзрастае, у той час як па больш заможных групах—падае.

3. Асноўная маса крэдытаў накіроўваецца сыстэмай с.-г. крэдыту сялянскім гаспадаркам бяднейшых груп, чаму доля іх запазычанасьці з кожным годам павялічваецца з большым тэмпам, чым у іншых групах. Гэта можна бачыць з дынамікі долі запазычанасьці кожнай групы у агульнай суме запазычанасьці па даных гадавых справаздач сыстэмы с.-г. крэдыту [1]).

График № 3. Дынаміка запазычанасьці паасобных груп сялянскіх гаспадарак сыстэме с.-г. крэдыту




У % да агульнай сумы запазычнасьці.

Аналіз крывых паказвае законамернае павялічэньне долі ўдзелу ў агульнай суме запазычанасьці беспасеўных і асабліва малапасеўных і зьніжэньне у шматпасеўных групах сялянскіх гаспадарак.

4. Але найвялікшымі дасягненьнямі ў галіне сацыяльна-эканомічнага кірунку працы сыстэмы с.-г. крэдыту, трэба лічыць пашырэньне разьмераў крэдытаваньня сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, дзе, як адзначалась раней, Беларуская сыстэма с.-г. крэдыту дасягнула вялізарных вынікаў.

Крэдытаваньне сацыялістычнага сэктара у сельскай гаспадарцы (саўгасаў, калгасаў, розных коопэрацыйных аб'яднаньняў) праводзілася пераважна праз акруговыя т-вы, с.-г. крэдыту і б. аддзяленьні Бел-сельбанку, і толькі у апошнія гады паступова пашыраецца крэдыта-

[1]) За 1928 г. данныя папярэднія.

ваньне гэтых прадпрыемстваў і організацый непасрэдна праз нізавую крэдытную сецьь. У зьвязку з гэтым крыху павялічылася і запазычанасьць сацыялістычнага сэктару непасрэдна с.-г. крэдытнай коопэрацыі.

Дынаміка запазычанасьці с.-г. крэдытнай коопэрацыі, паасобных груп кліентуры (у тыс. руб.).

| Групы кліентуры | На 1/х 1924 г. | На 1/X 1925 г. | | | На 1/X 1926 г. | | | На 1/X 1927 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Доўга-тэрм. | Каротка-тэрм. | Разам | Доўга-тэрм. | Каротка-тэрм. | Разам | Доўга-тэрм. | Каротка-тэрм. | Разам |
| Індывід. гаспадаркі | 650,0 | 321,9 | 1975,7 | 2297,6 | 1785,9 | 3345,6 | 5131,5 | 3813,6 | 5210,7 | 9124,3 |
| Аграмаджаныя гаспадаркі . . . | 6,5 | 33,9 | 251,9 | 285,8 | 178,4 | 201,0 | 379,4 | 169,5 | 327,8 | 497,3 |
| У % да крэдытаў індывідуальных гаспадарак . . | 1,0 | 10,5 | 12,7 | 12,4 | 9,9 | 6,0 | 7,3 | 4,3 | 6,3 | 5,4 |

Найбольш моцную базу для сваёй дзейнасьці сыстэма сельска-гаспадарчага крэдыту мае ў крэдытаваньні бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, якія аб'ядналіся ў калектывы ці коопэрацыйныя організацыі. Гэтыя гаспадаркі, аб'яднаўшыся на пачатках супольнага выкарыстоўваньня сродкаў вытворчасьці і крэдыту, забясьпечваюць выкарыстоўваньне апошніх з максымальным гаспадарчым эфэктам. У зьвязку з чым, пры крэдытаваньні, калгасы і коопэрацыйныя вытворчыя аб'еднаньні карысталісь і карыстаюцца значна большай увагай з боку сыстэмы с.-г. крэдыту, чым індывідуальныя гаспадаркі, а значыцца, і непараўнана лепш забясьпэчаны яны крэдытам[1]).

Гэта магчыма бачыць з дынамікі запазычанасьці, сыстэме с.-г. крэдыту калгасаў і індывідуальных гаспадарак пры разрахунку гэтай запазычанасьці на гаспадарку і на гэктар пасеву (у руб.).

| | | На 1/х 1924 г. | На 1/х 1925 г. | На 1/х 1926 г. | На 1/х 1927 г. | На 1/v 1928 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| На 1 гаспадарку | у калгасах . . . . | 163,1 | 1038 | 1652 | 2800 | 2875 |
| | у інд. гаспадарках | 1,2 | 3,5 | 7,6 | 13 | 13,2 |
| На 1 гэктар пасеву | у калгасах . . . . | 4,3 | 18,3 | 32,5 | 55,5 | 74,5 |
| | у інд. гаспадарках | 0,12 | 0,6 | 1,9 | 3,2 | 3,4 |

Савецкая с.-г. крэдытная коопэрацыя асноўную масу ($^2/_3$) крэдытаў накіроўвае на вытворчыя патрэбы с.-г. прадпрыемстваў.

(Глядзі табліцу на старонцы 167).

На працоўную жывёлу, с.-г. машыны і с.-г. будынкі штогодна укладаецца с.-г. крэдытнай коопэрацыяй звыш палавіны усіх крэдытаў. Як адмоўны бок у палітыцы мэтавага прызначэньня крэдытаў, трэба лічыць вельмі нязначныя крэдытныя укладаньні у жывёлагадоўлю,— угнаеньне, мэліорацыю і перапрацоўку с.-г. продуктаў.

[1]) Аграмаджаныя гаспадаркі ўсё яшчэ асноўную масу крэдытаў атрымоўваюць непасрэдна праз акруговыя т-вы с.-г. крэдытаў, чаму іх запазычанасьць гэтым т-вам у $4^1/_2$—5 раз большая, чым нізоўцы.

## Выдана нізавой крэдытнай сэцьцю крэдытаў па мэтавым прызначэньням.

| Назва прызн. | У тысяч. рублёў | | | | У % % к ітогу | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | За 1923-1924 г. | За 1924-1925 г. | За 1925-1926 г. | За 1926-1927 г. | За 1923-1924 г. | За 1924-1925 г. | За 1925-1926 г. | За 1926-1927 г. |
| 1. Рабоч. жывёла. | 211,9 | 1224,1 | 1849,1 | 2490,9 | 22,1 | 35,7 | 31,2 | 24,3 |
| 2. С.-г. машыны . | 72,1 | 348,4 | 735,8 | 1200,4 | 7,5 | 10,2 | 12,4 | 11,7 |
| 3. Трактары і электрыфікацыя . | — | 2,6 | 1,3 | 2,4 | — | 0,08 | 0,02 | 0,02 |
| 4. С.-г. будынкі . | 63,7 | 600,4 | 1054,2 | 1779,6 | 6,7 | 17,7 | 17,6 | 17,3 |
| 5. Земляўпарадк. . | — | 66,4 | 377,6 | 437,7 | — | 1,9 | 6,4 | 4,2 |
| 6. Мэліарацыя . | 1,9 | 26,1 | 30,1 | 44,8 | 0,2 | 0,8 | 0,5 | 0,4 |
| 7. Угнаеньне . . | — | 57,2 | 139,2 | — | — | 1,7 | 2,3 | — |
| Разам . . | 349,6 | 2325,2 | 4187,3 | 5955,8 | 36,5 | 68,08 | 70,42 | 57,92 |
| 8. Насенаводзтва. | — | — | 89,4 | — | — | — | 4,5 | — |
| 9. Травасеяньне . | — | 133,5 | 236,0 | 657,9 | — | 3,9 | 4,0 | 6,4 |
| 10. Насеньне зерн. культур . . | 408,1 | 333,6 | 220,8 | 657,7 | 42,7 | 9,7 | 3,7 | 6,4 |
| 11. Насеньне лёну і каноплі . . | — | 3,0 | 9,1 | 280,2 | — | 0,1 | 0,2 | 2,7 |
| 12. Караньплоды . | — | — | 41,6 | 100,4 | — | — | 0,7 | 1,0 |
| 13. Садоўніцтва . | — | 0,7 | 6,8 | 14,7 | — | 0,02 | 0,1 | 0,38 |
| 14. Быдла . . . | 54,5 | 302,7 | 483,8 | 749,8 | 5,7 | 8,9 | 8,1 | 7,3 |
| 15. Харч жывёлы[1]). | — | 11,1 | 85,1 | 276,1 | — | 0,3 | 1,4 | 2,6 |
| 16. Сьвіні, птушкі і пчолы . . | — | — | 13,4 | — | — | — | 0,23 | — |
| Разам . . | 462,6 | 784,6 | 1186,0 | 2736,8 | 48,4 | 22,92 | 19,93 | 26,78 |
| 17. На перапрацоўку прадуктаў с.-гаспадаркі . | 16,5 | 12,8 | 80,3 | 127,5 | 1,7 | 0,4 | 1,15 | 1,3 |
| 18. Промыслы с.-г. значэньня . . | — | 99,9 | 203,1 | 261,2 | — | 2,9 | 3,4 | 2,5 |
| 19. Іншыя прызначэньні . . . | 127,9 | 196,0 | 292,1 | 1183,5 | 13,4 | 5,7 | 4,8 | 11,5 |
| Усяго . . | 956,6 | 3418,5 | 5948,8 | 10264,6 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |

[1]) За 1925/26 і 1926/27 г. па гэтаму прызначэньню прашлі і крэдыты на бягучыя затраты па жывёлагадоўлі.

Вельмі цікава адзначыць, што ў той час, як у нашай крэдытнай коопэрацыі яскрава выяўлен вытворчы характар напрамку крэдыту, у даваеннай коопэрацыі асноўная маса крэдытаў ішла на куплю і арэнду зямлі, куплю тавараў, наём працоўнай сілы.

Для характэрыстыкі і параўнаньня політыкі даваеннай коопэрацыі у мэтавым прызначэньні крэдытаў, крэдытнай палітыкай Савецкай коопэрацыі прывядзем даныя кіраўніцтва дробнага крэдыту па 11 крэдытным т-м б. Менскай і па 60 крэд. т-м б. Магілеўскай губерні аб разьмеркаваньні па прызначэньням крэдытаў, якія былі выданы гэтымі крэдытнымі т-вамі у 1911 годзе.

Разьмеркаваньне выданых крэдытаў па мэтавым прызначэньням.

| Назва прызначэньня | б. Менская губ. | | б. Магілеўская губ. | |
|---|---|---|---|---|
| | тыс. руб. | % % | тыс. руб. | % % |
| Купля зямлі | **21,5** | 4,0 | **289,2** | **22,2** |
| Гаспадарчыя будынкі | 14,2 | 2,7 | 58,3 | 4,5 |
| Будынкі для жытла | 8,3 | 1,5 | 157,3 | 12,1 |
| Палепшаньне ўжыткаў | 0,4 | 0,06 | 20,2 | 1,6 |
| С. г. машыны і іх рамонт | 1,8 | 0,34 | 36,0 | 2,8 |
| Быдла | 37,6 | 7,0 | 240,5 | 18,4 |
| Арэнда зямлі | 2,5 | 0,5 | 53,0 | 4,1 |
| Насеньне | 2,6 | 0,5 | 53,4 | 4,1 |
| Матар. і рам. і саматужн. вытвор. | 1,4 | 0,3 | 93,2 | 7,1 |
| Наём рабочай сілы | **295,4** | **55,0** | 43,8 | 3,4 |
| Тавар для продажу | **142,3** | **26,5** | **132,1** | **10,2** |
| Корм для жывёлы | 7,0 | 1,3 | 61,0 | 4,6 |
| Адхожыя промыслы | 0,03 | 0,005 | 6,7 | 0,5 |
| Уплата даўгоў | 1,0 | 0,2 | 45,8 | 3,5 |
| Розныя іншыя прызначэньні | 0,7 | 0,1 | 12,6 | 0,9 |
| Разам | 536,7 | 100,0 | 1417,9 | 100,0 |

Ужо адна будова прызначэньняў крэдыту гаворыць аб тым, хто быў у даваеннай крэдытнай коопэрацыі асноўным заёмшчыкам.

Каротка рэзюміруем сказанае вышэй.

1. Сельска-гаспадарчы крэдыт зьяўляецца магутным сродкам уплыву на сялянскую гаспадарку, на агульнае разьвіцьцё яе вытворчасьці і на тыя социяльна-экономічныя процэсы, якія адбываюцца ў вёсцы.

Тое зьявішча, што сыстэма с.-г. крэдыту па сваёй будове (структуры) зьяўляецца дзяржаўна-коопэрацыйнай, якая абпіраецца ў сваіх верхніх зьвеньнях на дзяржаўныя крэдытна-фінансавыя ўстановы, робіць яе у руках дзяржавы магутным рычагом плянавага ўплыву на сялянскую гаспадарку, на социялістычную яго рэконструкцыю, шляхам

пераводу індывідуальных сялянскіх гаспадарак на новую, вышэйшую тэхнічную аснову і аграмаджаваньне сродкаў вытворчасьці; таксама зьяўляецца ў руках дзяржавы магутнай установай у справе мабілізацыі сялянскіх сродкаў з мэтай накіровываньня іх разам з сродкамі дзяржавы на крэдытаваньне с-гаспадаркі адпаведнай агульнай палітыцы дзяржавы.

2. Дзякуючы сваёй сучаснай будове, сыстэма с.-г. крэдыту мае вялізарныя дасягненьні ў справе соцыяльна-эканомічнага кірунку крэдыту. Соцыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі абслугоўваецца крэдытам больш чым у дваццаць раз, у параўнаньні з удзельнай вагой яго валавога прыбытку ў агульнай суме с.-г. прыбытку. Коопэраваны і абслужаны крэдытам найбольш здавальняюча сялянскія гаспадаркі бяднейшых груп. Ступень коопэраванасьці і абслужанасьці сыстэмай с.-г. крэдыту заможнай групы яшчэ даволі высокая, у той час як асноўная на сваёй масе серэдняцкая група яшчэ значна недакоопэравана, а значыцца, і недаабслужана с.-г. крэдытам. Бясспрэчна, тут ёсьць пэўная сапраўжонасьць момантаў коопэраваньня і абслужанасьці сялянскіх гаспадарак крэдытам. Недаабслужанасьць часткай тлумачыцца тым, што гэта група гаспадарак у БССР складае падаўляючую большасьць, якая, натуральна, пры недастатковым разьвіцьці сыстэмы с.-г. крэдыту не магла быць ахоплена крэдытам адпаведна сваёй удзельнай вазе.

3. Разглядваючы працэс у дынаміцы, мы бачылі заканамернае і вельмі хуткае нарастаньне ступені коопэраванасьці і абслужанасьці с.-г. крэдытам ніжшых па забясьпечанасьці пасеўнай плошчай, рабочай жывёлай і каровамі груп вёскі і зьмяншэньне ўдзельнай вагі ў запазычанасьці і ступені коопэраванасьці і абслужанасьці крэдытам вышэйшых груп, асабліва шматпасеўных. Асноўная падаўляючая маса крэдыту накіроўваецца, адпаведна дырэктыве дзяржавы, бядняцкім і серэдняцкім гаспадаркам, у справе пераважнага абслугоўваньня якіх за апошнія гады сыстэма с.-г. крэдыту мае вялікія дасягненьні.

4. Напрамак працы савецкай с.-г. крэдытнай коопэрацыі рэзка адрозьніваецца ад даваеннай буржуазнай крэдытнай коопэрацыі. Асноўная розьніца ў сацыяльным зьмесьце працы нашай крэдытнай коопэрацыі і наогул нашай сыстэмы с.-г. крэдыту. Даваенная крэдытная коопэрацыя, кіруючыся амаль выключна крэдытаздольнасьцю заёмшчыка, зразумела, абслугоўвала крэдытам пераважна заможныя групы і кулацкую вярхушку вёскі, у той час як савецкая крэдытная коопэрацыя, кіруючыся асноўнай дырэктывай дзяржавы: максімальнага абслугоўваньня крэдытам бядняцкіх, маламошчных і серадняцкіх гаспадарак, асноўную масу сваіх крэдытных укладаньняў накіроўвала гэтым групам сялянскіх гаспадарак. Акрамя таго, у савецкай крэдытнай коопэрацыі, разам з іншымі зьвеньнямі сыстэмы с.-г. крэдыту, дасягнуў вялізарных разьмераў новы від крэдытаваньня сялянскіх гаспадарак— гэта крэдытаваньне колектыўных форм сялянскіх гаспадарак. Пры чым, крэдытаваньне каляктыўных гаспадарак ідзе ў шмат раз інтэнсыўней, чым індывідуальных гаспадарак.

5. Наступная розьніца савецкай крэдытнай коопэрацыі ад даваеннай выяўляецца ў рэзка выражаным вытворчым напрамку сучаснага с.-г. крэдыту. У даваенны час асноўная маса крэдыту ішла на куплю зямлі, куплю тавараў, наём рабочай сілы і гэтак далей. Зараз такога роду пазыкі зусім адсутнічаюць, а галоўная маса крэдыту ідзе на набыцьцё асноўных сродкаў вытворчасьці сялянскай гаспадаркі. Па сыстэме с.-г. крэдыту ў цэлым вялікіх размераў дасягнулі крэдытныя укладаньні

ў мэліорацыю, земляўпарадкаваньне і індустрыялізацыю сельскай гаспадаркі.

Наогул неабходна адзначыць, што сыстэма с.-г. крэдыту БССР даказала на справе практычную магчымасьць правядзеньня праз яе клясавай політыкі партыі і савецкай улады на вёсцы.

У заключэньне адзначым некаторыя з адмоўных бакоў у працы сыстэмы с.-г. крэдыту. Галоўнейшым адмоўным момантам працы сыстэмы зьяўляецца надзвычайна слабое прыцяжэньне сродкаў у сыстэму самога насельніцтва. Сыстэма ўсё яшчэ працуе амаль выключна на сродкі дзяржавы. Праблема максымальнага здавальненьня патрэб у крэдыце бедняцкіх і серадняцкіх індывідуальных гаспадарак упіраецца ў праблему прыцягненьня сродкаў самаго насельніцтва. Без выражэньня гэтай проблемы сыстэма с.-г. крэдыту ня выканае задачы дастатковага задавальненьня патрэб у крэдыце асноўнай масы сялян нашай вёскі.

Накіроўываньнем значных крэдытных сродкаў у гаспадаркі беднейшых социяльна-экономічных груп і ў аграмаджэны сэктар сельскай гаспадаркі яшчэ не вырашаецца задача належнага іх абслугоўваньня. Яшчэ мала даць правільны соцыяльны кірунак крэдыту, неабходна дамагацца таго, каб гэты крэдыт даў у гаспадарцы заёмшчыка найбольшы эканамічны эфэкт. Адпускаючы крэдыт заёмшчыку селяніну, коллектыву і коопэрацыйнай арганізацыі, крэдытная ўстанова павінна паклапаціцца і аб правільным і рацыянальным выкарыстоўваньні пазыкі ў гаспадарцы заёмшчыка. Гэтым, нажаль, многія крэдытныя т-вы цікавяцца мала. Вельмі шмат выпадкаў, калі крэдытаваньне зводзіцца да мэханічнага разьмеркаваньня сярод заёмшчыкаў сродкаў дзяржавы, нават без належнага вучоту, на колькі адпускаемы крэдыт падыходзіць да заёмшчыка па свайму прызначэньню, сэзоннасьці, разьмеру, тэрміну, умовам і віду. Дзякуючы гэтаму заёмшчык, атрымоўваючы пазыку, часта пападае ў надта цяжкія ўмовы разьліку па ёй. Неадпаведны разьмер, тэрмін, умовы, ці нават прызначэньне пазыкі, гаспадарчай патрэбе ў ёй заёмшчыка, пазбаўляе апошняга магчымасьці даць выгоднае гаспадарчае выкорыстоўваньне пазыцы; у зьвязку з гэтым заёмшчык пападае ў лік пратэрміноўваючых плацеж па займам, ці прымушан бывае з вялікімі стратамі для гаспадаркі пакрываць сваю запазычанасьць крэдытнаму т-ву. У такіх выпадках крэдыт можа аказаць адмоўны ўплыў на гаспадарку заёмшчыка. Вось чаму надзвычайна важна крэдытнаму т-ву, адпускаючы крэдыт, вельмі ўважліва аднасіцца да запатрабаваньняў заёмшчыкаў і па мажлівасьці даваць ім крэдыт у такім разьмеры, форме і на такі тэрмін, якія забясьпечвалі-б гаспадарцы магчымасьць рацыянальнага выкарыстоўваньня пазыкі з найвялікшым вытворчым эфэктам.

Праф. К. К. Кісялёў.

# Некаторыя вынікі азначэньня запасаў сьнегу шляхам анкеты на тэрыторыі Беларусі з пачатку веснавога сьнегараставаньня ў 1928 годзе.

У гэтым артыкуле прадстаўлены некаторыя вынікі анкетнага дасьледваньня сьнегавога насьцілу Беларусі, утворанага мінулай зімою 1928 году.

Анкетнае дасьледваньне сьнегавога насьцілу — адна са складаных частак праграмы вывучэньня веснавога воднага рэжыму плошчаў і рэк, якая, у сваю чаргу, зьяўляецца часткаю агульнае праграмы вывучэньня воднага рэжыму Беларусі.

Вывучэньне воднага рэжыму Беларусі, г. зн. гідралёгічныя дасьледваньні, галоўнаю сваёю мэтаю маюць абслугоўваньне нашага вадамэліярацыйнага будаўніцтва і ўтвараюцца Гідралёгічнай Службай Аддзелу Мэліярацыі пры Народным Камісарыяце Земляробства.

Гэта важная справа ў нас толькі пачынаецца і ў даны момант таму не дасягнула яшчэ належнага разьвіцьця ні ў тэрытарыяльных адносінах, ні ў сэнсе поўнасьці праграмы дасьледваньня, таму што і тое і другое цалком залежаць ад разьмеру прызначаных на дасьледваньні сродкаў. Трэба, аднак, адзначыць, што ў сувязі з наглядаемым узростам асыгнаваньняў на вадамэліярацыйнае будаўніцтва Рэспублікі, павялічваецца паступова і водпуск сродкаў на пашырэньне гідралёгічных дасьледваньняў.

Перш, чым перайсьці да агляду вынікаў анкетнага дасьледваньня сьнегавога насьцілу, трэба зазначыць, якую ролю адыгрываюць назіраньні над сьнегавым насьцілам у галіне гідралёгічных дасьледваньняў Беларусі? Пастаўленае пытаньне выpашаецца разглядам праграмы вывучэньня веснавога воднага рэжыму, у якую сьнегамерная анкета ўваходзіць, як складаная частка.

## I. Сутнасьць і зьмест праграмы вывучэньня веснавога воднага рэжыму.

Як вядома, найгалоўнейшыя моманты нашага вадамэліярацыйнага будаўніцтва ёсьць асушка балот і зьвязанае з гэтым рэгуляваньне рэк, як вадапрыймальнікаў (ня выключаны, канечна, і іншыя мэты рэгуляваньня, як лесасплаў, суднаходства).

Такога роду заданьне, перш за ўсё і непасрэдна, адчувае патрэбу ў даных, якія характарызуюць водны рэжым рэк—вадапрыймальнікаў і плошчаў, якія імкнуцца да іх, гэта значыць іх вадазбораў, якія звычайна і зьяўляюцца аб'ектамі мэліяраваньня. Адсюль вынікае неабходнасьць вывучэньня гідралёгічных уласьцівасьцяў такіх вадазбораў і рэк, асабліва ў пэрыяд найбольшага няглыбокага (павярхоўнага) стоку, гэта значыць у час веснавое паводкі. Аднак, посьпехі

вадамэліярацыйнага будаўніцтва ў цэлым патрабуюць, як само сабою зразумела, вычарпальных ведаў воднага рэжыму ўсяе краіны, так як мэліяруемыя водазборы з іх вадзяным рэжымам зьяўляюцца толькі часткаю гэтага цэлага. Тут і прыходзіць на дапамогу вывучэньне воднага рэжыму краіны па вышэйпамянёнай агульнай праграме, якая патрабуе сыстэматычных назіраньняў у працягу цэлага году (а ня толькі ў часе веснавога яго пэрыяду), разьлічаных, апрача таго, на неазначана-доўгі рад гадоў.

Ролю гідралёгічных дасьледваньняў магчыма вычарпальна фармуляваць у наступных кароткіх словах: правільна пастаўленае вадамэліярацыйнае будаўніцтва, гэта значыць такое, якое, пры найменшых затратах, дасьць найлепшыя вынікі, немагчыма бяз грунтоўнага вывучэньня вадзяных умоў краіны.

Са сказанага відаць, якое важнае значэньне павінна мець для нас вывучэньне воднага рэжыму, краіны наогул і, па тэхнічных патрабаваньнях мэліярацыйнага праэктаваньня, вывучэньне веснавога воднага рэжыму мэліяруемых плошчаў і рэк — вадапрыймальнікаў, у прыватнасьці.

У галіне вывучэньня веснавага воднага рэжыму найгалоўнейшымі аб'ектамі нашых назіраньняў зьяўляюцца наступныя.

Па-першае, сьнегавы насьціл, таму што водны рэжым рэк і балот у значнай меры абумоўліваецца:

а) велічынёй запасаў сьнегу, якія зьбіраюцца ў момант веснавога сьнегараставаньня на рачных водазборах;

б) інтэнсыўнасьцю самога працэсу сьнегараставаньня, які абумоўліваецца ходам тэмпэратуры паветра ў веснавым пэрыядзе.

Па-другое, ход і характар веснавое паводкі, якая цесна зьвязана з веснавым рэжымам сьнегавога насьцілу.

Па-трэцяе, зьменай поймы і рэчышча рэк пад уплывам руху верхаводак, гэта значыць размываньне рэчышча струменьню, перанясеньне і, урэшце, адкладаньне ўзвышаных рачных наносаў.

Такім чынам, вывучэньне веснавога воднага рэжыму мэліяруемых плошчаў (балотных масываў) і рэк—водапрыймальнікаў, як аснова праэктаваньня ў галіне вадамэліярацыйнага будаўніцтва, складаецца з трох галоўных элемэнтаў.

1. Вывучэньне сьнегавога насьцілу.
2. Вывучэньне веснавое паводкі, гэта зн. веснавога стоку.
3. Вывучэньне дэфармацый поймы і рэчышча рэк—вадапрыймальнікаў пад уплывам паводкі.

Гэта праграма, прадстаўленая ў кароткім выкладаньні, патрабуе адпаведных назіраньняў наогул па шмат якіх тыповых элемэнтарных (гэта зн. ня надта вялікіх па плошчы) рачных вадазборах [1]), якія ўтвараюць узлучнасьці гідралёгічную сетку.

Мэтаю такіх назіраньняў зьяўляецца атрыманьне агульнага для усяе краіны малюнку веснавога воднага рэжыму. Само сабою зразумела, што тую-ж праграму належыць дапасоўваць і да вадазбораў, якія не ўвайшлі ў склад гідралёгічнае сеткі, але вызначаны для дасьледаваньня ў парадку пляну бягучага мэліярацыйнага будаўніцтва.

Такім чынам, вывучэньне сьнегавога насьцілу зьяўляецца толькі часткаю прыведзенае тут праграмы Гідралёгічнае Службы Адмэлія-

---

[1]) Па гэтаму поваду глядзі: К. Кісялёў: „Гідралёгічныя дасьледваньні і пажаданая іх пастаноўка". Горкі—1925 г.

зему па дасьледваньні веснавога воднага рэжыму і, у адпаведнасьці з паказанаю вышэй важнасьцю вывучэньня сьнегавога насьцілу, нагляданьні над апошнім, якія праектуюцца ў бліжэйшым будучым Гідралёгічнай Службай Адмэліязему, ставяць сабе дваякую мэту:

1. Вывучэньне сьнегавога насьцілу, як гідралёгічнага фактару, які абумоўлівае ваданоснасьць краіны, што дасягаецца арганізацыяй сьнегамернае сеткі, якая вядзе сталыя сыстэматычныя нагляданьні пад рэжымам сьнегавога насьцілу.

2. Вывучэньне сьнегавога насьцілу з мэтаю здавальненьня спэцыяльных запытаньняў, якія прад'яўляюцца да гідралёгіі з боку вадамэліярацыйнага праектаваньня; тут маецца на ўвазе, галоўным чынам, падлік запасаў сьнегавое вады па вадазборах да моманту веснавога сьнегараставаньня, што можа быць ажыцьцёўлена арганізацыяй выпадковых вымераў магутнасьці і шчыльнасьці сьнегавога насьцілу на вадазборах.

Адпаведна сказанаму, сьнегамерныя нагляданьні праводзяцца ў двух відах: 1) стацыянарныя і 2) анкетныя.

Стацыянарныя вядуцца на сьнегамернай сетцы, якая складаецца са сьнегамерных дзялянак (тыповых па прыродных умовах для данае мясцовасьці), на якіх і ўтвараюцца нагляданьні над магутнасьцю і шчыльнасьцю сьнегу. Пункты вымераў на кожнай сьнегамернай дзялянцы зафіксаваны на пляне; такім чынам, яны зьяўляюцца сталымі. Пункты разьмяшчаюцца ці па характарных лініях дзялянкі, якія перасякаюць яе ў адпаведных напрамках, ці, што яшчэ лепей, пункты ўстанаўляюцца ў верхавінах квадратаў, якія пакрываюць у выглядзе сеткі сьнегамерную дзялянку. Нагляданьні складаюцца з таго, што на кожным з пунктаў (вуглы квадратаў) з дапамогаю пераноснае рэйкі робіцца некалькі замераў магутнасьці сьнегу ў адзін прыём, азначэньне-ж шчыльнасьці сьнегу (ваговым струмэнтам) праробляецца не на кожным пункце сеткі квадратаў (ці сьнегамерных ліній), а праз некалькі. Нагляданьні вядуцца сыстэматычна праз адзін і той-жа прамежак часу (напрыклад, па дэкадах).

Анкетныя вымеры (магутнасьці) праводзяцца паводле спэцыяльна распрацаванае праграмы, якая надрукавана ў выглядзе адпаведнага блянку (анкетны ліст) з прыкладзеным на адвароце настаўленьнем. Анкета, апрача магутнасьці, падлічвае, на якіх палёх (ужытках) і ў якіх умовах заляганьня сьнегу зроблены замеры.

У праграме дасьледваньня веснавога воднага рэжыму плошчаў і рэк-вадапрымальнікаў прадугледжваецца пажаданасьць трохразовага, у працягу зімы; дасьледваньня сьнегавога насьцілу шляхам адпаведных анкет, пры тым апошняя з іх, галоўная, заўсёды перад пачаткам веснавога сьнегараставаньня. Запаўненьне анкет прыстасоўваецца да аднаго якога пэўнага дню па ўсёй краіне.

Пры наліччы сьнегамернае сеткі, дзе вядуцца стацыянарныя нагляданьні, анкета зьяўляецца дадаткам да іх, паколькі захапляе пункты, якія не ўваходзяць у склад сеткі, у іншым-жа выпадку анкета прадстаўляе адзіную магчымасьць непасрэднага вымеру запасаў сьнегу, таму што нагляданьні з дапамогаю сталых латаў (якія ўстанаўляюцца на ўсю зіму ў пэўных пунктах) бадай ці здавальняючы ў сэнсе дакладнасьці вымераў магутнасьці сьнегу.

Поўная праграма нагляданьняў над сьнегавым насьцілам прадстаўлена ў асноўных рысах Першаму Усерасійскаму Гідралёгічнаму Зьезду ў 1924 годзе ў Ленінградзе ў ліку іншых дакладаў аўтара[1]).

[1]) К. К. Кісялёў. Аб вывучэньні рэжыму сьнегавога насьцілу. Працы Першага Усерасійскага Гідралёгічнага Зьезду. Ленінград. 1925 г. Стар. 401.

## II. Агульная характарыстыка сьнегавога насьцілу Беларусі на 20 лютага 1928 году па даных анкеты.

У бягучым гідралёгічным годзе (1927-28) зьявілася магчымым ажыцьцявіць вышэйпрыведзеную праграму па дасьледваньні веснавога воднага рэжыму толькі ў пачатковым яе моманце, гэта значыць стварыць толькі дасьледваньне сьнегавога насьцілу і то часткова, а менавіта— шляхам анкеты. Дасьледваньне было прыстасавана да 20 лютага 1928 г., гэта зн. дапушчальна да пачатку веснавога сьнегараставаньня. Лік пунктаў вымеру магутнасьці сьнегу—97; з іх 63—на вададажджавых постах гідралёгічнае сеткі НКЗ Беларусі, астатнія 34 пункты ёсьць станцыі мэтэаралёгічнае сеткі БССР, якімі былі створаны вымеры сьнегавога насьцілу, на той-жа анкеце [1]). Даныя аб шчыльнасьці сьнегу, неабходныя для вылічэньня запасу вады ў сьнегавой масе, узяты толькі па двух пунктах—Новае Каралёва і Горкі—за адсутнасьцю іншых, якія вялі-б падобныя нагляданьні; абодва названыя пункты ўваходзяць у склад мэтэаралёгічнае сеткі БССР.

Па усёй краіне на 20 лютага 1928 году сьнег быў шчыльны, сляісты (пластаваты), зьменнае структуры, дзякуючы частым у працягу зімы адлігам; па той-жа прычыне ў вельмі многіх пунктах вымеру наглядалася лёдавая кара пад сьнегам; апошняе ў асаблівасьці па поймах (поплавах), на балотах, але нярэдка і на вораных палёх. Асобнай правільнасьці ў разьмеркаваньні магутнасьці сьнегу, гэта зн. сьнегавых намнажэньняў, па ўсёй краіне ў цэлым не наглядалася; груба гэты момант магчыма ахарактарызаць наступным чынам. У паўднёвай часьці краіны—да роўналежнасьці Бабруйску—магутнасьць ня вышэй 10 см., пры чым яна зьмяншаецца з усходу на захад, ва ўсходняй ускраіне гэтае часткі краіны, на роўналежнасьці Гомлю, магутнасьць павялічваецца, даходзячы да 30 см. Сярэдняя частка краіны—ад роўналежнасьці Бабруйску да паўднёвых межаў вадазбору З. Дьвіны мела два фокусы вялікае магутнасьці—вышэй 30 см.: заходні—у раёне Барысава (на поўнач) на рацэ Бярэзіне, усходні—у раёне Магілеву на Дняпры. Па ўсіх напрамках ад названых двух цэнтраў магутнасьць сьнегу зьмяншаецца. У паўночнай частцы Рэспублікі—вадазбор Зах. Дзьвіны—таксама, як і ў яе сярэдняй часьці, наглядаліся два фокусы: заходні—у с. Фатынь (Полацкая акруга), дзе магутнасьць сьнегу каля 10 см., і ўсходні—с. Падбярэзьзе і Н. Каралёва (абодва—Віцебскае акругі) дзе магутнасьць вышэй 35 см.

Апрача паказанае няроўнамернасьці сьнегавога насьцілу, магчыма заўважыць некаторую тэндэнцыю ліній роўнае магутнасьці сьнегу разьмяшчацца роўналежна вадападзелам, якраз там, дзе апошнія ідуць па палудзеньніку (мэрыдыяну), ці ў блізкіх напрамках. Максымальная магутнасьць для ўсяе краіны адзначана ў с. Падбярэзьзі—38 см. і ў Магілеве—33 см., гэта зн. першы з пунктаў—на поўначы, другі—на поўдні і абодва—ва ўсходняй палове краіны. Мінімальная магутнасьць на 20 лютага ў бягучым годзе была 0 см., гэта значыць бясьсьнежжа; яно наглядалася ў двух мясцовасьцях: 1) на вадазборы рэчкі Дземінкі (прытока р. Воршы) і 2) у басэйне вусьця р. Бярэзіны, прычым апошні раён бясьсьнежжа значна большы ад першага.

Сярэдняя па краіне магутнасьць сьнегавога насьцілу на асобных ужыткоўнасьцях такая: пахаць—13,9 см.; неараныя палі—14,5 см.; сухадолы—15,2 см.; поплаў—24,2 см.; балоты—25,8 см.; лес—25,1 см.

---

[1]) Даныя атрыманы дзякуючы ласкавай дапамозе загадчыка мэтэаралёгічнаю сеткаю Н. І. Макарэўскага.

Такім чынам: 1) араныя, неараныя і сухадольныя прасторы мелі мінулай зімою амаль што аднолькавую магутнасьць сьнегу (у сярэднім—14,5 см.), 2) балоты, лясы мелі таксама аднолькавую магутнасьць —у сярэднім 25,5 см., гэта зн., на 76 проц., ці ў 1,75 разоў болей, чымся пахаць і наогул рэшта палёў.

Шчыльнасьць сьнегу ў мінулым зімовым пэрыядзе, як сказана, вымяралася ўсяго толькі ў двух пунктах—Н. Каралёва і Горкі (С.-Г. Акадэмія), у будучым годзе лік пунктаў нагляданьняў як шчыльнасьці, так і магутнасьці сьнегавога насьцілу мяркуецца значна павялічыць, што павінна падвысіць дакладнасьць разрахункаў і вывадаў. Вылічаная па даных назвах двух пунктаў агульная колькасьць вады, якая назьбіралася ў форме сьнегу да моманту сьнегараставаньня па некаторых вадазборах Беларусі, прадстаўлена ў табліцы, якая зьмешчана ў канцы артыкулу. Паказаныя ў той-жа табліцы запасы сьнегу (у кубічных мэтрах) вызначаны з дапамогаю папярэдне нанесеных па анкетных даных на карту Беларусі, праз кожныя 5 сантымэтраў (месцамі часьцей), лiнiй роўнае магутнасьці сьнегу.

З табіцы відаць наступнае.

1.—Найбольшыя ў краіне запасы сьнегу назьбіраліся ў вадазборы Зах. Дзьвіны; яны даюць тут сярэдні па ўсім вадазборы слой вады ў 87,2 м. м.

2.—Па ўсім вадазборы Бярэзіны ў цэлым, гэта зн. з усімі яе пратокамі, маем сярэдні слой вады 50,6 м. м. у той час, як дзьве складаныя яго часткі—вадазборы р. р. Сьвіслачы і Волы—паказваюць сярэдні слой сьнегавое вады адпаведна 35,6 і 32,9 мілімэтраў, гэта зн. блізкія паміж сабой велічыні і значна меншыя сярэдняе па ўсім вадазборы; гэтую акалічнасьць магчыма вытлумачыць толькі тым, што іншыя складаныя часткі (элемэнтарныя вадазборы) сумарнага вадазбору, гэта зн. Бярэзіны ў цэлым, маюць сярэдні слой сьнегавое вады, відавочна, больш сярэдняга па сумарнаму вадазбору слою (50,6 м.м.).

3. — Слой сьнегавое вады на вадазборы р. Нёмну,—які ўваходзіць у межы БССР толькі верхняй сваёй часткаю,—даволі тонкі ў параўнаньні з вышэйправедзенымі, якраз 25,5 м. м., складаючы нібы пераходную ступень да вадазбораў р. Ворасы, дзе маем слой у 13,4 м. м., возера Князь, дзе слой 11,9 м. м., р. Бобрыка (прытока Прыпяці), дзе слой 5,3 м. м.

4. — Наогул, на захадзе краіны магутнасьць (тоўшча) сьнегу была значна меншаю на 20 лютага 1928 г., чымся на ўсходзе.

Так, ва ўсходняй часьці краіны, больш на поўдзень роўналежнасьці $52^1/_2{}^0$, маем вадазборы р. р. Ведрыча, Віці і Брагінкі, разьмешчаныя ў напрамку з поўначы на поўдзень у тым парадку, як яны тут пералічаны; пры гэтым, сярэдні слой сьнегавое вады на вадазборы р. Ведрыча складае найбольшую велічыню—43,4 м. м.; потым, у паказанай паступовасьці, маем Віць—33,1 і Брагінка—31,7 м. м., гэта знач. паступовае зьніжэньне магутнасьці (тоўшчы) вадзянога слою.

5. — Калі ўзяць вадазборы р. р. Пуіга, Трэмлі, Іпы і таго-ж Ведрыча, гэта зн. ідучы роўналежна цёку вады Прыпяці ў напрамку з захаду на ўсход, дык самы ўсходні з вадазбораў, Ведрыч, мае найбольшую магутнасьць (глыбіню) слою сьнегавое вады, як сказана, 43,4 м. м. і далей, на захад, магутнасьць слою зьніжаецца: для Іпы маем 23,3 м. м.; для Трэмлі—26, 3. мм., урэшце, найбольш заходні з названых вадазбораў, менавіта ракі Пціча, дае сярэднюю магутнасьць слою сьнегавое вады—37,5 м. м. Апошнія дадзеныя прадстаўляюць, аднак, толькі нібы супярэчнасьць з праведзеным раней заключэньнем аб зьмяншэньні магутнасьці вадзянога слою ў напрамку з усходу на захад; у сапраўднасьці

магутнасьць 37,5 м. м. адносіцца **д а ў с я г о** вадазбору Пціча ў цэлым; між тым, вадазбор Пціча прадстаўляе сабою параўнальна вузкую і вельмі доўгую палосу, якая прасьціраецца ў палудзеньнікавым напрамку, гэта зн. ляжыць у розных умовах рэжыму вопадзяў; і калі мы дзеля параўнаньня возьмем ня ўвесь вадазбор Пціча, а толькі паўднёвую яго частку, якая адпавядае географічнаму становішчу суседніх вадазбораў Іпы і Трэмлі, дык атрымаем для Пціча сярэдні слой сьнегавое вады ўжо ўсяго ў 7,6 м. м., гэта зн. мала адметны ад слою вады ў суседніх, больш заходніх, вадазборах, як возера Князь—11,9 м. м., рака Бобрык—5,3 м. м., урэшце, Арэса, дзе на 20 лютага 1928 г. наглядалася прастора бясьсьнежжа (уласна—у вадазборы рэчкі Дземінкі, якая ўпадае ў Арэсу). Канчаючы гэты папярэдні нарыс[1]) становішча сьнегавога насьцілу ў Беларусі ў момант веснавога сьнегараставаньня ў 1928 г., лічым неабходным дадаць, што прыведзены вышэй падлік запасаў сьнегу на паасобных вадазборах прадстаўляе сабою спробу ажыцьцяўленьня першага кроку нашае праграмы вывучэньня веснавога воднага рэжыму, паданае ў кароткім выглядзе ў пачатку гэтага артыкулу. Наступным крокам, **н е р а з р ы ў н а** зьвязаным з папярэднім, зьяўляецца, як відаць з той-жа праграмы, **п а д л і к в е с н а в о г а с ь ц ё к у н а т ы х - ж а в а д а з б о р а х.** Ажыцьцяўленьне тае, другое, часткі праграмы па вывучэньню веснавога воднага рэжыму дазволіць нам скласьці паняцьце аб **в а д а з в а р о ц е** на кожным з вадазбораў. У такім аб'ёме, гэта зн. нават без падліку дэфармацый поймы і рэчышча,—што складае трэцюю частку нашае праграмы, праца набывае ўсё-ж закончаны ў агульным характар, таму што прадстаўляючы сабою падлік прыходу і расходу вільгаці, дае паняцьце **а б в а д з я н ы м б а л а н с е н а а б р а н ы х (т ы п о в ы х) в а д а з б о р а х** ў працягу пэрыяду веснавое паводкі.

Вывады-ж, атрыманыя з вадзянога балянсу, маюць непасрэднае прыстасаваньне да вырашэньня шмат якіх тэхнічных пытаньняў водамэліярацыйнага будаўніцтва; апрача таго, яны зусім неабходны пры вырашэньні ня менш важнае для народнае гаспадаркі праблемы праракаиьня **р а з ь м е р а ў і ч а с у н а с т у п у в е с н а в ы х п а в о д а к.** Ажыцьцяўленьне такіх прагнозаў патрабуе, аднак, наліччa даных, якія надзейна выяўляюць веснавы водны рэжым вадазбораў і рэк,— даных, якія выяўляюць гэты рэжым у відзе ўстойлівых крайніх вышэйшых і ніжэйшых, а таксама сярэдніх значэньняў велічынь, якія характарызуюць яго (сказанае зусім не выключае неабходнасьці вывучэньня воднага рэжыму ў працягу цэлага году, а ня толькі ўвесну). Па гэтай-жа прычыне, чымся раней пачнуцца ў нас сыстэматычныя нагляданьні, тым больш намножыцца каштоўнага матар'ялу па веснавым водным рэжыме і тым хутчэй будуць дасягнуты мэты, цесна зьвязаныя з яго вывучэньнем.

Такім чынам, калі адсутнічаюць шырокія стацыянарныя сьнегамерныя нагляданьні, дык сваячасовае правядзеньне анкеты аб сьнегавым насьціле зьяўляецца па сутнасьці **н я ў х і л ь н а й** умовай пабудовы патрэбнага нам балянсу вільгаці для пэрыяду веснавое паводкі па той прычыне, што запатрабаваны анкетай, **н е п а с р э д н ы** вымер назьбіраных у момант веснавога раставаньня запасаў сьнегу ня можа быць заменены сумацыяй вышаўшых у працягу зімы атмасфэрных вопадзяў, якія рэгіструюцца мэтэаралёгічнымі станцыямі ці дожджамернымі пунктамі.

---

[1]) Поўная апрацоўка даных анкеты яшчэ ня зроблена.—К. К.

Калі-ж стацыянарныя сьнегамерныян агляданьні вядуцца, дык анкета аб сьнегавым насьціле—вельмі істотны да іх дадатак.

Адна з важных каштоўнасьцяй анкеты—гэта таннасьць гэтага роду дасьледваньня, кошт якога выяўляецца толькі ў выдатках на друкаваньне блянкаў і на перасылку па пошце.

Аднак, умовай пасьпяховага правядзеньня сьнегамернае анкеты зьяўляецца шырокі ўдзел у ёй насельніцтва.

Вывучэньню сьнегавога насьцілу шляхам анкеты, якое мае істотнае практычнае значэньне і зьяўляецца вельмі танным, мы мяркуем прысьвяціць у далейшым асобны нарыс з усімі неабходнымі тлумачэньнямі адносна выконваньня працы на месцох.

Тут-жа нам застаецца яшчэ сказаць, што ажыцьцяўленьне вышэйпаказанае поўнае праграмы вывучэньня веснавога воднага рэжыму, нават толькі на абраных (тыповых у фізыкагеографічных адносінах) вадазборах краіны—задача наогул нялёгкая, якая патрабуе выстарчальнага па колькасьці і якасьці тэхнічнага пэрсаналу і, галоўнае, сродкаў, карацей сказаць, посьпех вывучэньня веснавога воднага рэжыму, вызначанага да выкананьня рабочым плянам Гідралёгічнай Службы Адмэліязему, амаль што цалкам залежыць ад сродкаў, якія будуць адпушчаны па каштарысу гідралёгічных работ на 1928-29 год і на наступныя.

Горкі, С.-Г. Акадэмія.

---

**Агульныя запасы вады, якая назьбіралася ў форме сьнегу на нека у момант веснавога**

| №№ па парадку. | Рака | Прытока ракі | Плошча вадазбору кілём.[2] | Плошча балот на вадазборы. | | Шчыльнасьць сьнегу | Тоўшча сьнегу на балотах у сантымэтрах | Запасы [1]) сьнегу на вадазборы мэтараў [3] | Адпав. сярэдняя тоўшча сьнегу на вадазборы см. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | %/% | Кілём.[2] | | | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 1 | З. Дзьвіна . | — | 24 224 | 13 | 3.149 | 0.340 | 48,2 | 5.396.005.000 | 22,30 |
| 2 | Нёман. . . | — | 2.555 | 17 | 701 | 0.340 | 6,5 | 201.085.400 | 7,87 |
| 3 | Сьвіслач . . | Бярэзіна . | 5.121 | 23 | 1.178 | 0 250 | 20.2 | 637.994.962 | 12,50 |
| 4 | Бярэзіна . . | Дняпро . | 23.497 | 24 | 5.639 | 0.250 | 30,4 | 3.993.796.081 | 16,90 |
| 5 | Арэса . . . | Пціч . . | 3.415 | 41 | 1.392 | 0.240 | 9,0 | 115.612.790 | 3,40 |
| 6 | Возера Князь | — | 1.002 | 41 | 411 | 0.240 | 9,6 | 17.335.830 | 1,73 |
| 7 | Бобрык . . | Прыпяць . | 458 | 41 | 188 | 0.240 | 4,0 | 4.829.150 | 1,16 |
| 8 | Вола . . . | Бярэзіна . | 1.218 | 33 | 402 | 0.240 | 21,0 | 123.830.000 | 10,17 |
| 9 | Пціч . . . | Прыпяць . | 5.560 | 39 | 2.147 | 0.240 | 28,0 | 438.495.766 | 7,90 |
| 10 | Трэмля . . | " | 871 | 27 | 235 | 0.240 | 24,0 | 53.300.720 | 6,12 |
| 11 | Іпа . . . | " | 997 | 27 | 269 | 0.240 | 24,0 | 44.411.810 | 4,45 |
| 12 | Ведрыч . . | Дняпро . | 1.432 | 32 | 458 | 0.240 | 35,0 | 144.563.470 | 10,10 |
| 13 | Віць . . . | Прыпяць . | 1.055 | 31 | 327 | 0.240 | 45,0 | 58.023.465 | 5,49 |
| 14 | Брагінка . . | Дняпро . | 2.994 | 39 | 1.168 | 0.240 | 23,0 | 207.268.755 | 6,94 |
| | | Усяго . | 74.399 | | | | | | |

**торых вадазборах Беларусі на 20 лютага 1928 году, гэта значыць сьнегараставаньня.**

| Адпаведны слой вады на вадазборы мілімэтраў | Адпаведны запас вады на вадазборы мэтраў | Перавышка тоўшчы (магутнасьці) на балотах мілімэт. | Адпаведны дадатковы запас на балотных масывах мэтраў ³ | Агульны запас сьнегу на вадазборы (сума слупкоў 9 і 14) мэтраў ³ | Адпаведны запас вады на вадазборы мэтраў ³ | Адпаведны слой вады ў мілімэтрах | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 75,8 | 1.836.179.200 | 259,9 | 815.591.000 | 6.211.596.000 | 2.111.942.640 | 87,2 | ¹) Не падлічваючы павялічэньня магутнасьці (тоўшчы) сьнегавога насьцілу на балотных масывах. |
| 26,8 | 68.474.000 | 13,7 | −9.603.700 | 191.482.400 | 65.104.016 | 25,5 | |
| 31,2 | 159.775.200 | 77,0 | 90.698.931 | 728.693.893 | 182.173.473 | 35,6 | |
| 42,3 | 998.449.020 | 135,0 | 761.305.500 | 4.755.101.581 | 1.188.775.395 | 50,6 | |
| 8,2 | 28.003.000 | 56,0 | 76.496.000 | 192.108.790 | 46.106.310 | 13,4 | |
| 4,2 | 4.160.599 | 78,7 | 32.345.700 | 49.681.530 | 11.923.567 | 11,9 | |
| 2,8 | 1.277.820 | 28,4 | 5.339.200 | 10.168.350 | 2.440.404 | 5,3 | |
| 24,4 | 29.719.200 | 108,3 | 43.536 600 | 167.366.600 | 40.167.984 | 32,9 | |
| 19,0 | 105.238.984 | 201,0 | 431.547.000 | 870.042.766 | 208.809.664 | 37,5 | |
| 14,7 | 12.793.248 | 178,8 | 42.018.000 | 95.318.720 | 22 876.493 | 26,3 | |
| 10,7 | 10.647.960 | 195,5 | 52.589.500 | 97.001.310 | 23.280.314 | 23,3 | |
| 24,2 | 34.695.233 | 24,9 | 114.042.000 | 258.605.470 | 62.065.313 | 43,4 | |
| 13,2 | 13.904.900 | 395,1 | 129.197.700 | 187.221.165 | 34.993.080 | 33,1 | |
| 16,6 | 49.820.160 | 160,6 | 187.580.800 | 394.849.555 | 94.763.893 | 31,7 | |
| | | | | | 4.095.442.546 | 55,0 | |

# БІБЛІОГРАФІЯ.

## Сьпіс артыкулаў, зьмешчаных у часопісі „Сельская і Лясная Гаспадарка“. Кн. 1—7 (1927 і 1928 г.).

### Кн. 1.

**М. Галадзед.**—На дапамогу сацыялістычнаму будаўніцтву—стар. 1. **З. Прышчэпаў.**—Аб Навукова-Дасьледчым Інстытуце—2. **Г. Гарэцкі.**—Асноўныя лініі навукова-дасьл. працы па сельскай і лясной гаспадарцы ў БССР—6. **Праф. А. Д. Дубах.** Мэліорацыйныя досьледы і сувязь іх з прыродна-гістарычнымі і эканамічнымі дасьледваньнямі—11. **Г. М. Чуйко.**—Да мэтодыкі працы інстытуту сялян-дасьледчыкаў—18. **П. Рагавы.**—Сельска-гаспадарчая вартасьць падзолавых глеб Беларусі—22. **К. Кіпрыянец.**—Забясьпека насеньнем канюшыны—26. **А. Берзін.**—Кампаставаньне торфу ў полі—30. **Праф. М. Бурштэйн.**—Да пытаньня аб сталым пладовым асортымэнце БССР—36. **Праф. С. П. Мельнік**—Шляхі лесаводнае думкі за апошняе дзесяцігодзьдзе—39. **М. Н. Якаўлеў.**—Да біолёгіі хвастковага дубу на Беларусі—44. **Праф. С. В. Скандракоў.**—Да гісторыі organізацыі дасьледчае справы на Беларусі і да арганізацыі галоўнай базы аддзелу расьлінагадоўлі Б. Н. Д. І.—47. **С. П. Такмачоў.**—Асноўныя тыпы палепшаных севазваротаў для Барысаўскае акр.—54. **Р. Рак.**—Рамёствы Беларусі і саматужна-рамесьніцкая выстаўка—63.

### Рэфэраты саюзных і замежных прац.

**Т. Тавілдарава.**—Апошнія амэрыканскія досьледы па сьвінаводзтву—71. **Праф. Шмук.**—Редукция нитрадов корневой массой растений—76. **М. К. Дамонтава** и **О. В. Зарубина.**— О растворимости двукальциева фосфата—76. **С. М. Драчев.**—Некоторое изменения органического вещества подзолистой почвы при длительном паровании—77. **H. R. Chistensen.**—Агляд працы ў запісках П. Камісіі Міжнароднага Таварыства Глебазнаўства (сшыт. А) па пытаньнях аб рэакцыі глебы—78. **Professor Dr. S. Russe.**—Гадоўля грыбоў, як дадатковае карыстаньне лесам—81.

### Інформацыя.

Сельска-гаспадарчая сэкцыя Інстытуту Беларускае Культуры—82. Забалацкая балотная дасьледчая гаспадарка—82. Паведамленьне аб Турскай с.-г. Дасьледчай станцыі.—85. Дасьледчая праца Палескай с.-г. станцыі—86. Інстытут сялян-дасьледчыкаў—86. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства—87. Беларускі с.-г. банк—89. Хроніка—91.

### Кн. 2.

**Зьм. Прышчэпаў.**—Нашы дасягненьні ў аграрнай палітыцы—3. **Праф. А. Дубах.**—Меліорацыя на Беларусі да 10-й гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі—9. **М. Лейвікаў.**—Рэгуляваньне ракі Ўхлясьці—13. **Праф. М. Бурштэйн.**—Дасягненьні Горацкай садовай дасьледчай станцыі—24. **Праф. А. Шастакоў.**—Што такое „шкодлівая шасьціножка“—29. **Праф. С. Салаўёў.**—Вопыт вывучэньня шкодных шасьціножак—32. Лесавод—**Т. Гаўрыловіч.**—Фітопатолёгічныя пашкоджаньніігліц хвоймі—35. Аграном **К. Кіпрыянец.**—Рэорганізацыя палявой гаспадаркі на Аршанчыне—37. Райаграном—**В. Радзівонаў.**—Аб палепшаных тыпах севазваротаў—41. Агр. **П. Гавака.**—Тэхніка палявой гаспадаркі Віцебшчыны—44. **Ал. Дзямідовіч.**—Травастой мурожнага лугу—49. **Праф. П. Мельнік.**—Шляхі лесаводнае думкі за апошняе дзесяцігодзьдзе 52. **Б. Бойка.**—Да пытаньня аб групоўцы с.-г. прадпрыёмстваў па буйнасьці на Беларусі—57. **Х. Плятнэр.**—Рахунковасьць у сялянскіх гаспадарках—63. **Зьм. Прышчэпаў.**—Сельская гаспадарка Прусіі і Даніі ў параўнаньні з Беларускай—66.

### Рэфэраты.

**Т. Тавілдарава.**—Амэрыканскі досьлед па птушкаводзтву—83. **Iasef Sypniewski.**—Крытычны нарыс вынікаў прац па мэтодыцы палявых с.-г. досьледваньняў—91. **Р. Страж.**—Вызначэньне рэакцыі глеб спосабам хінгідронага электроду—92. **М. К. Домонтович и Г. И. Аболина.**—Влияние реакции почвы на урожай овса и льна—94. **М. Д. Бахулин.**—Разложение фосфорита торфом—34. **Е. В. Дианов и А. А. Ворошилова.**—К изучению причин отсутствия Azotobakter'а на культурных почвах—95. **Е. В. Бобко, Б. А. Голубев**

**и А. Ф. Тюлин.**—К вопросу о причинах страдания растений при чрезмерном известковании—96. **М. К. Домонтович и А. Г. Шестаков.**—Влияние смешенного посева гречихи с овсом на использование $P_2 O_5$ фосфорита—97. **Борис Оношко.**—Влияние высушивания и промораживания на плодородие торфа—99. Хроника—100.

### Бібліографія.

**А. Д. Будастов.**—К вопросу о движении грунтовых вод в торфе—110. **Н. С. Фролов.**—Вопросы экономики мелиораций в Мозырском Полесье—112. **Праф. Туіско Лорэй.**—Кніга па лясных навуках—117. **Праф. В. И. Переход.**—Корреляция (соотношение) между экономическим факторам лесного хозяйства—118.

## Кн. 3.

**А. Шычко.**—Зямельны фонд і проблема мэліорацыі ў БССР—3. **Праф. В. Р. Рыдыгер.**—Аб выбары месца для Палескай Пяшчана-Балотнай дасьледчай станцыі—12. **Г. Эркін.**—Аб асушцы няпрыгодных лясных зямель—22. **Х. А. Пісаркоў.**—Рост махавога балота Горацкай лясной дачы і ўплыў забалачваньня на прырост сасны—28. **С. Маргелаў.**—Да пытаньня аб штандарце бэконных заводаў на БССР—35. **А. Дзяміловіч.**—Да пытаньня аб організацыі Беларускай Цэнтральнай Бульбянай Станцыі—47. **З. Ф. Прышчэпаў.**—Асноўныя моманты водна-мэліорацыйнага кодэксу БССР—55. **З. Умнякоў.**—„Гайна"—84.

### Хроніка.

**І. М. Серада.**—Першая гадавіна працы Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя Леніна—87. **М. Лейвікаў.**—Надзвычайная нарада пры НКЗ БССР па пытаньнях культуры балот і складаньню гэнэральнага пляну мэліорацыі—92. **Праф. Доліно-Іванскі.**—Вышэйшая мэліорацыйная асьвета на Беларусі—98. **П. Рагавы.**—Глебазнаўчая экспэдыцыя 1927 г.—101. **Праф. Н. С. Фралоў.**—Досьледы па эканоміцы мэліорацыі—102. Курсы сялян-дасьледчыкаў—105.

### Бібліографія.

**Праф. Н. Пелехаў.**—Справаздача Аддзелу Жывёлагадоўлі Горацкай с.-г. Дасьледчай Станцыі—106. Інжынэр-аграном **Г. Н. Лубяка.**—Часопісь „Der Kulturtechniker"—108. **Н. М. Савіч.**—„Результаты гео-ботанических исследований в бывшем Рогочевском уезде"—111. **М. Ц. Дакунін.**—Das Grünland 1924 г.—112.

## Кн. 4—1928 г.

**Праф. С. В. Скандракоў.**—Асноўныя заданьні Аддзелу с.-г. Расьлінагадоўлі БДНІ і яго організацыя ў сувязі з організацыяй дасьледчай справы ў „Палескай Краіне"—3. **Праф. А. Дубах.**—Проблема рэгуляваньня воднага рэжыму Беларусі—9. Інжэнэр-аграном **Я. Тараймовіч.**—Да пытаньня аб пабудове штучнага рэчышча (русла) канала праз вазёры—13. **Л. Опра.**—Пэрспэктывы жывёлаводзтва БССР—21. **С. Журык.**—Халоднае сіласаваньне—26. **А. І. Савельляў.**—Як распазнаць якасьць пасяўнога матар'ялу—50. **Праф. М. М. Пелехаў.**—Пра кармовае значэньне культуры доньніка—53. **П. А. Тарасаў.**—Рыбагаспадарчае дасьледваньне вадаёмаў БССР—61. **Р. С. Гуржы.**—Падставы да організацыі пашырэньня тэхнічнае перапрацоўкі садоўніны ў БССР—72. **Гудзіліна.**—Кампаставаньне беларускіх фосфарытаў з мохавым торпам—83.

### Хроніка.

**Б. Бойка.** Пленум аддзелу с.-г. эканоміі і аграрнае політікі БНДІ—96. **С. Х.** Усебеларуская Нарада зямельных працаўнікоў 7-11—1928 г.—97.

### Бібліографія.

**А. Дубах.**—„Б. Г. Гейтман. Пособие для подбора сочинений осушительных и оросительных каналов"—100. **Праф. С. П. Мельнік.**—D-r Wagner. Асноўныя палажэньні прасторавага парадку ў лесе—100. **А. І. Кайгарадаў.**—R. Leiger Das klima der Bodenahen luftschicht—102. **А. Гудзіліна.**—„І. Lipman. Мікрабіолёгічнае назіраньне над зялёным угнаеньнем"—103. **Б. Бойка.**—„А. Смоліч. Організацыя сялянскай гаспадаркі ў раёнах Цэнтральнай Беларусі"—103. **Праф. Найдзёнаў.**—Ліст у рэдакцыю—106.

## Кн. 5.

**С. І. Журык.** Асноўныя мерапрыемствы па бэконізацыі БССР—3. **М. Астроўскі.**—Больш увагі да бульбы—14. **П. Гавака.** Ільнаводзтва ў Віцебскай акрузе—19. **К. Я. Кіпрыянец.**—Спроба плугоў у палявым досьледзе—24. **П. Рагавы.**—Некаторыя асаблівасьці

## Некролёгі.



## Хроніка.



## Бібліографія.



## Кн. 6.



## Хроніка.



## Бібліографія.

## Кн. 7.



### Хроніка.



### Бібліографія.





Адказны рэдактар: Зьм. Прышчэпаў Рэдактар: Рэдкалегія

# ЗЬМЕСТ.

*Стар.*



## Бібліяграфія.





